# БЕЛАРУСКАЯ МОВА
## Прафесійная лексіка для педагогаў

Пад рэдакцыяй Д.В. Дзятко

Дапушчана Міністэрствам адукацыі
Рэспублікі Беларусь у якасці вучэбнага
дапаможніка для студэнтаў устаноў
вышэйшай адукацыі
па педагагічных спецыяльнасцях

Email: azimuto@pm.me



Мінск
«БЕЛАРУСЬ»
2012

УДК 811.161.3’373.46(075.8)
ББК 81.2Беи-923
Б43

Аўтары: *Д. В. Дзятко, А. І. Забаштанская, Н. П. Лобань, Н. А. Радзіваноўская, В. В. Урбан, С. І. Фацеева, С. У. Шахоўская*

Рэцэнзенты:
кафедра беларускага мовазнаўства УА «Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт імя П. М. Машэрава» (загадчык кафедры — кандыдат філалагічных навук, дацэнт *Г. А. Арцямёнак*);
кандыдат педагагічных навук, дацэнт, дэкан філалагічнага факультэта УА «Мазырскі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя І. П. Шамякіна» *Л. В. Ісмайлава*;
кандыдат філалагічных навук, старшы выкладчык кафедры беларускай філалогіі УА «Беларускі дзяржаўны тэхналагічны ўніверсітэт» *В. У. Русак*

Б43 **Беларуская мова.** Прафесійная лексіка для педагогаў : вучэбны дапаможнік / Д. В. Дзятко [і інш.] ; пад рэд. Д. В. Дзятко. — Мінск : Беларусь, 2012. — 231 с.
ISBN 978-985-01-0990-3.

Разгледжаны паходжанне і асноўныя этапы развіцця беларускай мовы, яе функцыянаванне ва ўмовах білінгвізму, розныя стылі маўлення і інш.

Адрасуецца студэнтам універсітэтаў, навучэнцам педагагічных каледжаў, вучням старэйшых класаў сярэдніх агульнаадукацыйных устаноў, а таксама ўсім, хто хоча паглыбіць свае веды пра беларускую мову.

**УДК 811.161.3’373.46(075.8)**
**ББК 81.2Беи-923**

**ISBN 978-985-01-0990-3**

# Прадмова

Як вядома, у адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь і «Законам аб мовах» беларуская мова з'яўляецца дзяржаўнай у Беларусі (разам з рускай). Гэта значыць, што на тэрыторыі нашай краіны за беларускай мовай замацаваны самы высокі юрыдычны статус ва ўсіх устаноўленых законам выпадках у параўнанні з іншымі мовамі, якімі карыстаюцца грамадзяне рэспублікі, — англійскай, нямецкай, польскай, літоўскай, украінскай і г. д.

На беларускай мове ствараюцца разнастайныя акты дзяржаўных органаў, органаў мясцовага кіравання і самакіравання, вядзецца справаводства і дакументацыя, беларуская мова выкарыстоўваецца ў сферы абслугоўвання, судаводства, культуры, навукі, па-беларуску афармляюцца міжнародныя дагаворы, выдаюцца перыядычныя і інфармацыйныя выданні. Кожны грамадзянін Беларусі мае права на атрыманне адукацыі і навучанне дзяцей на беларускай мове ў дзіцячых дашкольных установах, у агульнаадукацыйных школах, у прафесійна-тэхнічных вучылішчах, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Дзяржаўныя органы, органы мясцовага кіравання і самакіравання, прадпрыемствы, установы і грамадскія арганізацыі абавязаны ствараць грамадзянам Беларусі неабходныя ўмовы для вывучэння беларускай мовы і дасканалага валодання ёй.

Дысцыпліна «Беларуская мова (прафесійная лексіка)» выкладаецца на ўсіх нефілалагічных факультэтах ВНУ Беларусі. Яна дазваляе студэнтам далучыцца да багаццяў нацыянальнай культуры і скіравана на фарміраванне камунікатыўна развітых асоб, якія могуць наладжваць зносіны на нацыянальнай мове ў сваёй прафесійнай сферы, ствараць і перакладаць вузкаспецыяльныя тэксты, весці справавую дакументацыю, выступаць з навуковымі дакладамі і публічнымі прамовамі.

Гэты дапаможнік арыентаваны на змест адукацыйных стандартаў Рэспублікі Беларусь, напісаны ў поўнай адпаведнасці з тыпавой вучэбнай праграмай «Беларуская мова (прафесійная лексіка)» (аўтары М. Р. Прыгодзіч, Г. І. Кулеш, Н. П. Лобань; 2008) і з'яўляецца абагульненнем вопыту аўтараў, якія на працягу шэрага гадоў выкладалі аднайменны курс у Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка.

Дапаможнік разлічаны на сістэматызацыю, замацаванне і паглыбленне ведаў студэнтаў па беларускай мове. У Рэспубліцы Беларусь вывучэнне нацыянальнай мовы адбываецца ва ўмовах беларуска-рускага білінгвізму, таму пры выкладанні тэарэтычнага матэрыялу аўтары імкнуліся максімальна ўлічыць падабенства і адрозненні ў сістэмах гэтых дзвюх моў, праводзілі неабходныя міжмоўныя паралелі.

Кніга дае магчымасць пазнаёміцца з паходжаннем беларускай мовы, асноўнымі этапамі ў яе развіцці, а таксама функцыямі, якія яна выконвае ў грамадстве, даведацца пра лексічны склад беларускай мовы, сістэматызаваць веды пра структурныя асаблівасці і прызначэнне разнастайных беларускіх слоўнікаў, засвоіць арфаэпічныя, марфалагічныя і сінтаксічныя нормы літаратурнай мовы, а таксама авалодаць асноўнымі функцыянальнымі стылямі мовы (навуковым, афіцыйна-справавым, публіцыстычным) і найважнейшымі паняццямі культуры маўлення. Асаблівая ўвага надаецца тэмам, звязаным са спецыяльнай лексікай беларускай мовы (галоўным чынам, тэрміналогіяй), паколькі менавіта ад умення свабодна аперыраваць сістэмай тэрмінаў пэўнай навукова-тэхнічнай галіны залежыць паспяховасць прафесійнай камунікацыі спецыялістаў.

Тэарэтычныя звесткі ў дапаможніку падаюцца па сямі структураваных раздзелах: «Беларуская мова і яе месца ў сістэме агульначалавечых і нацыянальных каштоўнасцей», «Лексічная сістэма беларускай літаратурнай мовы», «Функцыянаванне беларускай мовы ва ўмовах білінгвізму», «Функцыянальныя стылі маўлення», «Навуковы стыль», «Афіцыйна-справавы стыль», «Культура прафесійнага маўлення».

Пасля кожнага параграфа прапануюцца пытанні для самакантролю, што дазваляе студэнту сістэматызаваць тэарэтычныя звесткі і выявіць прабелы ў засваенні тэмы.

Практычныя заданні ў дапаможніку будуць садзейнічаць свядомаму замацаванню тэарэтычных ведаў, яны разлічаны на аналіз і адбор моўных фактаў, спрыяюць фарміраванню лінгвістычнага мыслення і выпрацоўцы агульнафілалагічнай культуры будучых настаўнікаў.

Практычны матэрыял падзелены на тры блокі, пазначаныя ў тэксце спецыяльнымі сімваламі:

🕮 — для спецыяльнасцей гуманітарнага профілю (гістарычны факультэт, факультэт сацыяльна-педагагічных тэхналогій, дашкольнай адукацыі, псіхалогіі і інш.);

⌨ — для спецыяльнасцей фізіка-матэматычнага профілю (фізічны, матэматычны факультэты);

❀ — для спецыяльнасцей прыродазнаўчага профілю (факультэт прыродазнаўства).

Шэраг заданняў накіраваны на адпрацоўку агульнамоўных кампетэнцый, абавязковых для будучых педагогаў незалежна ад канкрэтнага профілю іх дзейнасці. Такія заданні пазначаны камбінацыяй сімвалаў — 🕮⌨❀.

У канцы дапаможніка змяшчаецца дадатак — даведнік, у які ўключаны звесткі пра асноўныя тэрміналагічныя слоўнікі, неабходныя ў прафесійнай і навуковай дзейнасці выпускнікоў універсітэтаў.

Дапаможнік «Беларуская мова (прафесійная лексіка)» пабудаваны такім чынам, што можа выкарыстоўвацца як ва ўніверсітэцкай аўдыторыі, так і для самападрыхтоўкі. Кніга будзе карыснай пры вывучэнні беларускай мовы, а таксама на факультатыўных занятках у старэйшых класах агульнаадукацыйных школ, пры падрыхтоўцы да цэнтралізаванага тэсціравання, для самаадукацыі.

Праца аўтараў была размеркавана наступным чынам:

кандыдат філалагічных навук Д. В. Дзятко. — «Прадмова», раздзел 2 (§§ 2.1 — 2.9, § 2.10 — у сааўтарстве з Шахоўскай С. У.), заданні да раздзелаў 1 і 2, «Дадатак» («Тэксты для перакладу на беларускую мову», «Руска-беларускі слоўнік асноўных педагагічных тэрмінаў»), агульнае рэдагаванне;

кандыдат філалагічных навук А. І. Забаштанская — раздзел 1;

кандыдат філалагічных навук Н. П. Лобань — раздзел 7;

кандыдат філалагічных навук Н. А. Радзівваноўская — раздзелы 4, 6;

кандыдат філалагічных навук В. В. Урбан — раздзел 5;

кандыдат філалагічных навук С. І. Фацеева — раздзел 3;

магістр філалагічных навук С. У. Шахоўская — раздзел 2 (§ 2.10 — у сааўтарстве з Дзятко Д. В., §§ 2.11—2.13), «Дадатак» («Беларускія тэрміналагічныя слоўнікі і даведнікі»).

## Раздзел 1

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА І ЯЕ МЕСЦА Ў СІСТЭМЕ АГУЛЬНАЧАЛАВЕЧЫХ І НАЦЫЯНАЛЬНЫХ КАШТОЎНАСЦЕЙ

## 1.1. МОВА І СОЦЫУМ. ФУНКЦЫІ МОВЫ Ў ГРАМАДСТВЕ

Мова непасрэдна звязана са станаўленнем і функцыянаваннем чалавечага грамадства. Як сведчаць сучасныя даследаванні антраполагаў, здольнасць да маўленчай дзейнасці была ўласцівая чалавеку як біялагічнаму віду на працягу розных гістарычных эпох. Узнікненне новых моў, іх развіццё і заняпад нярэдка абумоўлены гісторыяй і ладам жыцця народаў, якія на іх гавораць.

↳ На характар развіцця мовы ўздзейнічаюць у н у т р а н ы я і з н е ш н і я фактары.

➢ У кожнай мове існуюць **унутраныя** стымулы і імпульсы развіцця, якія асабліва відавочныя ў гістарычным ракурсе. Так, 1500—2000 гадоў таму назад мова нашых продкаў істотна адрознівалася ад любой сучаснай славянскай мовы — рускай, беларускай, польскай і інш. У ёй было значна больш галосных гукаў і менш зычных, усе словы заканчваліся толькі на галосны, назоўнікі падзяляліся не на тры скланенні, як у сучаснай беларускай мове, а на шэсць, сістэма часоў і формаў дзеяслова была куды больш складанай — адных толькі прошлых часоў налічвалася чатыры.

Рассяленне славян прывяло да адасаблення племянных дыялектаў. У гэтых дыялектах на працягу стагоддзяў адбываліся змены: адміралі некаторыя формы і словы, змянялася іх вымаўленне і такім чынам фарміраваліся тыя рысы, якімі адрозніваюцца паміж сабой сучасныя мовы.

➢ Да **знешніх** фактараў адносяцца: міжэтнічныя кантакты, сацыяльная структураванасць грамадства, наяўнасць або адсутнасць свядомай моўнай палітыкі.

Уплыў грамадства на мову можа быць с п а н т а н н ы м або м э т а н а к і р а в а н ы м, што падразумявае моўную палітыку. Прыкладам спантаннага, стыхійнага ўплыву грамадства на беларускую мову з'яўляецца пашырэнне англійскіх слоў і інтэрнэт-жаргону.

Узор прадуманай моўнай палітыкі — нядаўна прынятая рэдакцыя «Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» (2008), у якой прапануецца пісаць па-новаму шэраг выключэнняў і запазычаных слоў. Найбольш складана праводзіць моўную палітыку ў грамадствах, дзе існуе білінгвізм (двухмоўе), а таксама ў поліэтнічных краінах.

➪ Паводле звестак ЮНЕСКА, у свеце налічваецца каля 6000 моў і дыялектаў. Дакладную лічбу колькасці моў устанавіць немагчыма, паколькі большасць моў і дыялектаў функцыянуюць толькі ў вуснай форме. Акрамя таго, няма агульнапрынятых крытэрыяў, па якіх можна адрозніць мову і дыялект. З кожным годам колькасць моў змяншаецца.

У свеце існуюць мовы міжнародных зносін, якімі валодаюць сотні мільёнаў чалавек (напрыклад, англійская, арабская, іспанская, руская), а таксама мовы, якія знаходзяцца на мяжы знікнення і на якіх гавораць некалькі сотняў або нават дзясяткаў чалавек пераважна сталага ўзросту. Нягледзячы на такую нераўнамернасць, няма прымітыўных, недасканалых моў. Нават тыя мовы, якімі карыстаюцца малацывілізаваныя этнасы, напрыклад, Акіяніі, Афрыкі ці Паўднёвай Амерыкі, уяўляюць сабой складаныя шматузроўневыя сістэмы, прычым іх сістэмнасць праяўляецца на розных узроўнях — фанетычным, граматычным, лексічным і г. д. Мова любога народа заключае ў сабе патэнцыял найвышэйшага развіцця і выконвае ў грамадстве наступныя функцыі:

✓ ***камунікатыўную*** — мова з'яўляецца асноўным сродкам зносін паміж людзьмі;

✓ ***намінатыўную*** — праз пасрэдніцтва мовы называюцца прадметы і з'явы рэчаіснасці;

✓ ***фатычную*** — з дапамогай мовы наладжваюцца і падтрымліваюцца кантакты паміж суразмоўцамі;

✓ ***інфарматыўную*** — з выкарыстаннем мовы перадаецца інфармацыя пра разнастайныя факты, з'явы, падзеі;

✓ ***думкафармавальную*** — мова абслугоўвае мысленне чалавека, якое ў той ці іншай ступені звязана з мовай;

✓ ***пазнавальную*** — мова выступае сродкам пазнання навакольнага свету і навучання;

✓ ***акумулятыўную*** — дзякуючы мове назапашваюцца і захоўваюцца веды пра аб'ектыўную рэчаіснасць;

✓ ***эмацыянальна-экспрэсіўную*** — праз пасрэдніцтва мовы выражаюцца эмоцыі чалавека;

✓ ***эстэтычную*** — мова з'яўляецца інструментам для творчасці, а ў некаторых выпадках і сама можа быць аб'ектам творчасці;

✓ *ідэалагічную* — мова можа выступаць у якасці фактару палітыкі (напрыклад, для нацыянальнай ідэнтыфікацыі) або як сродак палітычнай і (ці) культурнай экспансіі і інш.

### ⌛ Пытанні для самакантролю

1. Якія фактары ўплываюць на характар развіцця мовы?
2. У чым выразіліся змены, якія адбываліся ў племянных дыялектах усходніх славян?
3. Як вы разумееце паняцце «моўная палітыка»? Прывядзіце прыклады ўдалай моўнай палітыкі з гісторыі і сучаснасці.
4. Пералічыце функцыі, якія мова выконвае ў грамадстве. Якая з функцый мовы, на ваш погляд, з'яўляецца асноўнай?

## 1.2. БЕЛАРУСКАЯ МОВА — ФОРМА НАЦЫЯНАЛЬНАЙ КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСАЎ

Фарміраванне і шлях беларускай мовы звязаны з гісторыяй беларускага этнасу, яго матэрыяльнай і духоўнай культурай.

Беларуская мова належыць да славянскай групы моў, якая ў сваю чаргу ўваходзіць у індаеўрапейскую моўную сям'ю. Большая частка слоў у славянскіх мовах мае агульныя карані. Разам з тым, у кожнай мове адлюстраваны своеасаблівы, непаўторны гістарычны шлях народа.

Прыкладна ў V—VII ст. н. э. пачалося рассяленне славян па землях Усходняй Еўропы. У X ст. на тэрыторыі Беларусі жылі славяне — крывічы, дрыгавічы, радзімічы, — а таксама балцкія плямёны літва і яцвягі. Можна меркаваць, што дыялекты гэтых плямёнаў у той ці іншай ступені паўплывалі на наступнае фарміраванне беларускай мовы.

Нацыянальная мова беларусаў складаецца з дзвюх формаў — літаратурнай і дыялектнай.

↳ **Літаратурная мова** — гэта найвышэйшая форма развіцця нацыянальнай мовы, якая існуе не толькі ў вуснай, але і ў пісьмовай форме (у той час як дыялектная — пераважна ў вуснай). Для літаратурнай мовы характэрна ўнармаванасць, разгорнутая сістэма стыляў, багацце сродкаў выказвання, зразумеласць для ўсяго народа. Літаратурная мова выкарыстоўваецца ў мастацкіх, навуковых тэкстах, публіцыстыцы, на радыё і тэлебачанні. Нормы літаратурнай мовы засвойваюцца падчас навучання, яны замацаваны ў шматлікіх слоўніках, даведніках і падручніках.

У той жа час любая літаратурная мова ў пэўнай ступені «штучная», у яе могуць уваходзіць словы з розных гаворак, наватворы, запазычанні. Грунтуючыся ў асноўных сваіх рысах на пэўным дыялекце, літаратурная мова фарміруецца таксама дзякуючы працы некалькіх пакаленняў яе свядомых носьбітаў — пісьменнікаў, вучоных, журналістаў, палітыкаў, — якія, працуючы са словам, адбіраюць дыялектную лексіку і выразы, арыентуюцца на пэўныя граматычныя і арфаэпічныя ўзоры і ў выніку садзейнічаюць выпрацоўцы агульнапрынятых нормаў.

У фарміраванні беларускай літаратурнай мовы важную ролю адыгралі такія пісьменнікі, як Францішак Багушэвіч, Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Змітрок Бядуля, Кандрат Крапіва, Кузьма Чорны і інш.

☞ **Беларуская дыялектная мова** прадстаўлена двума дыялектамі — паўночна-ўсходнім і паўднёва-заходнім, якія раздзяляе паласа пераходных сярэднебеларускіх гаворак, што праходзіць па лініі Ашмяны — Мінск — Бабруйск — Гомель. Асобна вылучаюцца палескія (брэсцка-пінскія) гаворкі. Беларускі дыялектны абсяг закранае не толькі тэрыторыю сучаснай Беларусі, але і некаторыя памежныя тэрыторыі Расіі, Латвіі, Літвы, Польшчы. Асновай для літаратурнай мовы сталі, у асноўным, гаворкі цэнтральнай часткі Беларусі.

## 1.3. ПАХОДЖАННЕ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ І АСНОЎНЫЯ ЭТАПЫ ЯЕ РАЗВІЦЦЯ

### 1.3.1. Старабеларуская літаратурная мова XIV—XVIII стст.

Прыкладна да XIII ст. у цэлым завяршылася засяленне сучасных беларускіх зямель славянамі і асіміляцыя мясцовага балцкага насельніцтва. Раней гэты працэс адбыўся на поўдні (Турава-Пінскае княства) і ўсходзе (Полацкае княства) краіны, пазней — на захадзе. Функцыю літаратурнай (пісьмовай) мовы на землях тагачаснай Беларусі выконвала *царкоўнаславянская,* якая прыйшла з Балгарыі разам з хрысціянствам і рэлігійнымі кнігамі, а таксама развітая на яе аснове *старажытнаўсходнеславянская* — мова свецкага пісьменства Кіеўскай Русі. У тагачасных гарадах Беларусі пісьменства было распаўсюджана сярод насельніцтва, пра што сведчаць шматлікія надпісы на камянях і прадметах быту, знойдзеныя археолагамі ў Полацку, Гародні, Брэсце, Пінску, Мсціслаўлі, Тураве і інш.

З утварэннем Вялікага Княства Літоўскага звязана пашырэнне літаратурнай мовы, якая істотна адрознівалася ад агульнаўсходнеславянскай. Пісьменства ў Вялікім Княстве Літоўскім спачатку грунтавалася на аснове кніжных традыцый Кіеўскай Русі, але прыкладна з XIV ст. у пісьмовых помніках з'яўляецца шэраг спецыфічных беларускіх рыс, таму з гэтага часу прынята гаварыць пра фарміраванне *старабеларускай* літаратурнай мовы.

У XVI ст. старабеларуская мова дасягнула свайго найвышэйшага развіцця. Яна прадстаўлена рознымі стылістычнымі разнавіднасцямі, многімі пісьмовымі помнікамі. Старабеларуская літаратурная мова выконвала функцыі дзяржаўнай мовы ў Вялікім Княстве Літоўскім, што было замацавана Статутам.

Асабліва шмат да нас дайшло помнікаў дзелавога і юрыдычнага пісьменства — законаў, дагавораў, актаў, грамат і г. д. З іх найбольш вядомымі з'яўляюцца Метрыка Вялікага Княства Літоўскага (XIV—XVIII стст.), Статуты Вялікага Княства Літоўскага. Першапачаткова Метрыка ўяўляла сабой больш за 600 тамоў дакументаў з архіва ўрадавай канцылярыі, якія да сярэдзіны XVII ст. пісаліся пераважна на старабеларускай мове. Статутам Вялікага Княства Літоўскага называецца звод законаў, поўнасцю выкладзены на пачатку XVI ст. Гэтымі законамі рэгуляваліся дзяржаўныя і грамадскія адносіны ў краіне. Статут ВКЛ 1588 г. дзейнічаў на большай частцы тэрыторыі Беларусі аж да 1840 г.

Дзелавыя і юрыдычныя помнікі неаднародныя па сваёй мове: дакументы, складзеныя ў правінцыі, былі максімальна набліжаны да жывой народнай гаворкі, у адрозненне ад агульнадзяржаўных дакументаў, напісаных у сталіцы — Вільні. У XVI ст. у выніку актыўных міжнародных стасункаў у беларускую мову пранікае шмат запазычанняў, асабліва з польскай і лацінскай моў.

Акрамя дзелавога і юрыдычнага пісьма на Беларусі дастаткова пашыраным было летапісанне. Агульнадзяржаўныя летапісы ствараліся пры двары вялікіх князёў; у гарадах, замках, манастырах складаліся мясцовыя летапісы і хронікі. Да сённяшняга дня дайшло больш за 20 летапісных зводаў (Віленскі, Супраслеўскі, хроніка Быхаўца і інш.). Сярод мясцовых летапісаў адметным з'яўляецца, напрыклад, Баркалабаўскі, аўтар якога вельмі эмацыянальна апавядае пра падзеі на Магілёўшчыне канца XVI — пачатку XVII ст., актыўна выкарыстоўваючы пры гэтым лексіку і граматыку тагачаснай жывой народнай мовы.

Шырокім попытам сярод арыстакратыі і гараджан карысталася мастацкая літаратура, у прыватнасці, перакладныя рыцарскія

аповесці і раманы — «Аповесць пра Баву», «Аповесць пра Трышчана». Актуальнай была рэлігійная літаратура. Славуты перакладчык і ўсходнеславянскі першадрукар Францыск Скарына пераклаў і надрукаваў у 1517—1519 гг. у Празе Біблію. Гэта было зроблена з місіянерскай і асветніцкай мэтамі, паколькі кананічная царкоўнаславянская Біблія ўжо была цяжкай для разумення большасці вернікаў. Мова Скарынавай Бібліі — своеасаблівы сінтэз царкоўнаславянскай і беларускай моў.

У XVI ст. кнігадрукаванне вельмі хутка пашыраецца ў многіх гарадах Вялікага Княства Літоўскага. Сярод знакавых выданняў таго часу — пратэстанцкі «Катэхізіс», падрыхтаваны на беларускай мове Сымонам Будным (1562), а таксама беларускамоўнае «Евангелле» Васіля Цяпінскага (каля 1580 г.).

Пачынаючы з другой паловы XVI ст., на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага ўзрастае аўтарытэт польскай культуры і, адпаведна, польскай мовы, што было звязана з тагачаснай палітычнай сітуацыяй, у прыватнасці — з Люблінскай уніяй 1569 г. Вынікам гэтага стала апалячванне і акаталічванне беларускага насельніцтва і звужэнне сфер выкарыстання беларускай мовы. Значна скарацілася колькасць друкаванай літаратуры, як свецкай, так і рэлігійнай. Выкладанне ў найбольш аўтарытэтных навучальных установах — езуіцкіх каледжах — як і іншых каталіцкіх школах, вялося папольску і па-лацінску.

У 1696 г. пастановай Варшаўскага сейма беларуская мова была выведзена са сферы справаводства і заменена польскай мовай. Аднак беларускай мовай працягвалі яшчэ карыстацца ва ўніяцкіх школах і цэрквах. Яна заставалася сродкам вусных зносін дробнай шляхты, рамеснікаў і сялян, а таксама мовай фальклорных твораў. Нешматлікія пісьмовыя тэксты, створаныя па-беларуску ў XVII—XVIII стст., сведчаць, што гукавы склад і граматычны лад тагачаснай беларускай мовы практычна не адрозніваліся ад фанетыкі і граматыкі сучаснай беларускай мовы. Адсутнасць легальнай магчымасці развіваць культуру беларускага народа на роднай мове адыграла сваю негатыўную ролю і перапыніла станаўленне адзіных літаратурных нормаў мовы.

### 1.3.2. Новая (сучасная) беларуская мова XIX — пачатку XX ст.

На мяжы XVIII—XIX стст. у Еўропе пашырыліся ідэі Асветніцтва. У сувязі з гэтым назіралася нацыянальнае абуджэнне еўрапейскіх

народаў і фарміраванне новых літаратурных моў — рускай, чэшскай, славенскай, украінскай і інш. (напрыклад, менавіта ў гэты час на базе маскоўскіх гаворак сфарміравалася сучасная руская літаратурная мова). Так склалася, што ў адных народаў гэты працэс адбываўся больш інтэнсіўна, у іншых — некалькі запаволена. У многім гэта абумоўлена палітычнай сітуацыяй і адсутнасцю ўласнай дзяржаўнасці.

Патрэба ва ўнармаванай пісьмовай мове, якая б абслугоўвала розныя сферы грамадскага жыцця, як правіла, звязана з агульнымі патрэбамі дзяржавы. Гэтым тлумачыцца некаторая замаруджанасць працэсу фарміравання новай беларускай літаратурнай мовы, а таксама моў некаторых іншых славянскіх народаў — сербаў, харватаў, македонцаў, славакаў і г. д.

У канцы XVIII ст. уся тэрыторыя сучаснай Беларусі была ўключана ў склад Расійскай імперыі. З гэтага часу пачынаецца актыўная планамерная русіфікацыя беларускіх зямель. Тым не менш, у першай трэці XIX ст. на Беларусі яшчэ дастаткова пашыранай была і польская мова. Ёй у штодзённых зносінах карысталіся арыстакраты і частка інтэлігенцыі, па-польску вялося справаводства і выкладанне ў многіх школах.

У чэрвені 1840 г. цар Мікалай I выдаў загад аб увядзенні на захопленай тэрыторыі рускага заканадаўства і рускай мовы ў дзяржаўных установах, а праз месяц забараніў ужываць і саму назву «Беларусь». У выніку сфера выкарыстання пісьмовай беларускай мовы ў XIX ст. і да пачатку XX ст. была абмежавана мастацкімі, публіцыстычнымі і фальклорна-этнаграфічнымі тэкстамі. Акрамя таго, беларуская мова ўжывалася ў некаторых выданнях Каталіцкай Царквы (катэхізісах, букварах), якія прызначаліся для беларускамоўнага насельніцтва.

З ліку мастацкіх твораў першай паловы XIX ст. найбольш вядомыя ананімныя вершы і паэмы, напісаныя на бытавыя і сацыяльныя тэмы («Вось цяпер які люд стаў», «Гутарка Паўлюка», «Гутарка Казьмы з Апанасам», «Маладзікова гутарка», «Із-за Слуцка, із-за Клецка» і інш.), а таксама паэмы «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе». Беларускую мову выкарыстоўвалі ў сваіх вершах П. Багрым, Я. Чачот, Я. Баршчэўскі, А. Рыпінскі, А. Вярыга-Дарэўскі, У. Сыракомля і інш.

Беларуская мова гэтага перыяду характарызуецца неўнармаванасцю, наяўнасцю мноства варыянтаў напісання і граматычных формаў. Многія аўтары, якія імкнуліся пісаць па-беларуску, знаходзіліся пад уплывам мясцовых гаворак, польскай і рускай моў і нават своеасаблівага шляхецкага жаргону. Гэтым тлумачыцца не-

аднароднасць і недасканаласць мовы многіх тагачасных твораў. Акрамя таго, для перадачы беларускай мовы выкарыстоўвалася польская або руская графіка, таму многія спецыфічныя рысы беларускай фанетыкі перадаваліся няпоўна і непаслядоўна.

З 1860-х гг. у сувязі з адменай прыгоннага права і нацыянальна-вызваленчым рухам пашыраецца нелегальная публіцыстыка на беларускай мове: выйшлі сем нумароў газеты «Мужыцкая праўда», падрыхтаваныя Кастусём Каліноўскім, шматлікія адозвы, так званыя «гутаркі» (у форме вершаў, зваротаў, дыялогаў) на вострасацыяльныя тэмы.

Публіцысты гэтага часу шырока ўжываюць арыгінальную беларускую грамадска-палітычную і юрыдычную тэрміналогію: *вольнасць*, *шляхецтва*, *грамада*, *падаткі*, *паншчына*, *бацькаўшчына* і інш. У гэты час у беларускую мову пранікаюць многія словы з рускай мовы: *казна*, *іспраўнік*, *падрадчык*, *міравы*, *пасрэднік* або з еўрапейскіх моў (праз рускую): *акцыз*, *сенат*, *маніфест*, *рэкрут* і інш.

Большасць беларускіх твораў XIX ст. выдавалася лацінкай на ўзор польскай графікі. Кірыліцай, або «грамадзянкай» (на ўзор рускай графікі), друкаваліся нешматлікія творы, што выходзілі ў рускіх газетах і часопісах, напрыклад, паэма «Тарас на Парнасе», творы Я. Лучыны і інш.

У канцы XIX ст. на ніве нацыянальнай культуры актыўна працавалі такія аўтары і перакладчыкі, як Ф. Багушэвіч, В. Дунін-Марцінкевіч, Я. Лучына, А. Гурыновіч, М. Косіч, А. Ельскі і г. д. Дзякуючы іх творчасці адбывалася дынамічнае фарміраванне сродкаў беларускай літаратурнай мовы, яе лексікі і стылістыкі, выпрацоўваліся граматычныя і арфаграфічныя нормы. Асаблівая роля ў гэтым належыць Ф. Багушэвічу, які паслядоўна выступаў як абаронца нацыянальнай культуры і папулярызатар беларускай мовы ў грамадстве. Багушэвіч, а пасля і пісьменнікі маладзейшага пакалення, стараліся абапірацца на жывую гаворку беларускага народа і фальклор, паколькі сувязі са старажытным беларускім пісьменствам часоў ВКЛ былі страчаны.

Такім чынам, да пачатку XX ст. была канчаткова вызначана база для далейшага фарміравання літаратурнай мовы — беларускія народныя гаворкі, хаця па палітычных прычынах сфера выкарыстання беларускай мовы абмяжоўвалася мастацкай літаратурай і публіцыстыкай. Дынамічнай выпрацоўцы нормаў новай беларускай мовы значна перашкодзіла ў канцы XIX ст. забарона царскім урадам беларускага друку.

### 1.3.3. Развіццё і функцыянаванне беларускай літаратурнай мовы ў XX — пачатку XXI ст.

У пачатку XX ст. у сувязі з прыняццем закона аб свабодзе друку (1905 г.) умовы для развіцця беларускай мовы кардынальна змяніліся. Нягледзячы на тое, што руская мова па-ранейшаму выконвала функцыі афіцыйнай мовы ў грамадскім, культурным, навуковым і адукацыйным жыцці Беларусі, пасля 1905 г. з'явіліся значна больш шырокія магчымасці для выдавецкай дзейнасці, легальнай беларускай журналістыкі, мастацкай і навукова-папулярнай літаратуры. У беларускую культуру і літаратуру прыйшлі сотні маладых дзеячаў, найперш пісьменнікаў і публіцыстаў (Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Змітрок Бядуля, Цішка Гартны, Максім Гарэцкі, Цётка, Алесь Гарун і інш.). З'явіліся шматлікія беларускія выдавецтвы («Загляне сонца ў наша аконца» ў Пецярбургу, «Наша ніва» ў Вільні і інш.), дзейнасць якіх у той час спрыяла выпрацоўцы нормаў беларускай літаратурнай мовы.

Да Першай сусветнай вайны на беларускай мове выходзілі газеты «Наша доля», «Наша ніва», «Беларус», «Гоман», «Дзянніца» і інш., выдаваліся часопісы: «Саха», «Лучынка», «Раніца» і інш. Былі апублікаваны першыя беларускія падручнікі для дзяцей («чытанкі» Каруся Каганца, Цёткі, Якуба Коласа), брашуры на розныя тэмы (у тым ліку навукова-папулярныя), прысвечаныя вытворчасці, рамёствам, што спрыяла выпрацоўцы адпаведнай тэрміналагічнай лексікі. Друкаваліся пераклады на беларускую мову твораў з іншых моў, найперш з рускай, польскай, украінскай.

У гэты час істотна папоўніўся слоўнікавы склад нацыянальнай мовы — за кошт лексікі з тэрытарыяльных і прафесійных дыялектаў, запазычанняў з іншых моў, стварэння беларускіх наватвораў.

На пачатку XX ст. беларускія выданні друкаваліся як лацінскай, так і кірылічнай графікай, але паступова перавага аддавалася «грамадзянцы». На той час абедзве графічныя сістэмы былі ўжо добра адаптаваны да беларускай мовы: былі прапанаваны спецыяльныя сімвалы для абазначэння спецыфічных гукаў (напрыклад, [ў]), выключаны літары рускага і польскага алфавітаў, якія абазначалі неўласцівыя беларускай мове гукі.

Важным крокам на шляху да стабілізацыі моўных нормаў стала стварэнне Браніславам Тарашкевічам «Беларускай граматыкі для школ» (1918 г.) — падручніка, у якім на навуковай аснове былі распрацаваны і прыведзены ў сістэму правілы беларускай арфаграфіі, граматыкі, пунктуацыі.

Найбольш спрыяльнымі для беларускай мовы сталі 1920-я гг., калі беларуская мова набыла статус афіцыйнай мовы БССР і атрымала неабходную дзяржаўную падтрымку.

Важным для развіцця беларускай літаратурнай мовы ў першай палове XX ст. стала прыняцце Цэнтральным Выканаўчым камітэтам у ліпені 1924 г. пастановы «Аб практычных мерапрыемствах па правядзенні нацыянальнай палітыкі», якая паклала пачатак планаваму ажыццяўленню беларусізацыі. Вынікам стала стварэнне навучальных устаноў на беларускай мове, актыўнае развіццё нацыянальнай літаратуры, пашырэнне беларускіх выданняў, арганізацыя навукова-даследчай працы па ўсебаковым вывучэнні Беларусі, перавод дзяржаўных і грамадскіх органаў і часцей Чырвонай Арміі на тэрыторыі рэспублікі на беларускую мову. Узнікла адчувальная патрэба ў распрацоўцы і замацаванні лексічных, графічных, арфаграфічных і граматычных нормаў беларускай літаратурнай мовы. У многім гэтыя задачы былі паспяхова вырашаны, дзякуючы намаганням беларускіх мовазнаўцаў Язэпа Лёсіка, Браніслава Тарашкевіча, Сцяпана Некрашэвіча, Пятра Бузука, Міколы Байкова, Язэпа Воўка-Левановіча, Максіма Гарэцкага і інш.

Знакавай падзеяй першай паловы XX ст. з'явілася Акадэмічная канферэнцыя па рэформе беларускага правапісу і азбукі, што адбылася ў 1926 г. На канферэнцыі была створана Арфаграфічная камісія (пад кіраўніцтвам акад. С. Некрашэвіча), якая ў сціслыя тэрміны падрыхтавала праект змяненняў беларускага правапісу, але па палітычных матывах ён не быў зацверджаны.

У жніўні 1933 г. Саветам народных камісараў была прынята пастанова «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу», якая істотна паўплывала не толькі на арфаграфію беларускай мовы, але таксама закранула фанетыку, лексіку і граматыку мовы. Асноўныя змены заключаліся ў наступным: не адлюстроўвалася на пісьме аканне ў так званых «інтэрнацыянальна-рэвалюцыйных словах» і вытворных ад іх: *пролетарыят*, *Комінтэрн*, *соўгас*, *комсамол*; іншамоўныя ўласныя назвы не падпарадкоўваліся аканню: *Чэрэпанаў*, *Орджанікідзе*, *Жэлезноў*; ліквідавалася абазначэнне на пісьме асіміляцыйнай мяккасці: *свет*, *злёт*, *калоссе* (раней — *сьвет*, *зьлёт*, *калосьсе*); не перадавалася цвёрдасць зычных перад гукам [і] ў словах іншамоўнага паходжання: *марксізм*, *сістэма*, *універсітэт* (раней — *марксызм*, *сыстэма*, *універсытэт*) і інш.

Аднак гэтая пастанова не мела сілы на тэрыторыі Заходняй Беларусі, якая да 1939 г. знаходзілася ў складзе Польшчы. Там беларускамоўнае асяроддзе працягвала арыентавацца на дарэформенны правапіс на аснове граматыкі Б. Тарашкевіча.

Падчас нямецкай акупацыі на тэрыторыі Беларусі выходзілі толькі асобныя выданні на беларускай мове. Іх аўтары і рэдактары таксама не пагаджаліся з рэфармаваным правапісам і распрацоўвалі ўласныя нормы з арыентацыяй на граматыку Б. Тарашкевіча. Акрамя таго, акупацыйныя ўлады спрабавалі ўвесці ва ўжытак лацінку. Такая сітуацыя прывяла да неўпарадкаванасці ў пісьмовай мове. Пасля Другой сусветнай вайны эміграцкія выданні працягвалі карыстацца граматыкай Тарашкевіча ў своеасаблівай рэдакцыі. Па гэтай прычыне і ў наш час можна сустрэць на старонках некаторых выданняў, а таксама ў інтэрнэце «альтэрнатыўны» варыянт беларускай пісьмовай мовы.

У 1959 г. былі апублікаваны «Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі», якія дзейнічалі на працягу амаль 50 гадоў. У адпаведнасці з гэтымі правіламі падрыхтаваны і выдадзены дзясяткі акадэмічных слоўнікаў літаратурнай мовы: «Русско-белорусский словарь», «Беларуска-рускі слоўнік», «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» і інш.

Пасляваенны час стаў перыядам далейшага ўдасканалення арфаграфічнай, лексічнай і стылістычнай сістэм літаратурнай мовы. Пашырэнню аўтарытэту беларускай мовы ў другой палове XX ст. садзейнічала літаратурная дзейнасць многіх таленавітых пісьменнікаў і паэтаў — Кандрата Крапівы, Максіма Танка, Міхася Лынькова, Івана Мележа, Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча, Рыгора Барадуліна, Алеся Разанава і інш. Актыўна развівалася нацыянальная філалогія, беларуская мова гучала на радыё, па тэлебачанні, у тэатрах, выкарыстоўвалася ў сферы адукацыі.

З другога боку, у гэты перыяд змяншалася колькасць беларускамоўных школ, дашкольных устаноў, вучылішчаў, скарачалася выданне літаратуры на беларускай мове. У выніку к сярэдзіне 1980-х гг. на беларускай мове працавалі толькі каля 23% школ і 19% дашкольных устаноў, а выкладанне ў ПТВ, тэхнікумах і ВНУ вялося выключна па-руску.

У 1990 г. Вярхоўны Савет БССР прыняў закон «Аб мовах у Беларускай ССР», што было выклікана ўзмацненнем нацыянальных настрояў у грамадстве, а таксама хваляй прыняцця аналагічных законаў у іншых савецкіх рэспубліках. У адпаведнасці з законам беларуская мова атрымала статус адзінай дзяржаўнай мовы на тэрыторыі Беларусі. Аднак пасля агульнанацыянальнага рэферэндуму 1995 г. і ўвядзення ў дзеянне закона «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь» (1998) у краіне стала дзве дзяржаўныя мовы — беларуская і руская.

На сучасным этапе свайго развіцця беларуская мова, як і многія

іншыя мовы свету, знаходзіцца пад адчувальным уплывам англійскай мовы, а ў штодзённым і афіцыйным ужытку выцясняецца рускай. Дадзеныя перапісаў насельніцтва 1999 і 2009 г. пацвярджаюць, што колькасць людзей, якія лічаць беларускую мову роднай і ўжываюць яе ў паўсядзённым жыцці, змяншаецца (гл. *табліцу 1*). У такой сітуацыі як ніколі важна ўсвядоміць, што захаваць нацыянальную культуру можна толькі на нацыянальнай мове.

*Табліца 1*

| Пытанне | Год перапісу | |
|---|---|---|
| Мова, на якой звычайна размаўляюць дома | 1999 | 2009 |
| на беларускай | 36,7% | 23,4% |
| на рускай | 62,8% | 70,2% |

## ⌛ Пытанні для самакантролю

1. З якіх кампанентаў складаецца паняцце *нацыянальная мова*?
2. Пералічыце дыялекты беларускай мовы. На якіх тэрыторыях яны пашыраны?
3. Якія плямёны насялялі тэрыторыю старажытнай Беларусі?
4. Назавіце асноўныя перыяды ў развіцці беларускай мовы і іх храналагічныя межы.
5. Якая мова была дзяржаўнай у Вялікім Княстве Літоўскім?
6. У якіх пісьмовых помніках зафіксавана старабеларуская мова?
7. Чаму ў канцы XVII—XIX ст. беларуская мова развівалася больш запаволена ў параўнанні з папярэднім перыядам?
8. Якую ролю ў развіцці беларускай мовы адыграў закон аб свабодзе друку (1905)?
9. Якім чынам у 1920-я гг. на Беларусі праводзілася палітыка беларусізацыі?
10. Якія вынікі для далейшага развіцця беларускай мовы мела пастанова СНК «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу» (1933)?
11. Ахарактарызуйце стан беларускай мовы ў Савецкім Саюзе пасля Другой сусветнай вайны. Чаму, на ваш погляд, у беларускім грамадстве пачаліся дыскусіі наконт неабходнасці закона «Аб мовах»?
12. Назавіце характэрныя рысы сучаснай беларускай моўнай сітуацыі.
13. Якіх асоб (пісьменнікаў, навукоўцаў і інш.) вы лічыце знакавымі ў гісторыі беларускай мовы? Чаму?

## ✍ ЗАДАННІ

**Заданне 1.**

*1. Пазнаёмцеся з урыўкам са Статута Вялікага Княства Літоўскага (1588) і яго перакладам на сучасную беларускую мову. Якая асноўная ідэя ўрыўка?*

**Заўвага**. Чытаць тэксты можна, выкарыстоўваючы правілы сучаснага беларускага вымаўлення, паколькі дзеканне, цеканне, аканне і яканне ў многіх помніках не перадавалася на пісьме.

*2. Знайдзіце старабеларускія словы, якія з тым самым значэннем выкарыстоўваюцца ў сучаснай беларускай мове.*

*3. Выпішыце словы, якія маюць аднакаранёвыя адпаведнікі ў сучаснай літаратурнай мове.*

🕮 Уставуемъ тежъ, хотечи то мети, и приказуемъ, абы в кождом таковомъ повете, где судъ земъский естъ в замъку албо в дворе нашомъ, судья, подъсудокъ и писаръ земъский посполу зъ шляхтою и всими иными станы опатрыли, збудовали таковые местца, где бы завжды книги земъские безпечне от вшелякое пригоды были захованы. Прото воеводове и старостове судовые в кожъдомъ воеводъстве, земли, повете в замъку або дворе нашом судовомъ схованье доброе и варовное поступити имъ на то вини будуть. А где бы таковыхъ схованей не было, тогды на збудованье склепу ку захованью книгъ местъца пристойные в замкох и дворехъ нашыхъ указати и подати и сами жъ таковые воеводове и старостове судовые оное схованье книгъ земъскихъ доброю сторожою подъ кожъдымъ часомъ опатровати мають.

*Для даведак*: Устанаўліваем таксама, жадаючы тое мець, і загадваем, каб у кожным такім павеце, дзе суд земскі ёсць, у замку або ў двары нашым суддзя, падсудак і пісар земскі сумесна са шляхтай і ўсімі іншымі станамі абсталявалі і пабудавалі такія месцы, дзе б заўсёды кнігі земскія ў бяспецы ад усякіх выпадкаў захоўваліся. Для гэтага ваяводы і старосты судовыя ў кожным ваяводстве, зямлі, павеце, у замку або двары нашым судовым сховішча добрае і ўмацаванае саступіць ім на тое абавязаны будуць. А дзе б такіх сховішчаў не было, тады на будаўніцтва памяшкання для захоўвання кніг месцы прыстойныя ў замках і дварах нашых указаць і выдзеліць, і самі ж такія ваяводы і старосты судовыя такое сховішча кніг земскіх надзейнай аховай ва ўсякі час павінны забяспечыць.

⌨ Уставуемъ цену зверомъ дикимъ, которое бы черезъ кого было убито у чужой пущы: за зубра — дванадъцать рублей грошей; за лося — шесть рублей грошей; за оленя або за ланю — шесть рублей грошей; за медьведя — тры рубли грошей; за коня або за кобылу дикую — тры рубли грошей; за вепра або за свинью — рубль грошей; за сарьну — копу грошей; за рыся — три рубли грошей; за соболя — два рубли грошей; за куну — полъкопы грошей.

*Для даведак*: Устанаўліваем цану дзікім звярам, якія былі б забіты кім-небудзь у чужой пушчы: за зубра — дванаццаць рублёў грошаў, за лася — шэсць рублёў грошаў, за аленя або лань — шэсць рублёў грошаў, за мядзведзя — тры рублі грошаў, за каня або за дзікую кабылу — тры рублі грошаў, за дзіка або за свінню — рубель грошаў, за сарну — капу грошаў, за рысь — тры рублі грошаў, за собаля — два рублі грошаў, за куніцу — паўкапы грошаў.

❀ Хто бы чужое дерево бортное со пчолами, сосну або дубъ або иншое дерево бортное сказилъ, корень у земли урубалъ або пожаром ожогъ, або яко кольвекъ неумысльне с пригоды попсовалъ, тотъ за кождое дерево со пчолами будеть винен платити по две копе грошей, а за выробленое без пчолъ — копу грошей, за кремъ — полъкопы грошей. А хто бы кгвалтовне, умыслне вытискаючи кого з кгрунту або з уходовъ звечныхъ альбо тежъ злодейскимъ обычаемъ дерево бортное очер або зжогъ, або знамена вырубал, або огнемъ выжогъ, а то бы на него переведено, тогды маеть тому пану, чые дерево, так платить: за борть со пчолами неподбираными — три рубли грошей; за дерево бортное, где первей пчолы были, хотя без пчолъ, зопсованое, — по две копе грошей; за дерево, на борть выробленое, где еще пчолы не были — копу грошей, а за кремъ без борти, иле ихъ сказилъ — за кождый по полкопы грошей.

*Для даведак*: Хто б пашкодзіў чужое бортнае дрэва з пчоламі, сасну, або дуб, або іншае бортнае дрэва, корань у зямлі падсек, або агнём абпаліў, або як-небудзь ненаўмысна, выпадкова папсаваў, той за кожнае дрэва з пчоламі абавязаны будзе заплаціць па дзве капы грошаў, а за пашкоджанае дрэва без пчол — капу грошаў, за прызначанае на борць дрэва — паўкапы грошаў. А хто б гвалтоўна, наўмысна выцясняючы каго з зямлі або з увaходаў спрадвечных, або таксама зладзейскім чынам абсек або спаліў бортнае дрэва, або знамёны высек, або агнём выпаліў, а гэта было б даказана, тады павінен таму пану, чыё дрэва, так заплаціць: за борць з нявыбраным мёдам — тры рублі грошаў, за дрэва бортнае, у якім раней былі пчолы, хаця б і без пчол, сапсаванае, — па дзве капы грошаў, за дрэва, на борць выраблeнае, дзе пчолы яшчэ не былі, — капу грошаў, а за прызначаныя на борць дрэвы, колькі б іх пашкодзіў, — за кожнае па паўкапы грошаў.

**Заданне 2.** *Пазнаёмцеся з прапанаванымі ўрыўкамі з газеты «Наша ніва» (1906—1915). Запішыце іх згодна з правіламі сучаснай беларускай мовы.*

🕮 1) Wialiki rasejski doktar i nastaŭnik Pirogow hawaryŭ: «Škoła i žyćcio pawinna być adnej sprawaj, zlitaj mocna ŭ adno ni addzielenaj adna ad druhoj». 2) Władysłaŭ razumieŭ usie kryŭdy, jakije čynilisia kazakam na Ukrajnie, i mieŭ wialikuju achwotu zdawolić sprawiedliwyje žadańnia kazakoŭ, ale karalu nie dawaŭ woli sejm, złoženy z šlachty. 3) Pryhledajučysia da nawiejšaj biełaruskaj piśmiennaści, možna lohka prykmiecić adno cikawaje i karysnaje zjawišče.

⌨ 1) Prywatnyje i chaŭrusnyje bančki płaciać bolšyje pracenty (kala 6% u hod), a, pazyčjučy złoženyje ŭ ich hrošy druhim ludziam, biaruć za pazyku 9—10% u hod. 2) U zbierehacielnych kasach na počtach u Biełarusi razam z Kowienskaj hubierniaj u 1909 hodzie ležało 57 mił. rublioŭ. 3) Woś heta i jość hłaŭnaje naše bahaćcie, nia ličačy mieniej ważnych tawaroŭ.

❀ 1) Kali-ž pierestaić kaniušyna, to źbiareš tak sama ćwiordyje cybuki, katoryje, choć i na siečku zrezać, žyvioła ješci nia budzie. 2) Pamież budynkoŭ treba sadzić ci hruszy, ci jabłońki, a jak fruktowyh dziareŭ niamaszaka, to sadzicie biarozy, lipy, klon, ci szto druhoje liściawoje. 3) Pčoły ŭsie ścienki ŭ wulli zaklejać swaim prapolisam, katory tak sama nie prapuskaje pawietra.

**Заданне 3.** *Пазнаёмцеся з прапанаванымі ўрыўкамі. Знайдзіце ў іх словы са спецыяльным значэннем, якія па форме адрозніваюцца ад сучасных тэрмінаў. Запішыце тэкст у адпаведнасці з нормамі сучаснай беларускай літаратурнай мовы.*

🕮 Фізычнае выхаваньне складае непарыўную частку агульнай псыхафізычнай культуры чалавека. Яго спэцыяльным мерапрыемствам адводзіцца час і месца аднальkова з іншымі задачамі школы. Характар яго прыёмаў (мерапрыемстваў) грунтуецца на біялёгічных асаблівасьцях узросту і на вучоце сацыяльна-эканамічных абставін асяродзьдзя. Фізычнае выхаваньне ў другім канцэнтры школы мае мэтай усебаковае разьвіцьё арганізму, прывучэньне да ўменьня ўладаць сабой і ўтвараць найбольшую работу з найменшаю патратаю сілы (*час. Асьвета, 1927*).

⌨ Калі падобныя члены маюць знакі аднолькавыя, дык пры злучэньні трэба скласьці іх лікавыя коэфіцыенты й перад сумаю напісаць супольны знак; калі-ж падобныя члены маюць розныя знакі, дык трэба асобна скласьці дадатныя коэфіцыенты й асобна адымныя, ад большае сумы адняць меншую й перад рэзультатам паставіць знак большае сумы (*Круталевіч А. Элементарная альгэбра, 1922*).

❀ Першыя часы пасьля лядавіковага пэрыоду ўвесь прастор Беларусі быў пакрыты лядавіковым (морэнным) матар'ялам і што зьверху каменьне, прынесенае лядавіком, пакрысе разсыпалася, аж пакуль з яго не зрабілася ўперад жарства, а пасьля гліна і пясок. На паўднёвым усходзе Беларусі ляжаў між іншым і лёсс, які асеў у відзе пылу, што прынесены быў ветрам з поўначы. Вось на гэтых глінах, пясках ды лёссе і павырасталі грунты (*Смоліч А. Географія Беларусі, 1923*).

**Заданне 4.** 🕮⌨✿ *Прачытайце артыкул «Дыялектная мова» з энцыклапедыі «Беларуская мова» (1994). Назавіце асноўныя адрозненні паміж беларускімі дыялектамі.*

**Заданне 5.** 🕮⌨✿ *Прачытайце і супастаўце выказванні пра сучасную моўную сітуацыю ў Беларусі прафесара А. А. Лукашанца і прафесара Н. Б. Мячкоўскай. Выкажыце свае адносіны да ўзнятай праблемы.*

Сёння можна гаварыць пра істотнае павышэнне прэстыжнасці беларускай мовы. Не будзе перабольшваннем адзначыць, што да чалавека, які валодае дзвюма дзяржаўнымі мовамі і карыстаецца імі ў паўсядзённым жыцці, ставяцца з большай прыхільнасцю і павагай.

Зараз маладое пакаленне, прычым адукаванае, усё больш выкарыстоўвае ў сваіх зносінах беларускую мову. Маладыя людзі актыўна ўжываюць яе ў сферы інтэрнэт-камунікацыі. Таму ёсць падставы спадзявацца, што павышэнне цікавасці да беларускай мовы будзе працягвацца (*Лукашанец А. А. Інтэрв'ю газеце «Мінская праўда», 2011*).

У публічных месцах (транспарце, крамах і кафэ, поштах, паліклініках) беларускае маўленне ўспрымаецца як нечаканае і элітарнае; часам яно носіць характар выкліку эпатажу, іншы раз — нават маладзёжнай лёгкай агрэсіі. Прыхільнікі беларушчыны, дэманстратыўна звяртаючыся да нацыянальнай мовы, імкнуцца скарыстаць саму размову па-беларуску як акт абароны і прапаганды мовы (*Мячкоўская Н. Б. Мова сярод прыярытэтаў беларускага нацыянальнага адраджэння, 2003*).

Раздзел 2

# ЛЕКСІЧНАЯ СІСТЭМА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

## 2.1. ПАНЯЦЦЕ ПРА ЛЕКСІКУ

**Лексіка** (ад гр. *lexikos* 'слоўнікавы') — сукупнасць слоў мовы. Гэтым тэрмінам называюць таксама пэўныя пласты слоўнікавага складу мовы (напрыклад, стылістычна нейтральная лексіка, кніжная лексіка, спецыяльная лексіка), слоўнікавы склад тых або іншых твораў ці аўтараў (напрыклад, лексіка «Дзікага палявання караля Стаха» У. Караткевіча).

Колькасць слоў у сучасных развітых мовах дасягае некалькіх сотняў тысяч. Так, у «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» (1977—1984) каля 97 тыс. слоў, у «Беларуска-рускім слоўніку» (2003) — каля 110 тыс., у «Тлумачальным слоўніку беларускай літаратурнай мовы» (2002) і «Частотным слоўніку беларускай мовы» Н. С. Мажэйкі (2006) — каля 65 тыс. слоў. Дакладны аб'ём слоўнікавага складу вызначыць немагчыма, паколькі лексіка мовы пастаянна папаўняецца і ўзбагачаецца і слоўнікі «не паспяваюць» за яе развіццём. Акрамя таго, нават у самыя вялікія лексікаграфічныя выданні звычайна не ўключаюцца дзясяткі тысяч дыялектных, устарэлых, новых лексем, а таксама слоў (тэрмінаў), што абазначаюць назвы вузкаспецыяльных навуковых паняццяў і з'яў.

Словы, якія складаюць лексіку сучаснай беларускай літаратурнай мовы, характарызуюцца пэўнай спецыфікай: яны адрозніваюцца паміж сабой паводле паходжання, ступені актыўнасці, сферы выкарыстання і, нарэшце, паводле стылістычнай прыналежнасці. Вывучэнне гэтых асаблівасцей з'яўляецца адной з найважнейшых задач спецыяльнага раздзела мовазнаўства, які даследуе слоўнікавы склад мовы, — **лексікалогіі** (*lexikos* 'слоўнікавы' + *logos* 'вучэнне').

У лінгвістыцы прыняты наступныя прынцыпы класіфікацыі лексікі мовы:

✓ паводле паходжання адрозніваюць *спрадвечна беларускую* і *запазычаную лексіку;*

✓ паводле ступені выкарыстання лексіка падзяляецца на *актыўную* і *пасіўную* (да першай групы адносяцца рэгулярна або часта ўзнаўляльныя адзінкі, да другой — устарэлыя і новыя словы);

✓ паводле стылістычнай характарыстыкі *лексіка нейтральная* проціпастаўляецца *стылістычна афарбаванай* кніжнай і гутарковай *лексіцы*;

✓ паводле сферы выкарыстання вылучаюць *агульнаўжывальную лексіку* і *лексіку абмежаванага ўжывання* (дыялектную, спецыяльную, жаргонную).

### ⌛ Пытанні для самакантролю

1. Дайце азначэнне паняццям *лексіка* і *лексікалогія*.
2. Які колькасны склад лексікі беларускай мовы? Ці магчыма вызначыць дакладную лічбу?
3. Наколькі аднароднай з'яўляецца лексіка мовы?

## 2.2. ЛЕКСІКА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ПАВОДЛЕ ПАХОДЖАННЯ

Усе словы беларускай мовы паводле іх паходжання можна падзяліць на два вялікія класы: ***спрадвечна беларускія і запазычаныя.*** Межы паміж гэтымі двума класамі слоў не заўсёды лёгка вызначыць дакладна: некаторыя словы прыйшлі ў нашу мову так даўно, што іх цяжка адрозніць ад спрадвечных. Напрыклад, слова *хлеб* было запазычана са старажытнаверхненямецкай (*hleib*), *койка* — з галандскай (*kooi*), *хлеў* — з гоцкай (*hlaiw*).

### 2.2.1. Спрадвечна беларуская лексіка

Паводле асаблівасцей фарміравання спрадвечна беларускай лексікі ў ёй вылучаюцца некалькі гістарычных пластоў слоў.

➢ Найбольш старажытны пласт утвараюць ***агульнаіндаеўрапейскія*** словы (узніклі да 3—2 тыс. да н.э.) — лексіка, якая перайшла з індаеўрапейскай мовы ў праславянскую, з праславянскай — у агульнаўсходнеславянскую, з агульнаўсходнеславянскай — у старабеларускую, а са старабеларускай — у новую беларускую мову. Да такіх слоў належаць назвы:

✓ адносін роднасці і сваяцтва: *брат*, *дзевер*, *дачка*, *мама*, *сын*;

✓ органаў і частак цела чалавека, жывёлы: *бровы*, *века*, *грудзі*, *грыва*, *зуб*, *калена*, *нага*, *нос*, *язык*;

✓ некаторых звяроў, птушак і іншых істот: *аса*, *блыха*, *воўк*, *дрозд*, *журавель*, *каза*, *карова*, *мыш*;

✓ раслін, іх частак і пладоў: *бяроза*, *гарох*, *дуб*, *клён*;

✓ пабудоў і іх частак: *вароты*, *дзверы*, *дом*;

✓ некаторых рэчываў, карысных выкапняў: *вугаль*, *соль*;

✓ частак зямной паверхні: *балота*, *бераг*, *гара*, *камень*, *мора*, *скала*;

✓ атмасферных з'яў: *вецер*, *град*, *раса*, *снег*;

✓ прадметаў і прылад працы: *вось*, *жорны*, *саха*, *цэп*;

✓ часавых паняццяў: *век*, *вечар*, *дзень*, *ноч*;

✓ дзеянняў, працэсаў, станаў: *біць*, *браць*, *везці*, *гарэць*, *калоць*, *капаць*, *піць*, *плыць*, *сячы* і інш.

➢ Словамі ***праславянскага паходжання*** (узніклі да VI ст. н.э.) называюцца:

✓ адносіны роднасці і сваяцтва: *баба*, *дзіця*, *кум*, *нявестка*, *сват*;

✓ органы і часткі цела чалавека, жывёлы: *барада*, *бядро*, *галава*, *горб*, *горла*, *жыла*, *локаць*, *палец*, *плячо*, *рука*, *сэрца*, *шыя*;

✓ звяры, птушкі і іншыя жывыя істоты: *алень*, *баран*, *варона*, *змяя*, *мядзведзь*, *куніца*, *ліса*, *сойка*, *тур*, *чарвяк*;

✓ расліны, іх часткі і плады: *асака*, *арэх*, *брусніцы*, *вішня*, *вярба*, *дупло*, *ліпа*, *сліва*, *чаромха*, *яблыня*, *ячмень* і інш.

✓ пабудовы і іх часткі: *акно*, *гумно*, *парог*, *страха*;

✓ прылады працы і прадметы быту: *барана*, *вілы*, *граблі*, *каса*, *мятла*, *рэшата*, *сіта*, *хамут*;

✓ ваенныя фарміраванні і адзінкі зброі: *дружына*, *кап'ё*, *лук*, *полк*, *пяхота*, *страла*;

✓ некаторыя віды рэльефу: *брод*, *возера*, *зямля*, *поле*, *яма*;

✓ многія карысныя выкапні: *волава*, *гліна*, *золата*, *медзь*, *руда*;

✓ прамежкі часу: *вечар*, *дзень*, *ноч*, *учора*; *заўтра*, *год*, *зіма*, *восень;*

✓ з'явы прыроды: *вецер*, *град*, *дождж*, *мароз*, *сонца* і інш.

Значную частку праславянскай лексікі складаюць абстрактныя словы: *вера*, *надзея*, *страх*, *розум*, *дух*, *грэх*, *віна*, *жыццё*, *свабода*, *смерць*, *слава*, *сіла*, а таксама розныя прыметнікі і лічэбнікі: *добры*, *злы*, *лысы*, *люты*, *мілы*, *скупы*, *хітры*; *адзін*, *два*, *сем*, *сто*, *тры* і інш.

У сучаснай беларускай мове звыш 1,5 тыс. слоў праславянскага фонду.

➢ Да ***агульнаўсходнеславянскай лексікі*** (узнікла з VI да XIII ст.) адносяцца словы, вядомыя беларусам, рускім і ўкраінцам, але незразумелыя паўднёвым і заходнім славянам. Гэта назвы:

✓ адносін роднасці і сваяцтва: *бацька*, *дзядзька*, *пляменнік*;

✓ асоб паводле дзейнасці: *бондар*, *знахар*, *селянін*;

✓ органаў, частак цела чалавека і жывёлы: *клык*, *ключыца*, *туша*;

✓ раслін, іх частак і пладоў: *ажына*, *грэчка*, *куст*, *малачай*, *перац*, *хвошч*;

✓ прылад працы і прадметаў быту: *аброць*, *аглобля*, *дзяруга*, *карзіна*, *каромысел*, *мяшок*, *самавар*;

✓ абстрактных паняццяў: *давер*, *журба*, *пацеха*;

✓ дзеянняў і працэсаў: *балаваць*, *віляць*, *гуляць*, *кіпяціць*, *чахнуць*;

✓ якасцей і колераў: *ветлівы*, *дрымучы*, *карычневы*, *махнаты*, *рабы*, *удалы*;

✓ некаторых лікаў: *адзінаццаць*, *дванаццаць*, *дзевяноста*, *пятнаццаць*, *сямнаццаць*, *сорак*, *трыццаць*.

➢ ***Уласнабеларускімі*** называюцца словы, якія ўзніклі ў працэсе фарміравання і развіцця беларускай мовы на яе ўласнай лексічнай аснове ці ўтвораны з дапамогай уласных словаўтваральных сродкаў ад запазычаных слоў (з XIV ст.). Да іх адносяцца назвы:

✓ асоб паводле дзейнасці: *абібок*, *араты*, *барацьбіт*, *вадзянік*, *нячысцік*, *сейбіт*;

✓ птушак: *берасцянка*, *бусел*, *валасянка*, *кнігаўка*;

✓ раслін: *алешнік*, *амежнік*, *буякі*, *ваўчкі*;

✓ атмасферных з'яў: *вясёлка*, *спёка*, *цемра*;

✓ пабудоў і іх частак: *будынак*, *вазоўня*, *вільчак*, *вочап*, *вяршнік*, *паветка*;

✓ прадметаў быту: *вопратка*, *спадніца*, *хустка*;

✓ страў і напіткаў: *бярозавік*, *дранікі*, *зацірка*, *галкі*, *капытка*, *смажанік*;

✓ часавых і прасторавых паняццяў: *аблога*, *адвячорак*, *аселіца*, *красавік*, *палетак*, *сяліба*;

✓ дзеянняў і працэсаў: *абняславіць*, *адказаць*, *гаманіць*, *пакутаваць*, *сачыць*, *хістаць*;

✓ абстрактных паняццяў: *абставіны*, *асяроддзе*, *вытрымка*, *жаданне*, *летуценне*, *мроя*;

✓ навуковых аб'ектаў і паняццяў: *выказнік*, *выкапень*, *дзейнік*, *замова*, *прымаўка*, *разлік*, *свідравіна*.

Менавіта ўласнабеларускія словы абумоўліваюць спецыфіку лексікі беларускай мовы, складаюць асноўны яе намінатыўны і эмацыянальна-экспрэсіўны фонд.

## 2.2.2. Запазычаная лексіка

Кожны народ жыве побач з іншымі народамі. Вынікам гандлёвых, прамысловых, культурных кантактаў паміж народамі з'яўляецца ўзаемнае запазычванне слоў. Як правіла, натуральнае запазычванне ўзбагачае мову, робіць яе больш гнуткай і не ўплывае на яе самабытнасць, паколькі пры гэтым захоўваецца асноўны слоўнік мовы,

яе граматычны лад, не парушаюцца ўнутраныя законы моўнага развіцця.

Прычыны запазычвання слоў могуць быць знешнімі (пазамоўнымі) і ўласна моўнымі.

Да **знешніх** прычын запазычвання адносіцца палітычны, гандлёва-эканамічны, прамысловы ўплыў аднаго народа на другі.

**Уласна моўныя** прычыны запазычвання наступныя:

✓ патрэба ў называнні новых паняццяў, з'яў, прадметаў: *лагістыка* (англ. *logistics* 'комплексная сістэма арганізацыі працэсу руху тавару ад вытворцы да пакупніка'); *спам* (англ. *spam* 'масавая рассылка рэкламных аб'яў па электроннай пошце'); *сэйл* (англ. *sale* 'распродаж па зніжаных цэнах у канцы сезона'), а таксама: *арганайзер*, *біпер*, *бэдж*, *класіфікатар*, *плотар*, *сканер*, *таймер*, *тонер*, *холстар* і інш.;

✓ неабходнасць удакладніць, дэталізаваць пэўнае паняцце: *саміт* (англ. *summit* 'тып афіцыйнай сустрэчы або нарады кіраўнікоў дзяржаў'); *снукер* (англ. *snooker* 'від більярда, у якім выкарыстоўваюцца 15 чырвоных шароў і 6 шароў іншых колераў, якія трэба забіць у лузы більярднага стала ў пэўным парадку'); *супермаркет* (англ. *supermarket* 'буйны магазін самаабслугоўвання па гандлі спажывецкімі таварамі');

✓ тэндэнцыя ў мове да замены неаднаслоўных, апісальных або складаных найменняў аднаслоўнымі: *аўтарскае права — капірайт* (англ. *copyright*); *блізказначнік — сінонім*; *велічыня пастаянная — канстанта* (ад лац. *constan*, *-ntis* 'нязменны, пастаянны'); *падробка крэдытных картаў — кардынг* (англ. *carding*);

✓ адсутнасць дакладнага наймення ў роднай мове: *дэтэктар* (валют), *віртуальны*, *дайджэст*, *інвестар*, *спічрайтар*, *спонсар*, *спрэй* і інш.;

✓ патрэба ў адпаведным стылістычным эфекце: *сек'юрыці* замест *ахоўнік*; *бойфрэнд* замест — *хлопец-сябар*; *прэзент* замест *падарунак*; параўн.: *«Князь цемры» — тыповы хорар* (*англ. horror* 'жах'), *«Вій» — першы савецкі фільм жахаў*;

✓ неабходнасць выражэння пазітыўных або негатыўных адценняў; параўн.: *піўная* і *паб*, *пракат машын* і *фірма аўта-рэнтал* і г. д.

Іншамоўныя словы звычайна захоўваюць характэрныя рысы тых моў, з якіх яны запазычаны, таму іх можна адрозніць ад беларускіх паводле паходжання.

У сучаснай беларускай мове прадстаўлены:

✓ ***грэцызмы***: *акіян*, *анекдот*, *арыфметыка*, *афарызм*, *граматыка*, *ёд*, *катар*, *клімат*, *конус*, *маналог*, *манархія*, *метафара*, *палітыка*, *парус*, *тэатр*, *філасофія* і інш.;

✓ **лацінізмы**: *акцыя, ангіна, апрабацыя, градус, доктар, дырэктар, калега, камедыя, канстытуцыя, карта, квота, келіх, медыяна, парафія, прапорцыя, рэліквія, сума, тэкст, тэмперамент* і інш.;

✓ **англіцызмы**: *біфштэкс, блок, блюмінг, бункер, гольф, джаз, дрэдноўт, жакей, клуб, кракет, лорд, мітынг, сквер, трамвай* і інш.;

✓ **германізмы**: *атэіст, барда, блок, гандаль, грабар, дрот, друк, кафля, кошт, куфель, кухня, лата, рада, рахунак, фальш, фартух, фурман, цэнтнер, шалі, шпік, шпіталь, шула* і інш.;

✓ **галіцызмы** (галоўным чынам, запазычанні з французскай мовы): *авангард, акцёр, антракт, аташэ, афіша, балет, батальён, бомба, брыгада, вадэвіль, вуаль, дэмарш, канонада, кіно, пароль, партызан, салон, тратуар, фронт* і інш.;

✓ **цюркізмы**: *алмаз, алтын, аршын, атаман, кабала, каблук, каліта, кунтуш, курган, мурза, нагайка, палаш, саранча, тавар, туман, чабан* і інш.;

✓ **літуанізмы**: *бонда, венцер, гірса, дойлід, жлукта, клуня, крупеня, мянташка, пуня, рэзгіны, свіран, твань* і інш.;

✓ **стараславянізмы**: *ад, акаянны, блаславенне, блажэнны, дрэва, ерась, злак, трэба, уладыка, чало* і інш.;

✓ **русізмы**: *ачаг, аплот, вопыт, вучоны, дваранін, звяно, подзвіг, савет, упраўленне, паражэнне, парок*;

✓ **украінізмы**: *бандура, боршч, бублік, галушка, гапак, шкаляр* і інш.

✓ **паланізмы**: *быдла, вантробы, дашчэнту, змрок, кавадла, кудлаты, маёнтак, нэндза, пагарда, рыдлёўка, скарга, сродак, страшыдла, тлусты, хлопец* і інш.

Асаблівым выпадкам запазычвання з'яўляецца **калькаванне** — утварэнне новых слоў на базе беларускіх каранёў і афіксаў, але паводле структурных схем, уласцівых іншым мовам: напрыклад, англ. *skyscraper* — рус. *небоскрёб* — бел. *хмарачос*. Інакш кажучы, **калька** — гэта паслядоўны пераклад марфем іншамоўнага слова з дапамогай суадносных марфем беларускай мовы.

У сучаснай беларускай літаратурнай мове прадстаўлены калькі са слоў наступных моў:

✓ **грэчаскай**: *alphobetos — азбука; anomia — беззаконне; autocrateia — самаўладства; biographia — жыццеапісанне; orthographia — правапіс; chronographos — летапісец; polypeiros — мнагавопытны*;

✓ **лацінскай**: *agricultura — земляробства; declinatio — схільнасць; hidrogenium — вадарод; insectum — насякомае; objectum — прадмет; oxigenium — кісларод*;

✓ ***французскай***: *circonstance — абставіны*; *impression — уражанне*; *journal — дзённік*; *solidite — шчыльнасць*; *subdivision — падраздзяленне*;

✓ ***нямецкай***: *augenscheinlich — відавочны*; *aussehen — выглядаць*; *Einheit — адзінства*; *einseitig — аднабаковы*; *Halbinsel — паўвостраў*; *Selbstbestimmung — самавызначэнне*; *Übermensch — звышчалавек*;

✓ **рускай**: *воспитатель — выхавацель*; *единоличник — аднаасобнік*; *непредвиденный — непрадбачаны*, *противоположный — процілеглы*; *шерстеобрабатывающий — воўнаапрацоўчы*; *удобоваримость — легкатраўнасць* і інш.

Калькавацца могуць не толькі асобныя словы, але і цэлыя выразы: англ. *public relations — сувязі з грамадскасцю*, англ. *root segment — каранёвы каталог* і інш.

Словы, якія перайшлі ў беларускую мову, адрозніваюцца па ступені асвоенасці. Некаторыя з іх настолькі трывала ўліліся ў лексічную сістэму беларускай мовы, што ўспрымаюцца як уласнамоўныя: *боршч*, *булка*, *катлета*, *малюнак*, *пінжак*, *стул*, *суп*, *цукерка*, *школа*. Іншыя, наадварот, захоўваюць сваё «іншаземнае» аблічча і ўспрымаюцца як відавочна чужыя. Гэта так званыя экзатычныя словы, або **экзатызмы**, (ад гр. *exotikos* 'чужы') словы і выразы, якія запазычаны з іншых моў, адлюстроўваюць паняцці з жыцця іншых народаў і ўжываюцца з мэтай надаць маўленню своеасаблівы мясцовы каларыт: *лаваш*, *меджліс*, *пані*, *франк*, *хурал*, *чалма*, *янычар*.

Ад экзатызмаў трэба адрозніваць **варварызмы** (ад. лац. *barbarismos*) — іншамоўныя словы, не да канца засвоеныя мовай, найчасцей у сувязі з цяжкасцямі граматычнай адаптацыі. Звычайна варварызмы выкарыстоўваюцца пры апісанні чужаземных звычаяў, побыту, нораваў, для стварэння мясцовага каларыту. Яны могуць надаваць гумарыстычнае, іранічнае, сатырычнае або ўзвышанае гучанне тэксту: *Дзякую, дзякую, <u>вашэці</u>. <u>Проша</u> са мною клопату не рабіць* (Янка Купала); *На Шчары, / Нарачы, / На Свіцязі / Схаўрусіць хай / з салам алей кум. / Татары! / Множцеся й пладзіцеся, / Вы нашыя. / <u>Салям алейкум</u>!* (Р. Барадулін).

## ⏳ Пытанні для самакантролю

1. Якія класы слоў складаюць лексіку беларускай мовы?
2. Назавіце прыблізны час узнікнення агульнаіндаеўрапейскіх, праславянскіх, агульнаўсходнеславянскіх і спрадвечнабеларускіх слоў.

3. Якія тэматычныя групы слоў адносяцца да агульнаўсходнеславянскай і старабеларускай лексікі?

4. Пералічыце асноўныя прычыны запазычвання слоў.

5. З якіх моў запазычаны некаторыя лексічныя адзінкі беларускай мовы?

6. Што такое калькаванне? У чым адрозненне паміж калькаваннем і ўласна запазычваннем?

7. Якія словы называюцца экзатызмамі?

8. З якой мэтай у творах мастацкай літаратуры выкарыстоўваюцца варварызмы?

## 2.3. ЛЕКСІКА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ПАВОДЛЕ СТУПЕНІ ЯЕ ВЫКАРЫСТАННЯ

Мова як сродак зносін знаходзіцца ў пастаянным развіцці. Найбольш выразна гэта праяўляецца ў яе лексіцы: з'яўляюцца словы для называння новых прадметаў, рэалій, і наадварот, выходзяць з ужытку словы, якімі называліся прадметы, што перасталі выкарыстоўвацца грамадствам.

✎ Да **актыўнай лексікі** адносіцца сукупнасць слоў, якія шырока ўжываюцца большасцю носьбітаў мовы ў дадзены час. У літаратурнай мове гэта і агульнаўжывальныя словы, неабходныя ў штодзённых зносінах (*блізка*, *вада*, *добры*, *доўгі*, *ісці*, *працаваць*, *смачны*, *твой*, *хлеб*, *чалавек*), і грамадска-палітычная лексіка (*партыя*, *прагрэс*, *сацыяльны*, *эканоміка*), і словы, якія называюць спецыяльныя прадметы, паняцці і з'явы (*ген*, *віртуальны*, *дыягназ*, *інфляцыя*, *прафілактыка*, *рэнтабельны*) і інш.

✎ У **пасіўны слоўнік** уваходзяць словы, якія не з'яўляюцца выкарыстальнымі ў сучаснай беларускай літаратурнай мове і не заўсёды зразумелыя яе носьбітам. Да пасіўнай лексікі адносяцца **ўстарэлыя словы**, якія выйшлі або выходзяць са сферы актыўнага ўжывання і з'яўляюцца невядомымі або малавядомымі, і **неалагізмы** — словы, якія ўзніклі параўнальна нядаўна і яшчэ не сталі агульнавядомымі.

Групу ўстарэлых слоў утвараюць г і с т а р ы з м ы і а р х а і з м ы.

**Гістарызмы** (гр. *historikos* 'гістарычны') — гэта ўстарэлыя словы, якія называюць паняцці, прадметы, з'явы, што зніклі з жыцця грамадства: *армяк*, *баярын*, *будзёнаўка*, *войт*, *газніца*, *гетман*, *губсаюз*, *даспехі*, *жупан*, *жырандоль*, *земства*, *калчан*, *камбед*, *камзол*, *кулак*, *лапці*, *меч*, *нэпман*, *павет*, *пільчак*, *пісар*, *рэдут*, *ураднік*, *ціўун* і інш.

**Архаізмы** (гр. *archaios* 'старажытны') — гэта ўстарэлыя назвы сучасных паняццяў, прадметаў, з'яў: *бакшта* 'вежа', *вахмістр* 'ахоўнік', *векша* 'вавёрка', *волах* 'румын', *выя* 'шыя', *бортнік* 'пчаляр', жывот 'жыццё', *злуч* 'злучнік', *кроніка* 'хроніка', *кругавід* 'гарызонт', *лемантар* 'буквар', *піжмо* 'мускус', *раме* 'плячо', *стрычок* 'вяроўка' і інш.

Устарэлая лексіка выкарыстоўваецца ў мастацкіх творах для стварэння каларыту пэўнай гістарычнай эпохі, для надання велічнасці, урачыстасці гучання: *І нічога не зробіць рада ні з замкам, ні з царквою, ні з магнатамі, ні з іхнімі шляхецкімі атрадамі, слугамі і прыгоннымі. Толькі і засталося радзе, што ўладарыць над рамеснікамі, падмайстрамі ды плебеямі. І над табою ўсялякі суд ёсць, а ты, бурмістр, вы, радцы ды лаўнікі, толькі і можаце, што спрэчкі аб маёмасці разбіраць радзецкім судом ды забойствы і іншае такое — судом лаўнічым* (У. Караткевіч).

**Неалагізмы** (гр. *neos* 'новы') — гэта словы, якія з'явіліся ў мове як назвы новых прадметаў рэчаіснасці і яшчэ не страцілі адцення навізны: *аніматар* 'работнік атэля, які арганізоўвае вольны час кліентаў'; *вэб-дызайн* 'мастацкае канструяванне, афармленне ў сетцы інтэрнэт'; *дылер* 'супрацоўнік банка, які займаецца аперацыямі з валютай, дэпазітамі, каштоўнымі паперамі'; *дэфолт* 'невыкананне грашовых абавязкаў дзяржавай'; *трафік* 'у інфарматыцы: інтэнсіўнасць патоку перадаваемых даных'; *турбагрыль* 'грыль, аснашчаны вентылятарамі'; *шэйкер* 'пасудзіна для змешвання кактэйляў' і інш.

За апошнія дзесяцігоддзі сучасная беларуская літаратурная мова засвоіла вялікую колькасць новых слоў і ўстойлівых словазлучэнняў, многія з якіх не абазначаюць новыя паняцці, а з'яўляюцца дублетамі нарматыўных моўных адзінак: *выкіды — адходы*, *гламурны — прывабны*, *кантэнт — змест*, *канцэрн — аб'яднанне*, *інсталіраваць — устанавіць* (праграму), *інсітнае мастацтва — наіўнае мастацтва*, *інтэгратар — аб'яднальнік*, *нара́тар — апавядальнік*, *снэк — закуска*, *флаер — лістоўка-рэклама* і інш.

Сярод неалагізмаў вылучаюцца **аказіяналізмы** (ад с.-лац. *occasionalis* 'выпадковы') — індывідуальна-аўтарскія словы, якія ствараюцца пісьменнікамі, паэтамі, грамадскімі дзеячамі як мастацка-выяўленчыя сродкі: *Усе ўмоўнасці ўмоўныя / з не маёю шчырасцю — / са шляхамі да абрывасцяў*; *Рукі мае — арабінава-гронкавыя / безбранзалетныя і беспярсцёнкавыя* (Я. Дашына); *Вершапраходцы крывіцкай мовы, іх шлях не ўсыпаны быў васількамі* (Р. Барадулін); *У нас жыло святло, была крылатасць птахаў* (А. Пісьмянкоў); *Надыходзяць Каляды і зоры вышэюць уноч* (Л. Рублеўская).

За межы індывідуальнага словаўжывання аказіянальныя словы не выходзяць і таму, як правіла, не набываюць статуса агульнамоўных лексічных адзінак.

### ⌛ Пытанні для самакантролю

1. У чым адрозненне паміж актыўнай і пасіўнай лексікай мовы?
2. Дайце азначэнне паняццям *архаізм* і *гістарызм*.
3. Ці з'яўляюцца сінонімамі паняцці *неалагізм* і *аказіяналізм*?

## 2.4. ЛЕКСІКА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ПАВОДЛЕ СТЫЛІСТЫЧНАЙ АФАРБОЎКІ

Стылістычная дыферэнцыяцыя моўных сродкаў асабліва выразна праяўляецца ў сферы лексікі. Яна знаходзіць выражэнне ў вылучэнні двух стылістычна значных слоўнікавых пластоў: н е й т р а л ь н а й і с т ы л і с т ы ч н а а ф а р б а в а н а й лексікі.

➷ **Стылістычна нейтральная** (міжстылёвая) лексіка ўтварае аснову лексічных сродкаў мовы, выкарыстоўваецца ва ўсіх разнавіднасцях вуснай і пісьмовай мовы. Нейтральныя словы служаць для наймення прадметаў, паняццяў, дзеянняў, станаў, прымет без якой-небудзь ацэнкі з боку моўцы: *асака*, *бераг*, *жыць*, *заўсёды*, *ісці*, *кніга*, *пясок*, *стол*, *трэці*, *тут*, *хлеб*, *чырвоны* і інш. Напрыклад: *Дзень гэты быў сонечны. На бярозах трапяталася жоўтае лісце. У чыстым полі адзінокі лісток імкнуўся з ветрам удалячынь. Лясы паўз дарогу нерухома вартавалі спакой восені. На пустым іржышчы і на пакошах хадзіла жывёла. Ясны сум восені, здавалася, плыве з ветрам, і ўсё вісіць, як доўгачаканая ласкавасць. Шыпшына кустамі стаяла без лісця і з чырвонымі пладамі* (К. Чорны).

Стылістычна нейтральная лексіка выкарыстоўваецца ва ўсіх сферах моўных зносін людзей, складае большую частку слоў мовы, яе базу (каля 60—70% ад агульнай колькасці лексем) і з'яўляецца лексічнай асновай усіх стыляў.

➷ **Стылістычна афарбаваная** (маркіраваная) лексіка аб'ядноўвае словы, якія акрамя ўласна назыўной функцыі, выконваюць яшчэ і характарыстычную функцыю — утрымліваюць розныя ацэнкі названых прадметаў і з'яў (іронію, насмешку, пагарду, нянавісць, сімпатыю, захапленне і інш.). Такія словы звычайна абмежаваны пэўным стылем і ў слоўніках адзначаюцца адпаведнымі паметамі (*кніжн.*, *разм.*, *пагард.*, *уст.*, *паэт.* і інш.).

Да стылістычна афарбаваных слоў адносяць к н і ж н у ю і г у т а р к о в у ю лексіку.

**Кніжныя словы** выкарыстоўваюцца пераважна ў пісьмовай мове. Асноўныя сферы іх функцыянавання — навуковая і вучэбная літаратура, афіцыйныя дакументы, некаторыя публіцыстычныя творы. Многія з кніжных слоў — запазычаныя.

У складзе кніжнай лексікі можна адрозніць тры функцыянальна-стылістычныя пласты: ***тэрміналагічную*** (*дактрына*, *даасізм*, *пралангіраваць*, *аўтамарфізм*, *поліпарадыгмальны*), ***афіцыйна-спраўваву*** (*абскарджанне*, *кампетэнцыя*, *хадайніцтва*, *у адпаведнасці з...*, *сведка*, *транспартныя сродкі*, *цялесныя пашкоджанні* і інш.) і ***паэтычную*** (*квецень*, *ліра*, *муза*, *хваласпеў*, *скрыжаль*, *светач*) лексіку.

Да **гутарковай лексікі** адносяцца як словы з пазітыўнай або нейтральнай афарбоўкай: *булёнчык*, *двойня*, *добранькі*, *донечка*, *сябручок*, *мо*, так і словы з выразна негатыўнай канатацыяй: *абібок*, *вярзіла*, *жлукта*, *знюхацца*, *мямліць*.

Сфера ўжывання гутарковай лексікі абмяжоўваецца сітуацыяй штодзённых бытавых зносін, хаця часам яна са стылістычнымі мэтамі выкарыстоўваецца і ў мастацкіх творах: *Ды не грукайце дзвярыма, / Не галёкайце, прашу, / Дайце кавы растварымай: / Эпітафію пішу* (П. Панчанка); *Музыка змоўкла. Да нас набліжаўся Дубатоўк, чырвоны і вясёлы: «Надзеечка, прыгажунька ты мая. Дазвольце старому хрэну лапэтку»* (У. Караткевіч).

Лаянкавыя і вульгарныя словы таксама ўваходзяць ў гутарковую лексіку, аднак знаходзяцца на перыферыі лексічнай сістэмы беларускай мовы, іх выкарыстанне сведчыць пра адсутнасць моўнай культуры.

### ⌛ Пытанні для самакантролю

1. Якія словы ўтвараюць аснову лексічнай сістэмы беларускай мовы?
2. З якой мэтай выкарыстоўваецца стылістычна афарбаваная лексіка?
3. Чым адрозніваюцца кніжныя і гутарковыя словы?
4. Чаму выкарыстанне лаянкавых і вульгарных слоў — недапушчальнае?

## 2.5. ЛЕКСІКА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ПАВОДЛЕ СФЕРЫ ВЫКАРЫСТАННЯ

У лексіцы сучаснай беларускай мовы з пункту гледжання сферы яе выкарыстання вылучаюцца два асноўныя пласты: агульнаўжывальныя словы і словы, абмежаваныя ў сваім выкарыстанні тэрыторыяй або сацыяльным асяроддзем.

➤ **Агульнаўжывальная лексіка** — ядро лексічнай сістэмы мовы. У яе ўваходзяць словы, якія абазначаюць жыццёва і сацыяльна важныя паняцці, дзеянні, уласцівасці: *бацька*, *вада*, *вялікі*, *гаварыць*, *дзень*, *добры*, *зямля*, *краіна*, *неба*, *разумець*, *святло*, *чалавек*, *чуць* і інш. Як правіла, агульнаўжывальныя словы маюць акрэсленыя і ўстойлівыя значэнні, якія з'яўляюцца агульнымі для ўсіх носьбітаў мовы і не змяняюцца на працягу доўгага часу.

➤ **Дыялектная лексіка** — сукупнасць слоў нацыянальнай мовы, якія ўжываюцца на пэўнай тэрыторыі. Дыялектныя словы адрозніваюцца ад агульнаўжывальных не толькі больш вузкай сферай выкарыстання, але і шэрагам фанетычных, граматычных і лексіка-семантычных асаблівасцей. Большасць дыялектных слоў з'яўляюцца мясцовымі назвамі агульнавядомых прадметаў, дзеянняў, прымет, таму ў літаратурнай мове ім адпавядаюць агульнанародныя словы.

Большую частку дыялектнай лексікі складаюць словы, процiпастаўленыя адпаведным словам у іншых дыялектах (гаворках) і літаратурнай мове. Іх процiпастаўленне можа выражацца ў наступных адрозненнях:

✓ ***уласналексічных*** (для абазначэння аднаго і таго ж прадмета, з'явы, паняцця ў розных гаворках выкарыстоўваюцца розныя словы): *сме́цце* — *шу́ма* — *му́сар* — *ля́да*; *жарабо́к* — *лаша́к* — *стрыгу́н* — *ланча́к* ('двухгадовае жарабя'); *ра́ска* — *жабурэ́нне* — *ці́на*;

✓ ***семантычных*** (адно і тое ж слова ў розных гаворках мае рознае значэнне): *мышка* — 'морква-карацелька' і 'памянш. ад *мыш*'; *жураве́ль* — 'пасудзіна з вузкім горлам' і 'балотная птушка', *бара́н* — 'від гэбля' і 'жывёла';

✓ ***словаўтваральных*** (аднакаранёвыя словы розных дыялектаў адрозніваюцца асаблівасцямі ўтварэння): *сва́рка* — *сва́рба* — *свар*; *дзю́ба* — *дзюба́к*; *рабро́* — *рабры́на* — *пярэ́брына*;

✓ ***фанетычных*** (марфемы ў суадносных словах розных гаворак адрозніваюцца адным гукам): *гайда́р* — *гайда́й* — *гайда́ш* ('той, хто гоніць жывёлу'); *пуглі́вы* — *пужлі́вы* — *пудлі́вы*; *уда́рыць* — *уды́рыць* — *удэ́рыць*;

✓ ***акцэнталагічныя*** (тоесныя словы ў розных гаворках адрозніваюцца месцам націску): *баро́даўкі* — *барада́ўкі*; *валасы́* — *во́ласы* — *вало́сы*; *на́ймітка* — *найм́ітка*.

Мясцовыя гаворкі з'яўляюцца важнай крыніцай папаўнення слоўнікавага складу беларускай літаратурнай мовы ў розныя перыяды яе існавання. Найбольш актыўным гэты працэс быў у 1920-я гг. — у перыяд станаўлення нормаў нацыянальнай мовы.

Дыялектная лексіка актыўна выкарыстоўваецца беларускімі пісьменнікамі з намінатыўна-стылістычнымі мэтамі — для адлюстравання нораваў і звычаяў народа, узнаўлення мясцовага каларыту: — *Яўхімко, зяцёк мой даражэнькі, — завіхалася каля маладога мачыха. — Пі і закусвай, чым Бог паслаў! Не грэбуй, Яўхімко, калі што якое ненарокам... Чым багаты, тым і рады, са ўсёй душы стараліся... Кеб усё добра було, кеб не горай, як у другіх людзей... І вы, госцечкі, дружына, кумпанія ўся, закусвайце, чаго каму хочацца!* (І. Мележ); *Адчыніўшы дзверы і выставіўшы наперад прасніцу з барадою недапрадзенае кудзелі, у хату ўвайшла кабета ў шарачковым, завужаным у таліі сачыку* (В. Адамчык).

↳ **Жаргонная лексіка** (фр. *jargon*) — умоўныя або штучныя словы, якімі карыстаюцца невялікія сацыяльныя групы людзей, аб'яднаных агульнымі інтарэсамі, прафесійнымі заняткамі, узростам, статусам у грамадстве і г. д. Жарганізмы з'яўляюцца экспрэсіўнымі сінонімамі да агульнанародных слоў і выразаў. Яны сустракаюцца ў маўленні шафёраў, студэнтаў, вайскоўцаў, спартсменаў і інш. Актыўна развіваецца сучасны маладзёжны жаргон: *жвакаць* 'жаваць гумку'; *кайф* 'стан расслабленасці, які прыносіць задавальненне'; *клёвы* 'выдатны, цудоўны'; *клікуха* 'мянушка'; *ляснуцца* 'упасці' (пра рух), 'не здзейсніцца, раптоўна праваліцца' (пра планы, надзеі); *прышпільны* 'цікавы, арыгінальны', *тусоўка* 'сустрэча забаўляльнага характару, неафіцыйная сустрэча', *хáваць* 'есці', *шухер* 'небяспека, трывога' і інш.

Да жаргоннай лексікі прымыкае **аргатычная лексіка** (*арго* — фр. *argot*) — спецыяльныя словы і выразы, тыповыя для абмежаванай сацыяльнай групы людзей (жабракоў, спекулянтаў, злодзеяў, турэмшчыкаў і інш.). Асноўнае адрозненне паміж жаргонамі і арго заключаецца ў іх функцыях. Жаргоны ўзніклі з мэтай дыстанцыравання пэўнай групы людзей ад астатняй часткі грамадства. Функцыя арго — зрабіць змест паведамлення незразумелым для іншых носьбітаў мовы, каб захаваць пэўныя прафесійныя, цэхавыя, групавыя сакрэты.

З беларускіх тайных моў вядомыя арго капыльскіх краўцоў, дрыбінскіх шапавалаў (*катрушніцкі лемезень*), шклоўскіх шаўцоў (*патрушніцкі лемез*), прафесійных жабракоў і інш.

Сацыяльныя дыялекты (жаргоны і арго), у адрозненне ад тэрытарыяльных дыялектаў, не з'яўляюцца самастойнымі моўнымі падсістэмамі, паколькі іх фанетычныя, марфалагічныя і сінтаксічныя рысы супадаюць з аналагічнымі рысамі нацыянальнай мовы (гл. *табліцу 2*).

| У літаратурнай мове | У арго | | | |
|---|---|---|---|---|
| | дрыбінскіх шапавалаў | шклоўскіх шаўцоў | магілёўскіх жабракоў | слуцкіх жабракоў |
| свет | *кусвет* | | | *сян* |
| зямля | *цыр* | *цюра* | *цыруга* | *цыра* |
| вада | *суга* | *суга* | *дылька* | *дэлька* |
| агонь | *дуляс, дуль* | *дульмо* | *дулес, дуляс* | |

✎ **Спецыяльная лексіка** — сукупнасць слоў і словазлучэнняў, што называюць прадметы і паняцці, якія адносяцца да розных сфер працоўнай дзейнасці чалавека. Асноўнымі разрадамі спецыяльнай лексікі з'яўляюцца тэрміны, наменклатурныя назвы і прафесіяналізмы.

**Тэрмін** (лац. *terminus* 'мяжа, канец') — узнаўляльны моўны знак, які абазначае паняцце спецыяльнай галіны ведаў або дзейнасці, заключае ў сабе дакладную дэфініцыю гэтага паняцця, выкарыстоўваецца ў працэсе пазнання і сістэматызацыі навуковых, прафесійна-тэхнічных аб'ектаў і адносін паміж імі. Напрыклад: *клімат* 'сукупнасць атмасферных умоў, характэрных для дадзенай мясцовасці'; *культура клетак* 'вырошчванне асобных клетак або іх невялікіх груп на цвёрдым асяроддзі або ў падвешаным стане ў вадкім асяроддзі'; *наміналізм* 'кірунак у сярэднявечнай філасофіі, прыхільнікі якога лічылі агульныя паняцці, што абазначаюць пэўны клас прадметаў, толькі імёнамі, а не рэальнымі рэчамі'. У сукупнасці з іншымі спецыяльнымі найменнямі сістэмы тэрмін з'яўляецца кампанентам навуковай тэорыі пэўнай галіны ведаў.

**Тэрміналагічная лексіка** — гэта самастойны пласт лексікі агульналітаратурнай мовы. Тэрміны з'яўляюцца адзінкамі агульнай лексічнай сістэмы сучаснай беларускай літаратурнай мовы, у якую яны ўваходзяць у складзе канкрэтнай тэрміналогіі.

Акрамя тэрмінаў, у спецыяльнай лексіцы прадстаўлены даволі шматлікі пласт так званых **наменклатурных назваў** (***номенаў***) — узнаўляльных моўных знакаў, што з'яўляюцца найменнямі адзінкавых паняццяў, а таксама канкрэтнай масавай прадукцыі, якая вырабляецца па пэўным узоры вызначаную колькасць разоў: *бульба «Скараспелка», ГАЗ-21, кіслата борная, помпавая станцыя СНП 50/80, пыласос «Тайфун», цукеркі «Арахісавыя»* і інш.

Тэрміны і номены адрозніваюцца паміж сабой цэлым шэрагам прымет (гл. *табліцу 3*).

*Табліца 3*

| Крытэрый | Тэрміны | Номены |
|---|---|---|
| Паняційны змест | Абазначаюць навуковыя паняцці | Абазначаюць канкрэтныя аб'екты навукі |
| Функцыі | Называюць і прадстаўляюць навуковыя паняцці | Толькі называюць навуковыя паняцці |
| Матываванасць | Валодаюць нізкай ступенню матываванасці | Валодаюць высокай ступенню матываванасці |
| Словаўтварэнне | Пераважае афіксацыя | Пераважае абрэвіяцыя |
| Адносіны да штучных моў | Уваходзяць у склад натуральных моў | Часткова ўваходзяць у склад штучных моў |

**Прафесіяналізмы** — неафіцыйныя словы і выразы, уласцівыя маўленню прадстаўнікоў пэўнай прафесіі або сферы дзейнасці.

Прафесійнай лексіцы ў значна большай ступені (у параўнанні з навуковай тэрміналогіяй) уласцівая экспрэсіўнасць, таму прафесіяналізмы выразна проціпастаўляюцца тэрмінам сваёй недакладнасцю і стылістычнай афарбаванасцю. Так, напрыклад, у ядзернай фізіцы паскаральнік пратонаў з арбітай пастаяннага радыуса доўгі час называўся тэрмінам *сінхрафазатрон*, а ў вусным маўленні спецыялістаў яму адпавядаў прафесіяналізм *каструля* (падабенства па форме). Паліграфісты неразборлівае месца ў арыгінале набору называюць *мухай*, медыкі працэдуру рассячэння рагавой абалонкі вока для паляпшэння зроку пры блізарукасці (*керататамію*) — *насечкай* і інш. Значэнне прафесіяналізма звычайна ўзнікае на аснове метафарычнага пераасэнсавання слова або звароту, нярэдка перасякаецца са значэннямі іншых прафесіяналізмаў.

Як і дыялектызмы, прафесіяналізмы складаюць такі пласт слоў у лексіцы агульнанацыянальнай мовы, сфера ўжывання якіх абмежавана. Аднак прафесіяналізмы істотна адрозніваюцца ад дыялектызмаў:

✓ сфера іх выкарыстання абмежавана не тэрытарыяльна, а сацыяльна;

✓ яны ўваходзяць у склад лексікі літаратурнай мовы.

Статус прафесіяналізмаў у сучаснай навуцы канчаткова не вырашаны. Асобныя лінгвісты іх адносяць: а) да тэрмінаў; б) да адзінак вытворчай лексікі; в) да спецыяльнай лексікі неназыўнога характару; г) да неўнармаванай спецыяльнай лексікі, абмежаванай ва ўжыванні вусным маўленнем прафесіяналаў.

У асобных выпадках прафесіяналізмы могуць выкарыстоўвацца ў пазіцыі афіцыйных тэрмінаў, іх экспрэсіўнасць пры гэтым заўважна зніжаецца: *зуб шасцярні*, *калена трубы*, *плячо рычага* і інш.

Да прафесіяналізмаў па сваіх характарыстыках набліжаюцца самыя розныя каламбурныя ўтварэнні, напрыклад, у прафесійным жаргоне праграмістаў: *піжамкер* — англ. *page maker*; *чэкіст* — тэкставая праграма *Check It*; *ямеля*, *мыла* — англ. *e-mail*; *гейміць* — англ. *game* 'гульня'.

*Табліца 4*

| Крытэрый | Тэрміны | Прафесіяналізмы |
|---|---|---|
| Час і шляхі ўзнікнення | Ствараюцца мэтанакіравана | Ствараюцца стыхійна |
| Нарматыўны статус | Афіцыйна ўзаконены | Не ўзаконены афіцыйна |
| Адносіны да экспрэсіўнасці | Стылістычна нейтральныя | Стылістычна афарбаваныя |
| Выкарыстанне ў тыпах тэкстаў | Пераважаюць у пісьмовых тэкстах | Пераважаюць у вуснай камунікацыі |
| Пашыранасць | Могуць мець агульна-нацыянальны або інтэрнацыянальны характар | Часта носяць мясцовы характар |

### ⌛ Пытанні для самакантролю

1. Якая лексіка адносіцца да агульнаўжывальнай?
2. Як вы разумееце паняцце *лексіка абмежаванага ўжытку*?
3. Прывядзіце прыклады ўласна лексічных, семантычных, словаўтваральных, фанетычных, акцэнталагічных варыянтаў з вашай роднай гаворкі.
4. З якой мэтай выкарыстоўваецца дыялектная лексіка ў мастацкіх творах?
5. У чым адрозненне паміж жаргоннай і аргатычнай лексікай?
6. Што такое тэрмін? Прывядзіце прыклады тэрмінаў і номенаў.
7. Чым прафесіяналізмы адрозніваюцца ад тэрмінаў?

## 2.6. ТЭРМІНАЛОГІЯ І ТЭРМІНАСІСТЭМА

**Тэрміналогія** — гэта сукупнасць тэрмінаў натуральнай мовы ў цэлым або пэўнай галіны навукі, тэхнікі, культуры, а таксама навуковая дысцыпліна, якая займаецца вывучэннем тэрмінаў і прынцыпаў

арганізацыі тэрміналагічных сістэм. Асноўнай адзінкай тэрміналогіі з'яўляецца тэрмін, напрыклад, лінгв. *гаплалогія*, бат. *мерэнхіма*, гідр. *лімналогія*, вет. *ліпома*, мат. *намаграма*, муз. *фугета* і інш.

Адрозніваюць два віды сукупнасцей тэрмінаў — у л а с н а т э р м і н а л о г і я і т э р м і н а с і с т э м а.

**Уласна тэрміналогія** — гэта сукупнасць тэрмінаў, якая склалася стыхійна і адлюстроўвае гістарычны працэс назапашвання і асэнсавання ведаў у канкрэтнай галіне. Так, можна гаварыць пра існаванне лінгвістычнай тэрміналогіі (*дывергенцыя*, *клінапіс*, *кантракцыя*, *марфема*, *сацыяльны дыялект*, *семантычны каэфіцыент*, *сказ*), матэматычнай тэрміналогіі (*абак*, *вугал*, *квадрат*, *радыян*, *разгорнуты*, *роўнабаковы*, *трохвугольнік*, *тэарэма*, *форма тэрнарная*), эканамічнай тэрміналогіі (*валавы даход прадпрыемства*, *дэбет*, *ліквіднасць грашовых сродкаў*, *запазычанасць дэбіторская*, *ліміт крэдытавання*, *падзел працы*, *пакет рабочы*, *прыбытак разліковы*, *расстаноўка кадраў*) і інш. Тэрміналогія папаўняецца за кошт агульнаўжывальнай лексікі і, у сваю чаргу, узбагачае яе.

**Тэрмінасістэма** з'яўляецца структураванай сукупнасцю тэрмінаў, аб'яднаных на паняційным, структурна-граматычным, словаўтваральным і семантычным узроўнях. У адрозненне ад тэрміналогіі, тэрмінасістэма фарміруецца спецыялістамі ў дадзенай галіне на аснове канструявання (існуючых у мове або запазычаных з іншых моў) слоў і назыўных словазлучэнняў; яна характарызуецца сістэмнасцю (кожны яе тэрмін звязаны з іншымі тэрмінамі прамымі або апасродкаванымі лагічнымі і асацыятыўнымі адносінамі), паўнатой ахопу паняццяў пэўнай галіны ведаў або дзейнасці, адноснай устойлівасцю.

Значэнне кожнага тэрміна ў сістэме залежыць найперш ад суаднесенасці яго з навуковым або тэхнічным паняццем, а сувязі паміж тэрмінамі вызначаюцца тымі сувязямі, якія існуюць паміж паняццямі. Так, напрыклад, у матэматыцы паняцці *тэорыя параўнанняў*, *тэорыя падзельнасці*, *раўнанні дыяфантавы*, *выяўленні адытыўныя*, *набліжанне рацыянальнымі лікамі*, *функцыі тэарэтычна-лікавыя*, *падзел на складнікі*, *уяўленні адытыўныя*, *дробы ланцуговыя* ўваходзяць у *тэорыю лікаў элементарную*, якая, у сваю чаргу, адносіцца да *тэорыі лікаў*. Адначасова *тэорыя лікаў элементарная* разам з *арыфметыкай*, *алгебрай элементарнай*, *геаметрыяй элементарнай*, *трыганаметрыяй элементарнай* з'яўляецца паняццем *матэматыкі элементарнай*.

Такім чынам, тэрміналогія той або іншай галіны навукі, тэхнікі, культуры з'яўляецца замкнутай сістэмай, у якой кожны тэрмін займае

вызначанае месца. Узорны прыклад класіфікацыі і сістэматызацыі навуковых паняццяў і тэрмінаў — перыядычная сістэма хімічных элементаў Д. І. Мендзялеева.

### ⌛ Пытанні для самакантролю

1. Што такое тэрміналогія?
2. У чым адрозненне паміж тэрміналогіяй і тэрмінасістэмай?
3. Як вы разумееце паняцце *сістэмнасць тэрміналогіі*?

## 2.7. СПЕЦЫФІЧНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ ТЭРМІНАЎ

Звычайна тэрміны характарызуюцца праз указанне на прыметы, што адрозніваюць іх ад агульнаўжывальнай лексікі. У навуковай літаратуры вылучаюцца тры групы крытэрыяў, якія разглядаюцца як устойлівыя асаблівасці тэрміналагічнай лексікі, — сінтаксічныя, семантычныя і прагматычныя.

↳ **Сінтаксічныя крытэрыі** закранаюць арганізацыю знешняй формы тэрміна; яны ўключаюць: кампактнасць і незалежнасць ад кантэксту.

✓ ***Кампактнасць***. Па словах расійскага мовазнаўцы К. Я. Аўярбуха, «тэрмін не павінен быць ні доўгім, ні кароткім — ён павінен быць аб'ектыўна фізічна працяглым». Перавага аддаецца аднаслоўным або двухслоўным тэрмінам як найбольш зручным у выкарыстанні. Гэта значыць, што замест грувасткага шматкампанентавага тэрміна *сіметрыя ў дачыненні да простай n-га парадку* ў матэматыцы лепш выкарыстоўваць тэрмін *восевая сіметрыя*.

✓ ***Незалежнасць ад кантэксту***. Значэнне тэрміна, ужытага паза тэкстам, не павінна адрознівацца ад значэння тэрміна, выкарыстанага ў тэксце.

↳ **Семантычныя крытэрыі** накіраваны на арганізацыю ўнутранай формы, зместу тэрміна; да іх адносяцца: адназначнасць, адсутнасць сінонімаў, дублетаў, варыянтаў, акрэсленасць значэння, спецыялізаванасць значэння, адсутнасць эмацыянальна-экспрэсіўнай афарбоўкі.

✓ ***Адназначнасць***. Ідэальны тэрмін павінен называць толькі адно паняцце. Аднак рэальна ва ўсіх тэрмінасістэмах ёсць мнагазначныя тэрміны, напрыклад: *перыяд* (у матэматыцы) 1) 'пэўная група лічбаў у дзесятковым запісе ліку, якая, пачынаючы з нейкага месца, паслядоўна паўтараецца'; 2) 'пэўны (адрозны ад нуля) лік, які дадаецца да аргумента функцыі'; *рэалізм* (у мастацтве) 1) паняцце, якое

характарызуе пазнавальную функцыю мастацтва: праўда жыцця, увасобленая спецыфічнымі сродкамі мастацтва; 2) мастацкі стыль.

Вынікам працы па ўнармаванні сістэм тэрмінаў з'яўляецца адносна нізкая пашыранасць тэрміналагічнай полісеміі ў параўнанні з мнагазначнасцю агульнаўжывальных слоў (прыблізна як 1:30).

✓ ***Адсутнасць сінонімаў, дублетаў, варыянтаў***. Агульнапрызнаным з'яўляецца меркаванне, што тэрмін і абазначанае ім паняцце павінны адназначна суадносіцца паміж сабой, г. зн. тэрмін павінен называць толькі адно паняцце і, наадварот, паняцце павінна выражацца толькі адным тэрмінам.

Разам з тым, для 5—15% тэрмінаў любой тэрмінасістэмы характэрны сінанімічныя адносіны. У адрозненне ад сінаніміі агульнаўжывальных слоў, сінонімы ў тэрміналогіі заўсёды суадносяцца з адным і тым жа паняццем і аб'ектам, г. зн. з'яўляюцца дублетамі: *біном — двухчлен*, *вызначнік — дэтэрмінант*, *арфаграфія — правапіс* і інш.

Асноўныя прычыны існавання тэрміналагічнай сінаніміі наступныя:

✓ узнікненне новых назваў для абазначэння ўжо існуючых паняццяў: *ходнік — тратуар*, *абыймо — аб'ём*, *вогнішча — фокус*, *максімум абсалютны — максімум глабальны*;

✓ паралельнае выкарыстанне ўласнамоўных і запазычаных тэрмінаў: *прыстаўка — прэфікс*, *губны — лабіяльны*, *двухсклад — палінoм*;

✓ ужыванне поўнай і скарочанай формаў тэрміна: *вось сіметрыі — вось*, *адрэзак лікавай прасторы — адрэзак*, *вобраз графічны — графік*;

✓ суіснаванне поўнай формы тэрміна і яго абрэвіятурнага варыянту: *ІМС — інтэгральная мікрасхема*, *ККД — каэфіцыент карыснага дзеяння*, *ІПМ — інфармацыйна-пошукавая мова*.

Пры наяўнасці тэрмінаў-сінонімаў кожны з іх павінен ацэньвацца з пункту гледжання яго адпаведнасці агульным патрабаванням да навукова-тэхнічных тэрмінаў. Адзін з тэрмінаў-сінонімаў, які найбольш поўна адпавядае патрабаванням, стандартызуецца, іншыя забараняюцца спецыяльнымі дакументамі па стандартызацыі.

Як правіла, у мовазнаўстве сінанімія тэрмінаў ацэньваецца як негатыўная з'ява, аднак трэба прызнаць справядлівым меркаванне Г. Ф. Курышко, што часам тэрміны-сінонімы ўзнікаюць для выражэння больш тонкіх нюансаў паняцця. У адрозненне ад сінаніміі, тэрміналагічная варыянтнасць з'яўляецца сістэмаразбуральнай з'явай і не спрыяе стабільнасці тэрміналогіі: *вымераць — замераць*,

*пераменны — зменны*, *стварацъ — утварацъ*, *апафема — апатэма*, *выбаркавы — выбарковы* і інш.

✓ ***Акрэсленасць значэння***. Тэрмін павінен мець дакладныя межы пры абазначэнні навуковых рэалій. Напрыклад, тэрмін *нонканфармізм* у сацыялогіі мае дастаткова шырокае значэнне і выкарыстоўваецца для абазначэння іншадумства, нязгоды з ідэалагічнай ці маральнай дактрынай дзяржавы, бунтарства, а таксама азначае непрыманне існуючага грамадскага парадку, агульнапрынятых грамадскіх меркаванняў. У той жа час экалагічны тэрмін *фагацытоз* характарызуецца дакладнасцю значэння і абазначае актыўнае захопліванне і ператраўліванне жывых аб'ектаў і цвёрдых часцінак аднаклетачнымі арганізмамі.

✓ ***Спецыялізаванасць значэння***. Тэрмін адрозніваецца ад нятэрміна тым, што абазначае паняцце спецыяльнай галіны ведаў. Параўн.: *язычнік* 'паслядоўнік язычніцтва' і *камплементацыя* 'адна з формаў узаемадзеяння вірусаў пры змешанай інфекцыі клеткі, пры якой кадаваныя адным вірусам бялкі забяспечваюць размнажэнне іншага віруса'.

✓ ***Адсутнасць эмацыянальна-экспрэсіўнай афарбоўкі***. Па сваіх агульных семантычных уласцівасцях тэрміны адносяцца да намінатыўных, назыўных сродкаў мовы. Найменні *бруляплоцевы* (*мочапалавы*), *галамень мазгоў* (*ствол могзу*), *злучво* (*інтэрфейс*), *кузюркі* (*насякомыя*), *шкарупа рухавая* (*кара маторная*) і інш., якія выкарыстоўваюцца ў асобных навуковых і лексікаграфічных выданнях 1920-х гг., не толькі называюць, але і характарызуюць спецыяльныя паняцці, што адмоўна ўплывае на стабільнасць тэрмінасістэмы.

➥ **Прагматычныя крытэрыі** рэгламентуюць функцыянаванне тэрміналагічнага знака ў адпаведнасці з задачамі камунікацыі і ўключаюць: правільнасць, сістэмнасць, дэрывацыйнасць, высокую інфармацыйнасць, зручнасць у выкарыстанні, пашыранасць.

✓ ***Правільнасць***. Тэрмін павінен быць утвораны па законах мовы. Тэрміны *бамбоўка* (*бамбардзіроўка*), *бар* (*барый*), *грызучалізучыя*, *зонцічная мурашка*, *ізабражэнне*, *кузнечык*, *прэдзел*, *раўнанне Пуасона*, *сасучыя*, *тожаства*, *чэлюсці* і інш., зафіксаваныя некаторымі выданнямі, утвораны з парушэннем нормаў літаратурнай мовы.

✓ ***Сістэмнасць***. Тэрмін павінен суадносіцца з іншымі тэрмінамі ў тэрмінасістэме. Так, напрыклад, працэс запісу або пераўтварэння інфармацыі паводле правілаў, што задаюцца пэўным кодам, называецца *кадаваннем*, а працэс, адваротны кадаванню, які здзяйсняецца, зыходзячы з запісу інфармацыі ў кадаваным выглядзе, — *дэкадаван-*

*нем*; усе назвы запаленчых захворванняў унутраных органаў чалавека ўтвараюцца ад назваў гэтых захворванняў з далучэннем суфікса *-іт* (*апендыцыт*, *гастрыт*, *дуадэніт* і інш.), а захворванні агульнага характару — з назваў з далучэннем суфіксаў *-эз*, *-оз* (*дыятэз*, *туберкулёз*, *лімфагрануламатоз* і інш.).

✓***Дэрывацыйнасць***. Паколькі найменні для новых паняццяў звычайна ствараюцца на базе ўжо існуючых слоў, тэрмін павінен валодаць словаўтваральным патэнцыялам, г. зн. служыць асновай для ўтварэння новых тэрмінаў: *максімум — максімальны*, *максімізацыя*, *максімізаваць*; *сіметрыя — сіметрычны*, *несіметрычны*, *сіметрызаваць*, *сіметрызацыя*.

✓***Высокая інфармацыйнасць***. Форма тэрміна павінна даваць максімальна поўнае значэнне пра яго змест. Так, для тых, хто валодае класічнымі мовамі, значэнне тэрміна *пайкілатэрмныя жывёлы* (халаднакроўныя) будзе зразумелым без дадатковага ўдакладнення, дэфініцыі.

✓***Зручнасць у выкарыстанні***. Тэхнічныя тэрміны *бурэнне без цыркуляцыі* і *безцыркуляцыйнае бурэнне* абазначаюць адно і тое ж паняцце, аднак адрозніваюцца тым, што тэрмін *безцыркуляцыйнае бурэнне* характарызуецца большымі спалучальнымі магчымасцямі. Параўн.: *адлюстраванне ізаметрычнае — ізаметрыя*; *НАДФ — ні катынамідадэніндынуклеатыдфасфат*; *падвышэнне да ступені — ступеняванне*; *функцыя экспанентавая — экспанента*. Недапушчальна замест канкрэтнага тэрміна стандартызаваць апісанне паняцця.

✓***Пашыранасць***. Тэрмін павінен быць вядомым усім спецыялістам у пэўнай галіне навукі. Параўн.: *ліхань — радый*, *сярэдніца — медыяна*, *ускосіна — дыяганаль* і інш.

### ⌛ Пытанні для самакантролю

1. Пералічыце асноўныя сінтаксічныя, семантычныя і прагматычныя характарыстыкі тэрмінаў.
2. Чаму тэрмін павінен быць кампактным па форме?
3. Ці спрыяе захаванню стабільнасці тэрмінасістэмы мнагазначнасць тэрміна, наяўнасць у яго сінонімаў і варыянтаў?
4. Назавіце прычыны тэрміналагічнай сінаніміі.
5. Як звязаны паміж сабой патрабаванні дэрывацыйнасці і сістэмнасці тэрміналогіі?

## 2.8. СПОСАБЫ ЎТВАРЭННЯ ТЭРМІНАЎ

Любая тэрміналогія складаецца з абмежаванай колькасці элементаў, што злучаюцца ў пастаянныя камбінацыі (паводле пэўных словаўтваральных мадэлей і ў адпаведнасці з асаблівасцямі

структуры) з мэтай называння неабмежаванай колькасці спецыяльных паняццяў: *плод* → *плод-**н**-(ы)* → ***а**-пладн-**я**-ць* → *апладн-**енн**-е* → *апладненне вегетатыўнае*.

У адпаведнасці з колькасцю структурна-семантычных частак, якія вылучаюцца ў спецыяльным найменні, усю сукупнасць тэрмінаў можна падзяліць на дзве групы: ***аднаслоўныя***: *сімбіёз*, *таксон*, *ферменты* і ***мнагаслоўныя***. Да мнагаслоўных адносяцца ***двухслоўныя***: *перыцыкл сцябла*, *рост сімпластычны*; ***трохслоўныя***: *падземнае прарастанне насення*, *патаўшчэнне абалонкі кольчатае*; ***чатырохслоўныя тэрміны***: *вераценападобныя клеткі драўніннай парэнхімы*, *сярэдняе арыфметычнае некалькіх лікаў* і інш.

✎ Паколькі любая тэрміналогія з'яўляецца штучным утварэннем, усе тэрмінаадзінкі незалежна ад іх марфемнай структуры з'яўляюцца вытворнымі. У беларускай нацыянальнай тэрміналогіі аднаслоўныя тэрміны могуць узнікаць на аснове марфалагічнага, семантычнага, уласналексічнага і марфолага-сінтаксічнага спосабаў тэрмінаўтварэння.

➢ **Марфалагічны спосаб** тэрмінаўтварэння вызначаецца высокай прадуктыўнасцю і характарызуецца ўтварэннем слоў на базе ўжо існуючых у мове асноў і словаўтваральных афіксаў. Вылучаюць два асноўныя падтыпы марфалагічнага спосабу: афіксацыя і складанне.

✓ **Афіксацыя** заключаецца ва ўтварэнні слоў з дапамогай афіксаў (суфіксаў, прыставак, конфіксаў): *гут-(а)* → *гут-**ацыj**-(а)*, *чарот* → *чарот-**ніц**-(а)*; *сасудзісты* → ***не**-сасудзісты*, *бялковы* → ***без**-бялковы*; *цэнтр* → ***да**-цэнтр-**ав**-(ы)*.

✓ **Складанне** характарызуецца аб'яднаннем паводле існуючых мадэлей у адну моўную адзінку двух самастойных слоў з мэтай называння аднаго складанага паняцця. У беларускай тэрміналогіі пашыраны наступныя падтыпы складання: чыстае складанне, складана-суфіксальны падтып і абрэвіяцыя.

Пры **чыстым складанні** (г. зн. без удзелу суфіксацыі) адбываецца аб'яднанне двух слоў у адно, пры гэтым апорны кампанент (апошні ў слове) роўны цэламу слову, а папярэдні з'яўляецца чыстай асновай, якая далучаецца да апорнага кампанента з дапамогай інтэрфікса (у тым ліку і нулявога): *варыяцыйна-сеткавы*, *прасторачас*, *перакаці-поле*, *радыяльна-сіметрычны*.

**Складана-суфіксальны падтып** заключаецца ва ўтварэнні новага слова з існуючых асноў з дапамогай інтэрфікса (злучальнай галоснай) і суфіксацыі (у т.л. і нулявой): *крухмал-а-нос-**н**-(ы)*, *квет-а-нож-**к**-(а)*, *ліст-а-размяшч-**энн**-(е)*.

**Абрэвіяцыя** — складанне частак слоў, якія ўваходзяць у зыходнае словазлучэнне: *аўтаматычная тэлефонная станцыя* — *АТС*;

*сістэма аўтаматызаванага праектавання* — *САПР*; *вышэйшая навучальная ўстанова* — *ВНУ*; *вода-вадзяны раствор* — *ВВР* і інш.

➢ **Семантычны спосаб** тэрмінаўтварэння заключаецца ў развіцці спецыяльных значэнняў у словах нацыянальнай мовы.

Асновай для семантычнага тэрмінаўтварэння служыць лексіка агульнага ўжывання, якая ў складзе навукі набывае асаблівы моўны сэнс і новую прадметную аднесенасць: *мядзведзіца*(*ы*) — 'вялікая драпежная млекакормячая жывёліна з густой поўсцю' → 'сямейства матылёў, вусені якіх вельмі касматыя' (біял.); *палаcа* — 'тонкі доўгі кавалак якога-небудзь матэрыялу' → 'сукупнасць пунктаў плоскасці, якія знаходзяцца паміж дзвюма паралельнымі простымі гэтай плоскасці' (мат.); *рэпрэсія* — 'карная мера, пакаранне, якое прадпрымаецца дзяржаўнымі органамі' → 'прыгнечанне актыўнасці гена' (біял.); *корань* — адзін з асноўных органаў раслін, які служыць для ўмацавання ў глебе, атрымання вады і мінеральных рэчываў' → 'агульная і абавязковая частка роднасных (аднакаранёвых) слоў, носьбіт іх агульнага лексічнага значэння' (лінгв.), а таксама: 'велічыня, якая пры ступеняванні дае пэўны лік' (мат.).

Пераход слова агульнаўжывальнай лексікі ў спецыяльную, дзе яно пачынае выкарыстоўвацца з новым значэннем, называецца **тэрміналагізацыяй**.

Пры паскораным развіцці пэўнай галіны навукі або тэхнікі пачынаецца актыўнае адлюстраванне яе дасягненняў у сродках масавай інфармацыі, вынікам чаго з'яўляецца пераход асобных тэрмінаў са спецыяльнага выкарыстання ў агульнае — **дэтэрміналагізацыя**: *ажыятаж*, *акумуляваць*, *дыяпазон*, *кантакт*, *накал*, *маштабнасць*, *патэнцыял*, *сузор'е*, *траекторыя*, *траўма* і інш.

➢ **Уласналексічны спосаб** — запазычванне слоў з іншых моў: *анцье* — фр. *entier* 'цэлы'; *ген* — гр. *genos* 'нараджэнне, паходжанне'; *лізіс* — гр. *lysis* 'распад, растварэнне'; *метрыка* — гр. *metrikē* ад *metron* — 'мера, памер'; *радыкал* — лац. *radicalis* 'карэнны'.

Асноўныя прычыны запазычвання тэрмінаў наступныя:

✓адсутнасць у нацыянальнай тэрмінасістэме патрэбнага адпаведніка для абазначэння навуковага паняцця;

✓жаданне «прымірыць» патрабаванне кампактнасці з патрабаваннем дакладнасці тэрміна праз ужыванне аднаслоўнага адпаведніка замест тэрміна-словазлучэння;

✓імкненне да павышэння і захавання камунікацыйнай канкрэтнасці лексічных адзінак, якое выражаецца ў пазбаўленні ад полісеміі ці аманіміі;

✓розныя грамадска-палітычныя фактары і інш.

Некаторыя тэрміны, запазычаныя з іншых моў, прайшлі марфемна-словаўтваральную адаптацыю ў беларускай мове, у іх часткова змяніўся корань, афіксы, дадаўся (або замяніўся на іншы) канчатак, што, на думку вядомага савецкага тэрмінолага Д. С. Лотэ, сведчыць «пра наяўнасць творчага пачатку, пра акт стварэння, па сутнасці, новага слова». Напрыклад, у тэрміналогіі матэматыкі: *дэцыль* — лац. *decem*; *канвергенцыя* — лац. *convergere*; *кампактыфікацыя* — англ. *compactification* ад лац. *compactus* 'шчыльны' + *facer* 'рабіць'; *марфізм* — гр. *morphe*; *спінор* — англ. *spin* і інш.

➢ **Марфолага-сінтаксічны спосаб** тэрмінаўтварэння заключаецца ва ўтварэнні новага слова шляхам пераводу дадзенай асновы ў іншую парадыгму словазмянення, г. зн. слова з адной часціны мовы пераходзіць у другую: *бясконцая*, *вядучы*, *крывая*, *насякомыя* і інш.

✎ Для **мнагаслоўных тэрмінаў** (двух-, трох-, чатырохслоўных) уласціва камбінаванне аўтаномных кампанентаў у адпаведнасці з разнастайнымі канструкцыямі і мадэлямі (**сінтаксічны спосаб**). У лінгвістычнай літаратуры для наймення мнагаслоўных структур выкарыстоўваюцца сінанімічныя назвы: *комплексныя тэрміны*, *састаўныя тэрміны*, *полікампанентавыя тэрміны*, *тэрміны-словазлучэнні*.

Найбольш пашыранымі з'яўляюцца наступныя мадэлі мнагаслоўных тэрмінаў:

✓ **назоўнік + назоўнік**: *прарастанне семені*, *стан непрытомнасці*, *размыканне электродаў*, *рассеянне выпраменьвання*, *рэгістрацыя сігналу*, *супастаўляльнасць варыянтаў*;

✓ **назоўнік + прыметнік**: *гібрыд міжвідавы*, *зерне пылковае*, *клеткі парыентальныя*, *нормы сацыяльна-эканамічныя*, *разладка частотная*;

✓ **дзеяслоў + назоўнік**: *рэалізаваць мадэль*, *рашаць задачу*, *вызначаць корань*;

✓ **назоўнік + назоўнік + назоўнік**: *коштарыс затрат на вытворчасць*, *прымета роўнасці трохкутнікаў*, *раскладанне амплітуды рассеяння*;

✓ **назоўнік + назоўнік + прыметнік**: *аплата працы здзельная*, *значэнне кораня арыфметычнае*, *тып суцвецця пучковы*;

✓ **назоўнік + прыметнік + назоўнік**: *адхіленне нябесных целаў*, *работа пластычнага разбурэння*, *размяшчэнне вытворчых сіл*, *структура асноўных фондаў*;

✓ **назоўнік + прыметнік + прыметнік**: *зерне крухмальнае простае*, *дзеянне спадарожнае непажаданае*, *каэфіцыент тарыфны сярэдні*, *палі поравыя першасныя*, *разлік рэгіянальны гаспадарчы*, *сродкі абаротныя ўласныя*;

✓ **назоўнік + назоўнік + прыметнік + назоўнік**: *памеры зерняў танкаплёначнага пакрыцця, рашэнне сістэм лінейных ураўненняў, тэрмін акупнасці капітальных укладанняў* і інш.

Імёны многіх стваральнікаў тэрмінаў вядомыя. Дадзеныя гістарычнага тэрміназнаўства (гл. § 2.9) дазваляюць нават дакладна вызначыць дату, калі было ўведзена тое ці іншае найменне. Так, напрыклад, матэматычны тэрмін *абсалют* (ад лац. *absolutus* 'безумоўны, неабмежаваны') для абазначэння адвольнага канічнага сячэння, на аснове якога можа быць пабудавана метрыка, прапанаваў у сваёй працы «Шосты мемуар аб формах» (1859 г.) англійскі матэматык Артур Кэлі. Французскі ўрач Нікаля Андрэ ў 1741 г. выдаў кнігу «Артапедыя, або майстэрства папярэджваць і выпраўляць дэфармацыі цела ў дзяцей», дзе назваў *артапедыяй* «правільнае выхаванне дзяцей» (фізічнае), цяпер гэта медыцынская дысцыпліна, якая займаецца лячэннем наступстваў пашкоджанняў апорна-рухальнага апарату. Тэрмін *нейтрына* (італ. *neutrino* літар. 'нейтрончык') увёў італьянскі фізік Энрыка Фермі для абазначэння стабільнай незараджанай элементарнай часціцы, якая вельмі слаба ўзаемадзейнічае з рэчывамі і інш.

Стварэннем тэрмінаў могуць займацца і цэлыя калектывы. Так, напрыклад, узнікла назва для штучнага матэрыяла *лаўсан*, распрацаванага савецкімі спецыялістамі (лавсан — рус. Лаборатория высокомолекулярных соединений АН СССР).

### ⌛ Пытанні для самакантролю

1. Назавіце асноўныя спосабы ўтварэння тэрмінаў.
2. У чым сутнасць марфалагічнага спосабу тэрмінаўтварэння?
3. Прывядзіце прыклады тэрмінаў-абрэвіятур.
4. Што такое *семантычны спосаб тэрмінаўтварэння*?
5. Назавіце асноўныя прычыны запазычвання тэрмінаў.
6. Наколькі зручнымі ў выкарыстанні з'яўляюцца тэрміны, утвораныя марфолага-сінтаксічным спосабам?
7. Якія мадэлі ўтварэння мнагаслоўных тэрмінаў найбольш пашыраны ў беларускай тэрміналогіі?

## 2.9. ТЭРМІНАЗНАЎСТВА ЯК НАВУКОВАЯ ДЫСЦЫПЛІНА

↳ **Тэрміназнаўства** — навука, якая вывучае спецыяльную лексіку з пункту гледжання яе паходжання, формы, зместу і функцыянавання, а таксама даследуе пытанні яе выкарыстання, унармавання і стварэння.

Тэрміназнаўства займае адно з вядучых месцаў у сістэме сучасных навук. Гэта абумоўлена, з аднаго боку, характарам працякання навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, своеасаблівым «інтэлектуальным выбухам», а таксама актыўным узнікненнем новых навуковых галін.

У сучасным тэрміназнаўстве сфарміраваўся шэраг самастойных кірункаў даследавання:

✓ ***тэарэтычнае тэрміназнаўства*** вывучае заканамернасці развіцця і выкарыстання спецыяльнай лексікі;

✓ ***практычнае*** (прыкладное) ***тэрміназнаўства***, якое грунтуецца на тэарэтычным, займаецца выпрацоўкай практычных прынцыпаў і рэкамендацый па ліквідацыі недахопаў асобных тэрмінаў і цэлых тэрмінасістэм, іх стварэннем, апісаннем, ацэнкай, рэдагаваннем, унармаваннем, перакладам і выкарыстаннем;

✓ ***агульнае тэрміназнаўства*** вывучае найбольш тыповыя ўласцівасці, праблемы і працэсы, якія адбываюцца ў спецыяльнай лексіцы;

✓ ***прыватнае*** (галіновае) ***тэрміназнаўства*** займаецца вывучэннем спецыяльнай лексікі і паняццяў асобных галін ведаў;

✓ ***тыпалагічнае тэрміназнаўства*** даследуе ў параўнальным плане асаблівасці канкрэтных тэрмінасістэм з мэтай устанаўлення найбольш агульных, універсальных характарыстык тэрміналогіі;

✓ ***супастаўляльнае тэрміназнаўства*** займаецца параўнальным даследаваннем агульных уласцівасцей і асаблівасцей спецыяльнай лексікі розных моў (напрыклад, беларускай і англійскай, беларускай і рускай і г. д.);

✓ ***семасіялагічнае тэрміназнаўства*** вывучае праблемы, звязаныя са значэннем (семантыкай) спецыяльных найменняў, а таксама разнастайнымі семантычнымі з'явамі — полісеміяй, аманіміяй, сінаніміяй, антаніміяй, гіпаніміяй і г. д.;

✓ ***анамасіялагічнае тэрміназнаўства*** даследуе структурныя формы тэрмінаў, працэсы называння спецыяльных прадметаў і выбару аптымальных формаў найменняў;

✓ ***гістарычнае тэрміназнаўства*** вывучае гісторыю тэрміналагічных сістэм для таго, каб даць адпаведныя рэкамендацыя па іх упарадкаванні;

✓ ***функцыянальнае тэрміназнаўства*** звязана з вывучэннем сучасных функцый тэрміна ў разнастайных тэкстах і сітуацыях прафесійных зносін, а таксама асаблівасцей выкарыстання тэрмінаў у маўленні і камп'ютарных сістэмах;

✓ ***гнасеалагічнае тэрміназнаўства*** займаецца даследаваннем ролі тэрмінаў у навуковым пазнанні і мысленні.

З тэрміназнаўствам звязана **тэрмінаграфія** — навука пра прынцыпы складання слоўнікаў спецыяльнай лексікі (гл. § 2.13). Многія праблемы, даследаваныя тэрмінолагамі, узніклі падчас распрацоўкі спецыяльных слоўнікаў, таму тэарэтычнае вырашэнне гэтых праблем уплывае на метады складання слоўнікаў.

Аб'ектам даследавання ў тэрміназнаўстве з'яўляецца сукупнасць тэрмінаў, якая сістэматызуецца, аналізуецца і, нарэшце, унармоўваецца. Вынікам гэтай працы з'яўляецца стварэнне тэрмінасістэм — упарадкаванага мноства тэрмінаў з зафіксаванымі адносінамі паміж імі, якія адлюстроўваюць адносіны паміж абазначанымі гэтымі тэрмінамі паняццямі.

↳ **Упарадкаванне** тэрмінаў з'яўляецца найбольш важным відам тэрміналагічнай дзейнасці і складаецца з наступных этапаў:

✓ адбор тэрмінаў;

✓ сістэматызацыя паняццяў дадзенай галіны навукі па катэгорыях і пабудова класіфікацыйных схем паняццяў;

✓ удакладненне на аснове класіфікацыйных схем існуючых дэфініцый (навуковых азначэнняў), паняццяў або стварэнне новых дэфініцый;

✓ аналіз тэрміналогіі з мэтай выяўлення яе недахопаў (уключае аналіз значэнняў, паходжання і функцыянавання тэрмінаў);

✓ нармалізацыя тэрмінаў (уключае *ўніфікацыю*, якая павінна забяспечыць адназначную адпаведнасць паміж сістэмай паняццяў і сістэмай тэрмінаў, каб кожнаму паняццю адпавядаў адзін тэрмін і наадварот, і *аптымізацыю* — пошук найбольш удалай формы для перадачы пэўнага паняцця);

✓ кадыфікацыя тэрмінаў — афармленне тэрмінасістэмы ў выглядзе тэрміналагічнага слоўніка тлумачальнага тыпу;

✓ гарманізацыя тэрмінасістэм — паслядоўнае супастаўленне і карэкціроўка тэрмінасістэм дзвюх або некалькіх моў; вынікам гарманізацыі з'яўляецца стварэнне перакладных тэрміналагічных слоўнікаў.

↳ Тэрміназнаўчыя даследаванні адносяцца да адносна маладой галіны мовазнаўства, зараджэнне якой у Беларусі прыходзіцца на 1920-я гг. і прадстаўлены прыкладнымі працамі (слоўнікамі), скіраванымі на задавальненне патрэб навукі, тэхнікі, культуры, а таксама навукова-тэарэтычнымі даследаваннямі, арыентаванымі на вывучэнне зместавых, фармальных і функцыянальных асаблівасцей канкрэтных тэрмінаў і іх аб'яднанняў.

Істотны ўклад у станаўленне нацыянальнага тэрміназнаўства ў гэты перыяд зрабілі Л. Леўшчанка, Л. Більдзюкевіч, У. Чаржынскі, А. Лёсік, Ю. Дрэйзін, М. Байкоў, Л. Акіншэвіч і інш.

Тэарэтычнаму вывучэнню сучаснай тэрміналогіі беларускай мовы ў цэлым і асобных тэрмінасістэм прысвечаны працы айчынных мовазнаўцаў другой паловы XX — пачатку XXI ст. — Л. А. Антанюк, М. Г. Антанюк, М. У. Бураковай, А. І. Калечыц, Т. В. Капяйко, А. І. Кісялеўскага, В. П. Краснея, Д. А. Лаўшук, Ю. М. Лук'янюк, Л. М. Мінаковай і інш.

### ⌛ Пытанні для самакантролю

1. Як вы разумееце паняцце *тэрміназнаўства*?
2. Назавіце і ахарактарызуйце асноўныя кірункі тэрміназнаўчых даследаванняў.
3. Чым займаецца тэрмінаграфія?
4. З якіх этапаў складаецца працэс упарадкавання тэрмінаў?
5. Назавіце вядомых вам прадстаўнікоў нацыянальнага тэрміназнаўства.

## 2.10. З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ НАВУКОВАЙ ТЭРМІНАЛОГІІ І ТЭРМІНАГРАФІІ

Беларуская навуковая тэрміналогія ў сваім развіцці прайшла некалькі перыядаў, адрозных па працягласці, інтэнсіўнасці працякання тэрмінатворчых працэсаў, а таксама па спрыяльнасці або неспрыяльнасці грамадска-палітычных умоў для станаўлення тэрмінасістэмы нацыянальнай мовы:

1) падрыхтоўчы перыяд;
2) перыяд дынамічнага развіцця (1920-я гг. — пачатак 1930-х гг.);
3) перыяд статычнага існавання (1930-я гг.);
4) перыяд стабілізацыі (1950-я гг. — наш час).

Пры аналізе фарміравання нацыянальнай тэрміналогіі важна размяжоўваць працэс натуральнага папаўнення тэрміналагічнай лексікі ў ходзе развіцця грамадства і ўласна тэрміналагічную работу па ўпарадкаванні гэтай лексікі.

### 2.10.1. Падрыхтоўчы перыяд (да 1920-х гг.)

Падрыхтоўчы перыяд у развіцці беларускай тэрміналогіі самы працяглы па часе і ахоплівае некалькі стагоддзяў — ад узнікнення старабеларускай літаратурнай мовы да 1920-х гг.

У гэты час не праводзілася мэтанакіраванай сістэматызацыі слоў, якімі абазначаліся спецыяльныя паняцці, прадметы. Тэрміналогія

фарміравалася стыхійна ў адпаведнасці з агульнамоўнымі і грамадска-палітычнымі тэндэнцыямі і фіксавалася ў шматлікіх рукапісных і друкаваных пісьмовых помніках.

Як вядома, старабеларуская мова ў Вялікім Княстве Літоўскім выконвала функцыю афіцыйнай мовы і значны прамежак часу знаходзілася ў цэнтры сацыяльна-камунікатыўнай сітуацыі ў дзяржаве. У межах ВКЛ беларускай мовай карысталася не толькі беларускае, але і балцкае насельніцтва, татары, яўрэі, цыганы і інш.

Паколькі ВКЛ працяглы час з'яўлялася адной з вядучых еўрапейскіх дзяржаў як у сацыяльным, так і ў эканамічным плане, беларуская навуковая тэрміналогія ў XIV—XVII стст. развівалася дастаткова дынамічна і была запатрабавана ў сферы гандлю, рэлігіі, сельскай гаспадаркі, грамадска-палітычнага жыцця, прамысловасці, культуры і інш.

Так, у зборы спецыфічных матэрыялаў вялікакняжацкай канцылярыі ВКЛ шырока фіксуюцца аднаслоўныя і двухслоўныя канцылярскія, юрыдычныя і адміністрацыйныя найменні, а таксама назвы асоб паводле сацыяльнага становішча, прафесіі, рамяства: *данина*, *отчина*, *купленина*, *судовый листъ*, *рухомыи речи*; *воевода*, *тивунъ*, *ратай*, *мытникъ*.

Беларуская тэрміналогія гэтага перыяду характарызуецца дастаткова высокай ступенню распрацаванасці. Так, у «Кнізе караля Стэфана Баторыя» вылучаюцца наступныя разнавіднасці дакументаў: *варунокъ*, *видым*, *усъ*, *волность*, *вписанье*, *вызволенье*, *выреченье*, *вырокъ*, *дарованье*, *декретъ*, *делъ*, *записанье*, *зложенье*, *зоставенье*, *контроверсия*, *оповеданье*, *отложенье*, *отосланье*, *пилность*, *позволенье*, *покладанье*, *потверженье*, *привилей*, *присуженье*, *продажа*, *протестацыя*, *пущенье*, *рознятье*, *скосованье*, *сознанье*, *списанье*, *справа*, *уведенье*, *угода*, *фундованье*.

Станаўленню нацыянальнай тэрміналогіі паспрыяла ўвядзенне беларускай мовы ў XVI ст. у якасці прадмета школьнага навучання ў праваслаўных брацкіх школах, а таксама ў каталіцкіх і ўніяцкіх адукацыйных установах.

З другой паловы XVI ст. адбываецца актыўнае пранікненне ў слоўнікавы склад беларускай мовы паланізмаў, многія з іх абазначалі вузкаспецыяльныя паняцці і з'явы: *велебность*, *власне*, *вызнавца*, *вырокъ*, *гамовати*, *зыскъ*, *маетность*, *назвиско*, *опричныи*, *пенкност*, *похопъ*, *прудкость* і інш.

Значнае месца ў тэрміналогіі гэтага перыяду належыць лацінізмам, паколькі лацінская мова з'яўлялася мовай заходнееўрапейскай адукацыі, а пазней стала мовай навукі і ў Беларусі: *актъ*, *артыкулъ*,

*дата*, *енералъ*, *индиктъ*, *персона*, *статутъ*, *сума*, *тестаментъ*, *мандатъ*, *реестръ*, *трибуналъ*, *тытулъ*, *цедула* і інш.

Спецыялізаваныя навуковыя працы, якія былі б прысвечаны сістэмнаму аналізу найменняў навукі, тэхнікі, культуры, у гэты перыяд не ствараліся.

З канца XVII ст. сферы выкарыстання беларускай навуковай тэрміналогіі рэзка звужаюцца ў сувязі з забаронай беларускай мовы Сеймам Рэчы Паспалітай (1696 г.).

### 2.10.2. Перыяд дынамічнага развіцця (1920-я гг.)

Для перыяду дынамічнага развіцця характэрна павышаная ўвага да нармалізацыі лексічнага складу літаратурнай мовы, што праявілася ў фарміраванні і ўпарадкаванні нацыянальнай тэрміналогіі.

Пасля абвяшчэння БССР беларуская мова пачала выкарыстоўвацца ў найбольш важных камунікатыўных сферах. На ёй працаваў урад, адбывалася навучанне ў школах, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах. Арганізацыя сярэдняй і вышэйшай школы, стварэнне нацыянальнага перыядычнага друку, развіццё навуковых даследаванняў патрабавалі хуткай распрацоўкі і сістэматызацыі беларускай тэрміналогіі.

Ідэя стварэння спецыяльнай камісіі, якая б занялася выпрацоўкай нацыянальных тэрмінасістэм, была прапанавана Л. Леўшчанкам яшчэ ў 1918 г. Мэтанакіраваная апрацоўка беларускіх тэрмінаў была пачата на год пазней спецыяльнай тэрміналагічнай камісіяй, створанай па ініцыятыве Цэнтральнай беларускай школьнай рады і Беларускага настаўніцкага саюза. У склад камісіі ўваходзілі 25 мінскіх настаўнікаў, рэдактарскія функцыі выконвала калегія (С. Булат, А. Міцкевіч, М. Пашковіч, А. Смоліч, З. Шышова).

Аднак асноўныя дасягненні гэтага перыяду звязаны з дзейнасцю Навукова-тэрміналагічнай камісіі, створанай у лютым 1921 г. пры Народным камісарыяце асветы БССР (старшыня — С. М. Некрашэвіч, пазней — Я. Ю. Лёсік). У задачы трох секцый камісіі (гуманітарнай, прыродазнаўчай і матэматычнай) уваходзіла выпрацоўка галіновай навукова-тэхнічнай тэрміналогіі на аснове лексікі народнай мовы.

Вынікам працы Навукова-тэрміналагічнай камісіі стала публікацыя з 1922 па 1930 гг. 24 слоўнікаў тэрмінаў матэматыкі, літаратуразнаўства, геаграфіі і касмаграфіі, логікі і псіхалогіі, батанікі, анатоміі, заалогіі, права, бухгалтарскай справы і інш.

Найбольш прадуктыўным спосабам тэрмінаўтварэння стаў лексіка-семантычны (тэрміналагізацыя агульнаўжывальных слоў): *адценне*, *астача*, *бок*, *велічыня*, *вышыня*, *вылічыць*, *даўжыня*, *дуга*,

*кірунак*, *лік*. Камісія трымалася меркавання, што лепш утвараць згодна з законамі беларускай мовы неалагізмы, чым запазычваць тэрміны з іншых моў.

Пры адсутнасці патрэбнага слова ў народнай мове тэрмін ствараўся з уласнамоўных марфем (шляхам афіксацыі або складання): *зельнік* (*гербарый*), *кантаслуп* (*прызма*), *канцавоссе* (*полюс*), *касада* (*дыяганаль*), *накапак* (*сталагміт*), *пазем* (*гарызонт*), *палудзеннік* (*мерыдыян*), *разгалоссе* (*дысананс*), *роўнік* (*экватар*), *скрутка* (*спіраль*), *сукоснік* (*ромб*), *сярэдніца* (*медыяна*), *уласнапіс* (*арыгінал*), *ускосіна* (*дыяганаль*), *часамер* (*хранометр*),*чужаед* (*паразіт*) і інш. Толькі тады, калі наватвор па шэрагу прычын быў непрыдатным да выкарыстання, навуковае найменне запазычвалася. Сярод прычын запазычвання называліся: а) празмерная штучнасць утвораных неалагізмаў; б) наяўнасць інтэрнацыянальнай афарбоўкі ва ўжо існуючых тэрмінаадзінках: *гаматэцыя*, *дыферэнцыял*, *інтэграл*, *інтэрпаляцыя*, *модуль* і інш. Такім чынам, агульнаеўрапейскія тэрміны, як правіла, толькі адаптаваліся да беларускай арфаграфіі.

Ступень эксперыментальнасці і штучнасці гэтых прынцыпаў тэрмінаўтварэння добра ўсведамлялася навукоўцамі, падкрэслівалася, што апрацаваная тэрміналогія з'яўляецца дыскусійнай. Так, С. Некрашэвіч адзначаў, што большасць апрацаванай тэрміналагічнай лексікі застанецца ў навуковым выкарыстанні, а ўсё «штучнае, непрыгоднае, неўласцівае да беларускай мовы» з далейшым развіццём тэрміналогіі выйдзе з навуковага ўжытку. Істотнай прычынай, па якой многія наватворы не замацаваліся ў мове, стала адсутнасць належнай каардынацыі ў тэрміналагічнай дзейнасці і неадпрацаванасць шляхоў вырашэння многіх уласна тэрміназнаўчых праблем.

Аддаленасць існуючых матэматычных тэрмінаў ад інтэрнацыянальнага тэрміналагічнага фонду, штучнасць многіх неалагізмаў і іншыя лінгвістычныя і лексікаграфічныя недахопы, няпоўнасць рэестраў наяўных тэрмінаграфічных выданняў выклікалі абгрунтаваныя нараканні на Настаўніцкім з'ездзе (1926 г.) і на Усебеларускай фізіка-матэматычнай канферэнцыі (1926 г.).

У другой палове 1920-х гг. асобныя даследчыкі прыйшлі да высновы пра нядольнасць дыялектнай мовы служыць рэальнай асновай для навуковай тэрміналогіі. Галоўнай памылкай аўтараў першых выпускаў беларускай навуковай тэрміналогіі было названа імкненне тэрміналагізаваць дыялектныя словы пры амаль поўным ігнараванні агульнапрынятых інтэрнацыянальных тэрмінаў. Так, на думку М. Байкова, тэрміналогія павінна быць апрацавана «на грунце кля-

сычнай лацінскай граматыкі», а «абавязковаму перакладу належаць [толькі] чужаземныя словы — іменьнікі лацінскага пахаджэньня з канчаткам у расійскай мове на *-ция* (лац. *-tion*), а гэтаксама і адпаведныя ім прыметнікі». Вынікам суіснавання розных падыходаў да фарміравання тэрмінасістэмы стала высокая ступень дублетнасці беларускай навуковай тэрміналогіі гэтага перыяду: *абразаванне — адукацыя — асвета*, *алькаліі — лугі* ('шчолачы'), *гідраты — вадзістыя сувязі*, *даўжнік — дэбітар*, *заімадаўца — крэдытар*, *клас— стан*, *круг — кола*, *лексікон — слоўнік*, *матыў — тон*, *наросшы капітал — збуйнеўшы капітал*, *сачэўка — лупа* і інш. Гэта значыць, што станаўленне беларускай навуковай тэрміналогіі адбывалася ва ўмовах канкурэнтнага выбару паміж тэрмінаадзінкамі.

К канцу 1920-х гг. звыш 80% літаратуры, якая выпускалася ў рэспубліцы, было на беларускай мове, каля 90% школ мелі беларускую мову навучання. Такім чынам, беларуская навуковая тэрміналогія ў гэты перыяд не толькі актыўна выпрацоўвалася, але і была запатрабавана ва ўсіх сферах жыцця грамадства.

### 2.10.3. Перыяд статычнага існавання (1930-я гг.)

У 1930-я гг. адбываецца рэзкае звужэнне сфер выкарыстання беларускай мовы. Тэрміны, распрацаваныя на працягу папярэдняга дзесяцігоддзя, сотнямі выводзіліся з ужывання, што прывяло да ўзнікнення лакун (пропускаў) у сферы спецыяльнай намінацыі. Адсутнасць патрэбных тэрмінаадзінак, ненатуральнасць найменняў, створаных па мадэлях рускай мовы, і агульная грамадска-палітычная сітуацыя ў краіне прывялі да таго, што беларуская мова фактычна не выкарыстоўвалася ў сферы навуковых зносін.

У 1930-я гг. у рэспубліцы не праводзілася скаардынаванай працы па ўнармаванні нацыянальнай тэрміналогіі. У друку з'яўляліся толькі асобныя нешматлікія артыкулы, у якіх праблемы тэрміналогіі ўздымаліся выключна ў святле крытыкі тэрміналагічных праектаў 1920-х гг.

Для гэтага перыяду характэрна актыўнае выкарыстанне рэсурсаў рускай мовы ў тэрмінаўтварэнні, вынікам чаго стала ўзнікненне вялікай колькасці тэрмінаў-ка́лек. Руская мова разглядалася як адзіная крыніца папаўнення тэрміналагічнай лексікі, а адметныя беларускія словы і выразы, пашыраныя ў слоўніках 1920-х гг., выносіліся па-за межы літаратурнай мовы і ўспрымаліся як рэгіяналізмы і правінцыялізмы.

У навуковым ўжытку замацаваліся тэрміны: *агібаючая*, *аднач-лен*, *быстра вагаючыеся крывыя*, *верцячыйся*, *грызучалізучыя*,

*ізабражэнне*, *квадрат точны*, *кузнечык*, *множыцель інтэгруючы*, *насякомыя*, *памяншаемае*, *працэсы ўстанавіўшыяся*, *працэсы ўстанаўліваючыяся*, *прызнак*, *прэдзел*, *разлажэнне*, *сасучыя*, *скорасць*, *сякучая*, *тожаства*, *точка*, *ураўненне*, *чэлюсці*, *шчоты* і мн. інш.

Такім чынам, гэты перыяд характарызуецца значным павелічэннем у навукова-тэрміналагічнай лексіцы колькасці функцыянальна нематываваных запазычанняў з рускай мовы, якія мелі дублетны характар у дачыненні да беларускіх адпаведнікаў. Аналагічная тэндэнцыя назіралася і ў іншых нацыянальных тэрміналогіях. Па некаторых падліках, рускія запазычанні складалі каля 70—80% ад агульнай колькасці тэрмінаў 1930—1940-х гг.

На працягу 1930-х гг. супрацоўнікамі Акадэміі навук БССР былі надрукаваны адзінкавыя слоўнікі па ваеннай і тэхнічнай тэрміналогіі, а таксама шэраг праектаў слоўнікаў для «Беларускай савецкай энцыклапедыі».

### 2.10.4. Перыяд стабілізацыі (1950-я гг. — наш час)

Перыяд стабілізацыі ў развіцці нацыянальнай тэрміналогіі не з'яўляецца аднародным.

У 1950—1980-я гг. беларуская навуковая тэрміналогія выпрацоўвалася ў многім для выканання «прадстаўнічай» функцыі: яна была запатрабаванай пры стварэнні энцыклапедычных выданняў, асобных навуковых праектаў, некаторых вучэбных прац для ўніверсітэтаў, а таксама падручнікаў для школ. Для гэтага перыяду характэрна актыўнае выкарыстанне запазычаных тэрмінаў, галоўным чынам — інтэрнацыяналізмаў, якія прыходзілі ў беларускую мову праз пасрэдніцтва рускай, г. зн. засвойваліся ў той форме, у якой ужо былі засвоены рускай мовай: *амартызуючае*, *бацылярны*, *дыслацыраваць*, *парафіраваць*, *прагназіраваць*, *прапарцыянальны*, *фармуліраваць*, *эпінеўрый* і інш.

Важную ролю ў развіцці беларускай тэрміналогіі пасляваеннага часу адыграла стварэнне ў Інстытуце мовазнаўства Акадэміі навук БССР сектара тэрміналогіі (1955 г.), у якім былі падрыхтаваны і выдадзены «Русско-белорусско-латинский словарь ботанической терминологии» (1967), «Русско-белорусский словарь общественно-политической терминологии» (1970), «Слоўнік лінгвістычных тэрмінаў» (1962), «Кароткі слоўнік літаратуразнаўчай тэрміналогіі» (1963) і інш.

У 1979 г. на аснове сектара тэрміналогіі была створана Тэрміналагічная камісія Акадэміі навук БССР. Асноўныя задачы,

якія паўсталі перад камісіяй, наступныя: распрацоўка тэарэтычных асноў і методыкі ўнармавання беларускай тэрміналогіі; практычнае ўпарадкаванне тэрміналогіі; падрыхтоўка і выданне слоўнікаў і тэрміналагічных зборнікаў і інш.

Праца Тэрміналагічнай камісіі, якая ў 1991 г. была пераўтворана ў Рэспубліканскую тэрміналагічную камісію пры АН Беларусі і складалася з прэзідыума і дзевяці секцый (грамадазнаўчай, навукова-тэхнічнай, фізічнай і матэматычнай, хімічнай, біялагічнай, сельскагаспадарчай, геалагічнай і геаграфічнай, медыцынскай і фізіялагічнай, секцыі па архітэктуры і будаўніцтве), заклала лінгвістычны падмурак у інтэнсіўнае развіццё беларускай тэрміналогіі на працягу 1990-х гг.

З другой паловы 1980 — да сярэдзіны 1990-х гг. беларуская навуковая тэрміналогія перажывае сапраўднае адраджэнне: у гэты час асобнымі даследчыкамі і грамадствам у цэлым праводзіцца інвентарызацыя, пераацэнка беларускага тэрміналагічнага фонду на нацыянальнай глебе. У адпаведнасці з Дзяржаўнай праграмай развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў, распрацаванай Саветам Міністраў БССР (верасень 1989 г.), і законам «Аб мовах у Беларускай ССР», які быў прыняты Вярхоўным Саветам БССР (студзень 1990 г.) і надаваў беларускай мове дзяржаўны статус, прадугледжвалася паэтапнае ўвядзенне беларускай мовы ва ўсе найважнейшыя сферы жыцця рэспублікі: у дзяржаўнае кіраванне, у сістэму сярэдняй і вышэйшай адукацыі, у сродкі масавай камунікацыі, выдавецкую справу, транспарт і інш.

Гэты этап у выпрацоўцы тэрміналогіі характарызуецца актыўным выкарыстаннем спецыфічных рыс нацыянальнай мовы ў спалучэнні з тэндэнцыяй да інтэрнацыяналізацыі, абумоўленай узмацненнем ролі англійскай мовы ў міжнароднай камунікацыі. Абедзве тэндэнцыі ў іх спалучэнні з'яўляюцца канструктыўнымі, паколькі арыентацыя на ўласнамоўныя рэсурсы дазваляе тэрмінасістэме гарманічна ўваходзіць у сістэму мовы ўвогуле, а выкарыстанне інтэрнацыянальных элементаў дазваляе не толькі максімальна ўніфікаваць міжнародную тэрміналогію, але і ліквідаваць некаторую эмацыйную матываванасць, уласцівую тэрмінаадзінкам, утвораным на базе агульнаўжывальных слоў.

З другой паловы 1990-х гг. адбываецца пераразмеркаванне сфер выкарыстання беларускай і рускай моў у краіне. У выніку нацыянальная тэрміналогія абслугоўвае, у асноўным, толькі асобныя гуманітарныя навукі — лінгвістыку, літаратуразнаўства, гісторыю, грамадазнаўства.

У навуковай літаратуры існуе абгрунтаванае меркаванне, што ў нармальных умовах нацыянальны тэрмінатворчы працэс павінен балансавацца, з аднаго боку, нацыянальна арыентаванай, а з другога — міжнароднай уніфікацыйнай тэндэнцыямі. Толькі пры захаванні парытэту паміж гэтымі дзвюма тэндэнцыямі беларуская нацыянальная тэрміналогія зможа паспяхова абслугоўваць сферу навукі, тэхнікі, культуры.

↬ Такім чынам, перад беларускім мовазнаўствам XXI ст. стаіць цэлы шэраг актуальных задач у галіне тэрміналогіі:

✓ распрацоўка агульнапрымальных прынцыпаў стандартызацыі сучасных навуковых тэрмінаў;

✓ арганізацыя працы ў навуковых і адукацыйных установах рэспублікі па ўпарадкаванні нацыянальнай тэрміналогіі;

✓ суаднясенне нацыянальнай тэрмінасістэмы з тэрмінасістэмамі іншых моў — найперш рускай і англійскай;

✓ стандартызацыя нацыянальнай тэрміналогіі ў сучасных лексікаграфічных выданнях;

✓ папулярызацыя беларускай тэрміналогіі, яе ўвядзенне ў нарматыўныя дакументы, у навуковыя і вучэбныя тэксты.

## ⌛ Пытанні для самакантролю

1. Назавіце храналагічныя межы перыядаў у развіцці нацыянальнай тэрміналогіі.
2. Тэрмінасістэмы якіх галін найбольш актыўна развіваліся на працягу падрыхтоўчага перыяду? Чаму?
3. Ахарактарызуйце перыяд дынамічнага развіцця нацыянальнай тэрміналогіі.
4. Акрэсліце асноўныя вынікі працы Навукова-тэрміналагічнай камісіі.
5. Сфармулюйце прынцыпы папаўнення тэрмінасістэм у 1920-я гг.
6. Чаму адзін з перыядаў у развіцці беларускай тэрміналогіі называецца *перыядам статычнага існавання*?
7. Як адбывалася станаўленне тэрміналагічнай лексікі ў другой палове XX ст.?
8. Якія тэндэнцыі характэрныя для нацыянальнай тэрміналогіі на сучасным этапе?
9. Назавіце задачы, якія стаяць перад беларускім мовазнаўствам XX ст. у галіне тэрміналогіі.

# 2.11. ТЫПАЛОГІЯ СЛОЎНІКАЎ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ, ІХ ПРЫЗНАЧЭННЕ І ФУНКЦЫІ

**Слоўнік** — кніга, у якой падаецца пералік слоў або іншых адзінак мовы, размешчаных у вызначаным парадку, з пэўнымі звесткамі пра іх.

Слоўнік з'яўляецца адным з найважнейшых спосабаў характарыстыкі лексічнай сістэмы мовы. У адрозненне ад іншых формаў прадстаўлення слоўнікавага складу мовы, для лексікаграфічных прац характэрна:

- ✓ featuring разнабаковасць аналізу (апісанне з розных пазіцый);
- ✓ паўната лінгвістычных звестак;
- ✓ доказнасць пададзенай інфармацыі.

У слоўніках моўныя адзінкі апісваюцца ў сукупнасці ўсіх іх уласцівасцей, таму лексікаграфічныя працы не толькі садзейнічаюць павышэнню культуры вуснага і пісьмовага маўлення, але і з'яўляюцца важным інструментам навуковых даследаванняў.

Раздзел мовазнаўства, які займаецца распрацоўкай тэарэтычных асноў стварэння слоўнікаў, а таксама практыкай іх складання, называецца **лексікаграфіяй** (ад гр. *lexikos* 'які адносіцца да слова' і *grapho* 'пішу').

**Тыпалогія слоўнікаў** — гэта класіфікацыя лексікаграфічных выданняў і іх групоўка на аснове пэўных крытэрыяў. Праблема тыпалогіі слоўнікаў з'яўляецца адной з найважнейшых у тэорыі лексікаграфіі, паколькі яе вырашэнне дазваляе не толькі сістэматызаваць ужо створаныя працы, але і прагназаваць складанне новых тыпаў слоўнікаў.

Традыцыйна ўсе слоўнікі падзяляюцца на дзве групы — л і н г в і с т ы ч н ы я і э н ц ы к л а п е д ы ч н ы я.

☞ У **лінгвістычных** слоўніках асноўным аб'ектам апісання з'яўляецца мова. У іх раскрываецца значэнне, паходжанне, утварэнне, структура, асаблівасці выкарыстання моўных адзінак (найчасцей слоў), фіксуецца іх напісанне і вымаўленне, прапануецца пераклад слоў на іншую мову і г. д., напрыклад:

**Войт** *ист.* войт, *род.* войта? *м.* (*Русско-белорусский словарь*);

**Інжыр** (*дрэва*) -а, -ы; -аў; (*плады*) -у, -ы (*Беларускі арфаграфічны слоўнік*);

**Насцярожыцца**; **настрыніцца** (разм.) □ **навастрыць вушы** (*Слоўнік сінонімаў і блізказначных слоў*).

↳ У **энцыклапедычных** слоўніках аб'ектам апісання з'яўляецца прадмет або паняцце, абазначанае словам:

**Рэестры** (лац. *regestrum*), спісы, вопісы, а таксама кнігі ў судах ВКЛ, у якіх рабілі запісы аб розных справах, што падлягалі судоваму разгляду (*Юрыдычны энцыклапедычны слоўнік*);

**Ломыш**, возера ў Хойніцкім р-не Гомельскай вобл., на пойме р. Прыпяць (*Беларуская энцыклапедыя*).

Энцыклапедычныя слоўнікі бываюць агульныя і галіновыя.

**Агульныя** (універсальныя) энцыклапедычныя слоўнікі даюць сістэматызаваныя звесткі па ўсіх галінах ведаў, назапашаных чалавецтвам, **галіновыя** — па адной (гл. *табліцу 5*).

*Табліца 5*

| Галіновыя энцыклапедычныя слоўнікі | Агульныя энцыклапедычныя слоўнікі | Галіновыя энцыклапедычныя слоўнікі |
| --- | --- | --- |
| Матэматычная энцыклапедыя (2001), Беларуская міфалогія (2004), Беларускія пісьменнікі: 1917—1990 (1994), Земнаводныя. Паўзуны (1996), Беларускі фальк-лор: у 2 т. (2005—2006) | Беларуская савецкая энцыклапедыя ў 12 т. (1969—1975), Беларуская энцыклапедыя (1996—2004) і інш. | Беларуская мова (1994), Каталіцкія храмы Беларусі (2008), Мовы свету (2009), Археалогія і нумізматыка Беларусі (1993), Музеі Беларусі (2008), Культуралогія (2003) і інш. |

## ⌛ Пытанні для самакантролю

1. Дайце азначэнне паняццю *слоўнік*.
2. Якая роля слоўнікаў у грамадстве?
3. Што такое лексікаграфія?
4. Для чаго ствараецца тыпалогія слоўнікаў?
5. У чым асноўныя адрозненні паміж энцыклапедычнымі і лінгвістычнымі слоўнікамі?

## 2.12. ТЫПЫ ЛІНГВІСТЫЧНЫХ СЛОЎНІКАЎ

Лінгвістычныя слоўнікі з'яўляюцца найбольш разгалінаваным класам лексікаграфічных выданняў. Яны класіфікуюцца па розных прыметах:

✓ па сферы выкарыстання зафіксаванай лексікі (агульнамоўныя, тэрміналагічныя і дыялектныя слоўнікі);

✓ адносна гістарычнай перспектывы (слоўнікі ўстарэлай лексікі і слоўнікі неалагізмаў);

✓ паводле паходжання (слоўнікі нацыянальнай мовы і слоўнікі іншамоўных слоў);

✓ паводле адзінкі апісання (слоўнікі марфем, слоў, словазлучэнняў — фразеалагізмаў, выразаў — прыказак і прымавак);

✓ паводле крыніц матэрыялу (слоўнікі агульныя і слоўнікі асобных аўтараў);

✓ паводле ступені дыдактычнасці (слоўнікі цяжкасцяў, арталагічныя слоўнікі і г. д.).

Лінгвістычныя слоўнікі могуць быць шматмоўнымі, двухмоўнымі і аднамоўнымі.

➩ **Двухмоўнымі** і **шматмоўнымі** з'яўляюцца *перакладныя слоўнікі*. Асноўнае іх прызначэнне — забяспечваць міжмоўную камунікацыю шляхам апісання адзінак адной мовы з дапамогай іншай (адной або некалькіх).

Ва ўмовах дзяржаўнага двухмоўя ў беларускім грамадстве важную ролю адыгрываюць акадэмічныя «Русско-белорусский словарь» (у 3 т., 9-е выд., 2005) і «Беларуска-рускі слоўнік» (у 3 т., 3-е выд., 2003). Акрамя таго, створаны слоўнікі для перакладу на многія іншыя мовы — як славянскія, так і неславянскія, а таксама з іншых — на беларускую: «Беларуска-ўкраінскі слоўнік» Г. П. Піўтарака і А. І. Скапненкі (2006), «Польска-беларускі слоўнік» Я. В. Волкавай і В. Л. Авілавай (2-е выд, 2005), «Нямецка-беларускі слоўнік» М. І. Кур'янкі (2006), «Англійска-беларускі слоўнік» В. Пашкевіч (2006), «Нямецка-беларуска-рускі слоўнік» Л. В. Браноўскай, Н. М. Любчэўскай, У. І. Марцінеўскага (2-е выд., 2003), «Ідыш-беларускі слоўнік» М. У. Тарэлкі (2008) і многія іншыя.

➩ У **аднамоўных слоўніках** лексіка характарызуецца з дапамогай сродкаў той мовы, да якой яна належыць. Сярод аднамоўных слоўнікаў вылучаюцца: тлумачальныя, дыялектныя, гістарычныя, этымалагічныя, тэрміналагічныя, фразеалагічныя, арфаграфічныя, арфаэпічныя, марфемныя, словаўтваральныя, анамастычныя, граматычныя слоўнікі амонімаў, сінонімаў, паронімаў, іншамоўных слоў і інш.

***Тлумачальныя слоўнікі*** з'яўляюцца асноўным тыпам лексікаграфічных выданняў. У іх найбольш поўна адлюстроўваецца лексіка мовы пэўнага гістарычнага перыяду, тлумачацца значэнні слоў. Акрамя таго, звычайна фіксуецца націск, паказваюцца

граматычныя і стылістычныя асаблівасці, часам прыводзяцца тэрміналагічныя і фразеалагічныя словазлучэнні з загаловачным словам, этымалагічныя даведкі.

Найбольш аб'ёмнымі і аўтарытэтнымі беларускімі тлумачальнымі слоўнікамі з'яўляюцца «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» ў 5 тамах (1977—1984) і «Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы» (пад рэд. М. Р. Судніка і М. Н. Крыўко; 4-е выд. 2005). Для школьнікаў прызначаны «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» А. Я. Баханькова, І. М. Гайдукевіча, П. П. Шубы (перавыд. 2006), «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» А. М. Булыкі (2-е выд. 2008) і інш.

Паводле асноўнай інфармацыі, якая ўтрымліваецца ў лексікаграфічных выданнях, а таксама па спосабах яе падачы тлумачальнымі з'яўляюцца дыялектныя слоўнікі, слоўнікі іншамоўных слоў, фразеалагічныя, гістарычныя і некаторыя іншыя слоўнікі.

***Дыялектныя слоўнікі*** — разнавіднасць тлумачальных слоўнікаў, у якіх апісваецца лексіка аднаго дыялекту або групы дыялектаў. Дыялектныя слоўнікі з'яўляюцца важнай крыніцай даследавання лексікі, марфалогіі, словаўтварэння, гукавога ладу мовы, яе гісторыі і інш.

У дыялектных слоўніках адлюстравана лексіка пэўных рэгіёнаў Беларусі — *Міншчыны*: тры выпускі лексічных матэрыялаў для слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак (1971, 1974, 1977), «Слоўнік гаворак цэнтральных раёнаў Беларусі» (т. 1, 1990); *Гродзеншчыны*: «Матэрыялы да слоўніка Гродзенскай вобласці» (1972) і «Слоўнік Гродзенскай вобласці» Т. Ф. Сцяшковіч (1983), «Слоўнік народнай мовы Зэльвеншчыны» П. У. Сцяцко (2005), «Скарбы народнай мовы» Г. А. Цыхуна (1994); *Магілёўшчыны*: «Дыялектны слоўнік: з гаворак Мсціслаўшчыны» (1966), «Народнае вытворнае слова: з гаворкі Мсціслаўшчыны» (у 3 т., 1981—1985) Г. Ф. Юрчанкі; «Дыялектны слоўнік» Ф. М. Янкоўскага (3 вып., 1959, 1960, 1970); *Брэстчыны*: «Дыялектны слоўнік Брэстчыны» (1981); *Віцебшчыны*: «Віцебскі краёвы слоўнік» М. І. Каспяровіча (1927); *Гомельшчыны*: «Дыялектны слоўнік Лоеўшчыны» Т. С. Янковай (1982), «Палескі слоўнік» І. М. Кучука, А. К. Малюка (2000) і інш.

Найбольш аб'ёмнымі нацыянальнымі дыялектнымі слоўнікамі з'яўляюцца «Слоўнік гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе паграніччa» (у 5 т., 1979—1986) і «Тураўскі слоўнік» (у 5 т., 1982—1986).

***У слоўніках іншамоўных слоў*** тлумачацца значэнні слоў, у тым ліку тэрмінаў, запазычаных з іншых моў або ўтвораных з іншамоўных лексічных элементаў, а таксама даюцца звесткі пра іх

паходжанне. Да такіх выданняў адносяцца: «Слоўнік іншамоўных слоў» (у 2 т., 1999) і «Слоўнік іншамоўных слоў: актуальная лексіка» (2005) А. М. Булыкі.

***У фразеалагічных слоўніках*** аб'ектам апісання з'яўляюцца ўстойлівыя спалучэнні слоў. Фразеалагізмы сучаснай беларускай мовы тлумачацца ў «Слоўніку фразеалагізмаў» (2 т., 2008), а звесткі пра іх паходжанне падаюцца ў «Этымалагічным слоўніку фразеалагізмаў» І. Я. Лепешава (2004). Фразеалагічнае багацце мовы твораў асобных беларускіх пісьменнікаў прадстаўлена ў «Слоўніку фразеалагізмаў мовы твораў Янкі Купалы» В. А. Ляшчынскай, З. У. Шведавай (2007) і «Фразеалагічным слоўніку мовы твораў Якуба Коласа» (1993). У слоўніку «Дыялектнай фразеалогіі Гродзеншчыны» М. А. Даніловіча (2000) сабраны ўстойлівыя моўныя адзінкі канкрэтнага рэгіёна.

***У гістарычных слоўніках*** тлумачацца словы, якія выкарыстоўваліся ў помніках пісьменства беларускай мовы, аддаленых ад яе сучаснага стану. Так, старабеларуская лексіка XV—XVIII стст. апісваецца ў «Гістарычным слоўніку беларускай мовы», які выдаецца з 1982 г. (вып. 1—31: А — С, 1982—2011).

***Этымалагічныя слоўнікі*** прысвечаны апісанню паходжання слоў. З 1978 г. распачата выданне «Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы» (т. 1—13: А — Т, 1978—2010), які ахоплівае агульнабеларускую лексіку, а таксама многія дыялектныя і запазычаныя словы.

У ***слоўніках ўстарэлых слоў*** тлумачацца гістарызмы і архаізмы — рэдкавыкарыстальныя лексічныя адзінкі, якія выйшлі з актыўнага слоўнікавага запасу і не вядомыя большасці носьбітаў мовы, напрыклад: «Слоўнік устарэлых слоў беларускай мовы» А. В. Макарэвіча (2005), «Слоўнік архаізмаў і гістарызмаў» С. М. Струкавай (2007).

У ***слоўніках неалагізмаў*** сабраны словы, якія ўзніклі ў мове для абазначэння новых рэалій. Найбольш поўным слоўнікам новай беларускай лексікі з'яўляецца «Слоўнік новых слоў беларускай мовы» В. І. Уласевіч, Н. М. Даўгулевіч (2009).

Блізкія па значэнні, але адрозныя па напісанні словы прадстаўлены ў ***слоўніках сінонімаў***, напрыклад, у «Слоўніку сінонімаў і блізказначных слоў» М. К. Клышкі (3-е выд., 2005) і інш.; словы, супрацьлеглыя па значэнні, — у ***слоўніках антонімаў***: «Слоўнік антонімаў беларускай мовы: канкрэтныя выпадкі ўжывання» У. М. Лазоўскага (1994), лексічныя адзінкі, што супадаюць па гучанні, але маюць рознае значэнне, — у ***слоўніках амонімаў***: «Слоўнік амонімаў беларускай мовы» В. Д. Старычонка (1991), ад-

накаранёвыя словы, падобныя па напісанні, але розныя (часам — супрацьлеглыя) па значэнні — у ***слоўніках паронімаў***: «Слоўнік паронімаў беларускай мовы» С. М. Грабчыкава (1994). У апошнія гады ў мовазнаўстве назіраецца тэндэнцыя да аб'яднання названых вышэй слоўнікаў у кампазіцыйна цэльныя выданні або проста пад адной вокладкай. Такія лексікаграфічныя працы ў мовазнаўстве атрымалі назву ***комплексныя слоўнікі***. Апублікаваны «Комплексны лексічны слоўнік беларускай мовы: сінонімы, антонімы, амонімы, паронімы» Л. М. Гамезы (2008), «Слоўнік лексічных формаў: сінонімы, амонімы, антонімы, паронімы, амографы, амафоны» Я. Хвалея, У. Шарпілы (2004) і інш.

Уласныя імёны фіксуюцца ў ***анамастычных слоўніках***, якія падзяляюцца на а н т р а п а н і м і ч н ы я  і  т а п а н і м і ч н ы я.

***Антрапанімічныя слоўнікі*** рэгіструюць і характарызуюць прозвішчы, асабовыя імёны, імёны па бацьку людзей, а таксама мянушкі, псеўданімы і інш. Найбольш вычарпальнымі з пункту гледжання паўнаты слоўнікавага артыкула ў галіне анамастыкі з'яўляюцца працы «Беларуская антрапанімія» М. В. Бірылы (у 3 ч., 1966—1982), дзе сабраны беларускія імёны, прозвішчы і мянушкі, а таксама «Слоўнік асабовых уласных імён» М. Р. Судніка (2-е выд. 2005), «Слоўнік асабовых уласных імён» А. К. Усціновіч (2011).

***Тапанімічныя слоўнікі*** фіксуюць найменні геаграфічных аб'ектаў (гарадоў, вёсак, рэк і інш.). Нарматыўнымі лексікаграфічнымі выданнямі ў галіне тапанімікі з'яўляюцца «Слоўнік назваў населеных пунктаў» (па абласцях) Я. Н. Рапановіча (у 6 т., 1977—1986) і даведнік «Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь» па абласцях пад рэд. В. П. Лемцюговай (у 6 т., 2003—2010).

Важнае практычнае значэнне ў засваенні правільнага напісання слоў маюць ***арфаграфічныя слоўнікі*** — лексікаграфічныя даведнікі, якія ўтрымліваюць алфавітны пералік слоў у іх нарматыўным напісанні. Менавіта арфаграфічныя слоўнікі з'яўляюцца найбольш пашыранымі лексікаграфічнымі працамі.

Працяглы час функцыі асноўнага беларускага арфаграфічнага слоўніка выконваў «Слоўнік беларускай мовы: арфаграфія, арфаэпія, акцэнтуацыя, словазмяненне» пад рэд. М. В. Бірылы (1987). Напісанне слоў у адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» (2008) рэгламентуе «Беларускі арфаграфічны слоўнік» пад рэд. А. А. Лукашанца (2-е выд., 2010).

У ***марфемных слоўніках*** вызначаецца структурны склад слова. Апублікаваны «Марфемны слоўнік беларускай мовы»

А. М. Бардовіча і Л. М. Шакуна (2-е выд., 1989), «Школьны марфемны слоўнік беларускай мовы» А. М. Бардовіча, Л. С. Мормыш, Л. М. Шакуна (2-е выд., 2006).

***Словаўтваральныя*** (дэрывацыйныя) ***слоўнікі*** — лексікаграфічныя выданні, у якіх адлюстравана словаўтваральная структура лексічных адзінак, а таксама прыводзяцца сукупнасці слоў з пэўнымі каранёвымі або афіксальнымі марфемамі. Інфармацыю адносна чляненне таго ці іншага беларускага слова на значымыя часткі можна знайсці ў «Словаўтваральным слоўніку беларускай мовы» (2000) і «Школьным словаўтваральным слоўніку беларускай мовы» (2006) А. М. Бардовіча, М. М. Круталевіча, А. А. Лукашанца, «Словаўтваральным слоўніку беларускай мовы» М. А. Аўласевіча, Т. І. Якубовіч (т.1, 2002).

І марфемныя, і словаўтваральныя слоўнікі з'яўляюцца важнымі для даследавання ўнутранай арганізацыі моўнай сістэмы, а таксама выкарыстоўваюцца з чыста прыкладнымі мэтамі — пры вывучэнні словаўтварэння, граматыкі, арфаграфіі.

Акрамя вышэй названых слоўнікаў беларускай мовы, існуе цэлы шэраг лексікаграфічных прац, якія з'явіліся ў апошнія дзесяцігоддзі і прадстаўлены толькі ў віртуальнай прасторы. Гэта такія ***электронныя слоўнікі*** і перакладчыкі, як: «Англійска-беларуска-польска-руска-ўкраінскі тлумачальны слоўнік», «Электронны граматыка-парадыгматычны слоўнік беларускай мовы *Парадыгма*» Ф. Піскунова, «Слоўнік беларускай мовы», «Belazar», «Эсперанта-беларускі, беларуска-эсперанта слоўнік», «ArfaBel: беларускі арфаграфічны слоўнік», «Language Guide» і мн. інш.

### ⌛ Пытанні для самакантролю

1. Па якіх прыметах класіфікуюцца лінгвістычныя слоўнікі?
2. У чым розніца паміж двухмоўнымі і шматмоўнымі слоўнікамі?
3. Ахарактарызуйце асноўныя тыпы беларускіх аднамоўных слоўнікаў.
4. Якімі электроннымі слоўнікамі беларускай мовы вы карыстаецеся?

## 2.13. ТЭРМІНАЛАГІЧНЫЯ СЛОЎНІКІ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

Спецыяльныя найменні пэўнай галіны навукі, тэхнікі, культуры, вытворчасці, эканомікі, рэлігіі і інш. сістэматызуюцца і апісваюцца ў *тэрміналагічных слоўніках*. Колькасна гэта самы значны пласт лексікаграфічных выданняў.

У залежнасці ад жанравай спецыфікі ўсе тэрміналагічныя слоўнікі падзяляюцца на дзве групы — перакладныя і тлумачальныя.

↳ Большасць беларускіх **перакладных тэрміналагічных слоўнікаў** — гэта двухмоўныя выданні, сярод якіх пераважаюць руска-беларускія і беларуска-рускія лексікаграфічныя працы: «Руска-беларускі фізічны слоўнік» А. І. Болсуна (1993), «Руска-беларускі слоўнік педагагічных тэрмінаў» М. А. Ярмаловіч, І. І. Кабіцінай (1992), «Беларуска-рускі тэрміналагічны слоўнік па вышэйшай матэматыцы» Т. А. Сухой, Р. М. Еўдакіменкі, В. Я. Траццякевіча (1992), «Кароткі беларуска-рускі слоўнік хімічнай тэрміналогіі» У. К. Слабіна (1991) і інш.

Існуюць таксама англійска-беларускія, літоўска-беларускія, іспанска-беларускія і інш. тэрміналагічныя выданні, напрыклад: «Англа-беларускі слоўнік грамадска-палітычнай лексікі» Л. Т. Карповіча і Л. А. Казыры (1993), «Англа-беларускі слоўнік па інфарматыцы» А. С. Кабайлы і Н. Я. Савіцкай (2008), «Літоўска-беларускі тэрміналагічны слоўнік па хіміі» (2001), «Іспанска-беларускі слоўнік для студэнтаў геаграфічнага факультэта» І. І. Навіцкага (1992) і інш.

На беларускую мову перакладаюцца розныя навукова-тэхнічныя тэрміны з больш чым 30 замежных моў, сярод іх: англійская, арабская, венгерская, галандская, грэчаская, дацкая, латышская, нарвежская, нямецкая, партугальская, фінская, французская, шведская, эстонская і інш.

Акрамя двухмоўных, ствараюцца таксама трох-, чатырох- і пяцімоўныя выданні, у прыватнасці: «Беларуска-польска-расійска-лацінскі батанічны слоўнік» З. Верас (1924), «Беларуска-польска-рускі слоўнік лінгвістычных тэрмінаў і спецыяльнай лексікі» В. Бекіша і Г. Фантаньскага (1997), «Руска-беларуска-англійскі тэрміналагічны слоўнік па геалогіі» А. Лаўшука, М. Нагорнага і В. Філіпавай (2001), «Цыталогія: тэрміналагічны слоўнік на рускай, беларускай, лацінскай, англійскай мовах» А. С. Леанцюка і І. А. Мельнікава (1993), «Экалагічны слоўнік: нямецка-руска-ўкраінска-беларуска-англійскі» (1998), «Словарь-минимум экономических терминов: русско-белорусско-англо-французско-арабский» і інш.

Беларускія перакладныя слоўнікі могуць утрымліваць тэрміны як з адной спецыяльнай сферы (гл. вышэй), так і з некалькіх сумежных або блізкіх галін, напрыклад: «Русско-белорусский словарь математических, физических и технических терминов» М. М. Касцюковіча, У. У. Люшціка, В. К. Шчэрбіна (1995), «Руска-беларуска-англійскі слоўнік па педагогіцы і псіхалогіі» Н. Г. Алоўнікавай і В. В. Кан-

драцьевай (1996), «Кароткі тлумачальны слоўнік філасофскіх, сацыяльных і культуралагічных тэрмінаў» (1992) і г. д.

Большасць беларускіх перакладных слоўнікаў тэрмінаў — выданні з адной уваходнай і адной выходнай[1] мовамі. Гэта так званыя аднанакіраваныя слоўнікі: «Руска-беларускі фізічны слоўнік» А. М. Каладзінскага, Д. М. Карацінскай і П. У. Сцяцко (1999), «Падручны руска-беларускі слоўнік біялагічных тэрмінаў» І. Л. Бурак, Т. П. Піліповіч (1992) і інш. Але існуюць і шматнакіраваныя лексікаграфічныя працы — выданні з дзвюма і больш аўтаномнымі перакладнымі часткамі: «Беларуска-польскі і польска-беларускі матэматычны слоўнік» А. Радыны і Я. Радыны, «Анатомический словарь: русско-белорусско-латинский, белорусско-латинский, латинско-белорусский» С. П. Ярашэвіча, Л. М. Байцова, Д. В. Кавалёвай, П. І. Лабко (1998) і інш.

У перакладных тэрміналагічных слоўніках найбольш пашыраны два спосабы апісання тэрмінаў.

Сутнасць першага падыходу ў тым, што слоўнікавы артыкул уключае тэрмін і яго адпаведнікі з тых моў, на якія ён перакладаецца, напрыклад:

**Натуральные психические функции** — натуральныя псіхічныя функцыі — natural psychic functions (*Руска-беларуска-англійскі слоўнік па педагогіцы і псіхалогіі*).

**Ультрафиолетовый** — пазафіялетавы, ультрафіялетавы (*Кароткі руска-беларускі фізіялагічны слоўнік*).

Да мнагазначных тэрмінаў звычайна прыводзяцца ўсе магчымыя значэнні (пераклады):

**Частица** — 1. (*небольшая часть*) часцінка, -кі; 2. (*элементарная*) часціца, -цы (*Русско-белорусский словарь математических, физических и технических терминов*).

**Picture** 1. выява; 2. шаблон, -ну (*Англа-беларускі слоўнік па інфарматыцы*).

Другі спосаб апісання тэрмінаў у перакладных слоўніках заключаецца ў тым, што ў слоўнікавым артыкуле акрамя іншамоўнага адпаведніка падаюцца вытворныя найменні або тэрміналагічныя словазлучэнні:

---

[1] Уваходная мова — мова, з якой адбываецца пераклад, выходная мова — мова, на якую перакладаюць.

**Конкретизация — канкрэтызацыя**, -ыі; канкрэтнасць, -цю; канкрэтызаваны; канкрэтызавацца, -зуецца, -зуюцца; канкрэтызаваць, -зую, -зуеш, -зуюць, -зуе (*Кароткі руска-беларускі педагагічны слоўнік*);

**Совокупность — сукупнасць**

с. генеральная сукупнасць генеральная

с. выборочная сукупнасць выбарковая (*Тэрміналагічны слоўнік па вышэйшай матэматыцы для ВНУ*).

Сінанімічныя тэрміны ў перакладных слоўніках звычайна ўказваюцца ў дужках пасля загаловачнага слова, да іх таксама падаюцца адпаведнікі з той мовы, на якую перакладаецца тэрмін, нярэдка ў слоўнікавыя артыкулы ўключаюцца граматычныя паметы:

**Архейская эра**, **архей** — архейская эра, архей, пачатковы, вельмі вялікі адрэзак часу ў геалагічнай гісторыі Зямлі працягласцю ў 1000 млн. гадоў (*Руска-беларускі фізіка-геаграфічны слоўнік*);

**Страты** *ж. мн.* (ионизационные волны) — стра́ты *ж. мн.* (іанізацыйныя хвалі) (*Руска-беларускі фізічны слоўнік: асноўныя тэрміны*).

➯ У **тлумачальных тэрміналагічных слоўніках** падаюцца спецыяльныя найменні з адной або некалькіх сумежных галін ведаў, а таксама прапануюцца іх дэфініцыі:

**Сланцы** — дрэвы з плагіятропнымі парасткамі, якія сцелюцца па зямлі (*Марфалогія і анатомія раслін: тэрміналагічны слоўнік*);

**Татэмізм**, комплекс вераванняў, абрадаў і рытуалаў у першабытным грамадстве, звязаны з уяўленнем аб роднасці паміж групай людзей (родам, племенем, фратрыяй) і татэмам (пэўным відам жывёл, птушак, раслін, радзей з'явай прыроды і неадушаўлёнымі прадметамі) (*Культуралогія: энцыклапедычны даведнік*);

**Рызобіі** — клубеньчыкавыя бактэрыі (*Кароткі тлумачальны слоўнік тэрмінаў па мікрабіялогіі*).

➯ Асобна вылучаюцца **тэрміналагічныя слоўнікі змешанага тыпу**, якія выконваюць функцыі і перакладных, і тлумачальных лексікаграфічных выданняў, напрыклад: «Кароткі беларуска-рускі тлумачальны батанічны слоўнік» В. І. Папова і В. І. Рагаўцова (1992), «Тэрміналагічны тлумачальны беларускі-рускі слоўнік па экалогіі і лесазнаўству» Р. В. Міксюк і Л. М. Ражкова (1992), «Малы матэматычны слоўнік» У. Т. Воднева, А. Ф. Навумовіча і Н. Ф. Навумовіча (1994) і інш.

У слоўнікавых артыкулах такіх выданняў спачатку падаецца перакладная частка, а пасля — тлумачальная. Пераклад звычайна адбываецца на адну або дзве мовы:

**Існаванне (существование)** — уся разнастайнасць зменлівых рэчаў у іх сувязі і ва ўзаемадзеянні (*Тэрміналагічна-тлумачальны слоўнік па філасофіі*);

**Выток ракі (исток реки)** — месца, дзе пачынаецца рака. Звычайна, гэта крыніца, балота, ледавік, радзей возера. В.р. не застаюцца нязменнымі. У апошні час, у выніку высечкі лясоў і асушэння балот, назіраецца высушэнне вытокаў, таму неабходна пільная ахова іх (*Тлумачальны слоўнік тэрмінаў пачатковага навучання*);

**Редактор символьный — symbolik editor — рэдактар сімвальны**, рэдактар, прызначаны для рэдагавання праграм і даных, запісаных у выглядзе сімвалаў (*Толковый русско-англо-белорусский словарь по информатике*).

У тым выпадку, калі беларускі паводле паходжання тэрмін мае іншамоўны адпаведнік, які таксама ўжываецца ў навуковай практыцы, абодва тэрміны могуць падавацца ў зоне намінацыі:

**Мікарыза, грыбакорань** — микориза, грибокорень — сімбіёз грыбоў з каранямі вышэйшых раслін. Адрозніваюць мікарызу эктатрофную (вонкавую), эндатрофную (унутраную) і экзаэндатрофную (пераходную) (*Беларуска-рускі тэрміналагічны тлумачальны слоўнік па батаніцы і кветкаводстве*).

Відавочна, што тэрміналагічныя слоўнікі беларускай мовы не толькі адлюстроўваюць у сістэматызаваным, упарадкаваным выглядзе сукупнасць спецыяльных найменняў пэўнай галіны ведаў, а і выконваюць важную інфармацыйную, пазнавальную, класіфікацыйную і вучэбную функцыі.

Без ведання асноўных тэрмінаграфічных выданняў немагчыма забяспечваць паспяховую міжмоўную камунікацыю ў канкрэтнай сферы навукі, тэхнікі, культуры. Пералік найбольш важных беларускіх слоўнікаў тэрмінаў гл. у *Дадатку*.

## ⌛ Пытанні для самакантролю

1. На якія групы падзяляюцца тэрміналагічныя слоўнікі ў залежнасці ад жанравай спецыфікі?
2. Назавіце двухмоўныя перакладныя слоўнікі.
3. З якіх моў можна перакласці тэрміны на беларускую мову з дапамогай слоўнікаў?

4. Чым адрозніваюцца аднанакіраваныя і шматнакіраваныя перакладныя слоўнікі?

5. Якія спосабы апісання тэрмінаў пашыраны ў беларускіх тэрміналагічных слоўніках?

6. У чым прызначэнне тэрміналагічных слоўнікаў тлумачальнага тыпу?

7. Якія тэрміналагічныя слоўнікі сумяшчаюць функцыі перакладных і тлумачальных выданняў?

## ✍ ЗАДАННІ

**Заданне 6.** *Размяркуйце словы ў калонкі табліцы. Патлумачце, якімі крытэрыямі вы карысталіся.*

| Спрадвечна беларуская лексіка | | Запазычаныя словы |
|---|---|---|
| Індаеўрапейскія, праславянскія і агульнаславянскія словы | Уласнабеларускія словы | |
| ... | ... | ... |

Абрус, адказ, аселіца, асілак, брат, бусел, бяроза, вечар, волат, восень, воўк, вуаль, гальштук, гарлачык, грэчка, дзевяноста, дрэва, жанр, здань, знічка, золак, зямля, іронія, кананада, канфіцюр, красавік, лямант, манархія, мароз, мяцеліца, ноч, палетак, пано, пасля, паэма, пляменнік, поле, рухаць, салодкі, сенажаць, славуты, слодыч, траўма, харошы, хвароба, хвошч, хранометр, цёплы, цяжар, цяпер.

**Заданне 7.** *Прачытайце вершаказ А. Разанава. Патлумачце, з якой мэтай у творы выкарыстоўваюцца іншамоўныя лексемы.*

**Мора**

Беларускае мора — камора, у якую трапляе ўсё, што трапіцца сушай.

Польскае morze, можа, акіян, а можа, лужына.

Нямецкае Meer мерае сваю глыбіню і сваю шырыню, а, памераўшы, мяркуе, з якімі намерамі мець справу, ад якіх — ухіляцца.

Ірландскае muir абмуроўвае, каб яны не размыліся, выспы і мацерыкі.

Іспанскае mar сягае да самай Амерыкі.

**Заданне 8.** *Прачытайце сказы. Выпішыце ўстарэлую лексіку, вызначце архаізмы і гістарызмы. Патлумачце іх зна-*

*чэнне* (*пры неабходнасці карыстайцеся «Слоўнікам архаізмаў і гістарызмаў» С. М. Струкавай* (*Мінск, 2007*).

**I.** 1) Каля кроснаў — ткачы, на плытах — асначы, на плугах за плугамі — аратыя (*Я. Дзяргай*). 2) Часта прыязджалі акцызнікі, правяралі градусы гарэлкі і бралі ў карчмара хабар (*З. Бядуля*). 3) Мірна на тонях, нібыта лілея, ветразь рыбацкі далёка бялее (*А. Вялюгін*). 4) На поясе ў Якава вісеў скураны тул са стрэламі (*Л. Дайнека*). 5) Алекса заплаціў паложаную парубежную мыту і ехаў спакойна (*В. Іпатава*). 6) Яшчэ пры цары была ў гэтай хаце карчма і трымаў яе стары карчмар — Евель Пінхасік (*Р. Сабаленка*). 7) Дзясяткі два баяраў пабеглі з цівуном у замкавую даміну па сякеры і сагайдакі (*К. Тарасаў*). 8) За тры сігі няможна чалавека разгледзець (*М. Гарэцкі*). 9) Пад мяснымі і расольнымі патравамі стаялі спецыяльныя срэбраныя фаеркі, у якіх вясёлкавымі агнямі гарэў спірытус, каб ежа не астыла (*З. Бядуля*). 10) Адправіліся харугвы правай рукі, пачалі цясніць татараў (*В. Чаропка*). 11) Калі пачаўся закалот з Міндоўгам, кінуўся князю Ізяславу Васількавічу ў ногі дружыннік Вель (*Л. Дайнека*). 12) Нямецкі жаўнер стаяў насупраць яго, ветла ўсміхаўся і нешта незразумелае гаварыў (*З. Бядуля*). 13) А на згон не пойдзем, хай жаўнеры штыкамі снапы носяць (*У. Караткевіч*).

**II.** Тут не было ніводнага чалавека, пры боку і ў руках якога не было б зброі. Елянцовыя — палескія, цісавыя — заходнія і страшныя беларускія лукі з двух змацаваных рагоў шэрага ляснога быка, калчаны-тулы, пішчалі; гіганцкія, у чалавечы рост, двухручныя мячы з хвалепадобным або прамым лязом, без піхваў, бо з іх немагчыма выцягнуць самому лязо такой даўжыні; мячы сярэдняй даўжыні і кароткія корды. Азіяцкія, прамыя, як меч, шаблі і шаблі булатныя, змеепадобныя; персідскія, вузкія, як аер, і вострыя, як джала; турэцкія ялмані са сталлю, якая ідзе блакітнымі зорачкамі; ятаганы, падобныя на сярпы і прызначаныя, як і сярпы, для ўдару ўвагнутым бокам; прыдняпроўскія беларускія дзіды паўтарачнай даўжыні і таму прызначаныя для кідання нагой, з пад'ёму ступака, і беларускія ж іклы, кароткія мячы з лязом шырокім і тоўстым, як каровін язык, і даўжынёю ў дваццаць пяць дзюймаў, з месяцападобным канцом рукаяці, для ўпору ў жывот або грудзі, калі кідаешся на ворага, і двума ўпорамі для рук, іклы, прызначаныя для смяротнай рукапашнай у цеснаце. І на ўсім гэтым — рабізна залатых карбовак, эмалі, золата, рубінаў, ажурных накладак. А над усім гэтым, пад шышакамі, арабскімі зярцаламі, кальчужнымі сеткамі і булатнымі шаломамі — вочы, якія і хвіліны не задумаюцца над тым, ужыць гэтую сталь або не ўжыць (*У. Караткевіч*).

**Заданне 9.** 📖⌨✿ *Запішыце прапанаваныя словы ў адпаведную калонку табліцы.*

| Устарэлыя словы | | Новыя словы (неалагізмы) |
|---|---|---|
| Гістарызмы | Архаізмы | |
| … | … | … |

Абшчына, алебарда, апрычніна, армяк, аршын, асьміна, бамбавоз, батфорты, баярын, бітнік, бурлак, бурнос, веча, вярста, гарадавы, гетман, грош, грыўня, губерня, гувернант, дзясяцкі, жупан, земства, калчан, кальчуга, камзол, каморнік, кафтан, кемпінг, конка, круіз, латы, лікбез, мушкет, нэпман, парабак, піка, пішчаль, прыстаў, пуд, пэйнтбол, рэкрут, саўндтрэк, стралец, тачанка, тостар, трансферт, трафік, феадал, фунт, шалом, эластан, ядваб.

**Заданне 10.** 📖⌨✿ *Прачытайце сказы. Выпішыце індывідуальна-аўтарскія словы. Паспрабуйце патлумачыць матывы іх утварэння.*

1) А з будучыні шпарка крочыць слата жалеззя да людзей (*С. Давідовіч*). 2) Камяняр крута камень куе (*Р. Барадулін*). 3) Зямлю цалуе неба сінь сваім чырвоным сонцатварам... (*М. Чарот*). 4) Журба звіла вянок з пустакалосся (*Р. Барадулін*). 5) І кружацца хваласпевы маўлёных з акцэнтам слоў (*Т. Сівец*). 6) Можа, звякне вербалоззе намі зробленай касой... (*А. Дудар*). 7) І выйшла цемра з берагоў, і затапіла траўны свет (*В. Шніп*). 8) Пра дзень асенні напішу, пра сад ранетны (*А. Пісьмянкоў*). 9) Хто хоча зыркім санцавеем асветліць лік старых багоў? (*Ц. Гартны*). 10) Цягне цугам касавіца траўначубыя пракосы (*М. Мятліцкі*). 11) Не вярнуць санцавокага лета (*Р. Малахоўскі*). 12) І рэчкі ніжэюць штогод берагі (*Л. Рублеўская*). 13) Адцвіла і знікла васількоў блакітнасць (*А. Вечар*). 14) Мой любы браце... няма сталёвасці і арфазвоннасці (*У. Дубоўка*). 15) Аснежанасць — белаю пенай змяі ў разгневаных хвалях сярдзітай зімы (*Я. Пушча*). 16) Акрыліць край і заваюе неба шматкрыльны ўзлёт сталёвых жураўлёў (*З. Бядуля*).

**Заданне 11.** 📖⌨✿ *Прачытайце ўрывак з паэмы Якуба Коласа «Новая зямля». Выпішыце словы з прадметным значэннем, якія па сваіх асаблівасцях набліжаюцца да тэрмінаў.*

На прыгуменні, поруч з садам,
Павець з гумном стаяла радам,
А пад паветкаю прылады:

Вазок, калёсы, панарады,
Старыя сані, восі, колы
І вулляў некалькі на пчолы,
Яшчэ няканчаных; судзіна,
Стары цабэрак, паўасміна
І розны хлам і лом валяўся,
Ад сонца, дождыку хаваўся —
Патрэбны рэчы, ёсць вядома!

**Заданне 12.** 🕮🖮✿ *Падбярыце навуковы тэкст па вашай спецыяльнасці. Выпішыце з яго тэрміны ў наступнай паслядоўнасці: а) аднаслоўныя; б) двухслоўныя; в) трохслоўныя. Ці заўсёды можна дакладна вызначыць структурныя межы тэрміна?*

**Заданне 13.** *Запішыце прафесіяналізмы і іх тлумачэнні. Абгрунтуйце, чым матывуецца ўзнікненне прафесіяналізмаў (функцыяй, знешнім падабенствам, унутранымі характарыстыкамі і пад.)*

🕮 Шапка — агульны загаловак для некалькіх артыкулаў (*палігр.*); шпон — тонкая металічная пласціна, якую ўстаўляюць паміж радкоў набору (*палігр.*); ляп — сур'ёзная памылка ў наборы (*палігр.*); загон — матэрыял, які не ўвайшоў у нумар газеты і чакае чаргі на выданне (*палігр.*, *журн.*), падвал — ніжняя частка газетнага ліста (*палігр.*); бык, казёл — пропуск некалькіх слоў, радкоў пры наборы (*палігр.*).

🖮 Сараканожка, кішка — аўтобус з чатырма восямі (*тэхн.*); каза — ваганетка для перавозкі людзей (*шахц.*); чайнік — пнеўматычная помпа (*тэхн.*); пятля, бочка — фігуры вышэйшага пілатажу (*авіяц.*); бруха — ніжняя частка фюзеляжа (*авіяц.*); баранка — рулявое кола (*тэхн.*).

✿ Замарозка — анэстэзія (*мед.*); страляць — праводзіць лазерную каагуляцыю сятчаткі (*мед.*); кішка — гнуткі гумавы зонд (*мед.*), баран — машына для свідравання шпуроў (*тэхн.*); дзірка — адсутнасць электрона ў атамнай структуры (*фіз.*).

**Заданне 14.** *Пазнаёмцеся з поглядамі беларускіх мовазнаўцаў на праблему шляхоў і спосабаў фарміравання спецыяльнай лексікі. Выкажыце сваё меркаванне адносна прапанаваных тэрмінаў.*

🕮 «Лексічны аспект стварэння тэрміналагічна-тлумачальнага слоўніка па філасофіі прадугледжвае неабходнасць правільнага напісання і вымаўлення філасофскіх тэрмінаў, а таксама перагляд тых слоў, якія былі ў значнай ступені зрусіфікаваныя. Прыкладам

могуць быць *сярэдневякоўе*, а не *сярэднявечча*; *мысліцель* а не *думнік*; *веруючы*, а не *вернік* і інш. Па-другое, прывесці да агульных нормаў ужыванне некаторых суфіксаў і канчаткаў, такіх як *-ей* і *-яў*: *ступеней — ступеняў, якасцей — якасцяў, сярэдневяковы — сярэднявечны* і г. д.» (*Скікевіч А., Шчур У. Аб распрацоўцы беларускамоўных слоўнікаў па філасофіі*).

🖮 «Ёсць пэўная частка няўдалых матэматычных тэрмінаў, напрыклад *линейчатая поверхность*. Як вядома, «*линейчатая*» паверхня — гэта аднапараметрычная сям'я прамых. Мы можам разглядаць і аднапараметрычную сям'ю, напрыклад, сінусоід і гэта ж таксама можна было б назваць «*линейчатой*» *паверхняй*. Зразумела, што тэрмін гэты не вельмі ўдалы. Мы прапануем зусім не перакладаць гэты тэрмін, а ўжываць слова *рэгулюс* лацінскага паходжаня, як і робяць многія геометры» (*Лукін К., Шылінец У. Некаторыя заўвагі па беларускай матэматычнай тэрміналогіі*).

✿ «Ці трэба вяртацца да геаграфічнай тэрміналогіі 20-х гадоў? Зразумела, не ўсе тэрміны, прапанаваныя выпускамі БНТ, могуць быць вернутыя ва ўжытак. Працэсы развіцця мовы і сучасны стан геаграфічнай навукі ўносяць свае карэктывы. Тым не менш, шэраг удалых і трапных беларускіх тэрмінаў, якія дакладна адлюстроўваюць сутнасць паняцця, могуць і павінны быць вернутыя ў беларускую мову і геаграфічную тэрміналогію. Да іх ліку можна аднесці *роўнік, раўналежнік, зваротнік, краявід, кругавід, паземнік, затока, пратока, выспа, нацёкі, накапкі* і інш.» (*Сідор С. Распрацоўка беларускай геаграфічнай тэрміналогіі*).

**Заданне 15**. *Параўнайце сучасныя тэрміны з найменнямі, выпрацаванымі ў 1920-я гг. (выдзелены курсівам). Якія з адпаведнікаў, на ваш погляд, з'яўляюцца больш удалымі і найлепш адлюстроўваюць змест адпаведных навуковых паняццяў?*

🕮 Уяўленне — *выабражэньне*, падручнік — *вучомнік*, выхаванне — *гадаванне*, талісман — *зачур*, тэрор — *застрашэнне*, хлебароб — *рольнік*, язычніцтва — *паганства*, канспіратыўны — *змоўны*, бакалаўр — *бакаляр*, аўтахтоны — *першабыльцы*, аграрыі — *абшарнікі*, тэрытарыяльны — *краёвы*, абарыген — *тубылец*, калонія — *асада*, ісламізм — *магаметанства*, светапогляд — *светагляд*, населены — *залюднены*.

🖮 Полюс — *канцавосць*, каэфіцыент — *чыннік*, радыус-вектар — *прамень рухомы*, спіраль — *скрутка*, фокус — *вогнішча*, эксцэнтрысітэт — *мімасяроднік*, базіс — *падстава*, квадрант — *чвэртка*, рэастат барабанны — *рэастат валачны*, гайка вінтавая —

*мутэрка нашрубованая*, уплыў зараду — *уплыў набою*, трэнне знешняе — *трэнне знадворнае*, шкло ўвагнута-выпуклае — *шкло увагнута-лупатае*, паветраплаванне — *лётніцтва*, ваўчок — *турок*, вугал падзення — *кут падання*, зажым — *заціскач*, магутнасць — *патужнасць*, трубка вадамерная — *рурка вадамерная*.

❀ Клёст — *крыжадзюб*; воўк гіенавы — *гіенавоўк*; слон марскі — *даўгалыч*; насякомыя — *шасціногія*; дзікабраз — *іглак*; апосум — *торбашчур*; цыклоп — *аднавок*; даўганосікі — *слонікі*; сабака лугавы — *брахунчык*; браняносец — *панцырнік*; хордавыя — *струннікі*; кітападобныя — *рыбазверы*; шчаўкуны — *кавалі*; камышніца — *зялёнаножка*; барадач — *ягнятнік*; інфузорыя-туфелька — *пантофлік*; райская птушка — *райптушка*; капусніца — *бялян*; каменаточцы — *скалаточ*; алень паўночны — *рагаль*.

**Заданне 16.** 🕮 *У 1930 г. у газеце «Савецкая Беларусь» быў надрукаваны артыкул беларускага мовазнаўцы Я. Мацюкевіча, прысвечаны крытычнаму аналізу асобных беларускіх тэрмінаў 1920-х гг. Прааналізуйце пераклад на беларускую мову прыведзеных грамадазнаўчых тэрмінаў і адкажыце на пытанне: ці можна пагадзіцца з Я. Мацюкевічам, што ўсе новаўтвораныя беларускія тэрміны — няўдалыя? Меркаванне абгрунтуйце.*

| | | | |
|---|---|---|---|
| автократ | самаўладца | ассимиляция | прыпадабленне |
| автономия | самаўрад | ассоциация | злучнасць |
| аграрии | абшарнікі | баллотировка | лёсы |
| агрессивная политика | зачэпная палітыка | биржа | гелда |
| агрикультура | рольніцтва | гарантия | забяспека |
| администратор | упраўнік | гинекратия | жонаўладдзе |
| анархический | бязурадны | иммиграция | усяленне |
| анимизм | удухаўленне | иммунитет | непаручнасць, незачэпнасць |
| антимилитаризм | супраць-ваяўлівасць | война междуусобная | вайна дамовая |
| антропоморфизм | учалавечванне | война наступательная | вайна зачэпная |
| аристократический | можнаўладны | космополит | сусветнік |
| территориальная армия | краёвая армія | протекционизм | апекаванне |

**Заданне 17.** *Запішыце тэрміны. Вызначце, якім спосабам яны ўтвораны.*

🕮 Дзеянне вучэбнае, капітал, матэрыяльныя фактары, надбудова, завяшчанне, забастоўка, бяздомнасць, безнаяўны, біржа валютная, дзяржава, дума, выхаванне, механічная залежнасць, матывіроўка, адчужэнне, афіцыёзны, плата, прамысловасць, антыфеадальны, двухпартыйны.

🖮 Аднамерны, пакрыццё палімернае, праектыўнасць, праекцыя, рэгрэсійны, выпраменьванне, затуханне, зона парабалічная, інтэрферометр, зондавы, раўнабочны, міграцыя, паверхня, бездыфузійны, бязгазавы, біном, конус, магніевы, множнік, ступеняваць.

✿ Расада, пестыцыд, тварожысты, тазасцегнавы, чаранок, актыватар, актыніі, апладненне ізагамнае, вальвокс, вазаматор, дэфект, безбялковы, ізатанічны, пялёстак дольчаты, экстракт, покрыва, поласць, прамень, лугазнаўства, рэдзькападобны.

**Заданне 18.** *З дапамогай руска-беларускага слоўніка перакладзіце тэкст на беларускую мову, тэрміны падкрэсліце.*

🕮 Традиционные занятия белорусов — земледелие, животноводство, а также пчеловодство, собирательство. Белорусы выращивали озимую рожь, пшеницу, гречиху, ячмень, горох, лен, просо, картофель. В огородах сажали капусту, свеклу, огурцы, лук, чеснок, редьку, морковь. В садах — яблони, груши, вишни, сливы, ягодные кустарники (крыжовник, смородину, ежевику, малину и др.). Господствующей системой землепользования в начале XX века было трехполье, у малоземельных — двухполье. Основные пахотные орудия — соха (полесская, или литовская, витебская, или «перекладка», поднепровская). Использовали также рало, сошку. Для боронования применялась плетеная или вязаная борона и более архаичная борона-суковатка, смык. С конца XIX века появились железные плуг и борона. Орудия уборки урожая — серпы, косы, вилы, грабли. Зерно сушили в срубных помещениях — осетях или евнях. Для обмолота использовали цеп, валек, круглую колоду. Зерно хранили в амбарах и клетях, картофель — в истопках и погребах, склепах (*Народы и религии мира*).

🖮 Математика в системе человеческих знаний — это раздел, занимающийся такими понятиями, как количество, структура, соотношение и т. п. Развитие математики началось с создания практических искусств счета и измерения линий, поверхностей и объемов. Понятие о натуральных числах формировалось постепенно и осложнялось неумением первобытного человека отделять числовую

абстракцию от ее конкретного представления. Вследствие этого счет долгое время оставался только вещественным — использовались пальцы, камешки, пометки. С распространением счета на большие количества появилась идея считать не только единицами, но и пакетами единиц, содержащими, например, 10 объектов. Эта идея немедленно отразилась в языке, а затем и в письменности (*Википедия*).

❁ Археспорий — образовательная ткань (меристема) в молодых, развивающихся спорангиях мхов, плаунов, хвощей, папоротников, а также в микроспорангиях и в макроспорангиях семенных растений, дальнейшие деления которой приводят к образованию спор. Первичный археспорий возникает на ранних стадиях развития спорангия. Последующими делениями клеток образуется спорогенная ткань, или материнские клетки спор, которые непосредственно образуют споры в результате мейоза. У мхов, хвощей и др. споровых растений археспорий всегда многоклеточный, продуцирующий споры в большом количестве. У семенных растений археспорий может быть одно- и многоклеточным (*Биологический энциклопедический словарь*).

**Заданне 19.** *На прапанаваныя словы распрацуйце слоўнікавыя артыкулы для энцыклапедычнага, тэрміналагічнага тлумачальнага і тэрміналагічнага перакладнога (беларуска-рускага) слоўнікаў.*

🕮 Лагапедыя, методыка выкладання, школа агульнаадукацыйная, рэцэптар.

🖩 Формула, вектар, ураўненне, шчыльнасць.

❁ Макрафагі, савана, фаланга, бяззубкі.

Раздзел 3

# ФУНКЦЫЯНАВАННЕ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ВА ЎМОВАХ БІЛІНГВІЗМУ

## 3.1. ПАНЯЦЦЕ БІЛІНГВІЗМУ. МОЎНАЯ ІНТЭРФЕРЭНЦЫЯ

↬ Білінгвізм (*bilingualism* — лац. *bi* 'два' + *linqua* 'мова') — двухмоўе, валоданне адной і той жа асобай або калектывам дзвюма рознымі мовамі ці дыялектамі пэўнай мовы. Прынята адрозніваць некалькі відаў білінгвізму:

➢ у залежнасці ад колькасці білінгваў:

✓ ***індывідуальны*** (уласцівы асобным членам грамадства);

✓ ***калектыўны*** (характэрны цэлым групам людзей);

➢ у залежнасці ад умоў узнікнення:

✓ ***натуральны*** (авалоданне абедзвюма мовамі адбываецца адначасова);

✓ ***штучны*** (авалоданне другой мовай адбываецца па меры неабходнасці пасля засваення роднай мовы);

➢ у залежнасці ад ступені роднасці моў:

✓ ***блізкародпасны*** (напрыклад, беларуска-рускі білінгвізм);

✓ ***неблізкародпасны*** (беларуска-англійскі, руска-фінскі і інш.);

➢ у залежнасці ад асаблівасцей мыслення білінгваў:

✓ ***прапарцыйны*** (чалавек у роўнай ступені валодае дзвюма мовамі);

✓ ***непрапарцыйны*** (білінгв спачатку стварае канструкцыі на роднай мове, а пасля перакладае іх на іншую мову);

➢ у залежнасці ад ступені засваення няроднай мовы:

✓ ***рэцэптыўны*** (чалавек толькі ўспрымае тэкст на няроднай мове);

✓ ***рэпрадуктыўны*** (білінгв успрымае тэксты на няроднай мове і можа ўзнаўляць прачытанае або пачутае);

✓ ***прадуктыўны*** (чалавек успрымае тэксты на няроднай мове, здольны ўзнаўляць прачытанае або пачутае і можа сам ствараць тэксты).

Як правіла, білінгвізм узнікае гістарычна ў выніку заваяванняў, мірных перасяленняў народаў і кантактаў паміж суседнімі разнамоўнымі групамі.

Пры сутыкненні дзвюх моў у сітуацыі білінгвізму адна мова можа поўнасцю выцесніць іншую (напрыклад, іспанская і партугальская мовы выцеснілі індзейскія мовы ў Лацінскай Амерыцы) або на іх базе можа ўтварыцца новая, змешаная мова (напрыклад, французская мова, якая ўзнікла з лацінскай і мясцовых кельцкіх дыялектаў) ці абедзве мовы могуць зазнаць пэўныя змены на розных узроўнях моўнай структуры:

✓ ***фаналагічным*** — змены ў вымаўленні (напрыклад, асецінская мова, якая адносіцца да групы іранскіх моў, засвоіла фанетычныя асаблівасці суседніх дагестанскіх моў);

✓ ***граматычным*** — запазычванне і калькаванне граматычных з'яў (напрыклад, руская мова запазычыла граматычную катэгорыю дзеепрыметніка са стараславянскай мовы);

✓ ***лексічным*** — запазычванне слоў (напрыклад, англійская мова запазычыла французскую лексіку ў перыяд, калі французская мова была дзяржаўнай мовай у Англіі).

Паводле апошніх звестках, каля 70% насельніцтва Зямлі ў той ці іншай ступені валодаюць дзвюма і больш мовамі.

➭ **Інтэрферэнцыя** — узаемадзеянне моўных сістэм ва ўмовах білінгвізму. Гэтае ўзаемадзеянне складваецца або пры моўных кантактах, або пры індывідуальным засваенні няроднай мовы.

Галоўная прычына інтэрферэнцыі — разыходжанні ў сістэмах моў, якія ўзаемадзейнічаюць: розны фанемны склад, розныя правілы вымаўлення, розная інтанацыя, націск, розны набор граматычных катэгорый або розныя спосабы іх выражэння.

Інтэрферэнцыя выражаецца ў адхіленні ад устаноўленых нормаў маўлення кантактуючых моў і можа праяўляцца на ўсіх узроўнях моўнай сістэмы:

✓ ***фаналагічным*** (рус. *гриб*, *счастье* — бел. *грыб*, *шчасце*);

✓ ***лексічным*** (рус. *краска* 'тое, што надае пэўны колер, фарба' — бел. *краска* 'палявая кветка');

✓ ***граматычным*** (рус. *благодарил друга* (Р.с.) — бел. *дзякаваў сябру* (Д. с.);

✓ ***словаўтваральным*** (рус. *котёнок* — бел. *кацяня*);

✓ ***графічным*** (напісанне *и* замест *і*).

Ступень інтэрферэнцыі залежыць ад многіх фактараў. У першую чаргу, варта адзначыць прыналежнасць моў да адной або розных моўных сем'яў (груп). Напрыклад, беларуская і руская мовы — індаеўрапейская сям'я моў, славянская група, усходнеславянская падгрупа. Калі моўныя элементы адной сістэмы ў цэлым падобныя да элементаў другой і маюць нязначныя разыходжанні на моўных

узроўнях, то менавіта гэтыя разыходжанні і будуць асноўнай глебай для з'яўлення інтэрферэнцыі. Тоесныя моўныя элементы, правілы, заканамернасці і нормы не выклікаюць інтэрферэнцыю, паколькі яны не ўступаюць у супярэчнасці.

Канкрэтныя вынікі інтэрферэнцыі абумоўлены таксама сацыяльнымі этналінгвістычнымі ўмовамі ўзаемадзеяння (нацыянальны і этнічны склад моўнага рэгіёна, колькасць дыялектаў, узроставы склад двухмоўнага насельніцтва, а таксама яго адукацыйны цэнз, ступень валодання роднай і нероднай мовамі і інш).

### ⌛ Пытанні для самакантролю

1. Што такое білінгвізм?
2. Якія адрозніваюць віды білінгвізму?
3. Што называецца моўнай інтэрферэнцыяй?
4. На якіх моўных узроўнях можа праяўляцца інтэрферэнцыя?
5. Ад якіх фактараў залежыць ступень інтэрферэнцыі?

## 3.2. ПАНЯЦЦЕ МОЎНАЙ НОРМЫ

Асноўнай прыметай літаратурнай мовы з'яўляецца яе **нарматыўнасць.**

Нормамі літаратурнай мовы называюцца прынятыя, агульнапрызнаныя і замацаваныя ў моўнай практыцы правілы вымаўлення, словаўжывання, форма- і словаўтварэння, напісання. Афіцыйнае прызнанне нормы называецца **кадыфікацыяй**, г. зн. норма фіксуецца ў граматыках, даведніках і слоўніках.

Беларуская літаратурная мова мае свае арфаграфічныя, арфаэпічныя, граматычныя, словаўтваральныя, лексічныя, фразеалагічныя, пунктуацыйныя і стылістычныя нормы.

✓ ***Арфаграфічныя нормы*** патрабуюць аднастайнага напісання ў адпаведнасці з устаноўленымі правіламі. Гэтыя нормы ўласцівыя пісьмовай мове і рэгламентуюцца ўзаконеным правапісам. Парушэнне арфаграфічных нормаў найчасцей абумоўлена ўздзеяннем родnasных моў, дыялектаў (гаворак), а таксама ўплывам вымаўлення.

✓ ***Арфаэпічныя нормы*** патрабуюць адзінага вымаўлення галосных і зычных гукаў, іх спалучэнняў у словах і словазлучэннях. Арфаэпічныя нормы ўласцівыя вуснай форме літаратурнай мовы і рэгламентуюцца правіламі беларускага вымаўлення. Арфаэпічныя нормы дапаўняюцца ***акцэнталагічнымі***, якія прадугледжваюць правільную пастаноўку націску ў словах.

✓ ***Граматычныя*** (марфалагічныя і сінтаксічныя) ***нормы*** патрабуюць правільнага ўжывання формаў слова і спалучэння слоў у словазлучэннях, г. зн. яны рэгулююць выкарыстанне зменных часцін мовы, граматычную сувязь слоў у прыназоўнікавых і беспрыназоўнікавых канструкцыях, замацоўваюць правільныя формы дапасавання і кіравання.

✓ ***Словаўтваральныя нормы*** рэгулююць выбар словаўтваральных сродкаў, іх размяшчэнне і спалучэнне ў складзе новага слова, патрабуюць выкарыстання толькі адпаведных мадэляў і тыпаў пры словаўтварэнні.

✓ ***Лексічныя нормы*** патрабуюць правільнага ўжывання слоў у адпаведнасці з іх значэннем.

✓ ***Фразеалагічныя нормы*** рэгулююць традыцыйнае, замацаванае практыкай ужыванне фразеалагізмаў. Пры гэтым абавязкова ўлічваюцца структурна-граматычныя, семантычныя і спалучальныя асаблівасці фразеалагізмаў.

✓ ***Пунктуацыйныя нормы*** патрабуюць правільнай пастаноўкі знакаў прыпынку.

✓ ***Стылістычныя нормы*** прадугледжваюць правільнае ўжыванне моўных сродкаў у адпаведнасці з выбраным тыпам і стылем маўлення, а таксама канкрэтнай моўнай сітуацыяй.

Важна памятаць, што паняцце нормы ў некаторых выпадках не выключае варыянтнасці. Наяўнасць варыянтаў адлюстроўвае змены, якія пастаянна адбываюцца ў мове, і паказвае на працэс станаўлення моўных адзінак.

## ⌛ Пытанні для самакантролю

1. Што такое кадыфікацыя?
2. Якія віды моўных нормаў вылучаюцца ў беларускай літаратурнай мове?
3. Што такое арфаграфічныя нормы? Чым рэгламентуюцца арфа-графічныя нормы?
4. Якія нормы рэгулююць правільнае вымаўленне гукаў і іх спалучэнняў?
5. Што прадугледжваюць акцэнталагічныя нормы?
6. У чым выяўляецца асаблівасць граматычных нормаў?
7. Што рэгулююць словаўтваральныя нормы?
8. Якія нормы патрабуюць правільнай пастаноўкі знакаў прыпынку?
9. У чым выяўляецца асаблівасць лексічных і фразеалагічных нормаў?
10. Што рэгулююць стылістычныя нормы?

## 3.3. АРФАЭПІЧНЫЯ НОРМЫ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ

✎ У беларускай літаратурнай мове ў адных выпадках напісанне адпавядае вымаўленню, а ў другіх вымаўленне не супадае з напісаннем.

Існуюць адзіныя, абавязковыя для ўсіх носьбітаў мовы нормы літаратурнага вымаўлення.

1. Поўнае **аканне** — супадзенне ненаціскных галосных **[о]**, **[э]** ў гуку **[а]**. Галосныя **[о]**, **[э]** пасля цвёрдых і зацвярдзелых зычных ва ўсіх ненаціскных складах вымаўляюцца як **[а]**: *моладзь — малады*, *цэгла — цагляны*. У адрозненне ад рускай мовы, аканне ў беларускай мове перадаецца на пісьме. Аднак у большасці запазычаных слоў ненаціскное э захоўваецца: *дэпазіт*, *рэсурс* (але: *рамонт*, *адрас*, *харатар*, *літаратура* і інш.)

2. Няпоўнае **яканне** — супадзенне **[о]**, **[э]** пасля мяккіх зычных у першым складзе перад націскам у гуку **[а]**, што на пісьме абазначаецца літарай **я**: *вецер — вятры*, *лес — ляснік*, *светлы — святлець*, *месца — мясціна*. У іншых ненаціскных складах вымаўляецца гук **[э]**, што на пісьме перадаецца літарай **е**: *хлопец*, *восень*, *зеленаваты*. Яканню падлягае і вымаўленне службовых слоў у спалучэнні з самастойнымі часцінамі мовы (адно фанетычнае слова): *[н’а быў]*, *[б’асноў]*. Аднак на пісьме гэтая з’ява не перадаецца. Яканне не пашыраецца на большасць слоў неславянскага паходжання: *метро*, *сегмент, генетыка*.

3. Ненаціскны гук **[і]** ў пачатку слоў змяняецца на **[й]**, калі папярэдняе слова заканчваецца на галосны, і на **[ы]**, калі на зычны: *на* [й] *грышчы*, *сястра [й] брат*, *ён [ы]шоў*, *стол [ы] крэсла*. Пасля **[г]**, **[к]**, **[х]** змена **[і]** на **[ы]** не адбываецца: *Мінск і Гродна*.

4. Гук **[г]** — фрыкатыўны, працяжны. У нешматлікіх запазычаных словах ён выбухны: *ганак*, *гузік*, *гонта*, *гуз*, *гарнец*, *мазгі*, *швагер*. Перад звонкімі зычнымі ў сярэдзіне многіх слоў, найчасцей запазычаных, глухі **[к]** вымаўляецца як выбухны **[г]**: *ане[г]дот*, *ва[г]зал*, *э[г]замен*, *э[г]зотыка*.

5. Звонкія зычныя на канцы слоў і перад глухімі ў сярэдзіне слова вымаўляюцца як адпаведныя глухія: *сувя[с’]* (*сувязь*), *дахо[т]* (*даход*), *на[т]косніца* (*надкосніца*), *сту[ш]ка* (*стужка*). Глухія перад звонкімі змяняюцца на звонкія: *бара[дз’]ба* (*барацьба*), *про[з’]ба* (*просьба*), *фу[д]бол* (*футбол*).

6. Шыпячыя перад свісцячымі вымаўляюцца як свісцячыя, а свісцячыя перад шыпячымі — як шыпячыя: *[шч]ытаць* (*счытаць*),

*на до[сц]ы* (*на дошцы*), *збірае[сс]я* (*збіраешся*), *перапі[шч]ык* (*перапісчык*), *пя[шч]аны* (*пясчаны*).

7. Свісцячыя **[з]**, **[с]**, **[дз]**, **[ц]** перад мяккімі, акрамя **[г']**, **[к']**, **[х']**, вымаўляюцца мякка: *[с']вятло*, *[дз']веры*, *[ц']вік*, *[з']вінець*. Такое памякчэнне зычных распаўсюджваецца і на прыназоўнікі: *[з'] людзьмі*, *[б'аз']літасці*, акрамя прыназоўнікаў *праз* і *цераз*: *праз цябе*, *цераз лес*. **Але**: *[с]хема*, *[с]кепсіс*, *[з]гіб*.

8. Вымаўленне некаторых спалучэнняў гукаў не супадае з напісаннем:

✓ **[дч]**, **[тч]** вымаўляюцца як падоўжаны гук **[ч]**: *перaплё[чч]ык* (*пераплётчык*), *дара[чч]ык* (*дарадчык*);

✓ **[дц]**, **[тц]** вымаўляюцца як падоўжаны гук **[ц]**: *у пала[цц]ы* (*у палатцы*), *а[цц]ягваць* (*адцягваць*);

✓ **[дс]**, **[тс]** вымаўляюцца як гук **[ц]**: *грама[ц]кі* (*грамадскі*), *спар[ц]мен* (*спартсмен*);

✓ спалучэнні **[жс]**, **[шс]** паміж галоснымі вымаўляюцца як падоўжаны гук **[с]**, а паміж галосным і зычным — як адзін гук **[с]**: *вучы[сс]я* (*вучышся*), *белаве[с]кі* (*белавежскі*);

✓ спалучэнне **[чн]** вымаўляецца нязменна: *ру[чн]ік*, *яе[чн]я*, *мало[чн]ы* (параўн. рус.: *молочный* — *моло[шн]ый*).

☞ Усе пазіцыйныя чаргаванні падпарадкоўваюцца асноўным фанетычным законам беларускай літаратурнай мовы, што і вызначае яе спецыфіку ў параўнанні з рускай мовай. Для сучаснай беларускай мовы яны наступныя:

1. **Аканне і яканне**. У ненаціскным становішчы пасля цвёрдых зычных **[о]**, **[э]** змяняюцца на **[а]**: *мет[о]дыка* — *мет[а]дычны*, *ац[э]нка* — *ац[а]ніць*. Пасля мяккіх зычных чаргаванне адбываецца толькі ў першым складзе перад націскам: *[в'э]ды* — *[в'а]домы*, *[дз'э]ці* — *[дз'а]цінства*.

2. **Прыстаўныя галосныя**. Прыстаўныя **[і]**, **[а]** з'яўляюцца перад збегам зычных у словах, якія пачынаюцца з санорных **[м]**, **[л]**, **[р]**: *імгненне*, *амшара*, *ільгота*, *іржа*, *аржаны*. У моўнай плыні прыстаўныя галосныя знікаюць, калі папярэдняе слова заканчваецца на галосны гук: *шмат ільну* — *многа льну*, *пад ільдзінай* — *вялікая льдзіна*. Не ўжываюцца прыстаўныя галосныя перад спалучэннямі зычных пасля прыставак на галосны і ў складаных словах, калі першая частка складанага слова заканчваеццца галосным: *зардзецца*, *вокамгненна*, *абыржавець*.

3. У беларускай мове, у адрозненне ад рускай, найбольш пашыраны словы з **поўнагалоснымі** спалучэннямі: *серада*, *сорам*, *вораг*, *палон*, *салодкі*, *галоўны*, *сярэдні*, *узнагарода*, *скарачэнне* (параўн.

рус. *среда*, *срам*, *враг*, *плен*, *сладкий*, *главный*, *средний*, *награда*, *сокращение*).

4. **Зацвярдзелыя зычныя [ж], [ш], [ч], [дж], [р], [ц]**: *чытанне*, *рэжым*, *цацка*, *каледж*, *шэфства*. У рускай мове ўжываецца як цвёрды гук **[р]**, так і мяккі **[р']**: *развитие*, *рассказ*, *режим*, *реакция*; гук **[ч']** заўсёды мяккі: *человечность*, *чтение*, *чувство*.

5. **Цвёрдыя губныя** зычныя на канцы слова, а таксама перад **[j]**: *сем*, *сорам*, *дроб*, *россып*, *б'е* і пад.

6. **Дзеканне** — змена гука **[д]** пры змякчэнні на **[дз']**: *даход — аб даходзе*, *два — дзве*; **цеканне** — змена гука **[т]** пры змякчэнні на **[ц']**: *попыт — аб попыце*.

7. У беларускай мове шэсць **афрыкат** (злітных, непадзельных гукаў) — **[дж], [дз'], [дз], [ц], [ц'], [ч]**: *бюджэт*, *дзейнасць*, *пэндзаль*, *лекцыя*, *памяць*, *вучань*, а ў рускай толькі дзве — **[ц]** і **[ч']**.

8. Гукі **[г]**, **[г']** у беларускай мове **фрыкатыўныя**: *готыка*, *градус*, *гімнаст*, *цагельня*. Выбухны **[г]**, тыповы для рускай мовы, вымаўляецца толькі ў некаторых запазычаных словах: *газа*, *гонта*, *ганак*, *гвалт*.

9. Беларускай мове ўласцівы гук **[ў]** (у нескладовы), які паходзіць з гукаў **[у], [л], [в]**: *урок — на ўроку*, *слава — слаўны*, *вучыла — вучыў*.

10. **Падаўжэнне зычных гукаў**. Зычныя **[ж], [з'], [дз'], [л'], [н'], [с'], [ц'], [ч], [ш]** падаўжаюцца ў пазіцыі паміж двума галоснымі гукамі: *збожжа*, *рыззё*, *асяроддзе*, *ралля*, *абагульненне*, *калоссе*, *пачуцці*, *ноччу*, *мышшу*.

11. **Прыстаўныя зычныя [в], [г], [j]**. Прыстаўны **[в]** узнікае перад націскнымі галоснымі **[о]**, **[у]** у пачатку слова (*возера*, *вобыск*, *вугаль*) і не развіваецца перад прэфіксальным **[у]** (*ураджай*, *указ*), перад **[у]**, што паходзіць з **[в]** (*урач*, *улада*), а таксама ў словах неславянскага паходжання (*опера*, *універсітэт*). Прыстаўны **[г]** ужываецца ў асобных словах: *гэй*, *гоп*, *гэты*, *гэтулькі*, *гэта*, *Ганна*. Прыстаўны **[j]** узнікае перад націскным **[і]**, які пачынае слова: *[jі]ншы*, *[jі]хні*. Не развіваецца прыстаўны перад **[і]** у словах неславянскага паходжання і ў словах з прыстаўным **[і]**: *інстытут*, *інтэлект*, *ільдзіна* і пад.

## Пытанні для самакантролю

1. У чым сутнасць беларускага акання і якання?
2. На якія словы ў беларускай мове не пашыраецца аканне і яканне?
3. Як вымаўляецца ненаціскны гук **[і]** у пачатку слова?
4. У чым спецыфіка вымаўлення гука **[г]** у беларускай мове?

5. Як вымаўляюцца звонкія зычныя на канцы слова і перад глухімі?

6. Што такое асіміляцыя па звонкасці?

7. Пры якой умове адбываецца асіміляцыя па мяккасці?

8. Як вымаўляюцца свісцячыя перад шыпячымі і шыпячыя перад свісцячымі?

9. У чым сутнасць вымаўлення спалучэнняў зычных **[дц]**, **[тц]**, **[дч]**, **[тч]**?

10. Як вымаўляюцца ў беларускай мове спалучэнні зычных **[дс]**, **[жс]**, **[шс]**?

11. У чым спецыфіка вымаўлення спалучэння **[чн]** у беларускай мове?

12. Якія фанетычныя законы дзейнічаюць у беларускай мове?

## 3.4. МАРФАЛАГІЧНЫЯ НОРМЫ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ. НАЗОЎНІК

**Назоўнік** — самастойная часціна мовы, якая аб'ядноўвае словы са значэннем прадметнасці і мае самастойныя граматычныя катэгорыі роду, ліку і склону. Назоўнікі могуць абазначаць:

✓ назвы прадметаў: *сшытак*, *стол*, *кніга*;
✓ назвы асоб: *настаўнік*, *студэнт*, *сястра*;
✓ жывых істот: *пчала*, *вавёрка*, *ластаўка*;
✓ з'явы прыроды: *вецер*, *адліга*, *маланка*;
✓ апрадмечаныя дзеянні: *чытанне*, *хадзьба*, *праца*;
✓ апрадмечаныя прыметы: *цеплыня*, *весялосць*, *шчасце*;
✓ апрадмечаныя лікі: *двойка*, *пяцёрка*, *сотня*.

➢ Большасць назоўнікаў беларускай мовы мае формы ***адзіночнага*** і ***множнага ліку***, якія адрозніваюцца канчаткамі: *зямля — землі*, *кніга — кнігі*, у некаторых назоўніках — асновамі: *чалавек — людзі*. Для нескланяльных назоўнікаў паказчыкам формы ліку з'яўляецца канчатак дапасаванага слова: *чыгуначнае дэпо — чыгуначныя дэпо*, *канструктарскае бюро — канструктарскія бюро*. Ёсць назоўнікі, якія па ліках не змяняюцца: яны маюць толькі форму адзіночнага ліку (***адзіночналікавыя***) або множнага ліку (***множналікавыя***). Таму пры вызначэнні катэгорыі ліку трэба адрозніваць назоўнікі, якія маюць адзіночны і множны лік, і зборныя назоўнікі, якія маюць толькі форму адзіночнага ліку: *маладыя лісты*, *засохлыя карані* (мн. л.) — *маладое лісце*, *засохлае карэнне* (адз. л., зборныя назоўнікі).

Трэба памятаць, што існуюць назоўнікі, катэгорыя ліку якіх у беларускай і рускай мовах не супадае. Такія словы неабходна запомніць (гл. *табліцу 6*).

*Табліца 6*

| Беларуская мова | Русский язык | Беларуская мова | Русский язык |
|---|---|---|---|
| чарніла (сіняе) | чернила (синие) | грудзі | грудь |
| бяліла | белила | двайняты | двойня |
| клопат | хлопоты | дзверы | дверь |
| змрок | сумерки | крупы | крупа |
| вотруб'е | отруби | каноплі | конопля |
| могілкі | кладбище | брусніцы | брусника |
| прыгаршчы | пригоршня | суніцы | земляника |
| паводзіны | поведение | маліны | малина |
| адносіны | отношение | журавіны | клюква |
| уводзіны | введение | клубніцы | клубника |
| уцёкі | бегство | чарніцы | черника |
| гародніна | овощи | садавіна | фрукты |

➢ Назоўнікі ў форме адзіночнага ліку адносяцца да аднаго з трох родаў: **мужчынскага**: *магутны дуб*, *звонкі голас*; **жаночага**: *прыгожая кветка*, *родная сястра*; **ніякага**: *цудоўнае падарожжа*, *глыбокае мора*. Па марфалагічных прыметах да **мужчынскага роду** адносяцца назоўнікі з нулявым канчаткам: *сын*, *дзень*, *выпадак*, а таксама невялікая група асабовых назоўнікаў з канчаткам ***-а* (*-я*)**: *бацька*, *дзядуля*, *мужчына*. Да **жаночага роду** адносяцца назоўнікі з канчаткам ***-а* (*-я*)** і з нулявым канчаткам: *вада*, *хваля*, *кроў*, *ноч*. Да **ніякага роду** адносяцца назоўнікі з канчаткамі ***-а* (*-я*), *-о* (*-ё*), *-е***: *акно*, *калоссе*, *жыццё*, назоўнікі на ***-мя***: *полымя*, *племя*, а таксама назоўнікі, якія абазначаюць назвы маладых істот: *дзіця* (*дзіцё*), *кацяня* (*кацянё*).

Ёсць шэраг назоўнікаў, якія могуць абазначаць асобу як мужчынскага, так і жаночага полу: *малайчына*, *гарэза*, *ціхоня*. Гэтыя назоўнікі адносяцца да **агульнага роду**. Пры абазначэнні асоб жаночага полу яны спалучаюцца з прыметнікамі жаночага роду і скланяюцца, як назоўнікі жаночага роду: *малая ціхоня Таня*, *малой ціхоні Тані* і г. д. Пры абазначэнні асоб мужчынскага полу гэтыя назоўнікі спалучаюцца з прыметнікамі мужчынскага роду і скланяюцца як рознаскланяльныя назоўнікі: *малы ціхоня Ваня*, *малога ціхоні Вані*, *маламу ціхоню Ваню* і г. д.

Пры вызначэнні роду назоўнікаў цяжкасці могуць быць выкліканы дзвюма прычынамі:

✓ несупадзеннем назоўнікаў у катэгорыі роду ў беларускай і рускай мовах;

✓ іншамоўным паходжаннем нескланяльнага назоўніка.

Назоўнікі, якія адрозніваюцца катэгорыяй роду ў беларускай і рускай мовах, трэба ведаць і запомніць (гл. *табліцу 7*).

*Табліца 7*

| Беларуская мова | Русский язык |
|---|---|
| 1 | 2 |
| ***Мужчынскі род*** | ***Женский род*** |
| летапіс | летопись |
| запіс | запись |
| роспіс | роспись |
| подпіс | подпись |
| насып | насыпь |
| россып | россыпь |
| стэп | степь |
| пыл | пыль |
| цень | тень |
| гар | гарь |
| накіп | накипь |
| медаль | медаль |
| шаль | шаль |
| шынель | шинель |
| туфель | туфля |
| ***Мужчынскі род*** | ***Средний род*** |
| яблык | яблоко |
| капыт | копыто |
| успамін | воспоминание |
| ***Жаночы род*** | ***Мужской род*** |
| гусь | гусь |
| акруга | округ |
| прастора | простор |
| камода | комод |
| шафа | шкаф |
| пара | пар |
| ***Ніякі род*** | ***Мужской род*** |
| святло | свет |
| сцябло | стебель |
| жэрабя | жребий |
| пытанне | вопрос |

| 1 | 2 |
|---|---|
| ***Ніякі род*** | ***Женский род*** |
| брыво<br>жыццё | бровь<br>жизнь |
| ***Мужчынскі род*** | ***Женский род*** |
| боль<br>жаль<br>мазоль<br>продаж<br>прыбытак<br>пачак<br>дроб<br>вокіс<br>перакіс<br>рамонак<br>валяр'ян<br>палын<br>сабака<br>прыпынак<br>відэлец | боль<br>жаль<br>мозоль<br>продажа<br>прибыль<br>пачка<br>дробь<br>окись<br>перекись<br>ромашка<br>валерьяна<br>полынь<br>собака<br>остановка<br>вилка |
| ***Жаночы род*** | ***Средний род*** |
| какава<br>большасць<br>бялізна | какао<br>большинство<br>белье |
| ***Жаночы род*** | ***Мужской род*** |
| півоня<br>вяргіня<br>таполя<br>шыпшына<br>падлога<br>кафля | пион<br>георгин<br>тополь<br>шиповник<br>пол<br>кафель |
| ***Ніякі род*** | ***Мужской род*** |
| кацяня<br>жарабя<br>шчаня | котенок<br>жеребенок<br>щенок |

Пры вызначэнні роду нескланяльных назоўнікаў іншамоўнага паходжання (за выключэннем геаграфічных назваў) пад увагу бярэцца лексічнае значэнне слова (гл. *табліцу 8*).

*Табліца 8*

| | |
|---|---|
| Мужчынскі род | а) назвы асоб мужчынскага полу: *месье, дэндзі, канферансье, аташэ*;<br>б) назвы жывых істот: *кенгуру, поні, фламінга, шымпанзэ, какаду* |
| Жаночы род | назвы асоб жаночага полу: *мадам, міс, лэдзі, фрэйлін* |
| Ніякі род | неадушаўлёныя назоўнікі: *бюро, метро, кафэ, кашнэ, пано, паліто* |

Аднак сустракаюцца нескланяльныя назоўнікі іншамоўнага паходжання, у якіх род вызначаецца па агульнай родавай назве: (вецер) *сірока, тарнада*, (сыр) *сулугуні* — мужчынскі род; (каўбаса) *салямі*, (капуста) *кальрабі, брокалі*, (рыба) *івасі*, (муха) *цэцэ* — жаночы род; (віно) *шарданэ, кіндзмараулі* — ніякі род.

Асноўным паказчыкам роду нескланяльнай геаграфічнай назвы таксама з'яўляецца агульны родавы назоўнік:

✓ *мужчынскі род* — (горад) *Сочы, Дэлі, Хельсінкі, Токіа*; (востраў) *Барнэа, Гаіці, Хакайда*;

✓ *жаночы род* — (дзяржава, краіна) *Перу, Нікарагуа*; (гара) *Кіліманджара*; (рака) *Місісіпі, Місуры*; (пустыня) *Гобі*;

✓ *ніякі род* — (возера) *Ківу, Антарыа*.

Род нескланяльных абрэвіятур вызначаецца па апорным слове: *ААН* (<u>*Арганізацыя*</u> *Аб'яднаных Нацый*) — жаночы род, *БДПУ* (*Беларускі дзяржаўны педагагічны* <u>*універсітэт*</u>), *выканкам* (*выканаўчы* <u>*камітэт*</u>) — мужчынскі род, *БелТА* (*Беларускае тэлеграфнае* <u>*агенцтва*</u>) — ніякі род.

Калі абрэвіятура скланяецца, яе род вызначаецца па асаблівасцях скланення: *ЛіМ* (газета «Літаратура і мастацтва»): *нумар ЛіМа, надрукавана ў ЛіМе* — мужчынскі род.

### 3.4.1. Асаблівасці скланення прозвішчаў, імёнаў і геаграфічных назваў

↳ Асаблівасці скланення ўласных імёнаў найперш абумоўлены тым, да якога тыпу скланення яны адносяцца. Так, жаночыя ўласныя імёны з канчаткам ***-а (-я)*** (*Алеся, Жэня, Тацяна, Яна*) скланяюцца як назоўнікі першага скланення: Р.с.: *Алесі, Жэні, Тацяны, Яны*; Д.с.: *Алесі, Жэні, Тацяне, Яне* і г. д. Мужчынскія ўласныя імёны з нулявым канчаткам (*Алесь, Віктар, Павел, Сяргей*) скланяюцца як назоўнікі другога скланення: Р.с.: *Алеся, Віктара, Паўла, Сяргея*; Д.с.: *Алесю, Віктару, Паўлу, Сяргею* і г. д. Уласныя мужчынскія імёны з канчат-

кам ***-а*** (***-я***) (*Кузьма*, *Жэня*, *Слава*) скланяюцца як рознаскланяльныя назоўнікі: у родным і вінавальным склонах яны маюць канчаткі першага скланення (*Кузьмы*, *Жэні*, *Славы*; *Кузьму*, *Жэню*, *Славу*), а ў давальным і месным склонах напісанне канчатка залежыць ад націску: пад націскам канчатак ***-е***, як у першым скланенні (*Кузьме*), не пад націскам канчатак ***-у*** (***-ю***), як у другім скланенні (*Алесю*, *Жэню*, *Славу*).

Асаблівасці скланення прозвішчаў абумоўлены іх будовай і паходжаннем.

☞ Ёсць прозвішчы, якія не скланяюцца:

✓ славянскія прозвішчы, якія заканчваюцца на ***-о*** націскное: *Гурло*, *Гайко*, *Лабко*, *Крамко*;

✓ іншамоўныя прозвішчы на галосны: *Дзідро*, *Гюго*, *Дзюма*;

✓ славянскія прозвішчы на зычны, калі абазначаюць асоб жаночага полу: *Андраюк Алена*, *Андраюк Алены*, *Андраюк Алене* і г. д.; калі прозвішча на зычны адносіцца да асобы мужчынскага полу, то скланяецца на ўзор агульных назоўнікаў другога скланення: *Міхась Харэвіч*, *Міхася Харэвіча*, *Міхасю Харэвічу* і г. д.;

✓ прозвішчы на ***-іх*** (***-ых***): *Чарных Насці*, *Андрэя*.

Прозвішчы на ***-а***, якія суадносяцца з назвамі прадметаў жаночага роду і маюць аснову на **[г]**, **[к]**, **[х]** і ненаціскны канчатак, скланяюцца наступным чынам:

✓мужчынскія прозвішчы скланяюцца на ўзор агульных назоўнікаў мужчынскага роду на ***-а*** з адпаведнай асновай: *Іван Сарока*, *Саладуха*; *Івана Сарокі*, *Саладухі*, *Івану Сароку*, *Саладуху*;

✓жаночыя прозвішчы скланяюцца на ўзор агульных назоўнікаў жаночага роду на ***-а*** з адпаведнай асновай: *Алена Сарока*, *Саладуха*; *Алены Сарокі*, *Саладухі*, *Алене Сароцы*, *Саладусе*.

Усе астатнія прозвішчы на ***-а*** (***-я***), якія суадносяцца з назвамі прадметаў жаночага роду, скланяюцца незалежна ад полу асобы на ўзор агульных назоўнікаў жаночага роду з адпаведным тыпам асновы: *Іван*, *Алена Пушча*, *Крапіва*; *Івана*, *Алены Пушчы*, *Крапівы*; *Івану*, *Алене Пушчы*, *Крапіве*.

Прозвішчы, якія не суадносяцца з назвамі прадметаў, скланяюцца толькі ў тым выпадку, каля яны ўказваюць на асобу мужчынскага полу: *Іван Карызна*, *Машара*; *Івана Карызны*, *Машары*, *Івану Карызну*, *Машару* і г. д. Калі такія прозвішчы адносяцца да жанчын, яны не скланяюцца: *Алена Карызна*, *Алены Карызна*, *Алене Карызна* і г. д.

Славянскія мужчынскія прозвішчы на ***-аў*** (***-оў***), ***-еў*** (***-ёў***), ***-ін*** (***-ын***), а таксама жаночыя на ***-ав***(***а***), ***-ов***(***а***), ***-ев***(***а***), ***-ёв***(***а***), ***-ін***(***а***), ***-ын***(***а***) змяняюцца паводле змешанага тыпу скланення, г. зн. маюць канчаткі

назоўнікаў мужчынскага або жаночага роду і прыметнікаў: *Андрэй Сакалоў, Фамін*; *Ірына Сакалова, Фаміна*; *Андрэя Сакалова, Фаміна, Ірыны Сакаловай, Фамінай* і г. д.

Прозвішчы, якія маюць форму прыметнікаў, а таксама прозвішчы на ***-ой***, набываюць канчаткі прыметнікаў: *Сяргей Пятроўскі, Лявіцкі, Крамской*; *Сяргея Пятроўскага, Лявіцкага, Крамскога* і г. д.

### ⌛ Пытанні для самакантролю

1. Што з'яўляецца паказчыкам формы ліку ў назоўніках?
2. На якія групы падзяляюцца назоўнікі ў залежнасці ад формаў ліку?
3. Што з'яўляецца паказчыкам ліку для нескланяльных назоўнікаў?
4. Як вызначаецца катэгорыя роду назоўнікаў?
5. Якія назоўнікі з'яўляюцца назоўнікамі агульнага роду?
6. Як вызначаецца род нескланяльных назоўнікаў іншамоўнага паходжання?
7. Што з'яўляецца асноўным паказчыкам роду нескланяльнай геаграфічнай назвы?
8. Як вызначаецца род нескланяльных абрэвіятур?
9. Як скланяюцца ўласныя імёны на ***-а*** (***-я***)?
10. Якія прозвішчы ў беларускай мове не скланяюцца?
11. У чым спецыфіка скланення прозвішчаў на ***-а*** (***-я***)?
12. Як скланяюцца славянскія мужчынскія прозвішчы на ***-аў*** (***-оў***), ***-еў*** (***-ёў***), ***-ін*** (***-ын***) і адпаведныя ім жаночыя на ***-ав*** (***а***), ***-ов*** (***а***), ***-ев*** (***а***), ***-ёв*** (***а***), ***-ін*** (***а***), ***-ын***(***а***)?

## 3.5. ПРЫМЕТНІК

**Прыметнік** — самастойная часціна мовы, якая мае абагульненае значэнне прыметы, характарызуецца граматычнымі катэгорыямі роду, ліку і склону, у сказе выконвае функцыю азначэння або выказніка. Граматычныя катэгорыі роду, ліку і склону ў прыметніка сінтаксічна залежныя ад назоўніка. Значэнне роду, ліку і склону прыметнікі выражаюць з дапамогай канчаткаў: *цікав**ая** кніга* (ж.р., адз.л., Н.скл.), *цікав**ую** кнігу* (ж.р., адз.л., В.скл.), *цікав**ыя** кнігі* (мн.л., Н.скл.).

Прыметы, якасці, уласцівасці, названыя якаснымі прыметнікамі, могуць праяўляцца з большай або меншай інтэнсіўнасцю. Якасныя прыметнікі могуць мець в ы ш э й ш у ю і н а й в ы ш э й ш у ю с т у п е н і п а р а ў н а н н я. Формы ступеняў параўнання бываюць простыя і складаныя.

✎ **Вышэйшая ступень параўнання** паказвае, што ў пэўным прадмеце якасці больш ці менш ў параўнанні з іншым прадметам. Утварэнне ***простай формы вышэйшай ступені параўнання*** адбываецца з дапамогай далучэння да асновы прыметніка суфікса ***-ейш-*** (***-эйш-***): *цёплы — цяплейшы*, *дарагі — даражэйшы*. Часам простая форма вышэйшай ступені параўнання ўтвараецца з дапамогай суфікса ***-ш-*** ад іншых асноў: *добры — лепшы*, *дрэнны — горшы*, *вялікі — большы*, *малы — меншы*. Калі ступень якасці паказана ў параўнанні з іншым прадметам, з'явай, асобай, то пры ўжыванні вышэйшай ступені параўнання выкарыстоўваецца канструкцыя '*назоўнік* (*займеннік*) *у вінавальным склоне* + *прыназоўнік* ***за***' або параўнальная канструкцыя са злучнікам *як*, *чым*: *брат вышэйшы за сястру* (*рус. брат выше сестры*), *яна старэйшая за яго* (*рус. она выше его*), *фільм цікавейшы*, *чым кніга (рус. фильм интереснее книги)*.

У рускай мове прыметнікі вышэйшай ступені параўнання — застылая, нязменная форма, якая граматычным складам не адрозніваецца ад прыслоўяў: *светлее*, *светлей*, *мудрее*, *мудрей*. Ужыванне ў беларускай літаратурнай мове формаў *лепей*, *ясней*, *весялей* як прыметнікаў — парушэнне літаратурнай нормы. Таму ў сказе тыпу *Летам дзень даўжэй за ноч* трэба выкарыстаць адпаведную форму прыметніка: *дзень даўжэйшы за ноч*.

Неабходна адрозніваць ужыванне прыметнікаў *старшы* і *старэйшы*. *Старшы* — 'які стаіць вышэй у параўнанні з кім-небудзь па званні, пасадзе і г. д.': *старшы лейтэнант*, *старшы навуковы супрацоўнік*. *Старэйшы* — 'якому больш гадоў у параўнанні з кім-небудзь': *старэйшы сын*.

***Складаная форма вышэйшай ступені параўнання*** з'яўляецца больш ужывальнай у параўнанні з простай. Яна ўтвараецца шляхам далучэння да прыметнікаў слоў *больш* (*болей*), *менш* (*меней*): *шырокі — больш* (*болей*) *шырокі*, *менш* (*меней*) *шырокі*.

✎ **Найвышэйшая ступень параўнання** паказвае, што пэўнай якасці ў прадмеце найбольш або найменш у параўнанні з усімі іншымі прадметамі. ***Простая форма найвышэйшай ступені параўнання*** утвараецца ад простай формы вышэйшай ступені з дапамогай прыстаўкі ***най-***: *найвышэйшы*, *найлягчэйшы*, *найлепшы*. У рэдкіх выпадках утварэнне адбываецца прыставачна-суфіксальным спосабам: *найвялікшы*, *найноўшы*.

***Складаная форма найвышэйшай ступені параўнання*** ўтвараецца далучэннем да якаснага прыметніка слова *самы* або слоў *найбольш* (*найболей*), *найменш* (*найменей*): *самы цяжкі*, *найбольш сціплы*, *найменш выразны*.

Для абазначэння гранічнай (самай высокай ці самай нізкай) ступені якасці прадмета без суаднясення з якасцю іншых прадметаў часам выкарыстоўваецца ***форма элятыва*** — простая форма вышэйшай ступені параўнання. Форма элятыва не характэрная для беларускай літаратурнай мовы, ужыванне яе — парушэнне нормы. У беларускай мове ёй адпавядаюць формы найвышэйшай ступені параўнання: *Мінск — самы прыгожы горад Еўропы, найстаражытнейшы горад* (параўн. рус. *Минск — красивейший город Европы, древнейший город*). Нярэдка памылковае ўжыванне ступеней параўнання прыметніка абумоўлена выкарыстаннем вышэйшай ступені параўнання замест найвышэйшай. Так, у сказе *Паступіць ва ўніверсітэт — мая важнейшая задача* вышэйшая ступень параўнання ўжыта няправільна. Тут патрэбная форма найвышэйшай ступені: *Паступіць ва ўніверсітэт — мая найважнейшая задача.* Ва ўстойлівых спалучэннях слоў накшталт *вышэйшая навучальная ўстанова, вышэйшыя органы ўлады* дапускаецца выкарыстанне формы элятыва.

↳ У беларускай мове не ўсе якасныя прыметнікі могуць утвараць ступені параўнання. Не ўтвараюць ніякіх ступеней параўнання прыметнікі, якія абазначаюць:

✓колеры, суадносныя з назвамі прадметаў: *бэзавы, вішнёвы, васількавы*;

✓масці жывёл: *буланы, вараны, гнядЫ*;

✓стан асобы ці жывой істоты: *хворы, жанаты*;

✓знешняя характарыстыка асобы ці жывой істоты: *лысы, барадаты, босы, русы.*

Не ўтвараюць формаў ступеней параўнання:

✓прыметнікі, якія з'яўляюцца якаснымі толькі ў пераносным значэнні: *жалезная воля, пшанічныя вусы*;

✓прыметнікі, якія ўжываюцца ва ўстойлівых спалучэннях са спецыялізаваным значэннем: *лёгкая атлетыка, цяжкая прамысловасць*;

✓складаныя якасныя прыметнікі: *шэравокі, чарнабровы, легкадумны.*

На здольнасць утвараць ступені параўнання ўплывае не толькі значэнне слова, але і яго структура.

Не ўтвараюць ступеней параўнання вытворныя прыметнікі з суфіксамі ацэнкі (памяншальна-ласкальнымі, павелічальна-ўзмацняльнымі, непаўнаты якасці), а таксама прыметнікі з суфіксамі ***-ав-, -іст-, -аўн-, -ат-, -к-***: *перадавы, смакаўны, ліпкі, шурпаты, зеленаваты.*

Толькі складаныя формы ступеней параўнання могуць мець:

✓ некаторыя невытворныя якасныя прыметнікі: *упарты*, *бадзёры*, *пануры*, *варожы*, *прыкры*, *хцівы*, *ліхі* і інш.;

✓ некаторыя вытворныя прыметнікі з суфіксамі:

✓✓ ***-н-***: *радасны*, *марозны*, *адважны*, *сумны*, *мірны* і інш.;

✓✓ ***-ічн-*** (***-ычн-***): *крытычны*, *гераічны*;

✓✓ ***-льн-***, ***-альн-***, ***-яльн-***: *спрыяльны*, *максімальны*;

✓✓ ***-ів-*** (***-ыв-***), ***-лів-***: *бурлівы*, *фальшывы*, *імклівы*;

✓✓ ***-ат-***, ***-іт-***, ***-авіт-***: *стракаты*, *хваравіты*;

✓✓ *-к-*, *-ск-*, *-цк-*: *вёрткі*, *гнуткі*, *геройскі*, *здрадніцкі*.

➯ **Прыналежныя прыметнікі** абазначаюць прыналежнасць прадметаў пэўнай асобе або жывой істоце: *бабуліна хата*, *Алёнчын сшытак*, *лісіная нара*. Усе прыналежныя прыметнікі ўтвораны ад асноў адушаўлёных назоўнікаў. Ад назоўнікаў мужчынскага роду ўтвараюцца прыналежныя прыметнікі з дапамогай суфіксаў ***-ов-*** (***-оў-***), ***-ёв-*** (***-ёў-***), ***-ав-*** (***-аў-***), ***-ев-*** (***-еў-***): *братава кніга*, *леснікова хата*, *Алесеў камп'ютар*, *Міхасёў сшытак*. Ад назоўнікаў жаночага роду ўтвараюцца прыналежныя прыметнікі з дапамогай суфіксаў ***-ін-***, ***-ын-***: *бабуліна казка*, *матчына ласка*, *сястрына лялька*. Калі аснова назоўніка заканчваецца на ***-к***, ***-х***, то перад суфіксамі ***-ін-***, ***-ын-*** адбываецца чаргаванне зычных [*к*] // [*ч*], [*х*] // [*ш*], [*г*] // [*з'*]: *вавёрчына дупло*, *краўчышына іголка*, *Вользіна паліто*. У назоўным склоне (а пры спалучэнні з неадушаўлёным назоўнікам і ў вінавальным) прыналежныя прыметнікі заўсёды стаяць у кароткай форме.

## ⌛ Пытанні для самакантролю

1. Якія граматычныя формы ўласцівыя прыметніку?
2. Якія прыметнікі ў беларускай мове маюць ступені параўнання?
3. Якія існуюць формы ступеняў параўнання?
4. На што ўказвае вышэйшая ступень параўнання?
5. Як утвараюцца простая і складаная формы вышэйшай ступені параўнання?
6. На што ўказвае найвышэйшая ступень параўнання?
7. Як утвараюцца простая і складаная формы найвышэйшай ступені параўнання?
8. Якая форма называецца элятывам?
9. Якія групы якасных прыметнікаў не маюць ступеней параўнання?
10. Якія якасныя прыметнікі маюць толькі складаныя формы ступеней параўнання?
11. Што абазначаюць прыналежныя прыметнікі?
12. Як утвараюцца прыналежныя прыметнікі?

## 3.6. ЗАЙМЕННІК

**Займеннік** — самастойная часціна мовы, якая паказвае на прадмет, прымету або колькасць, не называючы іх. Займеннік з'яўляецца іменнай часцінай мовы, таму што ўсе займеннікі змяняюцца па склонах. Займеннік *сябе* не мае формы назоўнага склону. Асабовыя займеннікі трэцяй асобы адзіночнага ліку маюць форму роду: *ён*, *яна*, *яно*. Займеннікі *я*, *ты*, *хто* (*нехта*, *хтосьці*, *ніхто*), *што* (*нешта*, *штосьці*, *нішто*) формаў роду не маюць. Займеннікі *сябе*, *хто* (*нехта*, *хтосьці*, *ніхто*), *што* (*нешта*, *штосьці*, *нішто*) па ліках не змяняюцца, а займеннікі *колькі*, *столькі*, *гэтулькі* маюць форму толькі множнага ліку.

Неабходна адрозніваць склонавыя формы зваротнага займенніка *сябе* і асабовага *цябе* (*ты*). Гэтыя формы ўжываюцца ў родным або вінавальным склонах і ўказваюць на аб'ект дзеяння, які супадае з суб'ектам: *перамагчы сябе*, *убачыць цябе*. У давальным склоне гэтыя займеннікі маюць форму *сабе*, *табе*: *сказаць табе*, *купіць сабе*.

Займеннікі *яго*, *іх* ужываюцца ў формах *ягоны*, *іхні*. Форма *ягоны* — размоўная і характэрная для гутарковага стылю, слова *іхні* — міжстылёвае.

Няпэўныя займеннікі на ***-сьці*** (*хтосьці*, *штосьці* і інш.) могуць ужывацца ў скарочанай форме (*хтось*, *штось*, *якісь*, *чыйсь*), якая ўласцівая для гутарковага і мастацкага стыляў. Няпэўныя займеннікі могуць мець іншыя афіксы: прыстаўку ***не-***: *нехта*, *нешта*; ***абы-***: *абы-хто*, *абы-які*; постфікс ***-небудзь***: *хто-небудзь*, *што-небудзь*, а таксама складаныя формы: *сякі-такі*, *хто-ніхто*, *які-ніякі*, *чый-нічый*, *сёй-той* і інш. У рускай мове ім адпавядаюць *кое-кто*, *кое-что*, *кое-какой*.

Неабходна адрозніваць ужыванне займеннікаў *сам* і *самы*. Займеннік *сам* (*-а*, *-о*) мае значэнне 'без чыёй-небудзь дапамогі, асабіста': *напісаў сам*, *прыйшоў сам дырэктар*. Ва ўскосных склонах гэты займеннік мае націск наканчатку: *само́га*, *само́му*, *самі́м*. Займеннік *самы* (*-ае*, *-ая*) указвае на мяжу распаўсюджання чаго-небудзь, вышэйшую ступень якасці: *працаваў з самай раніцы*, *самы лепшы студэнт*. Ва ўскосных склонах займенніка *са́мы* націск падае на аснову: *са́мага*, *са́маму*, *са́мым*.

Рускім адмоўным займеннікам *некого*, *нечего* (у рускай мове) адпавядаюць спалучэнні *няма каго*, *няма чаго* ў беларускай мове: *некого спросить — няма каго спытаць*, *нечего читать — няма чаго чытаць*.

Пры ўжыванні займенніка 3-й асобы (*ён*, *яна*, *яно*, *яны*) трэба сачыць, каб было зразумела, на якое слова ўказвае займеннік. Займеннік

павінен указваць на бліжэйшы да яго папярэдні назоўнік таго самага роду і ліку. Калі гэтая сувязь парушаецца, узнікае двухсэнсоўнасць, незразумеласць. Напрыклад, у сказе *Дзед убачыў ваўка, але ён не спалохаўся яго* займеннік *ён* павінен указваць на назоўнік *дзед*, аднак гэты займеннік ужыты пасля назоўніка *воўк*, таму сказ пабудаваны няправільна. Правільна будзе так: *Дзед убачыў ваўка, але не спалохаўся яго.*

### ⌛ Пытанні для самакантролю

1. Якімі граматычнымі катэгорыямі характарызуюцца займеннікі?
2. Якія асаблівасці склонавых формаў маюць зваротны займеннік *сябе* і асабовы займеннік *ты*?
3. У чым асаблівасці скланення азначальных займеннікаў *сам* і *самы*?
4. Што неабходна ўлічваць пры ўжыванні займеннікаў 3-й асобы?

## 3.7. ЛІЧЭБНІК

**Лічэбнік** — самастойная часціна мовы, якая абазначае лік, колькасць, сукупнасць і парадак пры лічэнні. Лічэбнікі *адзін*, *адна*, *адно*, *два*, *дзве* маюць катэгорыю роду. Катэгорыю ліку маюць толькі асобныя лічэбнікі: *адзін — адны*, *тысяча — тысячы*, *мільён — мільёны*. Усе лічэбнікі, акрамя *дзевяноста*, *паўтара*, *паўтары*, змяняюцца па склонах. Лічэбнікі *тысяча*, *мільён*, *мільярд* змяняюцца як назоўнікі адпаведнага тыпу скланення.

Лічэбнік *адзін* (*адна*, *адно*, *адны*) скланяецца на ўзор прыналежных прыметнікаў (гл. *табліцу 9*).

*Табліца 9*

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | адзін, адно | адна | адны |
| Р. | аднаго | адной (-ае) | адных |
| Д. | аднаму | адной | адным |
| В. | аднаго, адзін, адно | адну | адных, адны |
| Т. | адным | адной (-ою) | аднымі |
| М. | (у) адным | (у) адной | (у) адных |

Лічэбнікі *два*, *дзве* пры скланенні захоўваюць родавыя адрозненні; лічэбнікі *тры*, *чатыры* не маюць формы роду. Гэтыя лічэбнікі аб'ядноўвае тое, што ў творным склоне яны маюць форму на ***-ма*** (гл. *табліцу 10*).

*Табліца 10*

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | два | дзве | тры | чатыры |
| Р. | двух | дзвюх | трох | чатырох |
| Д. | двум | дзвюм | тром | чатыром |
| В. | як **Н.** ці **Р.** (неадуш. / адуш.) | | | |
| Т. | двума | дзвюма | трыма | чатырма |
| М. | (у) двух | (у) дзвюх | (у) трох | (у) чатырох |

Лічэбнікі ад *пяці* да *дваццаці* і лічэбнік *трыццаць* скланяюцца на ўзор назоўнікаў трэцяга скланення (гл. *табліцу 11*).

*Табліца 11*

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | пяць | сем | дваццаць |
| Р. | пяці | сямі | дваццаці |
| Д. | пяці | сямі | дваццаці |
| В. | пяць | сем | дваццаць |
| Т. | пяццю | сямю | дваццаццю |
| М. | (у) пяці | (у) сямі | (у) дваццаці |

У творным склоне ў лічэбніках на ***-ць*** адбываецца падаўжэнне: *пяццю*, *дзевяццю*; **але**: *шасцю*.

Лічэбнікі *сорак* і *сто* ва ўсіх склонах, акрамя назоўнага і вінавальнага, маюць канчатак ***-а***: *ста*, *сарака*.

У складаных колькасных лічэбніках ад *пяцідзесяці* да *васьмідзесяці* і ад *двухсот* да *дзевяцісот* пры скланенні змяняюцца абедзве часткі (гл. *табліцу 12*).

*Табліца 12*

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | пяцьдзясят | дзвесце | дзевяцьсот |
| Р. | пяцідзесяці | двухсот | дзевяцісот |
| Д. | пяцідзесяці | двумстам | дзевяцістам |
| В. | пяцьдясят | дзвесце | дзевяцьсот |
| Т. | пяццюдзесяццю | двумастамі | дзевяццюстамі |
| М. | (у) пяцідзесяці | (у) двухстах | (у) дзевяцістах |

Пры скланенні састаўных колькасных лічэбнікаў скланяецца кожнае слова (гл. *табліцу 13*).

*Табліца 13*

| | |
|---|---|
| Н. | пяцьсот шэсцьдзясят тры |
| Р. | пяцісот шасцідзесяці трох |
| Д. | пяцістам шасцідзесяці тром |
| В. | пяцьсот шэсцьдзясят тры |
| Т. | пяццюстамі шасцюдзесяццю трыма |
| М. | (у) пяцістах шасцідзесяці трох |

У дробавых лічэбніках часткі змяняюцца па-рознаму: лічнік дробу — як колькасны лічэбнік, назоўнік — як парадкавы: *чатыры цэлыя шэсць дзясятых*, *чатырох цэлых шасці дзясятых* і г. д.

Парадкавыя лічэбнікі дапасуюцца да назоўнікаў і скланяюцца на ўзор прыметнікаў, прычым у састаўных парадкавых лічэбніках змяняецца толькі апошняе слова, а ў складаных — апошняя частка: *двухмільённы*, *двухмільённага*; *дваццаць пяты*, *дваццаць пятага* і г. д.

Ужыванне лічэбнікаў з назоўнікамі ў беларускай мове мае некаторыя асаблівасці:

✓ пры лічэбніках *два* (*дзве*), *абодва* (*абедзве*), *тры*, *чатыры* назоўнікі ставяцца ў назоўным склоне множнага ліку: *чатыры сыны*, *тры кнігі*. Прыметнікі, дзеепрыметнікі і займеннікі, якія ўваходзяць у такія спалучэнні, таксама маюць форму назоўнага склону множнага ліку: *чатыры дарослыя сыны*, *тры прачытаныя кнігі* (параўн. рус.: *четыре взрослых сына*, *три прочитанные книги*);

✓ пры колькасных лічэбніках ад *пяці* і далей назоўнікі ставяцца ў родным склоне множнага ліку: *пяць сталоў*, *восем кіламетраў*, *дзесяць партаў*;

✓ пры зборных лічэбніках назоўнікі таксама ставяцца ў родным склоне множнага ліку: *двое хлапчукоў*, *чацвёра кацянят*, *пяцёра сутак*;

✓ лічэбнік *паўтара* ўжываецца з назоўнікамі мужчынскага і ніякага роду, *паўтары* — з назоўнікамі жаночага роду: *паўтара кіламетра*, *паўтара вядра*, *паўтары тоны*; ва ўскосных склонах, акрамя вінавальнага, пры гэтых лічэбніках назоўнікі ставяцца ў множным ліку: *у паўтары тонах*, *паўтара кіламетрамі*;

✓ пры абазначэнні адлегласці спалучэнне лічэбніка з назоўнікам ужываецца з прыназоўнікам *за*: *за пяць кіламетраў ад горада*, *за два крокі ад нас* (параўн. рус.: *в пяти километрах от города*, *в двух шагах от нас*);

✓ для выражэння прыблізнай колькасці ў беларускай мове выкарыстоўваюцца:

✓✓адваротны парадак слоў (*праехалі кіламетры чатыры*); прыназоўнікі *пад*, *з*, *за*, *каля* і форма склону лічэбніка (*яму пад сорак*, *прайшлі каля пятнаццаці метраў*);

✓✓два лічэбнікі (*за два-тры дні закончым працу*).

### ⌛ Пытанні для самакантролю

1. Якія лічэбнікі маюць катэгорыю роду?
2. Якія лічэбнікі маюць катэгорыю ліку?
3. Якія лічэбнікі не змяняюцца па склонах?
4. У чым асаблівасці скланення лічэбнікаў *адзін* (*адна*, *адно*, *адны*)?
5. Што агульнае назіраецца пры скланенні лічэбнікаў *два*, *дзве*, *тры*, *чатыры*?
6. Як скланяюцца лічэбнікі ад *пяці* да *дваццаці* і лічэбнік *трыццаць*?
7. У чым асаблівасці скланення складаных колькасных лічэбнікаў ад *пяцідзесяці* да *васьмідзесяці* і ад *двухсот* да *дзевяцісот*?
8. Як скланяюцца састаўныя колькасныя лічэбнікі?
9. Якія асаблівасці скланення маюць дробавыя лічэбнікі?
10. У чым спецыфіка скланення парадкавых лічэбнікаў?
11. Якія асаблівасці ўжывання лічэбнікаў з назоўнікамі ў беларускай мове?

## 3.8. ДЗЕЯСЛОЎ

**Дзеяслоў** — самастойная часціна мовы, якая абазначае дзеянне, працэс або стан. Дзеяслоў мае неспрагальныя і спрагальныя формы. **Неспрагальныя** — інфінітыў, дзеепрыметнік і дзеепрыслоўе. **Спрагальнымі** з'яўляюцца асабовыя дзеясловы, якія змяняюцца па асобах, ліках, часах, ладах. У прошлым часе і ва ўмоўным ладзе асабовыя дзеясловы змяняюцца па родах.

↳ Існуе два тыпы спражэння — **першае (I)** і **другое (II).** Вызначыць спражэнне можна двума спосабамі: па націскных асабовых канчатках трэцяй асобы множнага ліку або па інфінітыве. Да **першага спражэння** належаць дзеясловы, якія ў трэцяй асобе множнага ліку маюць канчаткі ***-уць*** **(*-юць*),** да **другога спражэння** — дзеясловы з канчаткамі — ***аць*** **(*-яць*).**

Аднак лепш вызначаць тып спражэння па інфінітыве, калі галосны канчатка знаходзіцца ў ненаціскным становішчы. **Да другога спражэння** адносяцца дзеясловы, формы інфінітыва якіх заканчваюцца на ***-ыць*** **(*-іць*)**, акрамя аднаскладовых дзеясловаў і вытворных ад іх

(*мыць*, *шыць*, *выць* і інш.), якія змяняюцца па ўзоры першага спражэння; формы інфінітыва на ***-эць*** (***-ець***), калі ***-э*** (***-е***) не ўзнаўляецца ў форме 1-й асобы адзіночнага ліку тыпу *гарэць*, *хварэць* (выключэнне: *хацець*), а таксама дзеясловы *гнаць*, *цярпець*, *вярцець*, *ненавідзець*, *залежаць*. Астатнія дзеясловы адносяцца да **першага спражэння**.

Кожнаму з гэтых тыпаў у цяперашнім (будучым простым) часе ўласцівы свае асабовыя канчаткі (гл. *табліцу 14*):

*Табліца 14*

| Лік | Асоба | І спражэнне | ІІ спражэнне |
|---|---|---|---|
| Адзіночны | 1 | -у (-ю) | -у (-ю) |
| | 2 | -еш (-эш, -аш) | -іш (-ыш) |
| | 3 | -е (-э, -а) | -іць (-ыць) |
| Множны | 1 | -ём (-ем, -ом, -ам) | -ім (-ым) |
| | 2 | -еце (-яце, -аце) | -іце (-ыце) |
| | 3 | -уць (-юць) | -аць (-яць) |

Асаблівай увагі патрабуюць наступныя формы:

✓1-й асобы множнага ліку, у якіх пад націскам ужываюцца канчаткі ***-ом*** (***-ём***), не пад націскам — ***-ам*** (***-ем***);

✓2-й асобы множнага ліку, дзе спачатку неабходна вызначыць месца націску па форме 3-й асобы множнага ліку; калі ў гэтай форме націск на аснове, то і ў 2-й асобе множнага ліку ён захаваецца на аснове: *хварэюць* — *хварэеце*; калі ж націск на канчатку, то ў 2-й асобе множнага ліку ён захаваецца на апошняй галоснай: *бяруць* — *берацe*, *вязуць* — *везяце*.

↳ **Рознаспрагальнымі** лічацца дзеясловы, якія маюць канчаткі розных тыпаў спражэння. У беларускай мове гэта дзеясловы *бегчы*, *есці*, *даць*. Яны спрагаюцца наступным чынам:

*Табліца 15*

| Лік | Асоба | Дзеяслоў | | |
|---|---|---|---|---|
| Адзіночны | 1 | бягу | ем | дам |
| | 2 | бяжыш | ясі | дасі |
| | 3 | бяжыць | есць | дасць |
| Множны | 1 | бяжым | ядзім, ямо | дадзім, дамо |
| | 2 | бежыцé | ясцé | дасцé |
| | 3 | бягуць | ядуць | дадуць |

✎ Трэба дыферэнцаваць канчаткі дзеясловаў абвеснага і загаднага ладу: *прынесяце*, *ідзяце* — абвесны лад, *прынясіце*, *ідзіце* — загадны лад.

Неабходна адрозніваць напісанне суфіксаў дзеясловаў ***-ава-*** ***(-ява-)***, ***-ва-***, ***-іва-*** ***(-ыва-)***. Пры выбары правільнага варыянта паміж суфіксамі ***-ава-*** ***(-ява-)*** і ***-ва-*** ўтвараецца форма першай асобы адзіночнага ліку: калі гэтая форма заканчваецца на ***-ую*** ***(-юю)***, то формы інфінітыва і прошлага часу ўжываюцца з суфіксамі ***-ава-*** ***(-ява-)***: *даследую — даследаваць*, *даследаваў*; *дзякую — дзякаваць*, *дзякаваў*.

Калі форма першай асобы адзіночнага ліку заканчваецца на ***-ваю***, то неабходна пісаць суфікс ***-ва-***: *апытваю — апытваць*, *апытваў*, *расказваю — расказваць*, *расказваў*. У прыставачных дзеясловах незакончанага трывання пад націскам узнаўляецца ***о***: *выгаворваць* (*гаворыш*), *падскокваць* (*скокнеш*). Калі ў інфінітыве канцавым ***-іць*** або ***-яць*** папярэднічае галосная, то перад суфіксам ***-ва*** пішацца літара ***й***: *высмейваць* (*высмеяць*), *утойваць* (*утаіць*). Ужыванне **[а]** або **[о]** у некаторых дзеясловах часам мае сэнсаадрознівальную функцыю: *закапваць* 'уводзіць што-небудзь (лякарства) кaплямі' і *закопваць* 'засыпаць, зараўноўваць'.

Калі перад суфіксам утвараецца збег зычных, якія заканчваюцца на **[л]**, **[н]**, **[р]**, то пішацца суфікс ***-іва*** ***(-ыва)***: *падтрымліваю — падтрымліваць*, *падтрымліваў*; *праветрываю — праветрываць*, *праветрываў*. Перад суфіксам прошлага часу ***-л-*** ***(-ў-)*** заўсёды захоўваюцца тыя самыя галосныя, што ўжываюцца і перад суфіксам ***-ць*** неазначальнай формы: *належаць — належаў*, *належала*; *дагледзець — дагледзеў*, *дагледзела*.

Суфіксы ***-оўва-*** ***(-ёўва-)*** выкарыстоўваюцца ў дзеясловах, што ўтварыліся ад асноў інфінітыва з канцавым ***-а***: *аб'яднаць — аб'ядноўваць*, *накіраваць — накіроўваць*.

## ⧖ Пытанні для самакантролю

1. Якія граматычныя катэгорыі ўласцівы дзеяслову?
2. Як вызначаецца спражэнне дзеяслова?
3. Якія асабовыя канчаткі маюць дзеясловы I спражэння?
4. Якія асабовыя канчаткі маюць дзеясловы II спражэння?
5. Якія дзеясловы адносяцца да рознаспрагальных?
6. У чым спецыфіка спражэння рознаспрагальных дзеясловаў?
7. У якіх выпадках пішацца суфікс ***-ава-*** ***(-ява-)***?
8. У якіх выпадках пішацца суфікс ***-ва-***?
9. Калі пішацца суфікс ***-іва-*** ***(-ыва-)***?

## 3.9. ДЗЕЕПРЫМЕТНІК І ДЗЕЕПРЫСЛОЎЕ

✎ **Дзеепрыметнік** — гэта неспрагальная дзеяслоўная форма, якая абазначае прымету або ўласцівасць прадмета ці асобы паводле дзеяння. Дзеепрыметнікі ўтвараюцца ад дзеясловаў: *напісаць — напісаны*, *павесялець — павесялелы*. Зваротныя формы дзеепрыметнікаў для беларускай мовы не характэрныя.

➢ **Дзеепрыметнікі незалежнага стану прошлага часу** ўтвараюцца ад асновы інфінітыва дзеясловаў з дапамогай суфіксаў ***-л-***, ***-ш-***, ***-ўш-***: *пажаўцелы*, *падросшае*, *заснуўшы*.

**Дзеепрыметнікі незалежнага стану цяперашняга часу** ўтвараюцца ад асновы дзеяслова цяперашняга часу з дапамогай суфіксаў ***-уч- (-юч-)***, ***-ач- (-яч-)***: *рухаючыя* (*сілы*), *суправаджаючая* (*асоба*), *узыходзячае* (*сонца*).

**Дзеепрыметнікі залежнага стану прошлага часу** ўтвараюцца ад асновы інфінітыва дзеясловаў з дапамогай суфіксаў ***-н-***, ***-ен-***, ***-ан-***, ***-т-***: *задуманы*, *прынесены*, *вывучаны*, *абгорнуты*. У беларускай мове дзеепрыметнікі заўсёды пішуцца з адной літарай **н** у суфіксе.

**Дзеепрыметнікі залежнага стану цяперашняга часу** ўтвараюцца ад асновы дзеяслова цяперашняга часу з дапамогай суфіксаў ***-ем-***, ***-ім- (-ым-)***: *рэкамендуемы*, *кіруемы*, *ствараемы*, *любімы*.

➢ Варта памятаць, што не ўсе формы дзеепрыметнікаў аднолькава ўжывальныя ў беларускай мове. Найбольш пашыранымі з'яўляюцца дзеепрыметнікі прошлага часу незалежнага і залежнага стану з суфіксамі ***-л-***, ***-н-***, ***-ен-***, ***-ан-***, ***-т-***. Усе астатнія формы дзеепрыметнікаў ўжываюцца рэдка і пераважна ў тэкстах публіцыстычнага, навуковага і афіцыйна-справавога стыляў. Неўласцівыя формы дзеепрыметнікаў пры перакладзе з рускай мовы можна замяніць разнастайнымі спосабамі:

✓ даданым сказам (азначальным, дапаўняльным, дзейнікавым): *принадлежащий ему — які належыць яму*;

✓ ужывальнай формай дзеепрыметніка: *очерствевший хлеб — счарсцвелы хлеб*;

✓ дзеепрыслоўем: *извивающаяся змея подползла к нему — да яго падпаўзла, выкручваючыся, змяя*;

✓ аднакаранёвым дзеясловам: *проросший росток набирался сил — парастак прарос і ўбіраўся ў сілу*;

✓ прыметнікамі і спалучэннем іх з назоўнікамі: *определяющие факторы — вызначальныя фактары*;

✓ адпаведным назоўнікам: *рассказывающий — апавядальнік*;

✓ азначэннем-прыдаткам: *вещества, стимулирующие рост — рэчывы-стымулятары росту*.

↬ **Дзеепрыслоўе** — гэта нязменная форма дзеяслова, якая абазначае дзеянне, дадатковае да асноўнага дзеяння, названага дзеясловам-выказнікам. Усе дзеепрыслоўі ўтвараюцца ад дзеясловаў.

➤ Дзеепрыслоўі **незакончанага трывання** абазначаюць звычайна дадатковае дзеянне, якое адбываецца ці адбывалася адначасова з асноўным дзеяннем, і ўтвараюцца ад асновы цяперашняга часу дзеясловаў I спражэння з дапамогай суфіксаў ***-учы***, ***-ючы***; ад дзеясловаў II спражэння — ***-ачы***, ***-ячы***: *дапамагаюць — дапамагаючы*, *гавораць — гаворачы*, *носяць — носячы*.

Ад дзеясловаў II спражэння *баяцца*, *крычаць*, *дрыжаць*, *спаць* утвараюцца *дзеепрыслоўі закончанага трывання* з дапамогай суфіксаў ***-учы-***, ***-ючы-***: *баючыся*, *крычучы*, *дрыжучы*, *сплючы*.

➤ Дзеепрыслоўі **закончанага трывання** абазначаюць закончанае дадатковае дзеянне, якое адбылося раней за асноўнае, і ўтвараюцца ад асновы інфінітыва або прошлага часу з дапамогай суфіксаў ***-ўшы***, ***-шы***: *даказаць — даказаўшы*, *аднесці — аднёсшы*.

➤ У сказе дзеепрыслоўе абазначае дадатковае дзеянне той самай асобы ці прадмета, што ўтвараюць дзеянне, выражанае дзеясловам-выказнікам, да якога дзеепрыслоўе адносіцца: *Кудлатыя нізкія хмары бясконцаю кудзеляю рассцілаліся на небе, сеючы халодным дажджом*.

Парушэннем літаратурнай мовы з'яўляецца ўжыванне дзеепрыслоўя і дзеяслова-выказніка, якія абазначаюць дзеянні розных асоб або прадметаў: *Чытаючы творы пра ваенныя падзеі, сапраўды сціскаецца сэрца* і пад. У безасабовых сказах дзеепрыслоўе ўжываецца толькі тады, калі яно адносіцца да неазначальнай формы дзеяслова, г. зн. калі выказнік безасабовага сказа выражаецца спалучэннем безасабовага дзеяслова ці прэдыкатыўнага прыслоўя (*трэба*, *нельга*, *варта* і інш.) з інфінітывам: *Чуючы гэтае вясёлае шчабятанне птушак, хацелася верыць, што цяпло не за гарамі*. Калі ж у безасабовым сказе няма інфінітыва, дзеепрыслоўе ўжываць нельга: ~~*Падыходзячы да школы, мне стала цяплей*~~.

Дзеепрыслоўі ўжываюцца ў абагульнена-асабовых сказах, у якіх дзеянне, выражанае дзеясловам і дзеепрыслоўем, адносіцца да кожнага, да любой асобы: *Не пераскочыўшы, не кажы гоп*.

## ⌛ Пытанні для самакантролю

1. Як утвараюцца дзеепрыметнікі незалежнага стану?
2. Як утвараюцца дзеепрыметнікі залежнага стану?
3. Якія формы дзеепрыметнікаў найбольш ужывальныя ў беларускай мове?

4. Якім чынам можна замяніць неўласцівыя формы дзеепрыметнікаў пры перакладзе з рускай мовы?

5. Як утвараюцца дзеепрыслоўі незакончанага трывання?

6. Як утвараюцца дзеепрыслоўі закончанага трывання?

7. Якімі правіламі неабходна кіравацца пры ўжыванні дзеепрыслоўяў?

## 3.10. ПРЫСЛОЎЕ

**Прыслоўе** — самастойная нязменная часціна мовы, якая абазначае прымету дзеяння, стану, прымету іншай прыметы ці прадмета.

Прыслоўі, утвораныя ад якасных прыметнікаў, маюць ступені параўнання. Прыслоўі ў форме вышэйшай і найвышэйшай ступені параўнання паказваюць на розную ступень праяўлення дзеяння, стану ці якасці.

☞ **Простая форма вышэйшай ступені** параўнання ўтвараецца ад прыслоўяў з дапамогай суфіксаў ***-ей*** (***-эй***): *далёка — далей, высока — вышэй.*

У некаторых прыслоўяў вышэйшая ступень параўнання ўтвараецца ад іншых асноў з дапамогай суфікса ***-ш***: *добра — лепш, дрэнна — горш, мала — менш, многа — больш.* Паралельна могуць выкарыстоўвацца формы *болей, меней, лепей* (пераважна ў гутарковым і мастацкім стылях).

**Складаная форма вышэйшай ступені** ўтвараецца шляхам спалучэння прыслоўяў са словамі *больш, менш*: *больш важна, менш гучна.*

☞ **Простая форма найвышэйшай ступені** параўнання ўтвараецца далучэннем прыстаўкі ***най-*** да формы вышэйшай ступені: *менш — найменш, далей — найдалей.*

**Складаная форма найвышэйшай ступені** ўтвараецца спалучэннем прыслоўяў са словамі *найбольш, найменш*, а таксама спалучэннем формаў вышэйшай ступені са словамі *за ўсё, за ўсіх*: *найбольш упэўнена, найменш складана, менш за ўсё, лепш за ўсіх.*

☞ Да прыслоўяў вышэйшай ступені параўнання могуць далучацца часціцы *ўсё, яшчэ, куды*, а да формаў найвышэйшай ступені параўнання — *як, чым, што*, якія ўзмацняюць іх значэнне або надаюць адценне самай высокай ступені якасці: *усё вышэй, куды хутчэй, як найхутчэй, чым наймацней.*

Калі прыслоўе ўтворана ад прыметніка з суфіксамі ***-к-***, ***-ок-***, ***-ёк-***, то ў формах ступеней параўнання гэты суфікс апускаецца і пры гэтым адбываецца гістарычнае чаргаванне **[з]** // **[ж]**, **[с]** // **[ш]**: *нізка — ніжэй, высока — вышэй.* У некаторых прыслоўях суфікс ***-к-*** не апу-

скаецца, у такім выпадку адбываецца гістарычнае чаргаванне **[к]** // **[ч]**: *тонка — танчэй, звонка — званчэй.*

### ⌛ Пытанні для самакантролю

1. Якія прыслоўі маюць ступені параўнання?
2. Як утвараюцца формы вышэйшай ступені параўнання прыслоўяў?
3. Як утвараюцца формы найвышэйшай ступені параўнання прыслоўяў?
4. Як утвараюцца формы ступеняў параўнання ў прыслоўях, утвораных ад прыметнікаў з суфіксамі ***-к-***, ***-ок-***, ***-ёк-***?

## 3.11. СІНТАКСІЧНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ

Сінтаксічныя асаблівасці дапасавання і кіравання ў беларускай мове ў параўнанні з рускай выяўляюцца ў наступным (гл. *табліцу 16*).

*Табліца 16*

| Беларуская мова | Руская мова |
|---|---|
| 1 | 2 |
| 1. Пры лічэбніках *два* (*дзве*), *тры*, *чатыры* назоўнікі стаяць у форме назоўнага склону множнага ліку *два добрыя студэнты*, *тры новыя сталы*. Пры астатніх лічэбніках назоўнік ставіцца ў родным склоне: *пяць студэнтаў*, *сем сталоў*. | 1. Назоўнікі ў адпаведных словазлучэннях ставяцца ў родным склоне: *два хороших студента*, *три новых стола*. |
| 2. Дзеясловы думкі, пачуцця, маўлення (*гаварыць*, *шаптаць*, *непакоіцца*, *хваляваца*, *маўчаць*) утвараюць словазлучэнні з назоўнікамі вінавальнага склону з прыназоўнікам *пра*: *гаварыць пра ўраджай*, *клапаціцца пра дзяцей*. | 2. Залежнае слова мае форму меснага склону з прыназоўнікам *о* (*об*): *говорить об урожае*, *заботиться о детях*. |
| 3. Дзеясловы *дзякаваць* (*падзякаваць*), *выбачаць*, *дараваць* утвараюць словазлучэнні з давальным склонам: *дзякую вам*, *даруйце мне*. | 3. Ужываецца вінавальны склон: *благодарю вас*, *извините меня*. |
| 4. Дзеясловы руху (*ісці*, *бегчы*, *плыць*, *ехаць*), а таксама волевыяўлення (*выправіць*, *паслаць*, *прыслаць* і інш.) пры абазначэнні мэты дзеяння ўтвараюць словазлучэнні з вінавальным склонам назоўніка з прыназоўнікам *па*: *пайсці па малако*, *паслаць па дапамогу*. | 4. Часцей ужываецца канструкцыя з творным склонам з прыназоўнікам *за*: *пойти за молоком*, *послать за помощью*. |

| Беларуская мова | Руская мова |
|---|---|
| 1 | 2 |
| 5. Дзеясловы *жартаваць*, *смяяцца*, *рагатаць*, *насміхацца*, *кпіць*, *дзівіцца* утвараюць словазлучэнні з родным склонам з прыназоўнікам *з*: *смяяцца з сябра*, *кпіць з яго*. | 5. Дзеясловы ўтвараюць словазлучэнне з творным склонам з прыназоўнікам *над*: *смеяться над другом*. |
| 6. Пры дзеясловах *ажаніць*, *ажаніцца* назоўнік ставіцца ў форме творнага склону з прыназоўнікам *з*: *ажаніўся з Валяю*, *ажанілі з нялюбай*. | 6. Словазлучэнні з назоўнікам меснага склону з прыназоўнікам *на*: *женился на Вале*, *женили на нелюбимой*. |
| 7. Пры дзеясловах і назоўніках дзеяння назоўнік ужываецца ў месным склоне з прыназоўнікам *па*: *хадзіць па палях*, *сустракацца па вечарах*. | 7. Словазлучэнні з назоўнікам давальнага склону з прыназоўнікам *по*: *ходить по полям*, *встречаться по вечерам*. |
| 8. Дзеясловы і аддзеяслоўныя назоўнікі са значэннем пачуцця смутку, жалю, тугі ўтвараюць словазлучэнні з месным склонам з прыназоўнікам *па*: *сумую па вясне*. | 8. Дзеясловы спалучаюцца з формамі меснага склону з прыназоўнікам *о* (*об*): *тосковать о весне*. |
| 9. Дзеясловы *хварэць*, *захварэць*, *прахварэць* і прыметнік *хворы* ўтвараюць словазлучэнні з вінавальным склонам з прыназоўнікам *на*: *хварэць на грып*. | 9. Залежнае слова мае форму творнага склону: *болеть гриппом*. |
| 10. Словазлучэнні з прыназоўнікам *праз* выражаюць розныя адносіны:<br>– прычынныя: *спазніліся праз цябе*;<br>– лакальныя і часавыя: *ідзе праз вароты*, *прыйшоў праз дзень*. | 10. Адпавядаюць розныя прыназоўнікавыя словазлучэнні: *опоздали из-за тебя*; *идет через ворота*, *пришел через день*. |
| 11. Да слова *дзякуй* словы дапасуюцца ў мужчынскім родзе: *вялікі дзякуй*, *шчыры дзякуй*. | 11. Да слова *спасибо* дапасуюцца словы ніякага роду: *большое спасибо*. |

Спалучэнне дзейніка і выказніка не з'яўляецца словазлучэннем, таму што тут немагчыма вылучыць галоўнае слова. Сувязь паміж гэтымі членамі сказа называецца **каардынацыяй** і выражаецца ў адначасовай змене граматычных значэнняў дзейніка і выказніка. Пры дзейніку, які выражаны іменна-колькасным спалучэннем, выказнік можа ўжывацца як у адзіночным, так і ў множным ліку.

Выказнік ставіцца **толькі ў адзіночным ліку**, калі дзейнік выражаны:

✓ колькасна-іменным спалучэннем, у склад якога ўваходзяць словы *ўсяго*, *толькі* ці займеннікі *нас*, *вас*, *іх*: *толькі тры экзамены было ў гэтым семестры*; *было іх пяцёра*;

✓ колькасна-іменным спалучэннем, якое абазначае адрэзак часу: *прайшло дзве гадзіны*; *дваццаць гадоў мінула*;

✓ спалучэннем назоўнікаў, першы з якіх мае значэнне пэўнай колькасці (*дзясятак*, *сотня*, *пара*, *двойка*, *тройка* і інш.): *сотня турыстаў прыехала на экскурсію*;

✓ спалучэннем адмоўнага або няпэўнага займенніка з назоўнікам (займеннікам) у форме ўскоснага склону: *ніхто з абітурыентаў не спазніўся на экзамен*;

✓ спалучэннем лічэбніка з назоўнікам, якое абазначае прыблізную колькасць: *чалавек з дзесяць прысутнічала на сходзе*;

✓ спалучэннем слоў, у складзе якога ёсць слова *тысяча*, *мільён*, *мільярд*: *тысяча чалавек сабралася ў парку.*

У **множным ліку** выказнік ужываецца ў наступных выпадках:

✓ дзейнік выражаны спалучэннем назоўніка ў форме назоўнага склону з назоўнікам у форме творнага склону: *настаўнік з дзецьмі ідуць у паход*;

✓ пры аднародных дзейніках, калі знаходзіцца пасля іх: *гаспадар і госць размаўлялі*; калі выказнік знаходзіцца перад аднароднымі дзейнікамі, то ён дапасуецца ў ліку да бліжэйшага з іх: *з-за ўзгорка паказаўся горад і рачны вакзал*;

✓ дзейнік выражаны спалучэннем колькаснага лічэбніка і назоўніка са значэннем асобы або неадушаўлёны назоўнік стаіць перад выказнікам: *на дарогу выйшлі два чалавекі*; *пяць дубоў раскінулі свае кроны*;

✓ дзейнік выражаны колькасна-іменным спалучэннем або толькі назоўнік у ім мае пры сабе азначэнне ці словы *ўсе*, *гэтыя*: *чарнеюць тры вялізныя сасны*; *усе трое спазніліся.*

Дапускаюцца варыянты формы адзіночнага і множнага ліку выказніка ў наступных выпадках:

✓ калі дзейнік выражаны складаным назоўнікам з часткай ***паў-***, то выказнік ужываецца ў адзіночным ліку: *засталося паўпірага.* У множным ліку выказнік можа ўжывацца, калі дзейнік называе групу асоб або дзейнік мае пры сабе дапасаванае азначэнне: *паўгрупы не выканалі заданне*; *прайшлі самыя цяжкія паўгода*;

✓ выказнік мае форму адзіночнага ліку пры дзейніку, які выражаны спалучэннямі:

✓✓ зборны лічэбнік + назоўнік (займеннік): *каля хаты сядзела двое мужчын*;

✓✓ назоўнік з няпэўна-колькасным значэннем (*мноства, безліч, шэраг, большасць, меншасць* і інш.) + назоўнік у форме роднага склону множнага ліку: *большасць экспанатаў было прывезена з музея*;

✓✓ няпэўна-колькаснае слова (*мала, многа, шмат, некалькі* і інш.) + назоўнік (займеннік) у форме роднага склону множнага ліку: *там стаяла некалькі дамоў*.

### ⌛ Пытанні для самакантролю

1. У чым выяўляюцца асаблівасці дапасавання ў беларускай мове?
2. Якія асаблівасці беларускага кіравання?
3. Што выражаюць у беларускай мове спалучэнні з прыназоўнікам *праз*?
4. У якіх выпадках выказнік ужываецца толькі ў адзіночным ліку?
5. Калі выказнік ужываецца толькі ў множным ліку?
6. Пры якіх умовах дапускаюцца варыянтныя формы ліку выказніка?

## ✍ ЗАДАННІ

**Заданне 20.** *Прааналізуйце, ці супадае вымаўленне і напісанне прыназоўніка* ***без*** *і часціцы* ***не*** *ў прыказках і прымаўках. Патлумачце несупадзенне напісання і вымаўлення.*

1) Час не птушка — за хвост не зловіш. 2) Без гаспадара зямля — круглая сірата. 3) Без расы і трава не расце. 4) Не вер грэчцы ў квецені, вер у засеках. 5) Без працы хлеб не народзіцца ніколі. 6) Няма той птушкі, каб спявала, ды не ела.

**Заданне 21.** *Перакладзіце на беларускую мову тэрміналагічныя азначэнні. Выпішыце ўсе словы, вымаўленне якіх не супадае з напісаннем. Патлумачце несупадзенне напісання і вымаўлення.*

1) *Апперцепция* — зависимость восприятия предметов и явлений действительности от предыдущего опыта. 2) *Воображение* — это психический процесс, заключающийся в образном моделировании действительности, реконструкция явлений действительности по их мысленному описанию. 3) *Конфедерация* — форма объединения стран, при которой они полностью сохраняют свою независимость, но имеют общие (объединенные) органы для координации некоторых действий. 4) *Нация* — историческая общность людей, сложившаяся благодаря общности их территории, экономических связей, литературы, языка, особенностей культуры.

1) *Пропорциональность* — простейший вид функциональной зависимости. Различают прямую пропорциональность и обратную пропорциональность. 2) *Уравнение* — математическая запись задачи о разыскании значений аргументов, при которых значения двух данных функций равны. 3) *Радиоактивность* — это способность атомных ядер самопроизвольно превращаться в другие ядра, испуская при этом различные частицы. 4) *Теплопередача* — это теплообмен между двумя теплоносителями (жидкими или газовыми средами), осуществляющийся через разделяющую их твердую стенку или через поверхность раздела между ними.

1) *Горение* — быстрый процесс окисления вещества, сопровождающийся выделением большого количества теплоты и, как правило, света. 2) *Молекула* — наименьшая частица какого-либо вещества, определяющая его химические свойства и способная к самостоятельному существованию. 3) *Архипелаг* — группа островов, расположенных близко друг от друга и имеющих обычно одно и то же происхождение и сходное геологическое строение. 4) *Дельта* — низменность в низовьях крупных рек, впадающих в мелководные участки моря или озера, образованная речными отложениями, прорезана сетью рукавов и протоков.

**Заданне 22.** *Перакладзіце словы на беларускую мову і запішыце. Параўнайце вымаўленне слоў у беларускай і рускай мовах.*

Независимость, объединение, колесница, развитие, духовность, бессознательное, тревожность.

Чертеж, скобки, область, заряд, ускорение, излучение, равенство.

Углерод, влажность, растворимость, скилет, поясность, площадь, масштаб.

**Заданне 23.** *Запішыце ў дужках, як вымаўляюцца ў словах падкрэсленыя зычныя.*

Дзяржаўнасць [ ], вотчына [ ], разведка [ ], грамадства [ ], рабства [ ], светапогляд [ ], схільнасці[ ], сведчанне [ ], рэйтынг [ ], адчуванне [ ].

Абсалютны [ ], датчык [ ], бяздужкавы [ ], свяцімасць [ ], лічба[ ], катод [ ], магутнасць [ ], наводка [ ], счэпны [ ], абсяг [ ].

Расліна [ ], спадчыннасць [ ], чужаед [ ], адсарбент [ ], мышца [ ], вадкасць [ ], свінец [ ], цвердазём [ ], скрыхавальнасць [ ], аднарог [ ].

**Заданне 24.** *Размяркуйце словы на чатыры групы і запішыце ў табліцу.*

📖 Адказ, амаральнасць, плацдарм, носьбіт, небяспека, звесткі, абавязкі, барацьба.

⌨ Абсцыса, цвёрды, рухомасць, дужкі, расшчапленне, паказчык, абсорбцыя, збежнасць.

❀ Айсберг, пясчаны, водарасці, абсарбент, канечнасць, надкосны, часцінкі, валентнасць.

| Асіміляцыя | | | | |
|---|---|---|---|---|
| па глухасці | па звонкасці | па мяккасці | свісцячых да шыпячых | шыпячых да свісцячых |
| | | | | |

**Заданне 25.** 📖⌨❀ *Запішыце назоўнікі ў форме множнага ліку.*

Пісьмо, пашпарт, вучань, воблака, курган, корань, камень, птушка, неба, атрад, туман, слова, вока, вецер, стол, дождж, жывёла, мяжа, трава, кола.

**Заданне 26.** 📖⌨❀ *Выпішыце назоўнікі, якія ўжываюцца толькі ў форме адзіночнага ліку.*

Ліса, спакой, насенне, колас, цукар, адносіны, маланка, цярпенне, змярканне, кісларод, гуманізм, завея, гусяня, кніга, поўнач, студэнцтва, блакіт.

**Заданне 27.** 📖⌨❀ *Запішыце словазлучэнні па-беларуску. Падкрэсліце назоўнікі, форма ліку якіх не супадае ў беларускай і рускай мовах, у дужках абазначце лік назоўніка.*

Хоровое пение, сладкая земляника, крупные семена, грядка бобов, школьные годы, лирические стихи, введение в языкознание, каменные ворота, овсяная крупа, новое отношение, семейство рукокрылые, ежедневные хлопоты, цинковые белила, славянские имена, березовые дрова, примерное поведение, железная дверь, трусливое бегство, свежие овощи, спелая ежевика.

**Заданне 28.** 📖⌨❀ *Запішыце назоўнікі ў чатыры слупкі: 1) жаночага роду, 2) мужчынскага роду, 3) ніякага роду, 4) агульнага роду.*

Акраец, бялізна, вуаль, лебедзь, алоэ, Осла, брыво, аташэ, цень, санпункт, вотруб'е, Днепр, дыктар, Нарач, леспрамгас, манто, грызлі, сірата, моладзь, дроб, МАЗ, яблык, шчаўе, манжэта, непагадзь, непаседа, кенгуру, прафесар, вучоба, вогнішча, беларучка, Перу.

**Заданне 29.**  *Запішыце тэкст, устаўляючы прапушчаныя літары. Падкрэсліце ўласныя назоўнікі і вызначце іх род, лік і склон.*

### Бацька гарадоў беларускіх

Полацк — бацька беларускіх г..р..доў. Гэта самы старажытны гор..д Беларусі. Нашы про..кі пабудавалі гэты гор..д там, дзе ў шырокую н..спешную Дзвіну ўліваецца другая рака — Палата. Больш за тысячу гадоў таму на гэтым месцы падымаліся абкружаныя р..вамі драўляныя сцены, тут было самае старажытнае паселішча палачан.

У Полацку жыло шмат адукаваных людзей. Тут быў найбуйнешы ас..родак кніжнай культуры. Пра высокі ўзровень пісьменнасці све.. чаць графіці полацкіх храмаў, каштоўныя помнікі эпіграфікі «Барысавы камяні». У Сафійскім саборы захоўвалася в..лікая бібліятэка, вучоныя м..нахі складалі полацкі летапіс, перапісвалі кнігі. У Полацку сфарміравалася свая школа дойлі..ства.

Горад Полацк быў сталіцай в..лікай незалежнай дз..ржавы — Полацкага княства. Пры славутым князі Усяславе Чарадзеі гэтая дз..ржава займала большую частку сучаснай Беларусі. (*Паводле У. Арлова*)



### Вучоны-матэматык

Мікалай Іванавіч Лабачэўскі — матэматык, выкладчык, рэкт..р Казанскага Імператарскага ўніверсітэта. Нарадзіўся ў Ніжнегародскай губерніі. Атрымаў адукацыю ў Казанскай гімназіі, а пасля паступіў ў Імператарскі ўніверсітэт Казані. Добра вучыўся, спецы..лізаваўся на матэматыцы і фізіцы, атрымаў чырвоны дыплом магістра. У 1819 годзе стаў дэканам фізіка-матэматычнага факультэта, а пасля прафесарам. Займаўся матэматычнымі тэорыямі, развіваў неўклідаву ге..метрыю — гіпербалічную. У алгебры Лабачэўскім быў распрацаваны спосаб прыбліжанага р..шэння ўраўненняў. Ім было атрымана некалькі тэарэм у матэматычным аналізе. У 1895 годзе была створана прэмія Лабачэўскага. Пазней яго імем сталі называць вуліцы, біблі..тэкі і нават крат..р на Мес..цы.



### Край азёр

Колькі на карце блакітных пл..мінак і кроп..лек! Гэта азёры. Яны густа ра..сеяны па ўсёй Віцебшчыне і па ўсёй паўночна-заходняй частцы Мінскай вобласці. Больш за дзве тыс..чы азёр нанес..ны на геаграфічныя карты. Некаторыя азёры раскіданы паасобку, некаторыя — нев..лікімі групамі. Вось цэлыя сузор'і азёр пад Мядзелем,

пад Браславам. Шмат азёр на Віцебшчыне вакол стар..жытнага Полацка, пад Ушачамі, Лепелем і Сянно. Нездарма гэты край называюць Паазер'ем.

Самае вялікае з бел..рускіх азёр — Нарач. Паэты часта параўноўваюць гэтае возера з морам. Побач з Нараччу разм..сцілася яшчэ некалькі азёр: Баторына, Мястра, Рудакова, Белае, Блакітнае, Мядзельскае, Швакшты. Нарачанская група азёр — самая в..лікая і в..домая на Беларусі. Азёры размешчаны тут в..нцом, і ствараюць яны сво..асаблівую блакітную к..рону Паазер'я. Якія прыгожыя кра..віды вакол азёр! Якія багацці хаваюцца ў іх гл..бінях! (*Паводле В. Вольскага*)

**Заданне 30.** 📖⌨❀ *Запішыце словазлучэнні па-беларуску, у дужках абазначце род назоўніка.*

Последняя запись, острая боль, свежий воздух, злая собака, стройный тополь, чудесная степь, горькая полынь, написать объявление, большая насыпь, выгодная продажа, детская обувь, высокий стебель, боязливый олененок, перепись населения, яркая шаль, кислый щавель, окружающая среда, неправильная дробь, древняя летопись, неполная опись, зеленая ботва, куст шиповника, высокий цикорий, новый кафель, красный пион.

**Заданне 31.** 📖⌨❀ *Знайдзіце словазлучэнні, у якіх дапушчаны памылкі ў дапасаванні. Запішыце словазлучэнні правільна.*

Кіслыя журавіны, прыгаршча цукерак, мокрыя каменні, аўсяныя крупы, рыбная кансерва, старажытны Гродна, глыбокая Свіслач, шакаладнае асарці, прыгожы бра, атрыманая карт-бланш, дарагая шампунь, бульбяное пюрэ, тармазная педаль, вялікі вусень, модная жабо, якасны каніфоль, важнае камюніке, афрыканская Лімпапо, новы ГЭС, прыгожы Мічыган, вясновая капеж, глыбокае Шпрэе, рагаты зебу, грыбная неруш, вясёлы канферансье.

**Заданне 32.** 📖⌨❀ *Утварыце дзеяслоўныя словазлучэнні з прыведзенымі ўласнымі назоўнікамі. Словазлучэнні запішыце.*

Францыск Скарына, Якуб Колас, Змітрок Бядуля, Кандрат Крапіва, Пімен Панчанка, Вера Вярба, Святлана Алексіевіч, Уладзімір Караткевіч.

Згадаў (пра каго?)..........................

Падзякаваў (каму?) ........................

Зроблена (кім?) ............................

**Заданне 33.** *Запішыце тэкст, устаўляючы прапушчаныя літары. Падкрэсліце прыметнікі, якія ўжыты ў ступені параўнання. Вызначце форму ступені параўнання.*



### Асветніца з роду Усяслава

Ефрасіння Полацкая. Без гэтага імя нема..чыма ўявіць не толькі п..н..раму духоўн... жыцця на ўсходн..славянск... землях у XII стагоддзі, але і ўсю гісторыю беларуск... культуры. Князёўна, ігуменння, найвыдатнейшая асветніца Ефрасіння пакінула пра сябе гл..бокую пам..ць у душы народа.

Ужо ў юнацтве Ефрасіння перапісвала і перакладала кнігі. Пазней, заснаваўшы ў Полацку два манастыры, яна надавала найбольш вялікі размах пашырэнню пісьмов... слова. Самае важнае месца ў жыцці нашай з..млячкі належала педагагічн... дзейнасці. Знаходзячыся ў цэнтры культурн... жыцця тагачаснай Полацкай зямлі, асветніца выступала ў ролі збіральніцы талентаў, своеасаблівай мецэнаткі. Па яе заказе дойлід Іаан пабудаваў сусветна вядомую царкву Спаса, якую лічаць самым дасканалым узорам полацк... архітэктурн... школы. Мясцовы майстар-ювелір Лазар Богша зрабіў свой славуты крыж — найкаштоўнейшы помнік старажытнабеларуск... ўжытков... мастацтва. Вялікім быў уплыў князёўны-ігуменні на палітыку Полацка. Яна ўздымала свой голас супроць княжацкіх усобіц. Прыклад асветніцы натхняў з..млякоў і яе наступнікаў. *(Паводле У. Арлова)*



### Матэматыка

Матэматыка — навука, якая вывучае колькасн... стасункі і пр..сторав... формы рэчаісна... свету, а таксама а..страктн... тэорыі і сувязі першапачатковых стасункаў і формаў.

Матэматыка ўзнікла яшчэ ў старажытнасці з практычн... патрэб. Неа..ходнасць падліку рэчаў на першых прыступках развіцця культуры падвяла да стварэння найпрасцейшых паняццяў арыфметыкі натуральных лікаў. Толькі пасля ра..працоўкі сістэмы вусна... лічэння паступова абгрунтоўваюцца чатыры арыфметычн... аперацыі з натуральнымі лікамі. Патрэбы вым..рэння колькасці, даўжыні і г. д. спрычыніліся да з'яўлення простых дробаў, а таксама дзеянняў з імі.

Такім чынам пачала складвацца самая старажытн... з матэматычных навук — арыфметыка. Вым..рэнне плошчаў і аб'ёмаў, патрэбы будаўніцтва, пазней і астраноміі выклікалі неабходнасць развіцця пачаткаў геаметрыі. *(Матэматычная энцыклапедыя)*



## Ваяр патаемных віроў

Якіх толькі паданняў не пачуеш аб самах! Нават знешне сом не такі, як іншы.. рыбы. Цела яго вяліка.., кругла.., знізу плоска.., яно пераходзіць у пл..скаты хвост з двума доўгімі плаўнікамі. Афарбоўка яго цёмна.., амаль што чорна.., з бурым а..лівам на спіне, па баках крыху святлейшая. У брушной частцы скура жаўтава..., а то і бела.., пакрыта.. блакітнымі і ружовымі крапінкамі. Вельмі в..ліка.. галава і шырокі рот, доўгі.. бакавы.. адросткі-вусы на верхняй сківіцы і дзве пары кароткіх на ніжняй, маленькі.. вочкі. Такі каларытны партрэт гаспадара таямнічых віроў.

Сом а..дае перавагу гл..бокім вірам і ціхім ямам, дзе жыве амаль цэлы год. Толькі на нераст самы выходзяць на менш глыбокія месцы. Нерасцяцца самы, калі вада добра прагрэецца. Дарослы сом харчуецца рознай ежай: чарвякі, буйны.. вадзяны.. нас..комыя, малюскі. Але перавагу а..дае рыбе і жабам. Сом — самая каштоўна.. прамыслова.. рыба, але колькасць яго пам..ншаецца. Ён занесены ў Чырвоную кнігу Беларусі і ахоўваецца законам. (*Паводле В. Грамыкі*)

**Заданне 34.** 📖⌨❀ *Выпішыце прыметнікі, ад якіх не ўтвараюцца ступені параўнання.*

Малады, малочны, свежы, залаты, сыраваты, яснавокі, дарагі, сухі, асенні, прыгожы, малінавы, цёплы, шырачэзны, фіялетавы, імклівы, цвёрды, гнуткі.

**Заданне 35.** 📖⌨❀ *Утварыце ўсе магчымыя формы ступеняў параўнання ад наступных прыметнікаў.*

Новы, кепскі, гладкі, цікавы, урадлівы, адказны, спрыяльны.

**Заданне 36.** 📖⌨❀ *Знайдзіце і выпраўце памылкі ва ўжыванні формаў ступеняў параўнання. Запішыце выпраўленыя сказы правільна.*

1) Каралёк — самая маленькая птушка нашых лясоў. 2) Найглыбей возера Байкал. 3) Вяршыня Джамалунгма найвышэйшая за ўсе. 4) Зубр — адзін з буйнейшых прадстаўнікоў сучаснай беларускай фаўны. 5) Чым бліжэй да Бярэзіны, тым усё радзейшы балоцісты лес па берагах канала. 6) Граб больш цвярдзейшы іншых дрэў.

**Заданне 37.** 📖⌨❀ *Утварыце словазлучэнні з прыналежнымі прыметнікамі і запішыце іх.*

Верш Купалы, мары юнака, рукі маці, аповесць Коласа, хвост вавёркі, сшытак Алеся, лапа мядзведзя, дзённік Алесі, гняздо

ластаўкі; след ваўчыхі, канспект студэнта, казка бабулі, капялюш дзядулі, сукенка дачкі.

**Заданне 38.** 📖⌨✿ *Выберыце патрэбную граматычную форму займенніка. Запішыце сказы, раскрываючы дужкі.*

1) З (самай, самой) раніцы дзьмуў халодны вецер. 2) (Самага, самога) загадчыка клуба ў кабінеце не было. 3) Каля (самага, самога) берага рэчкі расла стройная бяроза. 4) Хлопец карыстаўся павагай у (самага, самога) начальніка турыстычнага клуба. 5) (Самым, самім) высокім дрэвам у парку была таполя. 6) Зямля ўсіх нас корміць, а (сама, самая) есці не просіць.

**Заданне 39.** 📖⌨✿ *Выпраўце памылкі ва ўжыванні займеннікаў.*
Расказаць пра сябе, абяцаць цябе, маўчаць пра табе, не магу даравацць сябе, прыехаць да цябе, пазнаю сябе, перамагчы сабе, падзякаваць табе, хваліць сабе.

**Заданне 40.** *Запішыце тэкст, замяняючы лічбы словамі.*



## Асветнік Васіль Цяпінскі

Васіль Цяпінскі — беларускі гуманіст-асветнік, пісьменнік і кнігавыдавец. Імя Васіля Цяпінскага ўпершыню ўпамінаецца ў дакументальных крыніцах 1560 гадоў.

Цяпінскі прадоўжыў гуманістычныя і культурна-асветніцкія традыцыі Францыска Скарыны, быў асабіста і ідэйна звязаны з Сымонам Будным. У 1570 гады Цяпінскі на свае сродкі арганізаваў друкарню з намерам выдаваць кнігі на беларускай мове. Зараз вядома толькі адно яго выданне — Евангелле, якое выйшла каля 1575 года. Гэта частка выдання выяўлена ў XIX стагоддзі ў рукапісным зборніку, куды былі ўплецены 62 друкаваныя аркушы Евангелля Цяпінскага. Прадмова да гэтага выдання на 6 аркушах напісана Цяпінскім. Пры перакладзе Евангелля на беларускую мову Цяпінскі абапіраўся на стараславянскія пераклады Свяшчэннага пісання. Уся перакладчыцкая і друкарская дзейнасць вялася ім з патрыятычных пачуццяў. (*Паводле М. Батвінніка*)



## Арыфметыка

Арыфметыка — частка матэматыкі, галоўны аб'ект якой — цэлыя лікі і дзеянні з імі. Арыфметыка ўзнікла ў старажытныя часы з патрэбы падліку і простых вымярэнняў. Спачатку было магчыма падлічваць невялікія колькасці рэчаў непасрэдна. Для падліку колькасці элементаў значна большых сукупнасцяў былі створаныя

сістэмы лічэнняў. Зручнейшая на практыцы паказала сябе сістэма лічэння з асновай 10, але існуюць і сістэмы з асновамі 5, 20, 40, 12 і нават 11 (Новая Зеландыя). Апошнім часам у сувязі са значным распаўсюджаннем камп'ютараў на першыя пазіцыі выходзіць двайковая сістэма лічэння. Яшчэ да пачатку нашай эры ў арыфметыцы былі атрыманыя даволі высокія вынікі: даказана бясконцасць мноства простых лікаў, ірацыянальнасць $\sqrt{2}$, створаны алгарытмы для пошуку агульнай меры 2-х адрэзкаў і найбольшага агульнага дзельніка 2-х лікаў. (*Матэматычная энцыклапедыя)*



## Аўгустоўскі канал

Пабудаваны канал у 1824—1839 гадах пад кіраўніцтвам генерал-інжынера М. Малецкага. Першапачатковы яго кошт дасягнуў 1644 тысяч рублёў. Складаецца з сістэмы каналаў, рэк і азёр. Агульная даўжыня яго — 102 кіламетры, сярэдняя глыбіня — 1,8 метра. Злучае сістэмай шлюзаў раку Нёман на 455 кіламетры да вытоку з ракой Віслай. Працягласць канала на тэрыторыі Беларусі складае 22 кіламетры, дзе ён скарачае асобным рэчышчам даўжынёй 6 кіламетраў раку Чорная Ганча. Мае 18 шлюзаў, з іх 2 шлюзы і 2 плаціны — у Беларусі. Першапачаткова меў вялікае значэнне як найкарацейшы шлях з басейна рэк Дняпра да Балтыйскага мора і яго партоў. Аўгустоўскі канал з'яўляецца помнікам гідратэхнічнага будаўніцтва. (*Паводле У. Кісялёва*)

**Заданне 41.** 🕮🖮❁ *Знайдзіце сказы, у якіх дапушчаны памылкі пры перадачы прыблізнай колькасці. Выпраўце памылкі, сказы запішыце правільна.*

1) На выгляд яму было гадоў пятнаццаць. 2) У ста метрах ад дарогі рос бярэзнік. 3) Каля трох гадзін ночы іх разбудзіў шум. 4) Звер спыніўся ў двух кроках ад нас. 5) Дзядулю было пад семдзесят.

**Заданне 42.** 🕮🖮❁ *Запішыце словазлучэнні па-беларуску.*

Два больших города, выполнить оба задания, три лучших студента, пять полных ведер, четыре новых стола, два лишних дня, пять прочитанных книг.

**Заданне 43.** 🕮🖮❁ *Запішыце словазлучэнні, дапасоўваючы лічэбнікі да назоўнікаў.*

(Адзін, адна, адно, адны) дзеці, чалавек, кніга.

(Два, дзве, абодва, абедзве, двое) суткі, дом, дзяўчына, кіламетр, чаравік.

(Тры, трое) студэнт, кацяня, гектар, будынак, часопіс, сані.

**Заданне 44.** *Запішыце тэкст, устаўляючы прапушчаныя літары. Вызначце спражэнне выдзеленых дзеясловаў.*



## Кніга на Беларусі

Архе..лагічныя раскопкі, якія інтэнсіўна *праводзяцца* па ўсёй Беларусі і *ахопліваюць* помнікі ўсіх гістарычных перыядаў, не далі ніводнага на..пісу ранейшага за X стагоддзе. Да гэтага часу *жыла* толькі бе..пісьмовая традыцыя перадачы і захавання культуры.

Кніга з'явілася на Беларусі ў X стагоддзі разам з хрысці..нствам. Яна *прыйшла* ўрачыста, на самае п..чэснае месца новага культу. У г..р..дах і вёсках былі высока мураваныя ці драўляныя дамы, аднак над кожным паселішчам велічна *дамінавала* будыніна храма, а ў цэнтры храма было месца кнігі — Евангелля. Яго ўрачыста *выносілі*, *цалавалі*, як ікону, на ім *прысягалі* све..кі ў судах. Дзякуючы гэтым акалічнасцям, *фарміравалася* стаўленне людзей да кнігі як но..ьбіта найпраўдзівейшай ісціны. (*Паводле М. Нікалаева*)



## Кібернетыка

Кібернетыка — гэта навука, якая *вывучае* працэсы кіравання і перадачы інфармацыі ў машынах, ж..вых арганізмах і грама..стве. Упершыню гэты тэрмін *ужыў* яшчэ старажытнагрэчаскі філосаф Платон. Рэальнае развіццё кібернетыкі пачалося значна п..зней. Значную ролю ў гэтым працэсе *адыграла* з'яўленне тэхнічных сро..каў кіравання.

Першым крокам, які *наблізіў* чалаве..тва да стварэння кібернетычных сістэм, можна *лічыць* вынахо..ніцтва рускім вучоным І. Паўзуновым і англічанінам Дж. Уаттам першых пр..мысловых рэгулятараў узроўн.. вады ў паравых катлах. Але найбольш бурнае развіццё кібернетыкі *прыпадае* на с..рэдзіну XX стагоддзя.

Асноўнай падзеяй, якая *адкрыла* прынцыпова новыя магчымасці для даследавання, стала вынаходніцтва першых электронна-выл..чальных машын. З іх дапамогай людзі змаглі вырашаць самыя розныя задачы са значным аб'ёмам вылічэнняў. Асноўным аб'ектам даследавання кібернетыкі з'яўляюцца кібернетычныя сістэмы. Гэта мноства ўзаемазвязаных аб'ектаў, якія здольны *ўспрымаць*, *запамінаць* і *перапрацоўваць* інфармацыю. Вядомыя прыклады кібернетычных сістэм: аўтапілот, ЭВМ і чалавечы мозг. (*Паводле энцыклапедыі «Што? Дзе? Калі?»*)



## Жывыя барометры

Неацэнную дапамогу ў пр..дказанні надвор'я могуць аказаць многія жывёлы, якіх мы добра *ведаем*. Жывёлы востра а..чуваюць зм..ненне надвор'я і *рэагуюць* на яго сваімі паводзінамі.

Калі *ўзяць* уюна і *пасадзіць* у акварыу..м, то гэта гатовы жывы барометр. Пры набл..жэнні моцнай навальніцы рыба будзе м..тусіцца і часта *ўсплываць* на паверхню. Перад ясным надвор'ем *заляжа* на дно і нават не *паварушыцца*.

Гучнае кваканне жаб сярод дня — дакладная прымета непаг..дзі. Доўгае в..чэрняе кваканне, наадварот, аб..цае добрае надвор'е. Калі жабы *маўчаць*, то чакаецца пах..ладанне.

За паўдня або за суткі а..чувае набліжэнне дажджу берасцянка, нев..лікая птушка нашых лясоў. Яна н..спынна *апавяшчае* пра гэта ўсю акругу сваёй звонкай песенькай. Частым і доўгім кукаваннем *указвае* на ўстанаўленне цёплых дзён з..зюля. Ніколі не *падманваюць* у пр..дказанні надвор'я стрыжы. Калі птушкі, якія толькі што вес..ліліся ў паветры, раптам *знікаюць*, значыць, у гэтым месцы чакаецца моцная непагадзь. Многія жывёлы — выдатныя жывыя барометры. (*Паводле В. Стомы*)

**Заданне 45.** *Перакладзіце на беларускую мову словазлучэнні і запішыце іх. Растлумачце напісанне суфіксаў дзеясловаў.*

Овладевать знаниями, выписывать газеты, проветривать помещение, показывать пример, подкармливать цветок, предупреждать об опасности, завязывать платок, возглавлять отдел, выполнять указ, украшать цветами, развивать память, подписывать протокол, выслушивать наставления, удваивать счет.

**Заданне 46.** *Ад дзеясловаў утварыце ўласцівыя беларускай мове дзеепрыметнікі і запішыце іх.*

Абнавіць, засеяць, рассыпаць, выключыць, раскалоць, выцвісці, разліць, падкасіць, пацямнець, пасаліць, зжаць, зведаць, купіць, заклеіць, адчуць.

**Заданне 47.** *Перакладзіце на беларускую мову сказы і запішыце іх.*

1) Оранжевые одуванчики прикрылись длинными листьями и стояли целый день, раскачиваемые ветром. 2) На реке еще с времен боев остались переправы, заросшие ольхой. 3) Число картин, имеющих авторскую подпись Айвазовского, достигает четырех тысяч.

4) Среди великих изобретений былых времен, окончательно выделивших род людской из приниженного состояния, наибольшую роль сыграла письменность. 5) Свежий, прохватывающий ветерок тянул с запада. 6) Отягощенные росой, покачиваются цветы.

**Заданне 48.** 📖⌨❀ *Утварыце ад наступных дзеясловаў дзеепрыслоўі і запішыце іх.*

**I.** Жаць, плысці, мыцца, ехаць, весці, везці, стаяць, малаціць, малоць.

**II.** Зжаць, даплыць, памыцца, прыехаць, завесці, прывезці, пастаяць, абмалаціць, змалоць.

**Заданне 49.** 📖⌨❀ *Знайдзіце сказы, у якіх дзеепрыслоўі ўтвораны і ўжыты няправільна. Выпраўце памылкі і запішыце сказы.*

1) Бацька з сынам, ціха размаўляўшы, сядзелі за сталом. 2) Слухаючы прамову, узнікаюць розныя пытанні. 3) Ападаючы на зямлю, лісце ўслала ўсе сцежкі. 4) Вады не засіліш не паварушыўшыся, рыбкі не зловіш не намачыўшыся. 5) Згубячы галаву, па валасах не плачуць.

**Заданне 50.** 📖⌨❀ *Утварыце ад прыслоўяў усе магчымыя формы ступеняў параўнання і запішыце іх.*

Моцна, смела, ціха, прыгожа, глыбока, складана.

**Заданне 51.** 📖⌨❀ *Запішыце словазлучэнні, паставіўшы залежныя словы ў патрэбным склоне.*

Цешыцца (дзіця), дзякаваць (усе прысутныя), кватэра (два пакоі), загадчыца (дзіцячы садок), накіравалі (адрас), пайшлі (лісічкі), захварэць (адзёр), клапаціцца (птушкі), падобны (маці), сумаваць (дачка), паехаць (дровы).

## Раздзел 4

# ФУНКЦЫЯНАЛЬНЫЯ СТЫЛІ МАЎЛЕННЯ

## 4.1. ПАНЯЦЦЕ ФУНКЦЫЯНАЛЬНАГА СТЫЛЮ. КЛАСІФІКАЦЫЯ ФУНКЦЫЯНАЛЬНЫХ СТЫЛЯЎ

**Моўны стыль** — разнавіднасць мовы, якая характарызуецца пэўнымі асаблівасцямі адбору, спалучэння і арганізацыі моўных сродкаў у залежнасці ад задач камунікацыі. Магчымасць выбару абумоўлена стылявым расслаеннем лексікі, г. зн. наяўнасцю ў мове слоў з замацаваным функцыянальным прызначэннем. Але функцыянальныя стылі не ўзнікаюць толькі ў выніку існавання патэнцыяльных рэсурсаў мовы: для іх фарміравання патрэбны яшчэ і знешнія, экстралінгвістычныя фактары, якія вызначаюць умовы адбору моўных адзінак:

- ✓ форма зносін (вусная ці пісьмовая, дыялагічная ці маналагічная);
- ✓ сацыяльная сфера зносін (бытавая, навуковая, грамадска-палітычная, вытворчая, мастацкая і г. д.);
- ✓ змест інфармацыі (тэма і прадмет выказвання);
- ✓ мэта зносін (паведамленне, просьба, загад і г. д.);
- ✓ умовы зносін (характар узаемаадносін удзельнікаў камунікацыйнага акта).

**Функцыянальны стыль** — гэта гістарычна сфарміраваная і грамадска ўсвядомленая разнавіднасць літаратурнай мовы, якая функцыянуе ў вызначанай сферы чалавечай дзейнасці і зносін, характарызуецца асаблівасцямі ўжывання моўных сродкаў і іх спецыфічнай арганізацыяй.

Паняцце пра стыль як асаблівую якасць маўлення ўзнікла яшчэ ў антычнай паэтыцы і рыторыцы (грэч. *stylos* — 'завостраная з аднаго канца палачка, якой пісалі на васковых дошчачках; другі канец палачкі меў форму лапаткі — ім разраўноўвалі воск, сціраючы напісанае'). Старажытныя людзі гаварылі: *Паварочвай сціло!*, што азначала ў прамым сэнсе *сцірай напісанае*, а ў пераносным — *працуй над стылем, абдумвай напісанае*. З развіццём навукі пра мову эвалюцыянавала і разуменне паняцця *стыль*. Супярэчлівыя меркаванні па гэтым пытанні выказваюцца і сучаснымі навукоўцамі. Аднак агульным з'яўляецца прызнанне функцыянальнай прыроды стыляў,

іх сувязі з вызначанай сферай маўленчых зносін і відамі чалавечай дзейнасці, разуменне стылю як гістарычна складзенай і грамадска ўсвядомленай сукупнасці прыёмаў ужывання, адбору і спалучэння моўных адзінак.

У сучаснай беларускай літаратурнай мове вылучаюцца наступныя функцыянальныя стылі: навуковы, афіцыйна-справавы, публіцыстычны і мастацкі, якія выкарыстоўваюцца пераважна ў пісьмовай форме, і гутарковы, што бытуе пераважна ў вусным маўленні.

Сферы ўжывання мовы ў значнай ступені ўплываюць на тэматыку і змест выказвання. Кожная з іх мае свае актуальныя тэмы. Напрыклад, у навуцы абмяркоўваюцца праблемы навуковага пазнання свету, у побытавых кантактах — зносіны людзей паміж сабой, у сям'і, а таксама неафіцыйныя адносіны на вытворчасці, ва ўстановах і г. д. Аднак у розных сферах можа з рознымі мэтамі ўздымацца адна і тая ж тэма. Параўнаем, напрыклад, апісанне гасцінца ў «Беларускай энцыклапедыі» (мэта — раскрыць паняцце *гасцінец*, адзначыць істотныя прыметы прадмета рэчаіснасці) і ў рамане «На ростанях» Якуба Коласа (мэта — стварыць з дапамогай моўных сродкаў маляўнічую карціну):

I. **Гасцінец** 1) тракт, бальшак, шаша, упарадкаваная вялікая дарога. Звычайна меў праезную частку, абмежаваную канавамі і абсаджаную абапал дрэвамі, за канавамі — сцежкі для пешаходаў... (*Беларуская энцыклапедыя*).

**II.** Шырокі гасцінец з двума радамі старых бяроз збягаў з горкі раўнюсенечкаю сценкаю кудысь на захад, і чым далей, тым, здавалася, гусцей стаялі гэтыя развілістыя тоўстыя дрэвы, усё болей і болей зніжаліся яны, а потым зліваліся ў адзін шнур і замыкаліся сабою самі, як бы ўпіраліся ў лес і хаваліся за лінію небасхілу.

Ёсць нешта незвычайна прыгожае ў гэтых старасвецкіх шляхах Беларусі. Шырока і размашыста пралягаюць яны ад вёскі да вёскі, ад мястэчак да гарадоў, злучаючы паветы, губерні і цэлыя краіны (*Якуб Колас. На ростанях*).

Сфера ўжывання мовы, тэматыка і мэты выказвання вызначаюць істотныя прыметы стылю. Для **навуковага стылю** — гэта абагульнена-адцягнены характар выкладу і падкрэсленая лагічнасць, для **афіцыйна-справавога** — прадпісальна-неабходны характар гаворкі і дакладнасць, якая не дапускае двухсэнсоўнасць, для **гутарковага** — натуральнасць, непасрэднасць і непадрыхтаванасць зносін і інш. Гэтыя стылеўтваральныя фактары абумоўліваюць асаблівасці функцыянавання моўных сродкаў, іх спецыфічную арганізацыю.

У кожным стылі можна вылучыць стылістычна афарбаваныя моўныя адзінкі, якія ўжываюцца толькі (ці пераважна) у дадзенай

сферы: у **гутарковым** стылі — гутарковая і прастамоўная лексіка і фразеалогія, у **навуковым** — навуковая тэрміналогія і ўстойлівыя словазлучэнні тэрміналагічнага характару, у **публіцыстычным** — грамадска-палітычная лексіка. Аднак стыль не варта разумець толькі як спалучэнне характэрных, спецыфічных для яго лексічных сродкаў. У кожным стылі асноўная маса слоў — агульнаўжывальныя, нейтральныя, на фоне якіх і вылучаецца адметная лексіка, якая складае моўную спецыфіку стылю.

У залежнасці ад мэт і задач зносін, зместу і маўленчай сітуацыі ў функцыянальным стылі актывізуюцца пэўныя моўныя адзінкі. Так, напрыклад, тэрміны могуць выкарыстоўвацца ў любым стылі, але часцей за ўсё сустракаюцца ў навуковым і афіцыйна-справавым. Іх ужыванне ў гутарковым і мастацкім стылях у значнай ступені абумоўлена тэмай гутаркі ці задачамі мастацкага малюнка навуковай ці дзелавой сферы.

Замацаванасць лексем за пэўным стылем тлумачыцца тым, што лексічнае значэнне многіх слоў, акрамя прадметна-лагічнага зместу, мае і эмацыянальна-стылістычную афарбоўку. Напрыклад, словы *маці*, *мамачка*, *мамуля*, *матуля*, *мамуся*, *мамка* або *бацька*, *тата*, *татка*, *татачка*, *татуся*, *татулька* маюць адно і тое ж значэнне, але адрозніваюцца стылістычна, таму і выкарыстоўваюцца ў розных стылях: *маці*, *бацька* — пераважна ў афіцыйна-справавым стылі, астатнія — у гутарковым стылі.

Кожны функцыянальны стыль па-рознаму выкарыстоўвае граматычныя канструкцыі і формы. Складаназалежныя сказы, дзеепрыметныя і дзеепрыслоўныя звароты характэрныя для **афіцыйна-справавога** і **навуковага** стыляў. У гутарковай мове іх ужыванне не абавязковае. Дзеясловы залежнага стану з'яўляюцца стылеўтваральнымі для **навуковага** стылю, а незалежнага — для **публіцыстычнага**.

Адна і тая ж моўная адзінка можа выкарыстоўвацца ў розных стылях, выяўляючы спецыфічныя для дадзенага стылю семантычныя і функцыянальна-стылістычныя значэнні. Напрыклад, формы дзеяслова цяперашняга часу ў гутарковай мове абазначаюць пэўнае дзеянне, якое адбываецца ў момант гаворкі: *Студэнты слухаюць лекцыю*; *Я думаю, што дзень будзе цёплым*. У навуковым стылі гэтая форма звычайна выяўляе пазачасавае, абстрактнае значэнне: *Дыялекты знаходзяцца за межамі літаратурнай мовы*; *Як і сама мова, норма перажывае гістарычныя змены*; у афіцыйна-справавым — цяперашнія прадпісанні (ці неабходнасці): *Бацькі нясуць* (г. зн. абавязаны несці ў гэты момант) *адказнасць за выхаванне дзяцей*; *Дзяр-*

*жава ставарае* (г. зн. павінна ствараць у гэты момант) *неабходныя ўмовы для свабоднага і эфектыўнага ўдзелу моладзі ў палітычным, сацыяльным, эканамічным і культурным развіцці.*

Часам у тэкстах могуць назірацца пэўныя адхіленні ад тыповых асаблівасцяў арганізацыі моўнага матэрыялу ў тым ці іншым функцыянальным стылі. Яны звычайна абумоўлены тым, што да асноўнай задачы зносін далучаецца нейкая дадатковая. Напрыклад, узнікае неабходнасць не толькі даць інфармацыю пра навуковае адкрыццё, але і расказаць пра гэта ў папулярнай форме:

У Афрыцы, у Егіпце людзі вельмі даўно навучыліся пісаць на папірусе...

Матэрыял для пісьма з папірусу рабілі так: расліну ссякалі, ніжнюю частку дзялілі на роўныя кавалкі. Іголкаю дзялілі валакно на палоскі як мага шырэйшыя, танчэйшыя і даўжэйшыя. Разабраўшы іх залежна ад якасці — шырэйшыя лічыліся лепшымі, — выкладваліся гэтыя палоскі на стол са спецыяльна нахіленай стальніцаю, сцелючы так, каб іхнія краі заходзілі адзін на адзін. Найлепшыя стужачкі-палоскі атрымліваліся з сярэдняй часткі сцябла. Яны былі і найшырэйшыя, і найдаўжэйшыя.

Пасля на разасланы пласт палосак накладвалі другі, але ўжо ўпоперак. Білі драўляным малатком: ад гэтага пласты танчэлі і шчыльнелі. Потым палівалі нільскаю вадою і клалі пад прэс. Пры сцісканні з расліны выдзяляўся сок. Ён праклейваў усе валокны — атрымліваўся суцэльны аркуш. Два пласты ў ім так непарыўна злучаліся, што і сёння захавалі сваю трываласць (*А. Клышка. Францыск Скарына, альбо Як да нас прыйшла кніга*).

У такім выпадку ў тэксце будуць ужывацца элементы, запазычаныя з мастацкага апавядання і публіцыстыкі (вобразныя параўнанні, рытарычныя пытанні і інш.), гутарковая інтанацыя і сінтаксічныя канструкцыі і г. д. Але ўсе гэтыя элементы павінны падпарадкоўвацца адзінай мэце, дзякуючы чаму дасягаецца агульная функцыянальна-стылістычная афарбаванасць.

Функцыянальныя стылі як найбольш буйныя разнавіднасці літаратурнай мовы (**макрастылі**) падзяляюцца на падстылі (**мікрастылі**), сярод якіх ў сваю чаргу вылучаюцца яшчэ больш прыватныя разнавіднасці.

У **афіцыйна-справавым** стылі ў залежнасці ад прызначэння тэкстаў вылучаюцца заканадаўчы, дыпламатычны і канцылярскі (адміністрацыйна-канцылярскі) падстылі.

Разнавіднасці **навуковага** стылю вызначаюцца спецыфікай розных відаў навуковых зносін. У ім вылучаюцца, напрыклад, *уласна навуковы, навукова-вучэбны* і *навукова-папулярны* падстылі.

Асаблівасці **публіцыстычнага** стылю вызначаюцца спецыфікай сродкаў масавай інфармацыі. У залежнасці ад гэтага можна вы-

лучыць *газетна-публіцыстычны, радыё-* і *тэлежурналісцкі, прамоўніцкі* падстылі.

Любы падстыль, таксама як і стыль, рэалізуецца ў сукупнасці вызначаных тыпаў тэкстаў. Напрыклад, у газетна-публіцыстычным падстылі гэта хранікальная інфармацыя, рэпартаж, інтэрв'ю, нарыс, фельетон, артыкул; ва ўласна навуковым — манаграфія, рэферат, даклад, тэзісы і г. д.; у навукова-вучэбным — падручнік, вучэбны дапаможнік, дыпломная ці курсавая праца і інш.; у канцылярскім падстылі — заява, аб'ява, акт, даверанасць, распіска, характарыстыка і г. д.

Кожны з такіх тыпаў тэкстаў прынята называць жанрам. **Жанр** — род, разнавіднасць гаворкі, вызначаная дадзенымі ўмовамі сітуацыі і мэтай ужывання.

У моўнай рэчаіснасці няма рэзкіх межаў паміж стылямі, сустракаецца нямала пераходных з'яў. Так, у сувязі з развіццём тэхнікі, укараненнем навуковых дасягненняў у вытворчасць з'явіліся жанры, якія сумяшчаюць у сабе рысы навуковага і афіцыйна-справавога стыляў (патэнты, інструкцыі па карыстанні і г. д.). Газетны артыкул на навуковую тэму сумяшчае ў сабе асаблівасці навуковага і публіцыстычнага стыляў, рэцэнзія — навуковага і дзелавога і г. д. Стылі, знаходзячыся ў цесным узаемадзеянні, могуць часткова змешвацца і пранікаць адзін у другі. Аднак часцей за ўсё адзін са стыляў выступае ў якасці галоўнага, а на яго фоне выяўляюцца элементы іншых стыляў.

Дыферэнцыяльныя прыметы функцыянальных стыляў адлюстраваны ў *табліцы 17*.

## ⌛ Пытанні для самакантролю

1. Дайце азначэнне функцыянальнаму стылю.
2. Назавіце функцыянальныя стылі сучаснай беларускай літаратурнай мовы, акрэсліце сферы іх ужывання.
3. За кошт чаго ствараецца адзінства стыляў? Чым адрозніваецца адзін стыль ад другога?
4. Якія экстралінгвістычныя фактары ўлічваюцца пры класіфікацыі функцыянальных стыляў?
5. Пералічыце асноўныя функцыі кожнага са стыляў.
6. Што такое падстыль? Пералічыце падстылі навуковага, афіцыйна-справавога і публіцыстычнага стыляў.

*Табліца 17*

| Стылі | Афіцыйна-справавы | Навуковы | Публіцыстычны | Мастацкі | Гутарковы |
|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| Сфера выкарыстання | ✓ адміністрацыйна-прававая | ✓ навуковая | ✓ грамадска-палітычная | ✓ мастацкая літаратура | ✓ побытавая |
| Асноўныя функцыі | ✓ паведамленне інфармацыі | ✓ паведамленне інфармацыі | ✓ паведамленне інфармацыі<br>✓ уздзеянне на адрасата | ✓ эстэтычная<br>✓ эмацыянальна-вобразнае ўздзеянне | ✓ зносіны |
| Падстылі | ✓ уласна афіцыйна-справавы (канцылярскі)<br>✓ юрыдычны (мова законаў і ўказаў)<br>✓ дыпламатычны | ✓ уласна навуковы (акадэмічны)<br>✓ навукова-тэхнічны (вытворча-тэхнічны, навукова-справавы)<br>✓ навукова-інфармацыйны<br>✓ навукова-даведачны<br>✓ вучэбна-навуковы (навукова-навучальны)<br>✓ навукова-папулярны | ✓ газетна-публіцыстычны<br>✓ радыё- і тэлежурналісцкі<br>✓ аратарскі | ✓ празаічны<br>✓ драматургічны<br>✓ паэтычны | ✓ размоўна-бытавы<br>✓ размоўна-афіцыйны |
| Асноўныя жанравыя разнавіднасці | ✓ дзелавыя дакументы<br>✓ пастановы<br>✓ загады<br>✓ законы і г. д. | ✓ навуковыя працы<br>✓ артыкулы<br>✓ тэзісы<br>✓ падручнікі<br>✓ рэфераты<br>✓ анатацыі і інш. | ✓ газетныя і часопісныя артыкулы<br>✓ нарысы<br>✓ выступленні на грамадска-палітычныя тэмы і інш. | ✓ празаічныя<br>✓ паэтычныя<br>✓ драматургічныя творы | ✓ паўсядзённыя гутаркі<br>✓ дыялогі<br>✓ прыватныя лісты і інш. |

*Окончание табл. 17*

| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|---|
| Агульныя прыметы | ✓ імператыўнасць<br>✓ дакладнасць<br>✓ лагічнасць<br>✓ афіцыйнасць<br>✓ безэмацыянальнасць | ✓ абагульнена-адцягнены характар выкладу<br>✓ падкрэсленая лагічнасць<br>✓ сэнсавая дакладнасць<br>✓ інфармацыйная насычанасць<br>✓ аб'ектыўнасць | ✓ агульнадаступнасць<br>✓ чаргаванне экспрэсіі і стандарта | ✓ мастацка-вобразная канкрэтызацыя<br>✓ эмацыянальнасць | ✓ непасрэднасць,<br>✓ непадрыхтаванасць<br>✓ эмацыянальнасць<br>✓ экспрэсіўнасць<br>✓ ацэначны характар |
| Агульныя моўныя асаблівасці | ✓ стандартнасць<br>✓ імкненне да стылістычнай аднароднасці тэксту<br>✓ упарадкаваны характар выкарыстання моўных сродкаў | ✓ абагульнена-адцягнены характар лексічных і граматычных сродкаў | ✓ спалучэнне экспрэсіі і стандарту | ✓ падпарадкаванасць выкарыстання моўных сродкаў вобразнай думцы, эстэтычнай функцыі мовы, мастацкай задуме аўтара | ✓ агульныя моўныя асаблівасці |
| Лексічныя асаблівасці | ✓ словы ў прамым значэнні<br>✓ тэрміны<br>✓ канцылярызмы<br>✓ моўныя штампы<br>✓ архаізмы | ✓ навуковыя тэрміны<br>✓ кніжная лексіка<br>✓ абстрактная лексіка<br>✓ словы ў прамым значэнні | ✓ грамадска-публіцыстычная лексіка<br>✓ словы з пераносным значэннем<br>✓ лексіка са спецыфічнай публіцыстычнай афарбоўкай | ✓ выкарыстанне сродкаў мастацкай выразнасці<br>✓ словы ў пераносным значэнні<br>✓ стылістычна афарбаваная лексіка | ✓ гутарковая лексіка<br>✓ перавага слоў з канкрэтным значэннем<br>✓ лексіка з эмацыянальна-экспрэсіўнай афарбоўкай |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Марфала-гічныя асаблівасці | ✓ аддзеяслоўныя назоўнікі<br>✓ безасабовыя дзеясловы<br>✓ дзеясловы ў пачатковай форме<br>✓ дзеепрыметнікі і дзеепрыслоўі і інш. | ✓ аддзеяслоўныя і адпрыметнікавыя назоўнікі<br>✓ нанізванне формаў роднага склону<br>✓ формы адзіночнага ліку ў значэнні множ-нага<br>✓ дзеяслоўныя формы з пазачасавым значэн-нем<br>✓ дзеепрыметнікі і дзеепрыслоўі | ✓ частае вы-карыстанне формы роднага склону<br>✓ выклічнікі<br>✓ дзеясловы цяперашняга і прошлага часу<br>✓ формы адзіночнага ліку ў значэнні множнага | ✓ шырока выкарыстоў-ваюцца словы ўсіх часцін мовы | ✓ перавага дзеясловаў над назоўнікамі<br>✓ частае ўжыванне займеннікаў |
| Сінтаксічныя асаблівасці | ✓ складаныя сказы з даклад-най лагічнай паслядоўнасцю<br>✓ стандартныя сінтаксічныя канструкцыі<br>✓ безасабовыя сказы<br>✓ рэгламентацыя парадку слоў | ✓ простыя развітыя і складаназалежныя сказы<br>✓ безасабовыя сказы<br>✓ пабочныя канструкцыі<br>✓ дзеепрыметныя і дзеепрыслоўныя звароты | ✓ лаканічнасць канструкцый<br>✓ сказы з адасобленымі членамі<br>✓ далучальныя канструкцыі<br>✓ сінтаксічны паралелізм<br>✓ клічныя сказы | ✓ простыя і складаныя сказы<br>✓ простая, ускосная мова, няўласна-простая мова, дыялогі | ✓ простыя сказы<br>✓ няпоўныя сказы<br>✓ інверсія |

## 4.2. ПУБЛІЦЫСТЫЧНЫ СТЫЛЬ І ЯГО АСНОЎНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ

**Публіцыстычным** называецца функцыянальны стыль, які абслугоўвае сферу грамадска-палітычнай камунікацыі. Ён рэалізуецца ў газетных і часопісных артыкулах, дакладах, выступленнях, лозунгах на грамадска-палітычныя тэмы. Пры гэтым аўтар, перадаючы факты, выяўляе сваё стаўленне да іх. Тэкстам публіцыстычнага стылю ўласціва яркая эмацыянальна-экспрэсіўная афарбоўка, не характэрная ні для навуковага, ні для афіцыйна-справавога стылю.

Прызначэнне публіцыстыкі — паведамляць навіны штодзённага жыцця, культуры, навукі, растлумачваць сацыяльныя пытанні. Гэтым выклікана, з аднаго боку, выкарыстанне грамадска-палітычнай тэрміналогіі, з другога боку — моўных сродкаў для выказвання настрою, пачуццяў, у прыватнасці эмацыянальна-экспрэсіўнай лексікі.

Асноўнымі функцыямі публіцыстычнага стылю з'яўляюцца інфармацыйная, экспрэсіўная, камунікатыўная, эмацыйная, эстэтычная.

***Інфармацыйная***. Аўтары маюць на мэце інфармаваць шырокае кола чытачоў, гледачоў, слухачоў пра значымыя для грамадства праблемы і свае погляды на іх. Спецыфіка інфармацыйнай функцыі ў публіцыстычным стылі заключаецца ў характары паведамлення звестак, іх крыніцах і адрасатах. Інфармацыя ў публіцыстычных тэкстах не толькі апісвае факты, але і адлюстроўвае меркаванні, настроі, змяшчае каментарыі і разважанні аўтараў. Перад публіцыстычнымі творамі не ставіцца задача поўнага, усебаковага апісання той ці іншай з'явы, публіцыст імкнецца пісаць пра тое, што выклікае цікавасць у пэўных грамадскіх груп.

***Экспрэсіўная***. Мэта любога публіцыстычнага тэксту заключаецца не толькі ў тым, каб расказаць пра стан спраў у грамадстве, але і ў тым, каб пераканаць аўдыторыю ў неабходнасці пэўных адносін да выкладаемых фактаў і ў неабходнасці пэўных паводзін. Таму для гэтага стылю характэрна адкрытая тэндэнцыйнасць, палемічнасць, эмацыянальнасць, што якраз і выклікана імкненнем аўтара даказаць правільнасць сваёй пазіцыі.

***Камунікатыўная***. Публіцыстычныя тэксты ствараюцца не для ўнутранага выкарыстання, не для адзінкавага адрасата, а для максімальна шырокай аўдыторыі.

***Эмацыйная***. Дазваляе выразіць свае пачуцці; публіцыстычны тэкст звычайна адлюстроўвае асобу аўтара, адрозніваецца ярка

выражанымі і эмацыянальна афарбаванымі адносінамі аўтара да выкладаемых фактаў.

***Эстэтычная.*** Паведамленне павінна задавальняць эстэтычныя запатрабаванні чалавека.

✎ Істотныя рысы лексікі публіцыстычнага стылю — эмацыянальнасць, экспрэсіўнасць, ацэначнасць. Адны моўныя адзінкі маюць станоўча-ацэначны характар: *росквіт*, *дабрабыт*, *працаўнік*; другія — выразны адбітак адмоўна-ацэначнай афарбаванасці: *экстрэмісты*, *сабатаж*, *апартэід*, *абывацель* і інш.

Для публіцыстычнага стылю характэрны гатовыя стандартныя моўныя клішэ, якія маюць не індывідуальна-аўтарскі, а сацыяльны характар: *гарачая падтрымка*, *жывы водгук*, *пасол добрай волі* і інш. У выніку шматразовых паўтораў такія клішэ нярэдка пераўтвараюцца ў моўныя штампы: *радыкальныя рэформы*, *акула пяра*, *шокавая тэрапія*, *жоўтая прэса*, *закон джунгляў*, *пакет прапаноў*, *пытанні бяспекі* і інш.

У пераносным значэнні ў публіцыстыцы шырока выкарыстоўваюцца тэрміны з розных галін навукі: *атмасфера* (*атмасфера даверу*), *пазітыўны* (*пазітыўныя вынікі*); мастацтва: *дуэт* (*дуэт лібералаў і кансерватараў*), *спектакль* (*палітычны спектакль*), *закулісны* (*закулісныя перамовы*); ваеннай справы: *фронт* (*фронт барацьбы*), *курс* (*новы палітычны курс*); спорту: *раўнд* (*апошні раўнд сустрэчы*), *тур* (*чарговы тур перамоў*) і г. д.

Своеасаблівым экспрэсіўным сродкам публіцыстычнага стылю з'яўляецца ўжыванне ў ім (асабліва ў газетнай і часопіснай публіцыстыцы) варварызмаў і экзатызмаў. Прычым працэс пранікнення падобных разрадаў слоў у друк з кожным годам становіцца больш інтэнсіўным, што абумоўлена актыўным пашырэннем міжнародных кантактаў. *Аматары эстраднай музыкі неўзабаве змогуць набыць так званы «<u>максі-сінгл</u>»*; *Іранічная інтанацыя, з якой спявак падае сюжэты сваіх песень, родніць яго з моднымі цяпер таранцінаўскімі <u>экшэнамі</u>.*

Заўсёды неабходна памятаць пра тое, што ўжываць запазычаныя словы трэба з улікам тэматыкі, сэнсавай і эстэтычнай мэтазгоднасці.

✎ На марфалагічным узроўні асаблівасці публіцыстычнага стылю наступныя:

✓ужыванне адзіночнага ліку назоўніка ў значэнні множнага: *Беларус заўсёды адрозніваўся сваёй кемлівасцю і цягавітасцю*; *Гэта стала спусташальным для брытанскага падаткаплацельшчыка* і інш.;

✓ужыванне назоўнікаў у форме множнага ліку: *гутаркі*, *волі*, *настроі*, *кругі*, *пошукі* і інш. У некаторых жанрах публіцыстыкі

ужываюцца назоўнікі ў множным ліку і са спецыфічным значэннем. Напрыклад, слова *ўлады* выкарыстоўваецца ў значэнні '*сукупнасць асоб, надзеленых вышэйшымі паўнамоцтвамі*' (*гарадскія ўлады*);

✓частае выкарыстанне дзеяслова ў форме загаднага ладу: *Людзі планеты, уставайце, адважна ідзіце наперад! Сцвярджайце сацыяльную справядлівасць!*; *Дарагія чытачы! Вашы прапановы і пажаданні накіроўвайце ў рэдакцыю*. Імператыўная форма дзеяслова з'яўляецца стылеўтваральнай рысай у закліках. Загадны лад дзеяслова выкарыстоўваецца і як сродак актывізацыі ўвагі суразмоўцы: *пагля́дзіце, давайце падумаем* і інш.;

✓частае ўжыванне часціц ***не*** і ***ні***, часціцы ***ж*** ва ўзмацняльнай функцыі, гутарковых часціц ***бо***, ***вось***, ***нават***, ***толькі*** і інш. Паколькі публіцыстычны стыль у цэлым адрозніваецца багаццем адцягненых паняццяў, у ім узрастае роля вытворных прыназоўнікаў (*на аснове, падчас, у якасці, на базе, па шляху, у плане, у імя, у святле, у інтарэсах, з улікам, па лініі* і інш.): *Падчас гутаркі было выяўлена агульнае меркаванне, што ва ўмовах узрастання ролі парламентаў нашых краін у рашэнні кардынальных праблем грамадскага жыцця адкрываюцца больш шырокія магчымасці для іх супрацоўніцтва.*

➘ Публіцыстычны стыль адзначаецца выкарыстаннем рытарычна-пытальных, клічных сказаў, зваротаў, паўтораў, інверсіі, паралелізму і інш.: *Ці шмат трэба, каб убачыць неба ў дыяментах?*; *Перамагаюць тыя, хто ідзе наперад, да ро́сквіту і багацця, перамагаюць тыя, хто ясна бачыць будучы дзень гісторыі, перамагае «ціск жыцця»*.

Асаблівасцю публіцыстычных тэкстаў з'яўляецца шматжанравасць і звязаная з гэтым разнастайнасць іх стылёвага афармлення. Вылучаюцца наступныя **падстылі** публіцыстычнага стылю:

✓***газетны***: артыкул, фельетон, рэпартаж;

✓***радыё-*** і ***тэлежурналісцкі***: аналітычная праграма, інфармацыйнае паведамленне, дыялог у прамым эфіры;

✓***прамоўніцкі*** (***аратарскі***): выступленне на мітынгу, дэбаты;

✓***камунікатыўны***: прэс-канферэнцыя, тэлемост;

✓***рэкламны***: аб'ява, плакат, лозунг.

## ⌛ Пытанні для самакантролю

1. Ахарактарызуйце публіцыстычны стыль: назавіце сферу яго выкарыстання, асноўныя стылеўтваральныя рысы, пералічыце падстылі і жанравыя разнавіднасці.

2. Назавіце функцыі публіцыстычнага стылю, дайце ім кароткую характарыстыку.

3. Якія асноўныя лексічныя асаблівасці публіцыстычнага стылю?

4. Назавіце марфалагічныя і сінтаксічныя асаблівасці публіцыстычнага стылю.

## ✍ ЗАДАННІ

**Заданне 52.** 🕮⌨✿ *Прачытайце тэксты, вызначце іх стыль, назавіце характэрныя лексічныя, марфалагічныя і сінтаксічныя асаблівасці.*

**I.** Што ж без цябе, настаўнік? Хто ж без цябе, настаўнік? Ты, настаўнік, быў у Скарыны і ў Гарыбальдзі. Ты, настаўнік, быў у Герцэна і ў Каліноўскага, у Карскага і ў Паўлава.

Ты, настаўнік, быў і ў таго печніка, якога спалілі фашысты, — у таго адзінага, хто мог бы ў той дзень не згарэць. І ён жыве.

Касманаўт Кавалёнак, калі вярнуўся з космасу, на першай хвіліне размовы з журналістам успомніў сваю школьную настаўніцу Людмілу Ермашкевіч.

Свет не ведае азалочанага настаўніка, мільянера.

Свет ведае: ні войны, ні землетрасенні, ніякая прапаганда ці забарона ніколі не сатруць з памяці чалавецтва засведчанай у легендзе здрады настаўніку: вучань пакляўся, што не здрадзіць настаўніку, — а прадаў настаўніка. Прадаў за трыццаць срэбранікаў. Прадаў, а сам навекі ажаніўся з асінаю, павесіўся на ёй. Навекі стаў сімвалам нявернасці, здрады, прадажніцтва, нялюдскасці. На асіне, ненавіснай людзям, заўсёды трымціць ліст. Чалавецтва, чалавечнасць далі вечную ацэнку, вынеслі вечны прысуд на ганьбаванне таго, хто здрадзіў настаўніку (*Ф. Янкоўскі. Настаўнікі*).

**II.** *Артыкул 13.* Абарона дзіцём сваіх правоў і інтарэсаў.

Дзіця ва ўзросце чатырнаццаці гадоў і старэйшае мае права на атрыманне юрыдычнай дапамогі для ажыццяўлення і абароны сваіх правоў і свабод, у тым ліку права карыстацца ў любы момант дапамогай адвакатаў і іншых сваіх прадстаўнікоў у судзе, іншых дзяржаўных органах, іншых арганізацыях і ў адносінах са службовымі асобамі і грамадзянамі без згоды бацькоў або асоб, якія іх замяняюць.

У выпадках, прадугледжаных заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, юрыдычная дапамога аказваецца дзіцяці калегіямі адвакатаў бясплатна.

У выпадку парушэння правоў дзіцяці, якія вызначаны Канвенцыяй Арганізацыі Аб'яднаных Нацый аб правах дзіцяці 1989 года і іншымі актамі заканадаўства Рэспублікі Беларусь, дзіця мае права звяртацца з заявамі ў органы апекі і папячыцельства, пракурату-

ру, а па дасягненні чатырнаццаці гадоў — у суд з заявай аб абароне сваіх правоў і інтарэсаў, а таксама ажыццяўляць абарону правоў і інтарэсаў праз сваіх законных прадстаўнікоў (*Закон Рэспублікі Беларусь «Аб правах дзіцяці»*).

**III.** Штосьці прыгожае і незвычайнае, зробленае сваімі рукамі, — на мове нашых бабуль і дзядуль яно называецца папросту «самаробным», на мове ж моладзі мы скажам «хэнд-мэйд». Гэта сфера творчай дзейнасці, ключавой пазіцыяй якой з'яўляецца стварэнне пэўных прадметаў менавіта ўласнымі рукамі. У выніку атрымліваюцца эксклюзіўныя рэчы. Іх нельга назваць творамі мастацтва, аднак яны выражаюць яркую індывідуальнасць, прычым як творцы, так і таго чалавека, што іх набывае.

Людзі, якія займаюцца хэнд-мэйдам, зразумелі, што варта аб'яднацца, каб дзяліцца вопытам, чэрпаць натхненне і, у рэшце рэшт, прадаваць свае творы. З гэтай нагоды яны пачалі ладзіць сумесныя выставы-продажы. Найбольш вядомыя з іх — «Кірмашы хэнд-мэйду». Плануецца, што яны будуць ладзіцца кожны месяц. А нядаўна другі па ліку Кірмаш прайшоў у Нацыянальным гістарычным музеі. На ім было сапраўды людна, як і патрабуе таго «фармат мерапрыемства» (*Чырвоная змена*).

**IV.** Імператыў (ад лац. *imperatives* 'уладны, катэгарычны, загадны'), безумоўнае, катэгарычнае патрабаванне, загад, закон. Імператыўныя выказванні з'яўляюцца прадметам логікі нормаў. У філасофіі І. Канта — усеагульны маральны закон, якім ён імкнуўся замяніць усе антычныя нормы адной (катэгарычны імператыў). Кант разумеў катэгарычны імператыў як нешта першапачаткова ўласцівае розуму, вечнае і нязменнае. Выключныя нормы, што неабходна прымаць пры пэўных абставінах, у этыцы ён называў гіпатэтычным імператывам. Паводле дыялекталагічнага матэрыялізму, мараль, як і ўсё на свеце, гістарычна развіваецца і змяняецца, і ў ёй не можа быць нязменных патрабаванняў і законаў (*Беларуская энцыклапедыя*).

**Заданне 53.** 📖⌨✿ *Прачытайце тэкст і вызначце стыль. Мадыфікуйце яго ў тэкст публіцыстычнага стылю, запішыце.*

Ведалі не толькі сямейнікі — ведаў і ўвесь дзясяты клас: іх настаўніца Алена Адамаўна цяжка хворая. Не дапамагла і аперацыя.

А ў школе канчаўся навучальны год. Напярэдадні развітальнага вечара са школаю выпускнікі ўсім класам пісалі просьбу завітаць — хоць на хвілінку — на выпускны вечар. Пісалі і перапісвалі запрашэнне, пісалі і перапісвалі пажаданні Алене Адамаўне. Але запрашэнне і пажаданні не выходзілі: вучні пісалі іх чалавеку, дні якога во-во падлічацца...

Так і не напісалі. Так запрашэння і не паслалі.

Настаўніца неяк уведала, калі будзе выпускны вечар. Яна ведала і тое, што на вечары ёй не быць. Ведала і разумела: дзеці, яе дзесяцікласнікі, да яе не прыйдуць: сямейнікі, дактары ўжо з месяц просяць, каб хворую непакоілі як можна менш, сказалі гэта аднойчы і дырэктару школы.

Алена Адамаўна труднавала дні і ночы. У дзень выпуску, прыняўшы лекі і доктараву дапамогу, папрасіла, каб яе ўмылі, каб падбілі падушку, каб пераслалі пасцель, каб пераманілі бялізну; потым сказала, каб паклікалі майстра з цырульні дагледзець валасы — зрабіць прычоску. Старэнькая мама з дарагою стараннасцю, руплівасцю і ласкаю, з якімі ўмеюць рабіць толькі мамы, рабіла ўсё. Яна рабіла і цешылася: «А можа… Можа, ачуняе дачушка…» Цешылася, але сэрца матчына не пераставала балець.

— Ці не чакаеш каго, Гэлечка?

— Не, мама.

І мама паверыла.

Праз некаторы час, збіраючы амаль апошнюю сілу, сказала:

— Сёння выпуск. Маіх… Я павінна падрыхтавацца… Я буду думаць пра іх. Успомню ўсіх…

Сказала і страціла прытомнасць. Заснула. Спала ціха і даўжэй, чым звычайна. Ачнулася, калі ўжо звечарэла, і глядзела, быццам вінаватая: якраз быў час пачынацца вечару — развітанню яе класа са школаю. Ціха ляжала.

Прайшло з гадзіну. Ціхі гурт сямнаццацігадовых — без слоў і, здаецца, не кранаючыся зямлі, — ішоў на святло, што шырока лілося ў гэты вечар з шкляных дзвярэй, якія выходзілі на балкон.

Падышлі. Моўчкі спыніліся. Яны ведалі, куды і чаго ідуць. А прыйшлі — сталі, замерлі як здранцвелыя. Адзін з іх нягучна і нясмела пазваў:

— Алена Адамаўна!

Пачула мама: клічуць яе Гэлю…

Усе яны, усе трыццаць перасталі дыхаць…

Стоячы пад акном кватэры Алены Адамаўны, неяк асабліва мякка паўтаралі: «Алена Адамаўна! А-ле-на А-да-маў-на! А-ле-на А-да-маў-на!»

І першы раз за апошнія чатыры тыдні яна сама ўстала з пасцелі. Першы раз за апошнія чатыры тыдні прайшла пакой, выйшла на балкон…

Вучні не адыходзілі… (*Ф. Янкоўскі. Развітанне*)

**Заданне 54**. *Прачытайце тэксты, назавіце характэрныя лексічныя, марфалагічныя і сінтаксічныя асаблівасці публіцыстычнага стылю.*

📖 Калядны вянок — традыцыйнае ўпрыгожанне дома ў многіх краінах, паступова ён становіцца папулярны і ў нас. У перыяд чакання Каляд, кожную нядзелю на калядным вянку запальваюць новую свечку — усяго іх атрымліваецца чатыры. Акрамя свечак, калядны вянок традыцыйна ўпрыгожваюць чырвонымі стужкамі, ласункамі, яблыкамі і званочкамі.

Асновай для такога вянка паслужыць трывалы і тоўсты дрот, да яго прымацоўваюцца галінкі.

Калядны вянок звычайна робіцца з галінак сасны, елкі, ядлоўцу, гнуткіх дубцоў або штучных яловых галін. Традыцыйнае ўпрыгожанне каляднага вянка — гэта банты і стужкі. Можна ўпрыгожыць вянок невялікімі ёлачнымі цацкамі, жывымі або штучнымі кветкамі і шышкамі. Хораша глядзяцца шышкі, пафарбаваныя залатой або срэбнай фарбай. З садавіны добра будуць глядзецца невялікія мандарыны або яблыкі, скрылікі сушаных лімонаў і апельсінаў, спіралі з лупіны цытрусавых. І не забудзьцеся палачкі карыцы! (*Святочны атрыбут // Звязда*).

📖 Ля ўваходу ў галоўны корпус Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы з'явіўся квадрат з мазаічнай пліткі, у якім у хаатычным парадку размешчаны маленькія квадрацікі чорнага і белага колеру. Нейкае ўпрыгажэнне гістарычнага цэнтра горада над Нёманам у стылі стрыт-арта (вулічнага мастацтва)? Аказваецца, гэта даволі сур'ёзная рэч, патрабаванне часу ў сферы інфармацыйных тэхналогій — першы аб'ект у горадзе над Нёманам, дзе з'явіўся QR-код.

Аўтар праекта, студэнт-трэцякурснік факультэта матэматыкі і інфарматыкі ГрДУ Яўген Неўгень на сваёй, пэўна, першай у жыцці прэс-канферэнцыі патлумачыў:

— QR-код (абрэвіятура ад Quick Response, што перакладаецца як «хуткі водгук») — гэта наступнае пакаленне штрых-кодаў, якія цяпер выкарыстоўваюцца практычна на ўсіх таварах — з выкарыстаннем мабільнай сувязі. Ідэя праекта захапіла мяне пасля прагляду фільма пра вулічнае мастацтва, дзе герой выкладвае мазаічнай пліткай карцінкі ў розных месцах па ўсім свеце. Я прапанаваў зрабіць мабільны сайт нашага ўніверсітэта, на які можна выйсці праз гэты мазаічны квадрат — QR-код. І цяпер, праходзячы міма галоўнага корпуса, можна ўзяць свой мабільны тэлефон, адсканаваць QR-метку (у радыусе яе размяшчэння дзейнічае Wi-Fi) і вам адкры-

ецца сайт, дзе прадстаўлена асноўная інфармацыя пра ГрДУ. Можна ўбачыць на карце, дзе ён знаходзіцца, што размешчана побач, дауведацца пра навіны ўніверсітэта, размяшчэнне факультэтаў, кантактныя тэлефоны... Прычым гэты мабільны сайт непасрэдна звязаны з карпаратыўным універсітэцкім сайтам і пастаянна абнаўляецца.

Дарэчы, ГрДУ імя Янкі Купалы стаў першым не толькі ў абласным цэнтры, але і сярод універсітэтаў краіны, дзе створаны мабільны сайт з выхадам на яго праз QR-метку (*Код Неўгеня // Чырвоная змена*).

✿ Алешына хавае ў сабе нямала гаючых сакрэтаў. З даўніх часоў яна служыць людзям. Лекавай сыравінай улетку з'яўляецца лісце, восенню і зімой — суплоддзі, а вясной лепш за ўсё выкарыстоўваць кветкавыя завушніцы і кару, бо ў гэты час яна лягчэй за ўсё аддзяляецца ад ствала і валодае комплексам біялагічна актыўных рэчываў.

Суплоддзі алешыны змяшчаюць дубільныя рэчывы, гліказіды, арганічныя кіслоты, а таксама алкалоіды, флаваноіды, стэроіды, кумарыны, тлусты алей. З лісця выдзелены флаваноідныя гліказіды, бялок, тлушчы, аскарбінавая кіслата, карацін. У кары прысутнічаюць дубільныя рэчывы, вітамін PP, рэчывы-фарбавальнікі.

Суплоддзі алешыны, падобныя на прыгожыя маленькія шышачкі, можна збіраць з восені амаль да самай вясны, пакуль яны трымаюцца на дрэве. Апалыя суплоддзі не збіраюць. Сыравіну сушаць на паддашках або пад навесамі, а таксама ў паветраных сушылках са штучным абагрэвам, расклаўшы тонкім пластом (4—5 см), перыядычна перамешваючы. Гатовая сыравіна захоўвае свае гаючыя ўласцівасці на працягу 2—3 гадоў.

Увага! Лекавыя сродкі з вольхі нетаксічныя. Аднак бескантрольнае ўжыванне суплоддзяў у выглядзе водных выцяжак можа абумовіць непажаданую таксічнасць і пабочныя дзеянні.

Супрацьпаказаннем да прымянення лекавых прэпаратаў з алешыны з'яўляецца павышаная адчувальнасць чалавека да гэтых сродкаў, якая можа праяўляцца ў выглядзе алергічных рэакцый (*Альховыя сакрэты // Звязда*).

**Заданне 55.** *Перакладзіце словы на беларускую мову і суаднясіце іх з пэўным стылем, запоўніўшы табліцу.*

| Стыль | | | | |
|---|---|---|---|---|
| афіцыйна-справавы | навуковы | публіцыстычны | размоўны | мастацкі |
| | | | | |

🕮 Индивудуальность автора, историческая судьба, переплетается многими нитями, обеспечение охраны и защиты авторских прав, бортничество, молодежная политика, черное крыло Чернобыля, финансовые инвестиции, безумная авантюра, крепостное право, хвастун, корова языком слизала, конвергенция, в связи с тяжелым положением, белобрысый, держать камень за пазухой, именуемый в дальнейшем, апартеид, новый политический курс, миротворческие силы, жечь мосты, волшебная пора, конфессиональный принцип, движущие силы истории, харизматический лидер, банальная история.

🖮 Солнечная система, два сапога пара, содержит дискуссионные положения, числитель, компенсация за отпуск, звездная величина, фантасмагория, кати домой, окружность, дедукция, вечное небо, права и свободы граждан, иррациональное число, уходящий день, обучение без отрыва от производства, новая звезда, оживленная дискуссия, солнышко, тревожный сигнал, астрономическая единица, рукой подать, вносить дополнения, бабуля, дефект масс, транспортные средства, магнитный заряд, квартиросъемщик, скорость движения, электромагнитные волны, солидная награда, жили-были, недосягаемая звезда, обеспечивается право на защиту, функция, самые решительные меры.

✿ Процветание, гетерогенные реакции, парадигма, экономическая модель, никто толком не скажет, живая вода, является объектом, водородная связь, дождаться своего часа, городские власти, игра оттенков, маленький-премаленький, демографическая политика, популяция, прыг-скок, безумный туман, уровень жизни, кислотный остаток, антициклон, экологическая катастрофа, реакция замещения, нравственная холера, немецкие автобаны, пожелтелая трава, с ног на голову, доченька, телесное повреждение, семейство китообразные, педагогический десант, окружающая среда.

**Заданне 56.** 🕮🖮✿ *Прачытайце тэкст, вызначце яго стыль, назавіце лексічныя, марфалагічныя, сінтаксічныя асаблівасці.*

Таму, што Вера апранаецца ў сэкандзе, не верыць ніхто. Кашулі з натуральных тканін і ўтульныя світары прыгожа спалучаюцца з разнастайнымі спаднічкамі-шорцікамі-джынсамі. Прычым змяняецца ўсё гэта так часта, што здаецца, нібыта ў дзяўчыны дома асобны пакой адведзены пад шафу. На пытанне, як надвор'е ў Мілане, адкуль, верагодна, растуць ногі ва ўсяго гэтага «шмоткавага» багацця, Вера адказвае прыкладна так:

— Ты што, гэтыя джынсы каштуюць дзевяноста тысяч, на распродажы набыла, а кашуля з сэканду — увогуле капейкі. Толькі прыйшлося нямала яе пашукаць.

Вера велікадушна згадзілася правесці інструктаж для такога нявопытнага пакупніка, як я:

— У такіх крамах заўжды дасканала вывучай усе вешалкі з рэчамі. Падзел там умоўны: хіба што штаны сярод суkenак не вешаюць, ды і тое не паўсюль. Не здзіўляйся, калі паміж майкамі сорак восьмага і пяцідзясятага памераў ты знойдзеш свой сорак другі. Яшчэ ніколі не набывай рэчы, па якіх відаць, што іх ужо нехта адмовіўся насіць. Напрыклад, была ў модзе мінулым летам сіняя палоска, і ўсе набывалі паласатыя рэчы, і ўсе ў іх хадзілі. Калі бачыш рэч і ўспамінаеш, як некалькі сезонаў таму нешта падобнае было на кожнай другой дзяўчыне, табе гэта не патрэбна. Лепш выбірай колеры спакойныя, а таксама тканіны, якія заўжды носяць: лён, бавоўну. Глядзі, каб якасна было пашыта.

З такімі няхітрымі ведамі я накіравалася ў першую краму.

У прасторнай зале пакупнікоў было мала. Стэнды з адзеннем па перыметры не ўразілі: незразумела было, на што глядзець. Пасля некалькіх дзясяткаў маек, ператрэсеных у пошуках чагосьці вартага, энтузіязм апранущца танна і стыльна пачаў знікаць. Адны рэчы, здавалася, перакачавалі ў гэтую краму з часоў майго дзяцінства; другія былі нішто сабе, але, каб мне іх апрануць, ад памеру патрэбна было адкінуць дзесяць адзінак. Я пачала засмучацца. Побач дзве дзяўчынкі гадоў 16 корпаліся ля вешалак:

— Глядзі, я блузку «атмасфераўскую» знайшла! Толькі вось вялікая.

— А гэта што? «Зара»?

— Не ведаю, тут лэйба зрэзана.

Пачала і я прыглядацца да этыкетак. Сярод назваў невядомага паходжання пачалі трапляцца тыя, што модніцам як бальзам на сэрца. Пошукі сталі весялейшымі. Нарэшце з гэтага стракатага хаосу я выцягнула міленькую шаўковую блузку колеру фіялкі за 30 000 рублёў. Як ні дзіўна, свайго памеру. Праз колькі хвілін пошукаў да яе знайшлася прыстойная джынсавая спадніца коштам 48 500. У прымерачнай аказалася, што ў гэтым вельмі нават можна пайсці, калі цябе запрасілі ў кіно ці кавярню. Убор за 80 000 рублёў падаўся нядрэнным варыянтам (*Па брэнды ў сэканд-хэнды!//Чырвоная змена*).

Раздзел 5

# НАВУКОВЫ СТЫЛЬ

**Навуковы стыль** — адзін з функцыянальных стыляў беларускай літаратурнай мовы, які абслугоўвае сферу навукі і набліжаецца да афіцыйна-справавога стылю аб'ектыўнасцю, акрэсленасцю і лаканічнасцю выкладу.

## 5.1. АСНОЎНЫЯ РЫСЫ НАВУКОВАГА СТЫЛЮ

Навуковы стыль адносіцца да кніжных стыляў літаратурнай мовы, для яго характэрны:

✓ маналагічны характар выказвання;

✓ строгі адбор моўных сродкаў;

✓ лагічная паслядоўнасць выказвання;

✓ сцісласць тэксту пры інфармацыйнай насычанасці зместу;

✓ выкарыстанне кадыфікаванай (унармаванай) літаратурнай мовы.

Асноўная функцыя навуковай мовы — доказны выклад навуковай інфармацыі, дакладнае, строгае і лагічнае выказванне думкі. Гэтай функцыяй абумоўліваюцца спецыфіка навуковага стылю і яго асноўныя **стылёвыя рысы**: навуковая тэматыка тэкстаў, абстрактнасць і абагульненасць, аб'ектыўнасць і дакладнасць, лагічнасць і строгасць, доказнасць, насычанасць фактычнай інфармацыяй.

↳ **Навуковая тэматыка тэкстаў**. Навука як своеасаблівая сфера чалавечай дзейнасці мае сваё прызначэнне: даць праўдзівую інфармацыю аб навакольным свеце. Прыналежнасць тэкстаў да навуковага стылю прадвызначае іх тэматыку: тэксты розных галін навукі раскрываюць пытанні менавіта той сферы ведаў, у рэчышчы якой праводзіцца даследаванне, тлумачэнне прычын з'яў рэчаіснасці, апісанне прадмета навуковага пазнання.

↳ **Абстрактнасць і абагульненасць** навуковага выкладу абумоўлены спецыфікай навуковага пазнання. У тэкстах навуковага стылю выкарыстоўваецца абстрактная лексіка, характэрная для пэўнай галіны навукі: *устойлівасць*, *сукупнасць*, *уласцівасць*, *станаўленне*, *вымярэнне*, *працэс*, *працягласць* і інш. У навуковых тэкстах слова як лексічная адзінка называе звычайна не канкрэтны, асобна ўзяты прадмет, а цэлы клас аднастайных прадметаў, з'яў,

гэта значыць, што слова выражае не прыватнае, не індывідуальнае, а агульнае, з'яўляецца паняццем — абагульненым адлюстраваннем у свядомасці чалавека рэалій навакольнага свету. У сказе *Ядловец — хваёвы куст, радзей дрэва сямейства кіпарысавых* (Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы) слова *ядловец* з'яўляецца паняццем, паколькі абазначае не канкрэтны адзінкавы прадмет (расліну), а сукупнасць прадметаў (раслін), якія адносяцца да аднаго класа. У канструкцыі *Сінгарманізм — фанетычны працэс прыпадабнення наступных галосных гукаў у афіксах да галосных гукаў кораня ў асновах таго самага слова*; *характэрны для цюркскіх моў* (*Слоўнік лінгвістычных тэрмінаў*) практычна ўсе словы з'яўляюцца паняццямі і надаюць навуковаму тэксту абстрактнасць і абагульненасць. Абагульнена-абстрактны характар навуковага маўлення праяўляецца таксама ў адборы лексічнага матэрыялу (пераважнае ўжыванне назоўнікаў, выкарыстанне пэўных формаў дзеясловаў і інш.) і ў спецыфічных сінтаксічных канструкцыях (выкарыстанне няпэўна-асабовых сказаў, пасіўных канструкцый і інш.).

⇘ **Аб'ектыўнасць і дакладнасць** навуковага выкладу праяўляецца праз выкарыстанне ў навуковых тэкстах тэрмінаў і адназначных, нявобразных слоў. Для мовы навукі не характэрна ўжыванне слоў-сінонімаў, слоў з пераносным значэннем (выключэнне складаюць тэрміны-метафары: у фізіцы — *ядро атама*, у матэматыцы — *вось гіпербалы*, *цела Архімеда*, *дрэва складовых*, *паласа крытычная*, у энтамалогіі — *зефір* 'род матылёў сямейства блакітніц', *дрывасекі* 'жукі', *танцоркі* 'насякомыя').

Аб'ектыўнасць як спецыфічная рыса навуковага стылю праяўляецца ў выкладанні не аднаго, а некалькіх поглядаў на праблему, у засяроджанасці на прадмеце выказвання і адсутнасці суб'ектывізму пры перадачы зместу. Мэтай любога навуковага паведамлення з'яўляецца выклад навуковых ведаў і іх доказ, таму асабістыя эмоцыі немагчымыя, а роля аўтарскага «я» нязначная. Менавіта таму ў мове навуковых прац прынята замест займенніка ***я*** ўжываць асабовы займеннік ***мы*** (*наш*, *нам*) і выкарыстоўваць такія канструкцыі, як: *на нашу думку*..., *на наш погляд*..., *паводле нашых назіранняў*..., *на думку аўтара*..., *аўтар лічыць*... і пад.

⇘ **Лагічнасць і строгасць** навуковага выкладу праяўляецца ў тэкстах навуковага стылю ў выглядзе сістэмы сэнсавай сувязі як паміж асобнымі сказамі, так і паміж вялікімі часткамі навуковых тэкстаў. Інфармацыя ў навуковых тэкстах павінна падавацца паслядоўна і быць несупярэчлівай. Лагічнасць і строгасць навуковага выкладу дасягаецца шляхам выкарыстання:

✓ ***спецыяльных канструкцый*** тыпу *трэба адзначыць, неабходна спыніцца, варта пагадзіцца, зараз звернемся, спачатку прааналізуем*;

✓ ***пабочных канструкцый***: *па-першае, па-другое, па-трэцяе, значыць, гэта значыць, такім чынам*;

✓ ***злучнікаў*** (***злучальных слоў***) і ***прыслоўяў***: *таму, пагэтаму, таксама, адсюль*;

✓ ***канструкцый з прыназоўнікамі*** : *з прычыны, у сувязі, у выніку, у адпаведнасці з*;

✓ ***абагульняльнага слова*** пры аднародных членах: *Абрады маюць шэраг жыццёва важных функцый: функцыя сацыялізацыі індывіда; інтэгруючая (з дапамогай рытуалаў калектыў перыядычна абнаўляе і сцвярджае сябе, сваё адзінства); рэпрадуктыўная (абнаўленне і падтрымка традыцый, нормаў, каштоўнасцей калектыву) і інш.*;

✓ ***складаназалежных сказаў***: *З пункту погляду сучаснай філасофіі сістэма — катэгорыя, якая фарміруе анталагічнае ядро сістэмнага падыходу і абазначае аб'ект, арганізаваны ў якасці пэўнай цэласнасці, дзе энергія сувязей паміж элементамі сістэмы пераўзыходзіць энергію іх сувязей з элементамі іншых сістэм...*;

✓ ***прамога парадку слоў*** у сказах: *Сотні тысяч каменных, гліняных, металічных, касцяных, драўляных і шкляных вырабаў, зброі, твораў мастацтва, у тым ліку ўнікальных знаходак, сталі асновай экспазіцый рада музеяў краіны.*

Аднак лагічнасць і строгасць навуковага выкладу не выключае магчымасці выкарыстання ў тэкстах навуковага стылю своеасаблівай вобразнасці, эмацыянальнасці і экспрэсіі. Прызначэнне гэтых сродкаў мовы ў навуковым стылі іншае, чым у мастацкім і публіцыстычным стылях. У навуковым маўленні яны выкарыстоўваюцца з мэтай тлумачэння, канкрэтызацыі навуковых звестак, з мэтай дасягнення даступнасці выкладу інфармацыі. У адрозненне ад мастацкага маўлення ў навуковым эмацыянальнасць і экспрэсія не складаюцца ў мастацка-вобразную сістэму, не з'яўляюцца сродкамі стварэння вобразнасці. Гэта асобныя элементы, якія ўласцівыя навуковым творам палемічнай скіраванасці і якія выяўляюцца ў навукова-навучальным і навукова-папулярным падстылях. Выкарыстанне эпітэтаў, параўнанняў, метафар і інш. дазваляе зрабіць «сухі» навуковы тэкст больш зразумелым для чытача, актывізаваць яго ўвагу і развіць мысленчыя здольнасці:

...У тым самым годзе, калі пяцёра полацкіх князёў пад наглядам кіеўскіх дружыннікаў плылі цераз Чорнае мора ў Візантыю, у Тураве нарадзіўся ўсходнеславянскі красамоўца Кірыла Тураўскі. Зразумела, такое імя ён

атрымаў, прымаючы пострыг, у дзяцінстве яго звалі інакш, але як — звестак не захавалася. Бацькам Кірылы быў мясцовы баярын, блізкі да княжага двара, дзе юнак і атрымаў шырокую адукацыю ад грэчаскіх святароў і кніжнікаў, якія прыехалі ў Тураў з Візантыі разам з жонкай князя. Кірыла рана пайшоў у манастыр, але манаскае жыццё не задаволіла яго. Ён прысвяціў сябе аскезе, зачыніўся ў вежы, дзе трымаў уласную бібліятэку і працаваў. З цягам часу Кірыла адышоў ад аскезы, пачаў падтрымліваць тураўскага князя Юрыя Яраславіча, і з пратэкцыі апошняга кіеўскі мітрапаліт пасвяціў яго ў тураўскія біскупы (*К. Тарасаў. Памяць пра легенды*).

☞ **Доказнасць навуковага выкладу.** У тэкстах навуковага стылю ўсе палажэнні і гіпотэзы павінны быць аргументаваны і іх правільнасць павінна пацвярджацца разнастайнымі графікамі, схемамі, дыяграмамі, формуламі, тэкставымі ілюстрацыямі і цытаваннем аўтарытэтных даследчыкаў са спасылкамі на іх працы: *У адпаведнасці з канцэпцыяй, прапанаванай А. В. Суперанскай, Н. У. Падольскай, Н. У. Васільевай, тэрміналогія лічыцца аўтаномным класам лексікі, паколькі «тэрміны кожнай галіны ведаў фарміруюць сваю асобую тэрміналогію і значэнне кожнага тэрміна раскрываецца цалкам толькі ў сістэме апошняй»* [ОТВТ, с.18] (*Беларуская матэматычная тэрміналогія: станаўленне, структура, функцыянаванне*).

☞ **Насычанасць фактычнай інфармацыяй.** У навуковых тэкстах шырока выкарыстоўваюцца абрэвіятуры, разнастайныя ўмоўныя скарачэнні, формулы, сімвалічныя абазначэнні: *АТП* — адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел, *ПРП* — прыродна-рэсурсны патэнцыял, *БАР* — біялагічна-актыўныя рэчывы, *ДНК*, *МГц*, *Вт*, *кг*, $E = mc^2$, $a^2 + b^2 = c^2$, $\infty$, $\sim$, $\neq$, $\pi$.

Для тэкстаў навуковага стылю ўласціва наяўнасць канкрэтнай і дакладнай фактычнай інфармацыі (лічбы, даты, уласныя назвы і інш.), што надае навуковаму выкладу дадатковую грунтоўнасць і аб'ектыўнасць: *БІБЛІЯТЭКА ЖЫРОВІЦКАГА МАНАСТЫРА. Існавала пры Жыровіцкім Успенскім манастыры з 16 ст. Вядома паводле вопісаў, пачынаючы з 1731. У 1758 на ўсіх кнігах б-кі пастаўлены надпіс: «Сия книга есть з библиотеки монастыра Жировицкого чину Василия Великого 1758 Anno подписана», былі прадстаўлены бібліятэчныя шыфры. Паводле вопісу 1800, у б-цы было 2686 кніг у 3867 тамах, а таксама 537 рукапісаў і 93 гравюры. Кнігі былі размеркаваны па 17 раздзелах. Сярод найстараж. рукапісаў б-кі — «Ізмарагд» (15 ст.), павучанні Ісаака Сірына (15 — 16 стст.), Кіева-Пячэрскі пацярык (16 ст.), Жыровіцкае евангелле (16 ст.)* (*Культура Беларусі: энцыклапедыя*).

### ⌛ Пытанні для самакантролю

1. Чым абумоўліваюцца спецыфіка і стылёвыя рысы навуковага стылю?

2. Пералічыце стылёвыя рысы, уласцівыя тэкстам навуковага стылю.

3 Як вы разумееце паняцце *навуковая тэматыка тэкстаў*?

4. У чым заключаецца абстрактнасць і абагульненасць навуковага выкладу?

5. Што такое аб'ектыўнасць і дакладнасць навуковага выкладу? Як праяўляецца аўтарскае «я» ў тэкстах навуковага стылю?

6. Як вы разумееце паняцце *лагічнасць і строгасць навуковага выкладу*? Назавіце, з дапамогай якіх сродкаў дасягаецца лагічнасць і строгасць навуковага выкладу.

7. Што такое доказнасць навуковага выкладу?

8. З якой мэтай у навуковых тэкстах выкарыстоўваецца такая стылёвая рыса, як насычанасць фактычнай інфармацыяй?

## 5.2. МОЎНЫЯ СРОДКІ НАВУКОВАГА СТЫЛЮ

Стылёвыя рысы абумоўліваюць выкарыстанне моўных сродкаў, уласцівых навуковаму стылю, на лексічным, марфалагічным і сінтаксічным узроўнях моўнай сістэмы.

### ➩ Лексічныя і фразеалагічныя асаблівасці навуковага стылю

✓ ***Стылістычна нейтральныя словы*** (*міжстылёвыя лексічныя адзінкі*). Гэта самая вялікая група слоў, якія функцыянуюць ў навуковым стылі і з'яўляюцца асновай яго лексічнага складу. Стылістычна нейтральныя словы (як самастойныя часціны мовы, так і службовыя) выкарыстоўваюцца не толькі ў навуковым, але і ў іншых стылях: *велічыня*, *вада*, *характарыстыка*, *паведамленне*, *канструкцыя*, *планаваць*, *адрозніваць*, *і*, *над*, *перад* і інш.

✓ ***Словы агульнанавуковага ўжывання***. Лексічныя адзінкі гэтай групы шырока выкарыстоўваюцца ў навуковых тэкстах розных галін ведаў і не ўваходзяць у пэўную тэрміналагічную сістэму: *аналіз*, *сінтэз*, *функцыя*, *перыяд*, *сістэма*, *сегмент*, *структура*, *вывад*, *прынцып*, *працэс* і інш.

✓ ***Вузкаспецыяльная тэрміналогія***. Тэрміны, як правіла, адназначныя, стылістычна нейтральныя, дакладна называюць спецыяльныя навуковыя паняцці і ўжываюцца толькі ў пэўнай галіне навукі: *полімарфізм*, *дэнатат*, *сігніфікат*, *субстантыў*, *марфема*, *кампазіт* (лінгв.), *гаматэцыя*, *кангруэнцыя*, *нільпаток*, *гіпатэнуза*, *касінусоіда*, *пояс сімплекса* (мат.), *эпітаксія*, *фрыгорыя*, *умформер*, *скін-эфект*, *гравітон* (фіз.), *гамета*, *страбізм*, *дуплікацыя*, *мутагенез*, *фенатып* (біял.), *гідраты*, *малярнасць*, *нуклоны* (хім.). Боль-

шасць тэрмінаў з'яўляецца інтэрнацыяналізмамі — яны бытуюць у розных мовах з аднолькавым лексічным значэннем і маюць блізкі фанетыка-марфалагічны склад.

✓Навуковы стыль мае сваю ***фразеалогію***, якую складаюць устойлівыя спалучэнні тэрміналагічнага характару: *пункт звароту, крытычная група, абсалютны максімум, вектарнае поле, фазавы зрух, фундаментальная навука, удзельная вага, залаты век, актыўная лексіка, націскны галосны, сінанімічны рад, складаназалежны сказ* і інш. Навуковыя тэрміналагічныя словазлучэнні не маюць сінонімаў.

**Марфалагічныя асаблівасці навуковага стылю**

✓ Паколькі галоўная задача тэкстаў навуковага стылю — назваць і апісаць з'яву, навуковай мове ўласцівы іменны характар, гэта значыць, што ў тэкстах навуковага стылю пераважаюць назоўнікі: *Баністыка — кірунак калекцыяніравання і дапаможная гістарычная дысцыпліна, якая вывучае банкноты, папяровыя грашовыя знакі і недзяржаўныя папяровыя боны як аб'ект ці сістэму аб'ектаў* (*асаблівасці матэрыялу, памеры, дызайн, друк, эмітэнт, подпісы адказных за эмісію, уладальніцкія надпісы і знакі, праекты, матрыцы, клішэ* і г. д.).

✓У мове навуковых твораў для абазначэння адцягненых паняццяў, якасцей, дзеянняў выкарыстоўваюцца абстрактныя назоўнікі: *праблема, спосаб, устойлівасць, магчымасць, сутнасць, канцэпцыя, рэгенерацыя, эмансіпацыя, суб'ектывізм, футурызм, сутыкненне, кан'юнктура*.

✓Канкрэтныя назоўнікі адзіночнага ліку ўжываюцца ў значэнні множнага: *валошка — травяністая расліна сямейства складанакветкавых, якая расце ў жыце і іншых злаках і цвіце сінімі кветкамі, васілёк*; *мармур — цвёрды камень крышталічнай пароды, які выкарыстоўваецца для скульптурных і архітэктурных работ*.

✓Рэчыўныя і абстрактныя назоўнікі ў навукова-тэхнічнай літаратуры выкарыстоўваюцца ў форме множнага ліку: *калійныя солі, чырвоныя* і *белыя гліны, мінеральныя воды, лячэбныя гразі, вялікія хуткасці, энергетычныя магутнасці, шумы ў сэрцы*.

✓У навуковай літаратуры назіраецца нанізванне родных склонаў: *шкала абсалютных тэмператур, ступень антрапагенных нагрузак, даступнасць элементаў мінеральнага жыўлення, працэс засваяльнасці элементаў мінеральнага жыўлення, даследаванне дэрывацыйных характарыстык тэрмінаадзінак*.

✓Шырока выкарыстоўваюцца прыметнікі, якія ўваходзяць у склад састаўных тэрмінаў (*звонкі зычны, жаночая рыфма, акустычнае поле, эталонная фаза, індуктыўны ліміт, спектральная*

*мера, хвошч палявы, барбарыс звычайны*) або ўдакладняюць змест апісваемага паняцця (*Байдак — пласкадоннае драўлянае рачное судна з двухсхільным дахам і мачтай. Нос і карма звужаныя. Карма амаль вертыкальная, нос з невялікім развалам, бакі крыху разгорнутыя. Па канструкцыі вузкае і непаваротлівае судна, якое хадзіла ўверх і ўніз па цячэнні ракі пад ветразем.*).

✓Для тэкстаў навуковага стылю характэрна выкарыстанне дзеясловаў цяперашняга часу (так званага «цяперашняга пазачасавага»). Такія дзеясловы абазначаюць пастаянныя ўласцівасці рэалій, а не дзеянні, якія адбываюцца ў момант гутаркі: *Адукацыя забяспечвае культурную пераймальнасць пакаленняў і гатоўнасць чалавека да выканання сацыяльных і прафесійных роляў; спрыяе засваенню ім сістэматызаванай сукупнасці маральных і культурных, нацыянальных і агульначалавечых каштоўнасцей. У Беларусі зацвярджаецца асобасна-арыентаваная адукацыйная мадэль, якая ў вучэбна-выхаваўчым працэсе абапіраецца на нацыянальныя гісторыка-культурныя традыцыі, ажыццяўляецца з дапамогай новых інфармацыйных тэхналогій.*

✓Імкненне навуковага стылю да абстрактнасці і абагульненасці прыводзіць да дэсемантызацыі дзеясловаў, г. зн. страты або аслаблення значэння, што абумоўлівае выкарыстанне такіх дзеясловаў у ролі звязак у састаўных іменных выказніках (*быць, з'яўляцца, стаць, станавіцца, лічыцца, вызначацца, рабіцца* і інш.): *Асаблівасцю выкладання беларускай мовы ў сучаснай школе з'яўляецца камунікатыўная накіраванасць; З сярэдзіны XIX ст. становяцца вядомымі першыя спробы пісьмовай фіксацыі тэкстаў на беларускай мове і іх выдання.*

✓Для стылю навуковых прац характэрна шырокае выкарыстанне зваротных дзеясловаў: *Чалавек у працэсе сваёй жыццядзейнасці з'яўляецца не пасіўным сузіральнікам, а імкнецца па меры магчымасці ўздзейнічаць на рэчаіснасць, пераўтвараць яе. Першае ўзаемадзеянне з навакольным светам пачынаецца тады, калі пазнаны прадмет атрымлівае сваё найменне ў мове ў выглядзе слова.*

✓У навуковых тэкстах замест формы 1-й асобы адзіночнага ліку прынята ўжываць форму 1-й асобы множнага ліку: *У сваім даследаванні мы зыходзім з таго, што любы тэрмін у складзе тэрміналогіі з'яўляецца вытворным, і разглядаем тэрмінаўтварэнне як анамасіялагічны ў сваёй аснове працэс, сутнасць якога — у стварэнні новых аднаслоўных і неаднаслоўных знакаў мовы* (*Беларуская матэматычная тэрміналогія: станаўленне, структура, функцыянаванне*).

✓Асаблівасцю тэкстаў навуковага стылю з'яўляецца выкарыстанне дзеясловаў незакончанага трывання (*лічыць, разглядаць,*

*вынікаць, успрымаць, вылічваць, функцыянаваць* і інш.): *Стылявая дарэчнасць патрабуе адрозніваць кніжна-літаратурныя і прастамоўна-гутарковыя адзінкі. У кожным стылі, як вядома, пазнаму вырашаецца пытанне пра дапушчальнасць выкарыстання тых ці іншых сродкаў. Змешванне, спалучэнне моўных сродкаў, што належаць да розных стыляў, павінна быць унутрана апраўданым* (*Беларуская мова: энцыклапедыя*).

✓Для тэкстаў навуковага стылю характэрна шырокае выкарыстанне дзеепрыметнікаў і дзеепрыслоўяў: *Аналізуючы прычыны ўзнікнення табуіраваных назваў, па сутнасці першасных эўфемізмаў, трэба ўлічваць умовы сацыяльнага ўкладу жыцця, пры якім яны з'яўляліся*; *Часта сустракаюцца фразеалагічныя памылкі, звязаныя з парушэннем чысціні беларускага літаратурнага маўлення*; *Маючы адносна адвольны парадак слоў, беларуская мова зрабіла яго найважнейшым сродкам перадачы актуалізаванага значэння сказа* (*Беларуская мова: энцыклапедыя*).

✓У мове навуковых твораў выкарыстоўваюцца вытворныя прыназоўнікі, якія маюць вузкаспецыфічнае значэнне: *па*, *дзякуючы*, *на працягу*, *насуперак*, *у галіне*, *нягледзячы на*, *па лініі*, *паводле*. Напрыклад: *Паводле традыцыйных уяўленняў, чалавек надзяляецца доляй пры нараджэнні, прытым доляй яго надзяляе маці або найвышэйшыя сілы, якія сімвалізуе Бог*; *Згодна з беларускім і літоўскім фальклорам Змей, працаўнік Грамавіка, ляжыць каля каранёў трохчасткавага Сусветнага дрэва на чорнай воўне* (*Беларуская міфалогія: энцыклапедычны слоўнік*).

**↳ Сінтаксічныя асаблівасці навуковага стылю**

✓ Характэрнай асаблівасцю стылю навуковых тэкстаў з'яўляецца выкарыстанне ў якасці выказніка спецыяльных дзеяслоўна-іменных канструкцый (т. зв. «расшчапленне» выказніка), якія складаюцца з аднакарэннага дзеяслову назоўніка і іншага дзеяслова з аслабленым значэннем: *знаходзіць прымяненне* (*прымяняцца*), *рабіць аналіз* (*аналізаваць*), *праводзіць даследаванне* (*даследаваць*), *зрабіць падлікі* (*падлічыць*) і пад. Напрыклад: *Зразумела, што ва ўмовах адсутнасці строгіх вымаўленчых нормаў на літаратурнае вымаўленне вялікі ўплыў аказвае арфаграфія.*

✓Для сінтаксісу навуковага стылю характэрна ўжыванне разнастайных паводле будовы складаных і простых сказаў з прамым парадкам слоў, ускладненых пабочнымі і ўстаўнымі канструкцыямі: *Класіфікацыя функцыянальных стыляў літаратурнай мовы — праблема, якая яшчэ чакае свайго вырашэння. Так, некаторыя даследчыкі, грунтуючыся толькі на фармальных, інтралінгвістычных крытэ-*

*рыях, выказваюць думку, што мастацкі стыль нельга супастаўляць у адным радзе з іншымі стылямі, паколькі ён выконвае, акрамя камунікатыўнай, таксама і эстэтычную функцыю, і гэта прадвызначае ярка выражаную своеасаблівасць ужывання ў ім моўнавыяўленчых сродкаў у параўнанні з усімі астатнімі стылямі. Часам мова мастацкай літаратуры ўвогуле выключаецца з паняцця літаратурнай мовы на той падставе, што яна шматстылявая (дапускае выкарыстанне рознастылявых сродкаў), незамкнутая ў адносінах да нелітаратурных моўных элементаў, што быццам не існуе наогул такіх агульных рыс, якія былі б уласцівы ў цэлым толькі ёй (Л. М. Шакун. Карані роднай мовы).*

✓Для ўстанаўлення родава-відавых узаемаадносін навуковых паняццяў часта выкарыстоўваюцца ў навуковых тэкстах сказы з аднароднымі членамі і абагульняльным словам: *Тапаніміка ўключае некалькі падраздзелаў: айканіміку, гідраніміку, мікратапаніміку, араніміку, урбаніміку, хараніміку (Беларуская мова: энцыклапедыя).*

✓Асаблівасцю навуковага стылю з'яўляецца частае выкарыстанне пасіўных канструкцый, што забяспечвае неасабовы характар выкладу фактаў навукі: *Баркалабаўскі ірмалой — ноталінейны ірмалой, перапісаны ў 1651 г. у скрыпторыі Куцеінскага Богаяўленскага манастыра для Баркулабаўскага Узнясенскага манастыра па заказу ігуменні Фацініі Кіркораўны. Напісаны на шчыльнай паперы, мае 318 аркушаў. Ноты запісаны квадратнай 5-лінейнай натацыяй, тэксты — познім паўуставам. Пазней былі змешчаны 2 дапаможныя раздзелы, у якіх указаны спевы на пэўныя святы літургічнага года. Загаловак 1-га з іх выкананы вяззю іншага стылю, а тэкст напісаны вельмі набліжаным да скорапісу дробным паўуставам, у якім больш выразна праглядаюцца беларускія рысы (Культура Беларусі: энцыклапедыя).*

✓У навуковых тэкстах шырока ўжываюцца састаўныя падпарадкавальныя злучнікі, якія дазваляюць больш дакладна выявіць адносіны паміж часткамі складанага сказа (*нягледзячы на тое што, у сувязі з тым што, па меры таго як, дзякуючы таму што, у той час як* і інш.): *Нягледзячы на тое, што, паводле Ж. Марузо, стварэнне ідэальнай тэрміналогіі — задача «яўна хімерычная», бо тэрміны нярэдка актыўна «супраціўляюцца рэгламентацыі», нарматыўна-семантычныя даследаванні з'яўляюцца важнымі для гарманічнага развіцця тэорыі і практыкі тэрміналогіі (Беларуская матэматычная тэрміналогія: станаўленне, структура, функцыянаванне).*

✓Для сувязі частак навуковага тэксту, якія маюць лагічную будову і цесную сэнсавую сувязь, выкарыстоўваюцца спецыяльныя словы і спалучэнні слоў (*таму, пры гэтым, затым, такім чы-*

*нам*, *у заключэнні*, *значыць*; *неабходна звярнуць увагу на*; *нельга не заўважыць*, *што*; *як ужо адзначалася* і пад.). Напрыклад: *Такім чынам, граматыка-сінтаксічная структура фраз часта робіць сінтагменнае чляненне абавязковым. Гэтага нельга сказаць пра сэнс выказвання, які звычайна перадаецца ўсімі фармальнымі сродкамі. Таму фаналагічная функцыя сінтагменнага члянення ў беларускай мове абмежаваная* (*Л. Ц. Выгонная. Функцыі сінтагменнага члянення ў беларускай літаратурнай мове*).

✓Для забеспячэння дакладнасці і строгасці выкладу думак у навуковых тэкстах сказы аб'ядноўваюцца з дапамогай лексічных паўтораў (паўтораў аднаго і таго ж слова): *Адміністрацыйным органам горада быў магістрат. Ён складаўся з рады і лавы* (*суда*). *Члены рады* (*райцы*) *звычайна выбіраліся з гарадскіх багачоў. На чале рады стаяў войт. Яго, як правіла, назначалі літоўскія князі. Радзе належалі і судовыя функцыі* (*Гісторыя Беларусі*).

✓У загалоўках, фармулёўках параграфаў, глаў, раздзелаў, падраздзелаў і г. д. выкарыстоўваюцца намінатыўныя сказы: «*Сінаніміка прыназоўнікаў*»; «*Інфармацыйныя радыёсістэмы*».

✓Для стылю навуковых тэкстаў характэрна ўжыванне апавядальных сказаў, што абумоўлена інфармацыйна-апавядальным спосабам паведамлення навуковых фактаў. Пытальныя сказы ў навуковых тэкстах сустракаюцца рэдка і выкарыстоўваюцца для прыцягнення ўвагі чытача да пэўных пытанняў: *Праблема заключаецца ў тым, як разумець абавязковасць сувязі*: *як абавязковасць структурнага ці абавязковасць семантычнага распаўсюджвальніка апорнага элемента*? (*М. І. Канюшкевіч. Да характарыстыкі ацэначна-тлумачальнага складанага сказа*).

✓У тэкстах навуковага стылю злучнікавыя (пераважна складаназалежныя) сказы пераважаюць над бяззлучнікавымі: *Першыя спробы цэнтралізаванага зберажэння дзікарослых відаў раслін, колькасць якіх скарачаецца, адносяцца да канца XIX — пач. XX ст., калі пад дзяржаўную ахову ў Швейцарыі і Аўстрыі былі ўзяты эдэльвейс альпійскі, венерын чаравічак сапраўдны, ціс ягадны* (*Энцыклапедыя прыроды Беларусі*).

## ⌛ Пытанні для самакантролю

1. Якія лексічныя моўныя асаблівасці характэрны для тэкстаў навуковага стылю?
2. У чым праяўляюцца асаблівасці фразеалогіі навуковага стылю?
3. Пералічыце асноўныя марфалагічныя моўныя асаблівасці навуковага стылю. Раскажыце пра стылістычныя магчымасці назоўніка, прыметніка, дзеяслова, дзеепрыметніка, дзеепрыслоўя і прыназоўніка.

4. Назавіце сінтаксічныя моўныя асаблівасці тэкстаў навуковага стылю.

5. Ахарактарызуйце стылістычныя магчымасці сінтаксісу простага і складанага сказаў.

6. Ужыванне якіх канструкцый забяспечвае неасабовы характар выкладу фактаў навукі?

7. Пры дапамозе якіх сінтаксічных сродкаў забяспечваецца дакладнасць і строгасць выкладу думак у навуковых тэкстах?

## 5.3. АСНОЎНЫЯ РАЗНАВІДНАСЦІ І ЖАНРЫ НАВУКОВЫХ ТЭКСТАЎ

Навуковы стыль выкарыстоўваецца ў сферы навукі, тэхнікі, культуры, адукацыі. Гэта стыль энцыклапедый, манаграфій, разнастайных навуковых прац, падручнікаў і лекцый па вучэбных дысцыплінах. Узнікненне і эвалюцыя навуковага стылю звязаны з развіццём розных галін навуковых ведаў і сфер дзейнасці чалавека. Найбольш ярка навуковы стыль праяўляецца ў пісьмовай форме маўлення, але гэты стыль, захоўваючы свае асаблівасці, шырока выкарыстоўваецца і ў вуснай форме навуковага маўлення (лекцыя, даклад і пад.).

У залежнасці ад мэты навуковага паведамлення, спецыфікі адрасата і сферы выкарыстання ў навуковым стылі вылучаюць **разнавіднасці (падстылі)** навуковага маўлення, якія рэалізуюцца ў жанрах і відах навуковых тэкстаў.

| Разнавіднасці навуковага стылю (падстылі) | Жанры і віды навуковых тэкстаў |
|---|---|
| уласна навуковы (акадэмічны) | манаграфія, артыкул, даклад, дысертацыйнае даследаванне, аўтарэферат |
| навукова-тэхнічны (вытворча-тэхнічны, навукова-спраўавы) | навукова-тэхнічная справаздача, тэхнічнае апісанне, праектная дакументацыя, тэхнічная дакументацыя |
| навукова-інфармацыйны | анатацыя, рэферат, тэзісы, водзыў, рэцэнзія |
| навукова-даведачны | слоўнік, даведнік, каталог |
| вучэбна-навуковы (навукова-навучальны) | падручнік, вучэбны дапаможнік, лекцыя, даклад, канспект, курсавая праца |
| навукова-папулярны | нарыс, артыкул, брашура, лекцыя |

У кожным з падстыляў навуковага стылю ёсць свае асаблівасці, абумоўленыя спецыфікай прадмета і метадаў даследавання, тэрміналагічным і паняційным апаратам, спосабамі і прыёмамі даследавання і аргументацыі атрыманых вынікаў. Аднак гэтыя асаблівасці не ўплываюць на стыль навуковага маўлення. У межах уласна навуковага стылю вылучаюць мову хіміі, медыцыны, фізікі, біялогіі, матэматыкі, лінгвістыкі, права і інш. Маючы спецыфічныя адрозненні ў тэрміналогіі, лексічным і фразеалагічным апараце, у выкарыстанні невербальных сродкаў (табліцы, графікі, схемы), навуковыя тэксты названых галін навукі аб'ядноўваюцца агульнай прыналежнасцю да навуковага стылю.

Асаблівасці выкладу навуковай інфармацыі ў розных падстылях навуковага стылю выразна праяўляюцца пры супастаўленні навуковага і навукова-папулярнага тэкстаў, аб'яднаных адной тэмай:

**I.** Старажытнабеларуская хрысціянская асветніца, першая жанчына на Русі, кананізаваная праваслаўнай царквою. Дачка полацкага князя Святаслава (Георгія) Усяслававіча, унучка князя Усяслава Брачыслававіча (Чарадзея). Ефрасіння Полацкая (свецкае імя Прадслава) нарадзілася каля 1110 г. Паводле «Жыція Ефрасінні Полацкай» (помніка агіяграфічнай літаратуры XII—XIII стст., захаваўся спіс XIV ст.), мудрая, адукаваная і прыгожая князёўна адмовілася ад выгаднага шлюбу, пастрыглася ў манашкі і, пасяліўшыся ў келлі Сафійскага сабора, вяла пустэльніцкі лад жыцця, перапісвала святыя кнігі. Мяркуюць, што пісала летапісы і арыгінальныя творы (*Беларуская мова*: *энцыклапедыя*).

**II.** Сярод Рагвалодавых унукаў у XII стагоддзі вылучаецца нашая першая асветніца Ефрасіння Полацкая. Унучка Усяслава, яна пераняла ад дзеда вялікі духоўны запал. Прычыны, з якіх князёўна пайшла ў манастыр, застаюцца невядомымі. Магчыма, гэта здарылася тады, калі бацьку і маці вывезлі ў Візантыю. Праўда, выпадак, як на той час, беспрэцэдэнтным не назавеш — ігуменняй манастыра, дзе прыняла пострыг Ефрасіння, была яе родная цётка. <...> Прыроджаная духоўнасць Прадславы (так звалі Ефрасінню ў людскім жыцці) магла знайсці праяву толькі на ніве рэлігійна-асветніцкай дзейнасці. Пачатак свайго манаскага жыцця Ефрасіння правяла ў келлі Сафійскага сабора, дзе займалася перапіскай царкоўных кніг. Гэтая праца патрабавала не толькі веры і цярплівасці, абавязковай умовай лічыліся пэўныя мастацкія здольнасці, бо перапісваліся творы ўставам, калі кожная літара па сутнасці вымалёўвалася. З ініцыятывы і фундацыі Ефрасінні была пабудавана царква Спаса — унікальны помнік мураванага дойлідства Беларусі. На хорах яе знаходзіліся невялічкія келлі — галубніцы; паводле падання, яны служылі прытулкам для Ефрасінні і яе сястры. Мяркуецца, што там манашка пісала полацкі летапіс (*К. Тарасаў. Памяць пра легенды*).

Як бачым, тэкст навукова-папулярнага падстылю адрозніваецца ад энцыклапедычнага тэксту большай эмацыянальнасцю і вобразнасцю выкладу гістарычнага матэрыялу, што абумоўлена спецыфікай аўдыторыі, для якой пісаўся нарыс.

## ⌛ Пытанні для самакантролю

1. Якія разнавіднасці (падстылі) вылучаюцца ў навуковым стылі ў залежнасці ад мэты навуковага паведамлення, спецыфікі адрасата і сферы выкарыстання?

2. Пералічыце асноўныя жанры ўласна навуковага (акадэмічнага) падстылю.

3. Назавіце жанры навукова-тэхнічнага (вытворча-тэхнічнага, навукова-справавога) падстылю.

4. Якія жанры навуковых тэкстаў адносяцца да навукова-інфармацыйнай разнавіднасці навуковага стылю?

5. Пералічыце жанры навукова-даведачнага падстылю.

6. Назавіце жанры вучэбна-навуковага (навукова-навучальнага) падстылю.

7. Якія жанры навуковых тэкстаў адносяцца да навукова-папулярнай разнавіднасці навуковага стылю?

## 5.4. КАМПАЗІЦЫЯ НАВУКОВАГА ТЭКСТУ

↬ Навуковыя тэксты розных жанраў будуюцца па адзінай лагічнай схеме: тэзіс → доказ → вывады.

**Тэзіс** — гэта сцвярджэнне, якое патрабуе абгрунтавання. Тэзіс уключае ў сябе прадмет гаворкі (тое, аб чым гаворыцца ў дадзеным тэксце) і аналізуемую прымету (тое, што гаворыцца аб гэтым прадмеце). **Доказам** тэзіса з'яўляюцца аргументы (довады, якія прыводзяцца ў доказ), колькасць якіх залежыць ад жанру і аб'ёму навуковага тэксту. Аргументацыя павінна суправаджацца ілюстрацыямі — прыкладамі, якія пацвярджаюць вылучаныя тэарэтычныя палажэнні. Навуковы тэкст завяршаецца **вывадамі**, у якіх утрымліваецца аналітычная адзнака праведзенага даследавання і вызначаюцца перспектывы далейшага навуковага пошуку.

Найбольш распаўсюджанымі жанрамі ўласна навуковага падстылю з'яўляюцца: навуковы артыкул, манаграфія і дысертацыйнае даследаванне.

↬ **Навуковы артыкул** — гэта навуковая праца невялікага памеру, у якой выкладзены аўтарам ці калектывам аўтараў вынікі даследавання ў галіне пэўнай навукі.

↬ **Манаграфія** — навуковая праца (кніга), прысвечаная даследаванню адной праблемы або аднаго пытання.

↬ **Дысертацыйнае даследаванне (дысертацыя)** — навукова-даследчая праца, якая публічна абараняецца яе аўтарам на пасяджэнні вучонага савета для атрымання вучонай ступені.

Названыя жанры ўласна навуковага падстылю маюць свае структурна-сэнсавыя кампаненты:

✓*загаловак* (***назва***), які павінен адлюстроўваць тэму і змест тэксту;

✓***уводзіны***, дзе абгрунтоўваюцца выбар тэмы даследавання, апісваюцца метады даследавання, фармулююцца мэта і задачы навуковай працы;

✓***асноўную частку***, якая падзяляецца на главы або раздзелы ў адпаведнасці з задачамі і аб'ёмам працы. У навуковым артыкуле главы і раздзелы не выдзяляюцца, кожнае новае навуковае палажэнне пішацца з новага абзаца. Менавіта падзел навуковага тэксту на абзацы робіць выклад матэрыялу лагічным, паслядоўным, дапамагае зразумець аўтарскую логіку. Выказванне ў абзацы будуецца па схеме: ад агульнага — да прыватнага, ад тэзіса — да доказу, ад прычыны — да выніку. Звычайна ў пачатку абзаца выказваецца асноўная думка (тэзіс), якая пасля тлумачыцца, даказваецца. Для пераканаўчага доказу выказанага тэзіса прыводзяцца цытаты, падаюцца ілюстрацыйны матэрыял і спасылкі. Пры цытатах заўсёды даецца спасылка на аўтара і яго працу, якая размяшчаецца пасля цытаты ў квадратных дужках (напрыклад, [8, с. 138], дзе першая лічба — гэта нумар крыніцы ў спісе даследаванай літаратуры, а другая — гэта старонка, на якой змешчана выкарыстаная цытата) або ў зносцы ў ніжняй частцы старонкі. У навуковых даследаваннях у спісах выкарыстанай літаратуры (або бібліяграфічных спісах) у зносках выкарыстоўваюцца дакладныя спасылкі: указваецца прозвішча і ініцыялы аўтара, назва кнігі, месца выдання, назва выдавецтва, год выдання, старонкі (напрыклад: *У. І. Кулікові́ч. Новае ў беларускай арфаграфіі. Правілы. Заданні. Тэсты. Даведачны матэрыял / У. І. Кулікові́ч; пад рэд. М. Р. Прыгодзіча. — 2-е выд., дапоўн. — Мінск: Новое знание, 2010. — 128 с.*);

✓***заключэнне***, у якім змяшчаюцца вывады, зробленыя ў даследаванні.

Такія структурна-сэнсавыя кампаненты з'яўляюцца абавязковымі кампанентамі курсавой і дыпломнай працы (жанраў вучэбна-навуковага падстылю).

Найбольш распаўсюджаныя жанры навуковага стылю, з якімі сустракаюцца навучэнцы адукацыйных устаноў, наступныя: канспект, рэферат, даклад, анатацыя, тэзісы, рэцэнзія і водзыў.

↬ **Канспект** — гэта від тэксту, які заключаецца ў сціслай перадачы зместу або асноўных думак прачытанага ці праслуханага тэксту (артыкула, лекцыі, раздзела з падручніка, асобнай кнігі). Кан-

спект дазваляе выявіць, сістэматызаваць і абагульніць найбольш каштоўную інфармацыю, а пасля яе ўзнавіць. Вылучаюць наступныя віды канспектаў:

✓ ***паводле аб'ёму змешчанага матэрыялу***: сціслы, падрабязны і змешаны;

✓ ***паводле ступені адпаведнасці першакрыніцы***: інтэгральны і выбарачны;

✓ ***паводле колькасці першакрыніц***: манаграфічны і аглядавы;

✓ ***паводле ўспрымання інфармацыі***: канспект паводле прачытанага тэксту і канспект паводле праслуханага тэксту.

У залежнасці ад спосабу, формы падачы матэрыялу і набліжанасці да першакрыніцы вылучаюць наступныя віды канспектаў:

✓ ***план-канспект***;

✓ ***канспект-схема***;

✓ ***тэкстуальны канспект***.

Працуючы над канспектам кнігі, асобнага раздзела, неабходна прытрымлівацца наступнага алгарытму:

- запісаць назву твора і яго выходныя дадзеныя;
- зразумець асноўны змест тэксту, двойчы прачытаўшы яго;
- скласці план-аснову канспекта;
- пры канспектаванні пакінуць шырокія палі для дапаўненняў, нататак, запісаў тэрмінаў і імёнаў, якія патрабуюць дадатковых тлумачэнняў;
- звярнуць увагу на асобныя фразы і ключавыя словы, якія маюць важнае значэнне пры аднаўленні тэксту;
- канспектаванне весці сваімі словамі, што паспрыяе лепшаму асэнсаванню і засваенню тэксту;
- скласці сваю сістэму падкрэсліванняў, скарачэнняў, умоўных знакаў;
- выконваць прынятыя правілы цытавання — цытату заключаць у двукоссе, даваць спасылку на крыніцу з указаннем старонкі.

✎ **Рэферат** — кароткі выклад зместу навуковага тэксту (кнігі, артыкула, даследавання) у пісьмовым выглядзе. **Аўтарэферат** — гэта рэферат, напісаны аўтарам навуковай працы, напрыклад, *аўтарэферат кандыдацкай дысертацыі.*

Рэферат адлюстроўвае інфармацыю, якая змяшчаецца ў першакрыніцы, новыя звесткі, істотныя дадзеныя. Рэферыраванне выпрацоўвае ўменні і навыкі працаваць з навуковай літаратурай, арыентавацца ў ёй, адбіраць неабходную інфармацыю. Рэферат павінен быць інфармацыйна насычаным, характарызавацца паўнатой выкладу матэрыялу, аб'ектыўна перадаваць змест першакрыніц.

Рэферат можа быць рэпрадуктыўным (перадае дакладны змест першаснага тэксту) і прадуктыўным (змяшчае крытычнае або творчае асэнсаванне крыніцы рэферыравання).

**Рэпрадуктыўныя рэфераты** бываюць двух відаў:

✓ ***рэферат-канспект*** (у абагульненым выглядзе перадаецца фактычная інфармацыя з першакрыніцы, ілюстрацыйны матэрыял, звесткі аб метадах даследавання, атрыманых выніках і магчымасцях іх прымянення);

✓ ***рэферат-рэзюмэ*** (прыводзяцца толькі асноўныя палажэнні, цесна звязаныя з тэмай тэксту).

**Прадуктыўныя рэфераты** могуць быць у выглядзе:

✓ ***рэферата-агляду*** (пішацца на аснове некалькіх першакрыніц, у якіх супастаўляюцца розныя пункты гледжання па пэўным пытанні);

✓ ***рэферата-даклада*** (акрамя выкладу і аналізу інфармацыі, пададзенай у першасным тэксце, у рэфераце-дакладзе даецца аб'ектыўная ацэнка стану даследуемай праблемы).

Незалежна ад віду рэферат як жанр навуковага стылю мае наступныя асаблівасці:

✓ змест рэферата залежыць ад зместу рэферыруемай крыніцы;

✓ рэферат дакладна перадае інфармацыю з першакрыніц без скажэнняў і суб'ектыўных ацэнак;

✓ рэферат мае сваю структуру, якая складаецца з наступных кампанентаў: загаловачнай часткі з бібліяграфічным апісаннем, уласна рэфератыўнай часткі (падаюцца звесткі аб аўтарах, называецца асноўная тэма і праблематыка першакрыніц, даецца падрабязны або сціслы выклад найбольш важных пытанняў), у канцы робяцца вывады.

➯ **Даклад** — адзін з відаў маналагічнага маўлення, які ўяўляе сабой публічнае разгорнутае асвятленне якой-небудзь тэмы. Даклад бывае вусным і пісьмовым (па сваім змесце набліжаецца да рэферата).

Даклад — гэта адзін з відаў самастойнай навукова-даследчай працы, у якой аўтар раскрывае сутнасць даследуемай праблемы, асвятляе розныя пункты гледжання на гэтую праблему, выказвае свае думкі. Пры падрыхтоўцы даклада выяўляюцца такія якасці даследчыка, як уменне праводзіць даследаванне, уменне выкласці сабраны матэрыял і вынікі працы, а таксама ўменне кваліфікавана адказаць на пытанні па тэме даклада.

Этапы працы над дакладам:

✓ падбор і вывучэнне першакрыніц па тэме даклада;

✓ складанне бібліяграфіі;

✓ апрацоўка і сістэматызацыя матэрыялу;

✓ падрыхтоўка вывадаў і абагульненняў;
✓ складанне плана даклада;
✓ напісанне даклада;
✓ публічнае выступленне з дакладам.

Структура пісьмовага даклада:

✓ тытульны ліст;
✓ змест (паслядоўна падаюцца назвы пунктаў дакладу і паказваюцца старонкі, з якіх пачынаецца кожны пункт);
✓ уводзіны (абгрунтоўваецца выбар тэмы, вызначаюцца яе значнасць і актуальнасць, паказваюцца мэта і задачы дакладу, фармулюецца сутнасць даследуемай праблемы, робіцца агляд выкарыстанай літаратуры) ;
✓ асноўная частка (уключае некалькі частак, кожная з якіх доказна раскрывае змест даследуемай праблемы);
✓ заключэнне (падводзяцца вынікі або робіцца абагульнены вывад па тэме даклада);
✓ спіс выкарыстанай літаратуры (бібліяграфічны спіс).

Пры падрыхтоўцы даклада ўлічваецца агульнанавуковы ўзровень, склад і падрыхтаванасць слухачоў да ўспрымання даклада.

➯ **Анатацыя** — сціслае, кароткае апісанне (характарыстыка) кнігі, артыкула або зборніка. У анатацыі пералічваюцца пытанні і праблемы апісваемага тэксту, характарызуецца яго структура, кампазіцыя. Як правіла, тэкст анатацыі складаецца з простых сказаў.

Анатацыя мае дзве абавязковыя часткі:

✓ называецца аўтар, тэма тэксту, падаецца характарыстыка зместу першакрыніцы;
✓ называецца адрасат тэксту, апісваемага ў анатацыі.

➯ **Тэзісы** — сцісла сфармуляваныя асноўныя палажэнні навуковага артыкула, даклада. Паводле прадстаўленага ў іх матэрыялу і па змесце тэзісы могуць быць як першаснай, арыгінальнай навуковай працай, так і другасным тэкстам, падобным да анатацыі, рэферата, канспекта.

Арыгінальныя, першасныя тэзісы з'яўляюцца сціслым выкладам аўтарскага артыкула або дакладу. Другасныя тэзісы складаюцца на аснове першакрыніц, якія належаць іншаму аўтару.

Тэзісы лагічна і сцісла перадаюць пэўныя палажэнні даследуемай праблемы. Кожны тэзіс, які супадае з асобным абзацам, звычайна нумаруецца і асвятляе асобную мікратэму даследавання. У тэзісах, у большасці выпадкаў, адсутнічаюць цытаты, прыклады і спасылкі на іншыя навуковыя працы.

➯ **Рэцэнзія** — гэта пісьмовы водзыў на навуковую працу, які змяшчае:

✓ каментаванне асноўных палажэнняў навуковага тэксту (тлумачэнне аўтарскай думкі; уласнае стаўленне да праблемы, даследаванай аўтарам; выяўленне свайго пункту гледжання на пытанні, закранутыя аўтарам, і г. д.);
✓ абагульненую аргументаваную ацэнку навуковай працы;
✓ вывады аб значнасці навуковага даследавання.

➷ **Водзыў** — тэкст навукова-інфармацыйнага падстылю, які дае агульную характарыстыку навуковай працы без падрабязнага аналізу. У адрозненне ад рэцэнзіі, водзыў абавязкова павінен утрымліваць практычныя рэкамендацыі (дзе, з якой мэтай, у якой галіне навукі можа быць выкарыстаны аналізаваны тэкст).

Рэцэнзія і водзыў павінны ўключаць наступныя кампаненты:
✓ прадмет аналізу;
✓ актуальнасць тэмы даследавання;
✓ фармулёўка асноўнага тэзіса;
✓ сціслы змест працы;
✓ абагульненая ацэнка;
✓ заўвагі, недахопы;
✓ вывады;
✓ практычныя рэкамендацыі (для водзыву).

Такім чынам, нягледзячы на тое, што ўсе прааналізаваныя жанры (*навуковы артыкул*, *манаграфія*, *дысертацыйнае даследаванне*, *курсавая праца*, *дыпломная праца*, *канспект*, *рэферат*, *даклад*, *анатацыя*, *тэзісы*, *рэцэнзія* і *водзыў*) адносяцца да навуковага стылю, яны маюць свае адметнасці ў кампазіцыйнай будове, у спосабе падачы матэрыялу, у прызначэнні і сферы выкарыстання.

## ⌛ Пытанні для самакантролю

1. Па якой схеме будуюцца навуковыя тэксты? Ахарактарызуйце паняцці *тэзіс* і *доказ* як асноўныя складнікі кампазіцыйнай будовы навуковага тэксту.
2. Ахарактарызуйце такія жанры ўласна навуковага падстылю, як навуковы артыкул, манаграфія і дысертацыйнае даследаванне. Якія структурна-сэнсавыя кампаненты характэрны для названых жанраў?
3. Раскажыце пра агульныя патрабаванні да напісання і афармлення канспекта.
4. Што такое рэферат? Якія віды рэфератаў вы ведаеце? Ахарактарызуйце асаблівасці рэферата як жанру навуковага стылю.
5. Раскажыце пра даклад як адзін з відаў самастойнай навукова-даследчай працы. З якіх структурна-сэнсавых кампанентаў складаецца даклад?

6. Што такое анатацыя? Якія абавязковыя часткі ўтрымлівае анатацыя?

7. У чым заключаюцца асаблівасці такога жанру навуковага стылю, як тэзісы?

8. Што такое рэцэнзія і водзыў? У чым падабенства і адрозненне названых жанраў навукова-інфармацыйнага падстылю? Назавіце структурна-сэнсавыя кампаненты рэцэнзіі і водзыву.

## ✍ ЗАДАННІ

**Заданне 57.** *Прачытайце. Вызначце, якімі моўнымі сродкамі выражаецца абстрактнасць, абагульненасць і аб'ектыўнасць навуковага выкладу.*

🕮 Дзейнасць чалавека не абыходзіцца без асабістых эмацыянальных перажыванняў. Пачуцці — адна з формаў (поруч з розумам і воляй) праяўлення адносін чалавека да прадметаў і з'яў рэчаіснасці. У пачуццях адрозніваюць псіхалагічную аснову (утварэнне ў свядомасці чалавека такіх адэкватна-валявых рэакцый, як эмоцыі і імкненні) і сацыяльную (суб'ектыўныя адносіны чалавека да розных сфер грамадскага быцця, што вызначае сацыяльнае аблічча індывіда). Таму ацэнка, што праяўляецца ў пачуццях, залежыць не толькі ад аб'ектыўных уласцівасцей прадмета ці з'яў, ад іх месца ў сістэме грамадскіх адносін, але і ад вопыту чалавека і яго светапогляднай пазіцыі. Пачуцці прычынна абумоўлены, аб'ектыўныя паводле зместу і суб'ектыўныя па праяўленні. Ім уласцівы прадметны характар (рэальны ці ўяўны). Чалавек не можа перажываць увогуле, безадносна, а толькі ў адносінах да каго-небудзь, чаго-небудзь (нельга зазнаць пачуццё кахання, калі няма аб'екта сімпатыі ці пакланення). Вылучаюць грамадскія і асабістыя, станоўчыя і адмоўныя, абстрактныя і канкрэтныя, нацыянальныя, інтэлектуальныя, палітычныя, маральныя, рэлігійныя і іншыя пачуцці. Пачуццё непасрэдна звязана з мысленнем, успрыманнем, уяўленнем, памяццю, актывізуе пазнавальныя намаганні індывіда, яго волю, уплывае на пошук жыццёвага шляху, фармаванне светапогляду. Пачуцці са станоўчым эмацыянальным тонам (задавальненне, радасць, добры настрой) павышаюць жыццядзейнасць чалавека, з адмоўным (незадаволенасць, смутак, дрэнны настрой) — прыгнятаюць актыўнасць асобы. Пачуцці чалавека адыгрываюць вялікую ролю ў яго паводзінах, практычнай і пазнавальнай дзейнасці. Выхаванне пачуццяў — частка выхавання гарманічна развітага чалавека (*Чалавек і грамадства: Энцыклапедычны даведнік*).

🖮 ASCII (American Standard Code for Information Interchange) — амерыканскі стандартны код абмену інфармацыяй. Гэта код абмену інфармацыяй паміж камп'ютарамі і для перадачы інфармацыі па лініях сувязі. Уяўляе сабой схему, у якой для літараў, лічбаў, знакаў прыпынку і іншых сімвалаў пазначаны лічбавыя значэнні-коды. ASCII ўтрымлівае стандартны набор значэнняў кодаў для сімвалаў, якія ўключаны ў табліцу, што забяспечвае абмен інфармацыяй паміж ЭВМ і іх праграмамі. ASCII ўтрымлівае 256 кодаў (шаснаццатковыя коды), згрупаваныя ў два наборы па 128 значэнняў: стандартны (базавы) і пашыраны. У асноўным стандартным наборы ASCII першыя 32 значэнні замацаваны за кодамі кіравання перадачай звестак і работай друкаркі (такія як вяртанне карэткі, табуляцыя, вяртанне курсора на адну пазіцыю і інш.). Гэтыя коды кантралююць перадачу звестак ад аднаго прыстасавання да другога. Наступныя (пасля 32-х) 96 кодаў замацаваны за знакамі пунктуацыі, лічбамі ад 0 да 9, вялікімі і малымі літарамі лацінскага алфавіта. Пашыраны набор кодаў ад 128 да 255 адведзены для прысвойвання іх вытворцам камп'ютараў і распрацоўшчыкам праграмнага забеспячэння адпаведнаму падмноству сімвалаў. Гэтыя коды могуць прымяняцца па-рознаму ў розных камп'ютарах і праграмах — кадуюцца сімвалы псеўдаграфікі і літары нацыянальных алфавітаў. Такім чынам, пашыраныя сімвалы ASCII будуць інтэрпрэтавацца карэктна толькі тады, калі камп'ютар, друкарка, праграма разлічаны на гэтыя коды. Стандартны код сімвалаў ASCII з'яўляецца ўніверсальным для ўсіх відаў апаратнага і праграмнага забеспячэння мікракамп'ютараў (*Тлумачальны слоўнік па інфарматыцы*).

⚛ Перыядычны закон Д. І. Мендзялеева з'яўляецца адным з найбольш фундаментальных і агульных законаў прыроды. Яго адкрыццё азначала пачатак новай эпохі ў развіцці хіміі — яе сучаснага этапу. Перыядычны закон дазволіў абагуліць разрозненныя факты аб хімічных элементах, раскрыць глыбокую ўнутраную сувязь паміж імі і тым самым аб'яднаць у адзіную сістэму. Уся жывая і нежывая прырода складаецца з атамаў самых розных хімічных элементаў. Значыць, перыядычны закон — гэта не толькі асноўны закон хіміі, але і асноўны закон прыроды. Яго адкрыццё аказала велізарны ўплыў на развіццё хіміі, фізікі, геалогіі, іншых прыродазнаўчых навук і не страціла свайго значэння да гэтага часу.

Вялікую ролю адыграў перыядычны закон у развіцці тэорыі будовы атама. Выяўленая з яго дапамогай глыбокая ўнутраная сувязь паміж элементамі дазволіла зрабіць вывад аб тым, што ўсе атамы пабудаваныя прынцыпова аднолькава. Таму стварэнне мадэлей

атамаў стала магчымым толькі пасля адкрыцця перыядычнага закону. У сваю чаргу веданне будовы атама дазволіла глыбей зразумець сутнасць гэтага закону, растлумачыць прычыну перыядычнасці ў змяненні ўласцівасцей атамаў хімічных элементаў, простых рэчываў і злучэнняў.

Графічным адлюстраваннем перыядычнага закону з'яўляецца табліца перыядычнай сістэмы, у якой хімічныя элементы размяшчаюцца ў парадку ўзрастання іх атамнага (парадкавага) нумара. Па меры ўзрастання атамнага нумара адбываецца паступовая «забудова» электроннай структуры атамаў элементаў. Хімічныя ўласцівасці атамаў і іх злучэнняў вызначаюцца галоўным чынам будовай знешніх электронных абалонак (*Хімія: вучэбны дапаможнік*).

**Заданне 58.** *Прачытайце, вызначце, якімі моўнымі сродкамі выражаецца дакладнасць, лагічнасць і доказнасць навуковага выкладу.*

🕮 Беларусізацыя — палітыка Кампартыі і ўрада БССР у 1920 — пачатку 1930-х гадоў, накіраваная на заканадаўчае замацаванне за беларускай мовай функцый дзяржаўнай мовы (перавод на беларускую мову дзейнасці дзяржаўных, партыйных і грамадскіх установ і іх справаводства), пераход на беларускую мову навучання і выхавання ў большасці школ, дашкольных устаноў, вышэйшай і сярэдняй прафесійнай адукацыі, павелічэнне яе ролі ў галіне культуры, друку, сацыяльна-бытавога абслугоўвання, армейскай службы, дзяржаўнай і кааператыўнай дзейнасці пры адначасовай гарантыі іншым народам Беларусі права на карыстанне іх роднай мовай ва ўсіх сферах грамадска-палітычнага, эканамічнага і культурнага жыцця. У шырокім сэнсе слова пад беларусізацыяй, як адзначалася ў афіцыйным дакуменце Нацыянальнай камісіі ЦВК БССР, «належыць разумець: 1) развіццё беларускай культуры (школа, вышэйшыя навучальныя ўстановы на беларускай мове, беларуская літаратура, выданне беларускіх кніг, навукова-даследчая праца па ўсебаковаму вывучэнню Беларусі і г. д.); 2) вылучэнне беларусаў на партыйную, савецкую, прафесіянальную і грамадскую працу; 3) перавод працы партыйнага, дзяржаўнага, прафесіянальнага і кааператыўнага апаратаў і часцей Чырвонай Арміі на беларускую мову» [Практычнае вырашэнне нацыянальнага пытання ў БССР. Ч. 1. Беларусізацыя. — Мінск, 1928. — С. 9—10] (*Беларуская мова: энцыклапедыя*).

⌨ Асноўныя дасягненні першага перыяду ў развіцці матэматычнай тэрміналогіі звязаны з дзейнасцю Навукова-тэрміналагічнай камісіі, створанай 10 (па іншых звестках 20) лютага 1921 г. пры Народным камісарыяце асветы ССРБ і зацверджанай Навукова-

літаратурным аддзелам. У задачы трох секцый камісіі (гуманітарнай, прыродазнаўчай і матэматычнай) уваходзіла выпрацоўка галіновай навукова-тэхнічнай тэрміналогіі на аснове лексікі народнай мовы. Такім чынам, сфармуляваная Л. Більдзюкевічам канцэпцыя шляхоў і спосабаў фарміравання тэрмінасістэмы матэматыкі з арыентацыяй на рэсурсы роднай мовы была пацверджана дзейнасцю Навукова-тэрміналагічнай камісіі і паклала пачатак панавальнай у 1920-я гг. пурыстычнай тэндэнцыі. Найбольш прадуктыўным спосабам тэрмінаўтварэння стала тэрміналагізацыя агульнаўжывальных слоў: *астача, бок, велічыня, вышыня, вылічыць, даўжыня, дуга, кірунак, лік* [БНТ, 1922а, с. 3], аднак «па прычыне абстрактнасьці матэматычных разуменьняў» адзначалася, што такіх «чыстых тэрмінаў народная мова мае надта мала» [БНТ, 1922а, с.3]. Камісія трымалася меркавання, «што лепш утвараць згодна з законам беларускай мовы нэолёгізмы, чымся браць чужыя, саўсім незразумелыя словы» [БНТ, 1921, с. 11] (*Беларуская матэматычная тэрміналогія*).

❁ З асаблівасцямі дыхання звязаны будова крываноснай сістэмы і склад крыві амфібій. У бясхвостых амфібій эрытрацыты, якія пераносяць кісларод і вуглякіслы газ, па памерах у 10 разоў большыя, чым у чалавека. Асноўныя крываносныя сасуды, якія правадзяць кроў, а таксама галоўны «рухавік» арганізма — сэрца — у бясхвостых амфібій з-за асаблівасцей дыхання істотна змяніліся ў параўнанні з рыбамі. У іх утварыўся лёгачны круг кровазвароту, трохкамернае сэрца ўключае два поўнасцю адасобленыя перадсэрдзі і адзін агульны жалудачак, ёсць вялікія скурныя і лёгачныя артэрыі, якія адыходзяць ад агульнага буйнога ствала брушной аорты і вядуць да органаў. Адсутнасць перагародкі ў жалудачку вядзе да змешвання артэрыяльнай (багатай кіслародам) і вянознай (насычанай вуглякіслым газам) крыві, таму жалудачак сэрца, калі скарачаецца, пасылае да органаў змяшаную кроў, менш багатую кіслародам. Здавалася б, за гэта трэба «папракнуць» прыроду. Але трэба памятаць пра значэнне для амфібій скурнага дыхання, асабліва для тых жывёл, якія доўга знаходзяцца пад вадой. Дзякуючы адсутнасці перагародкі ў жалудачку, багатая кіслародам кроў паступае па скурных венах у правае перадсэрдзе, адтуль у жалудачак, а потым пры скарачэнні жалудачка не ў лёгкія (што зрабіла б бессэнсоўным скурнае дыханне), а да органаў. Атрымліваецца, што такі «недахоп» у будове сэрца дае магчымасць бясхвостым земнаводным знаходзіцца ў вадзе і на сушы, быць сапраўднымі амфібіямі (*Земнаводныя. Паўзуны: Энцыклапедычны даведнік*).

**Заданне 59.** 📖⌨❁ *Прачытайце ўрывак з дапаможніка «Беларускі правапіс». Вызначце рысы навуковага стылю, адлюстраваныя ў гэтым тэксце.*

Праблемы ўнармавання граматычнага ладу і арфаграфічнай сістэмы беларускай мовы неаднаразова ўздымаліся ў пачатку XX ст. беларускімі пісьменнікамі, выдаўцамі, грамадскімі дзеячамі — Ф. Багушэвічам, А. Грыневічам, Я. Коласам, Я. Купалам, А. Пашкевіч і інш.

Першыя спробы стабілізацыі беларускага правапісу рабіліся ў асноўным у межах граматыкі. Вынікам стала выданне шэрага арыгінальных прац Антонам Луцкевічам («Jak prawilna pisać pa biełarusky», Вільня, 1917), Браніславам Пачобкам («Hramatyka biełaruskaj mowy», Вільня, 1918), Янам Станкевічам і Антонам Луцкевічам («Biełaruski prawapis», Вільня, 1918), Рудольфам Абіхтам і Антонам Луцкевічам («*pròsty spòsab stàcca й karòtkim càse hràmatnym*», Брэслаў, 1918), Аленай Смоліч («Зорка. Беларуская граматыка», Вільня, 1919). Гэтыя дапаможнікі вызначаліся схематызмам у распрацоўцы пытанняў правапісу, недасканаласцю граматычнай тэрміналогіі і не аказалі істотнага ўздзеяння на стан літаратурнай мовы ў цэлым. Аднак яны адыгралі станоўчую ролю ў нармалізацыі беларускай графікі і правапісу.

Праца Браніслава Тарашкевіча «Беларуская граматыка для школ» (Вільня, 1918; 7-е выд. Мн., 1991) стала першым выданнем, у якім навукова карэктна асвятляліся такія нераспрацаваныя галіны беларускага мовазнаўства, як фанетыка, граматыка, словаўтварэнне і сінтаксіс.

Граматыка была напісана з захаваннем лепшых традыцый тагачаснага ўсходнеславянскага мовазнаўства і апорай на даследаванні акадэмікаў А. Шахматава і Я. Карскага.

Пры ўкладанні правіл правапісу і граматыкі Б. Тарашкевіч кіраваўся фанетыка-граматычнымі асаблівасцямі сярэднебеларускіх гаворак. Ён замацаваў фанетычны прынцып для напісання галосных (перадача акання / якання) і марфалагічны — для перадачы зычных (за некаторым выключэннем на карысць фанетычнага прынцыпу, напрыклад, пры адлюстраванні дзекання, цекання, зацвярдзелага **р**, прыстаўных гукаў, асіміляцыйнай мяккасці). Словы іншамоўнага паходжання Б. Тарашкевіч прапанаваў пісаць у адпаведнасці з іх вымаўленнем у той мове, з якой яны былі запазычаны: *лёзунг*, *Пэрсія*, *катэдра*. Акрамя таго, аўтар распрацаваў правапіс запазычаных слоў у адпаведнасці са ступенню іх асвоенасці ў беларускай мове.

Для замацавання правіл прапаноўваліся заданні з тэкстамі, узятымі з беларускіх мастацкіх твораў.

Такім чынам, дзякуючы «Беларускай граматыцы для школ» быў ліквідаваны частковы разнабой у школьным навучанні, выдавецкай і навуковай дзейнасці. Праўда, шэраг важных праблем у напісанні запазычаных лексем, складаных слоў, уласных найменняў не атрымалі свайго сістэмнага вырашэння (*Беларускі правапіс*).

**Заданне 60.** *Прачытайце. Знайдзіце і выпішыце з тэкстаў лексічныя і фразеалагічныя моўныя сродкі, уласцівыя навуковаму стылю.*

📖 Для менталітэту беларусаў у старажытны перыяд былі ўласцівыя язычніцкі політэізм (вера ў адначасовае існаванне многіх багоў), абагаўленне зямлі, крыніц, нябесных свяціл, дрэў, камянёў і іншых прыродных з'яў (пантэізм), перакананне ў рэальным існаванні душы, злых і добрых духаў (анімізм), адчуванне непарыўнай еднасці паміж чалавекам і ўсёй навакольнай прасторай. Пасля прыняцця хрысціянства ў 10—12 стст. адбывалася своеасаблівае перапляценне двух тыпаў светабачання — старога язычніцкага і новага хрысціянскага з яго монатэізмам (перакананне ў існаванні адзінага Бога), уяўленнямі пра стварэнне Сусвету і чалавека па волі Божай, пра неабходнасць для выратавання душы выконваць спецыяльныя абрады, ушаноўваць хрысціянскіх святых і г. д. Але ва ўсе часы беларусам была ўласцівая моцная прывязанасць да сваёй зямлі-карміцелькі, да роднага кутка, пастаяннае імкненне гарманічна прыстасоўваць працу і адпачынак да пэўных прыродна-сезонных цыклаў, пор года (т. зв. «каляндарны накірунак ментальнасці»), надзвычайная талерантнасць (цярпімасць) да прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей і веравызнанняў. Такі традыцыйны беларускі менталітэт у сваіх асноўных рысах доўгі час захоўваўся без істотных змен. У сучасны перыяд пад уплывам істотных грамадскіх змен менталітэт многіх грамадзян Беларусі пастунова пазбаўляецца празмернай заідэалагізаванасці, бязбожніцтва, у ім умацоўваюцца ідэі аб неабходнасці сацыяльна-эканамічных пераўтварэнняў, незалежнасці краіны, свабоднага развіцця і самасцвярджэння асобы (*Чалавек і грамадства: Энцыклапедычны даведнік*).

⌨ Засяродзім увагу на тым факце, што разлік лінейных электрычных ланцугоў зменнага току, які робіцца ў курсе электратэхнікі, прадугледжвае не толькі знаёмства навучэнцаў з рознымі формамі запісу і геаметрычнага прадстаўлення камплексных лікаў, але таксама ўменне выконваць дзеянні з гэтымі лікамі (напрыклад, у паказнікавай форме). Варта адзначыць, што неабходнасць дзеянняў з камплекснымі лікамі выклікала структурнае змяненне рабочых

праграм па матэматыцы для першакурснікаў. У яе былі ўключаны тэмы, якія раней вывучаліся ў аб'ёме вышэйшай матэматыкі: метад матэматычнай індукцыі; біном Ньютана; камплексныя лікі; палярная сістэма каардынат; гіпербалічныя функцыі; будаванне крывых, зададзеных параметрычна; раўнанні прамых на плоскасці; ліміт паслядоўнасці і функцыі; вытворная функцыі. Адпаведна змянілася і праграма па вышэйшай матэматыцы. Такі падыход, на нашу думку, сапраўды апраўданы, бо сістэматызуе вучэбную матэматычную інфармацыю і забяспечвае магчымасць развіцця прафесійнай накіраванасці вывучэння матэматыкі ўжо на першым курсе. Вывучэнне курса вышэйшай матэматыкі пачынаецца зараз з тэмы «Лінейная алгебра» з той прычыны, што навучэнцы павінны як мага раней авалодаць навыкамі рашэння сістэм лінейных раўнанняў, неабходнымі для разліку электрычных ланцугоў зменнага току. Уважліва трэба ставіцца і да даследавання графікаў экспанентавай і ступеневай функцый <...>. Зазначым, што неабходнасць вывучэння гіпербалічных функцый для інжынерных спецыяльнасцей адчувалі яшчэ ў пачатку XX ст. Напрыклад, у кнізе «Practical mathematics» уведзены азначэнне, уласцівасці, графікі, дыферэнцаванне не толькі гіпербалічных функцый, але і адваротных да іх (*І. Ю. Мацкевіч. Аб прафесійнай накіраванасці матэматыкі ў кантэксце прафесійнай кампетэнтнасці*).

✿ У атлантычным перыядзе сярэдняга галацэну ў выніку новай міграцыі адзначаецца значнае ўзбагачэнне відавога складу лясных суполак жывёл. У іх складзе дамінуючай групай становяцца прадстаўнікі паўднёва-таёжных і шыракалістых лясоў. Відавы склад прадстаўнікоў шыракаліставых лясоў ўзбагачаецца больш чым у два разы. Шырокае распаўсюджанне пры гэтым атрымалі *M. subterraneus* Sel.-Long., *A. flavicollis* Melch., з'яўляюцца соні — *Glis glis* L., *Dyromys cf. mitedula* Pall., *Muscardinus sp.*, белазубкі (*Crocidura suaveolens* Pall.), палявыя мышы — *Apodemus agrarius* Pall.

Новая хваля мігрантаў садзейнічала і змяненню структуры мікратэрыякомплексаў гэтага часу. Адбываецца павелічэнне ўдзельнай вагі прадстаўнікоў ляснога комплексу, доля якіх дасягае свайго апагея — больш за 80%. Разам з тым максімальна за ўвесь галацэн скарачаецца ўдзельная вага інтразанальных каляводных суполак жывёл (каля 18%). У структуры ляснога комплексу відаў за кошт зніжэння колькасці жывёл таёжных і змешаных лясоў, адбываецца павелічэнне ўдзельнай вагі прадстаўнікоў паўднёватаёжнашыракалістых лясоў, удзельная вага якіх дасягае максімуму за ўвесь галацэн, складаючы ў сярэднім 43 і 28% адпаведна. Прадстаўнікі ад-

крытых леса-лугавых суполак у лясным комплексе маюць мінімальнае значэнне, каля 1% (*Д. Л. Іваноў. Біястратыграфія позналедавікоўя і галацэну Беларусі па даных выкапнёвай мікратэрыяфаўны*).

**Заданне 61.** *Знайдзіце ў тэкстах марфалагічныя і сінтаксічныя асаблівасці тэкстаў навуковага стылю.*

🕮 Чалавека звычайна разглядаюць у двух розных вымярэннях яго існавання — біялагічным і сацыяльным. Вылучаюць таксама і псіхічны ўзровень вымярэння чалавечага быцця. Біялагічнае праяўляецца ў марфалогіі (будова чалавека), фізіялогіі (функцыянаванне яго сістэм і органаў), генетычных працэсах (спадчынныя змены ў арганізме). Але чалавек валодае духоўным светам. На базе асэнсаваных і неўсвядомленых працэсаў (воля, памяць, характар і г. д.) фармуюцца мысленне і свядомасць. Гэтыя два паняцці характарызуюць якасную спецыфіку і ўзаемадзеянне двух арганічна звязаных узроўняў развіцця матэрыі: жывой прыроды і чалавечага грамадства. Арганізм і асоба — дзве непадзельныя сутнасці чалавека. Цялесная арганізацыя чалавека разглядаецца як матэрыяльны субстрат асобы, яе матэрыяльная аснова, над якой, як над фундаментам, узвышаецца псіхасацыяльная арганізацыя асобы. Вымярэнне чалавека з двух бакоў — біялагічнага і сацыяльнага — мае філасофскі сэнс менавіта ў адносінах да асобы. Біялагічнае ў чалавеку прадвызначаецца, дэтэрмінуецца галоўным чынам спадчынным (генетычным) механізмам. Сацыяльнае абумоўлена спецыфікай уваходжання чалавека ў культурна-гістарычны працэс развіцця грамадства. Як жа ўжываюцца, аб'ядноўваюцца ў чалавеку гэтыя два пачаткі? Працяглая эвалюцыя змяніла біялогію чалавека, вызначальнай перадумовай станаўлення чалавека была праца. З'явіўшыся на свет істотай біялагічнай, чалавек развівае ва ўмовах сацыяльнага асяроддзя свае анатама-фізіялагічныя сістэмы, індывідуальныя таленты, патэнцыяльныя здольнасці, закладзеныя ў выглядзе спадчынных задаткаў. Развіваючыся ва ўмовах поўнай ізаляцыі ад грамадства, чалавек ніколі не стане асобай. Толькі ў грамадстве чалавек можа развіць сваю сапраўдную прыроду (*Чалавек і грамадства: Энцыклапедычны даведнік*).

🖮 Слова «сіметрыя» мае два значэнні. У адным сэнсе сіметрычнае азначае нешта вельмі прапарцыянальнае, збалансаванае; сіметрыя паказвае той спосаб узгаднення многіх частак, пры дапамозе якога яны аб'ядноўваюцца ў цэлае. Другі сэнс гэтага слова — раўнавага. Яшчэ Арыстоцель гаварыў аб сіметрыі як аб стане, які характарызуецца суадносінамі крайнасцей.

Характэрна, што да найбольш цікавых вынікаў навука прыходзіла менавіта тады, калі выяўляла факты парушэння сіметрыі. Высновы, што выцякаюць з прынцыпу сіметрыі, інтэнсіўна распрацоўваліся фізікамі і прывялі да шэрага важных вынікаў.

У многіх выпадках сіметрыя з'яўляецца дастаткова відавочным фактам. Напрыклад, для пэўных геаметрычных фігур няцяжка ўбачыць гэту сіметрыю і паказаць яе шляхам адпаведных пераўтварэнняў, у выніку якіх фігура не зменіць свайго выгляду.

Аднак у агульным сэнсе паняцце сіметрыі больш шырокае: яе можна разумець як нязменнасць (інварыянтнасць) якіх-небудзь уласцівасцей аб'екта ў адносінах да пераўтварэнняў, аперацый, што выконваюцца над гэтым аб'ектам. Прычым гэта можа быць не толькі матэрыяльны аб'ект, але і закон, матэматычная формула ці ўраўненні, у тым ліку і нелінейныя (*В. А. Бондар. Рашэнне фізічных задач сродкамі геаметрычнай сіметрыі*).

❁ Чалавек пастаянна кантактуе з кампанентамі зямной атмасферы. Яго самаадчуванне і здароўе вызначаюцца ўзаемадзеяннем метэаралагічных паказчыкаў, сярод якіх асноўнымі з'яўляюцца тэмпература і ціск. Аднак значна ўплывае на стан здароўя чалавека і іншых біялагічных істот геліягеафізічны фактар (сонечнае хвалевае і карпускулярнае выпраменьванне). Карпускулярнае выпраменьванне ў першым набліжэнні дзеліцца на два класы: нізкаэнергетычныя часцінкі сонечных карпускулярных струменяў (сонечная плазма) з энергіяй пратонаў $10^3$—$10^4$ эВ і высокаэнергетычныя пратоны (касмічныя промні) з энергіяй пратонаў больш за $10^6$ эВ. Адаптаваны на працягу часу сталага пражывання да вызначанага сярэдняга значэння метэаралагічных велічынь, арганізм чалавека ў той жа час павінен рэагаваць на рэзкія змены навакольнага асяроддзя, у тым ліку і на касмічнае надвор'е. Пацверджана, што неперыядычныя пагодныя змены значна ўплываюць на арганізм чалавека, спрыяюць развіццю паталагічных рэакцый, засмучэнняў і нават дэзадаптацыйнага метэанеўрозу. Па выніках Сусветнай арганізацыі аховы здароўя прыродна-кліматычныя фактары знаходзяцца на другім месцы сярод фактараў рызыкі, якія фарміруюць велічыню захворвання і смяротнасці насельніцтва. Доказана, што найбольшы працэнт хворых, якія рэагуюць на змену кліматычных велічынь, характэрны (акрамя туберкулёзу) для асоб, якія маюць сардэчна-сасудзістыя захворванні (*М. Г. Ясавееў, А. В. Курак. Уплыў геліягеафізічных фактараў на біялагічныя аб'екты*).

**Заданне 62.** 🕮⌨❁ *Прачытайце ўрыўкі. Вызначце, якія тэксты адносяцца да навуковага стылю. Прааналізуйце тэксты на-*

*вуковага стылю па наступнай схеме: 1) сфера зносін; 2) асноўная функцыя; 3) падстыль; 4) жанр; 5) стылеўтваральныя рысы; 6) лексіка-фразеалагічныя асаблівасці; 7) марфалагічныя асаблівасці; 8) сінтаксічныя асаблівасці.*

**I.** На пасецы яшчэ зялёная трава і мох, але пастарэлі ўжо грыбы лісіцы, пабялелі, пачалі сохнуць. Затое ў Бярозаўцы — маладыя баравікі, бурыя, цвёрдзенькія і круглыя — як хто іх высеяў у адну ноч. У вайну тут гарэў лес, і яны любяць гарэлае. Маладыя жаўтаватыя апенькі і варушкі абляпілі пні. Іх незамнога: не іхняя яшчэ пара. Далей пад лагі ў бярэзніку — чырвоныя падасінавікі і белыя чашчавікі. Малодзенькія на тоўстым корані і з тоненькай галоўкай, — зусім як напарстак на пальцы. На грыбах — слімакі-смаўжы. Яны — Ірка вычытала — сеюць грыбы. Смаўжоў няма, толькі на мухаморах. Ды і на ліха тыя сеяць, атруту. Яны і самі вунь аж на двор залезлі. Ля ганка і ля студні пясок рыюць — так растуць. Але дзе мухаморы — там і казлякі. На пясчанай гарушцы за хатай іх не злічыш. Казлякоў надта не бяруць. Не бяруць і сыраеж, яны паразрасталіся на зямлі, як рэшаты (*І. Пташнікаў. Алені*).

**II. ГРЫБЫ** (*Mycota*), група бесхларафільных гетэратрофных арганізмаў, разнастайных па будове, памерах і спосабу жыцця. Маюць прыметы раслінных (спосаб жыўлення, неабмежаваны рост) і жывёльных (наяўнасць глікагену, мачавіны, хітыну і інш.) арганізмаў. Некаторыя вучоныя вылучаюць Г. у асобнае царства жывой прыроды. Падзяляюцца на 6 класаў: *хітрыдыяміцэты*, *ааміцэты*, *зігаміцэты*, *сумчатыя грыбы*, *базідыяльныя грыбы*, *недасканалыя грыбы*. Вядома больш за 100 тыс. відаў, пашыраных па ўсім зямным шары. У прыродна-клімат. зонах Беларусі трапляюцца прадстаўнікі ўсіх сістэм. груп. Сапрабіёнты на рэштках раслін, гнілой драўніне, лясным подсціле (*агарыкальныя*, *афілафаральныя*, *гастэраміцэты* і інш.), на прадуктах харчавання, паперы, тканіне (*плесневыя грыбы* і інш.), жывуць таксама ў прэснай і салёнай вадзе (*сапралегніяльныя*, *гіфаміцэтальныя*). Ёсць паразіты раслін (гл. у арт. *Паразітныя грыбы*), жывёл і чалавека (*гімнааскавыя*, *лабульбеніяльныя*). Некаторыя Г. знаходзяцца ў сімбіёзе з водарасцямі (*лішайнікі*) і вышэйшымі раслінамі (*мікарыза*); ёсць *драпежныя грыбы* (*Энцыклапедыя прыроды Беларусі*).

**III.** У тыя дні, што жыў у Камянюках, на пацеху сабе вырошчваў... зімовыя апенькі. Паказаў іх мне зусім яшчэ маленькімі Павел Кірылавіч Міхалевіч — старшы навуковы супрацоўнік, дырэктар тутэйшага музея прыроды. Грыбы мелі мядовы колер, былі тугія на вобмацак і нагадвалі залацістыя манеткі. Паколькі «манеткі» былі яшчэ невялікіх памераў, я вырашыў падгадаваць іх.

Тады ж Міхалевіч адкрыў такія-сякія сакрэты. Растуць зімовыя апенькі групамі, на лісцевых дрэвах — ліпе, лазе, вязе, вярбе, — часцей на іх пнях ці ўздоўж маразабоін. Паяўляюцца ў Белавежы пасля першых замаразкаў. Растуць ўрыўкамі. У адліжныя дні. Ядомыя.

Расказаў і такую гісторыю:

— Пад Новы год да нас прыехалі з тэлебачання. Снегу вакол наваліла, а хлопцы жартуюць: усім ты можаш, Павел Кірылавіч, здзівіць нас, а вось скажы: зімою грыбы растуць? Я нічога не адказаў, узяў кош, і мы паехалі ў пушчу. І што думаеце? Назбіраў!

Я не здзівіўся. Міхалевіч усё свядомае жыццё займаецца грыбамі, ведае іх як ніхто, бадай. З мэтай прапаганды «грыбных» ведаў ужо дзесяць гадоў запар праводзіць выстаўкі грыбоў. Спачатку тут, на пушчанскай паляне, правёў. Потым — у сельскай бібліятэцы, мясцовай дзесяцігодцы, Камянцы, Брэсце, Мінску і нават у Маскве, на ВДНГ (*Я. Пархута. Белавежа*).

**IV. ГРЫБЫ́**, паводле народнага тлумачэння, сваім паходжаннем абавязаныя персанажам хрысціянскай традыцыі. Некалі вельмі даўно, калі Хрыстос з Пятром хадзілі па зямлі і Пятро насіў у торбачцы пасілак, адбыўся такі выпадак: галодны Пятро крадком адламаў кавалак *хлеба*, паклаў сабе ў рот ды не паспеў праглынуць, як да яго звярнуўся Хрыстос з пытаннем, што яшчэ добрае для людзей можна зрабіць. Збянтэжаны Пятро выплюнуў той хлеб, і з яго пайшлі расці Г. Цяпер найбольш ядуць Г. у пост, асабліва ў Пятроўку, калі пачынаюць расці казлякі. Без Г. людзі не змаглі б датрымліваць пастоў, бо без казлякоў і квас не квас. <…> У традыцыях розных народаў далёкіх эпох Г. былі аб'ектам міфалагічнага «даследавання». Асаблівая іх прырода — не расліна і не жывёла, а таксама іх спажыўнасць, атрутнасць, галюцынагеннасць асобных відаў прыцягвалі да сябе ўвагу чалавека. У іх бачылі рысы, што збліжаюць як з нябеснымі, так і з падземнымі сіламі. <…> На думку У. М. Тапарова, Г. уключаюцца ў трыяду «жыццё — смерць — урадлівасць», якая дублюецца прасторавымі перамяшчэннямі аб'екта міфа. Тэма Г. у беларускай міфалогіі пакуль што мала распрацаваная, недастаткова выяўленая міфалагічная інфармацыя пра іх (*Беларуская міфалогія: энцыклапедычны слоўнік*).

**V. МАХАВІК ЧЫРВАНЕЮЧЫ, АБО МОХОВИК КРАСНЕЮЩИЙ, ИЛИ РУБІНАВА-РУЖОВЫ РУБИНОВО-РОЗОВЫЙ**

*XEROCOMUS RUBELLUS (KROMBH.) QUEL., 1888*

| | |
|---|---|
| Клас Базідыяльныя грыбы | Basidiomycetes |
| Парадак Балетальныя | Boletales |
| Сямейства Балетавыя, або Трубчастыя | Boletaceae |

**Статус**. III катэгорыя. Вельмі рэдкі від, які трапляецца ў невялікай колькасці і на абмежаваных плошчах.

**Значэнне ў захаванні генафонду.** Немаральны від з еўразійска-афрыканскім арэалам. Дэкаратыўны малавядомы ядомы грыб.

**Кароткае апісанне**. Шапка дыяметрам 3—6 (8) см, пукатая, потым пляскатая, тонкаапушаная, іншы раз са шчылінкамі, вішнёва-чырвона-бурая або ружова-буравятая, звычайна з аліўкавым адценнем. Мякаць жоўтая, на разрэзе ў ножцы злёгку зелянее. Трубачкі прырослыя, з вуглаватымі порамі, жоўта-аліўкавыя, пры дотыку зелянеюць. Ножка памерам 4—8 × 1—2 см, суцэльная, роўная, каля трубачак жоўтая, каля асновы з вішнёва-чырвоным адценнем.

**Асаблівасці біялогіі**. Мікарызны сімбіёнт дуба, граба, магчыма ляшчыны. Пладаносіць ва ўмовах умеранага ўвільгатнення.

**Пашырэнне**. Еўразія, Паўночная Афрыка. На Беларусі знойдзены паблізу вуліцы Леніна ў Жыткавіцкім раёне і ў Асіповіцкім раёне на Жорнаўскай лясной доследнай станцыі (1, 4, 5).

**Месцы росту**. Дубравы і іншыя шыракалістыя лясы.

**Неабходныя меры аховы**. Стварэнне ў месцах росту віду спецыялізаваных мікалагічных мікразаказнікаў, увядзенне ў культуру для захавання генафонду мясцовых папуляцый і наступнага развядзення ў прыродных умовах, забарона несанкцыяніраванага збору пладовых цел (*Чырвоная кніга*).

**VI.** Грыбы выратавалі больш людзей, чым усе астатнія лекі разам узятыя. Рэч у тым, што пеніцылін быў выраблены з мікраміцэтаў (найпрасцейшых грыбоў) роду Penicillinum, а па сутнасці звычайнай гадкай цвілі. Нядаўна швейцарскія вучоныя зрабілі сапраўдны прарыў у медыцыне, стварыўшы яшчэ адзін, новы, грыбны антыбіётык — цэфаласпарын, які вырашыў чарговую глабальную праблему медыцыны — адарванне перасаджаных органаў. Вельмі цікавая ў гэтых адносінах і ўжо вядомая нам вешанка. Высветлена, што ў склад вешанкі ўваходзіць шмат аксідантаў — рэчываў, якія затрымліваюць старэнне арганізма. А нядаўна ў вешанцы знайшлі яшчэ і рэчывы, якія валодаюць вельмі высокай антыбактэрыяльнай актыўнасцю. Так што, магчыма, у хуткім часе з'явіцца новы «вешанскі» антыбіётык. А яшчэ грыбы — добрыя адсарбенты: іх губчатыя тканкі выдатна ўсмоктваюць радыенукліды і цяжкія металы і пасля выводзяць іх з арганізма (*А. Ачарэтні. Грыбы выратавалі больш людзей, чым усе астатнія лекі разам узятыя // Звязда*).

**VII.** Ні адзін месяц так не багаты грыбамі, як жнівень. У дружным карагодзе «рассыпаліся» сярод зялёнага ці сівога моху жоўтыя лісічкі, а на ўскрайку лесу чакае грыбніка чародка светленькіх

маладзенькіх казлякоў. Пройдзеш у змешаны лес і сустрэнешся з сыраежкамі. Адны ўжо набылі форму талерачак, а іншыя толькі што з'явіліся на свет, цягнуцца да сонца сінімі шапачкамі.

Грыбніка-аматара вабяць як малады сасоннік, так і бор. Тут дружна растуць махавікі. Яны розныя па велічыні. Заўважыш вялікага, то прыглядайся, абавязкова будуць маладзенькія яшчэ, як гузічкі. Збіраць махавікі адна асалода. Хутка кошык напоўніш.

Асабліва вабіць лес, калі з'яўляецца кароль «грыбнога царства» — белы грыб баравік. Тады ўжо грыбнікі расказваюць пра сваю шчаслівую знаходку з захапленнем і гонарам. А дадому ідуць так, каб зверху кошыка былі толькі баравікі.

Важна ведаць і правілы збору грыбоў. Іх трэба зразаць вострым нажом, а не вырываць, каб не пашкодзіць грыбніцу. Гэта дасць магчымасць збіраць іх добры ўраджай і ў будучым.

У час збору трэба ўмела адрозніваць звычайныя грыбы ад ядавітых. Найбольш небяспечная — бледная паганка. Гэта пласціністы грыб, мае высокую ножку з абадком, шапачка блакітнага колеру. Ядавітымі з'яўляюцца мухаморы, апенькі-паганкі, якія адрозніваюцца ад звычайных ярка-жоўтым колерам пласціначак ніжняй часткі шапачкі.

Грыбная пара працягваецца да глыбокай восені. На змену баравікам і падасінавікам прыходзяць зялёнкі і ваўнянкі, потым апенькі (*В. Грамыка. Грыбная пара*).

**VIII.**

Зірнеш і страчваешся ты:
Сядзяць грыбы, як капыты,
І, разгарнуўшы парасоны,
Крыху сур'ёзны, чуць пануры —
Відаць, не простае натуры.
Якія постаці іх, міны!
А як пралазяць скрозь галіны!
Як пад ялоўцавыя лапкі
Яны хаваюць свае шапкі!
Стаіш, бы ўкопаны, прад імі
І прагна мерыш іх вачымі,
Яны ж, ну, вочы адбіраюць,
Цябе аж дрыжыкі праймаюць:
Так многа іх, і ўсе таўсматы,
Прыземісты, карэнкаваты,
Чорнагаловы, паўнацелы,
Як тонкі кужаль, знізу белы;
Сядзяць асобна і радамі,
А дзе і зросшысь спарышамі.
Што ні асоба — свой узор,
Свая пасада і свой двор.
Глядзіш на іх — і сэрцу міла,
Як бы з іх сходзіць нейка сіла,
Цябе чаруе, захапляе,
Па жылах радасць разлівае.
Дадому прыйдзеш, ляжаш спаць –
Так уваччу яны й стаяць…

*Якуб Колас. Новая зямля.*

**Заданне 63.** 📖⌨✿*Падбярыце некалькі ўрыўкаў, аб'яднаных адной тэмай, з уласна навуковых, навукова-інфармацыйных і навукова-папулярных тэкстаў. Правядзіце параўнальны аналіз моўных сродкаў, выкарыстаных у гэтых тэкстах. Чым абумоўлены адрозненні ў падачы навуковага матэрыялу ў гэтых урыўках?*

**Заданне 64.** 📖⌨⚙ *Прачытайце тэксты. Вызначце, да якіх жанраў і падстыляў адносяцца гэтыя тэксты.*

**І.** *Бярозкіна Н. Ю. Гісторыя кнігадрукавання Беларусі (XVI — пачатак XX ст.). — Мінск: Беларуская навука, 2000. — 199 с.*

У вучэбным дапаможніку разглядаецца гісторыя беларускага кнігадрукавання ад першадрукароў Францыска Скарыны да віленскай «друкарні пана Марціна Кухты», услаўленай Максімам Багдановічам. Аўтар абапіраецца на разнастайныя крыніцы, у тым ліку архіўныя звесткі і дакументы, даследаванні гісторыкаў, кнігаведаў, мастацтвазнаўцаў. Выданне мае грунтоўны даведачны апарат (заўвагі, паказальнік імёнаў, паказальнік друкарняў і выдавецтваў, слоўнік кнігазнаўчых тэрмінаў, шырокая бібліяграфія).

Кніга будзе карыснай для студэнтаў бібліятэчных, філалагічных, гістарычных факультэтаў у якасці дапаможніка і каштоўнага даведніка.

**ІІ.** УДК 514.1

*Галіцкі І. І. Дынамічныя мадэлі стэрэаметрыі // Весці БДПУ. — 2005. — № 4. Серыя 3. С. 9—17.*

Разглядаюцца метадычныя аспекты рэалізацыі метаду дынамізацыі геаметрычных аб'ектаў у курсе стэрэаметрыі з дапамогай дынамічных фізічных і графічных мадэлей, разгортак прастаравых фігур. Даюцца прыклады і прыёмы іх стварэння.

Паказана, што прымяненне дынамічных мадэлей на ўроках матэматыкі дазваляе якасна змяніць характар навучання стэрэаметрыі, павысіць якасць вучэбных практыкаванняў, а ідэя дынамізацыі дазволіць вырашыць праблемы сучаснай матэматычнай адукацыі.

Рыс. — 8. Бібліягр. — 20 назваў.

**ІІІ.** Антрапанімічная лексіка з'яўляецца спецыфічнай часткай лексічнага складу нацыянальнай мовы. Антрапонімы звычайна нясуць у сабе інфармацыю пра нацыянальнасць, паходжанне таго ці іншага чалавека, яго адносіны да таго ці іншага роду. Яны таксама могуць заключаць інфармацыю пра тып заняткаў абазначанай імем асобы, яе прыналежнасць да пэўнага саслоўя, веравызнання і г. д. Антрапанімічная лексіка падпарадкоўваецца ўласным заканамернасцям развіцця і функцыянавання, характарызуецца шматлікімі структурна-семантычнымі адметнасцямі.

Неабходнасць стварэння інструкцыі па перадачы беларускіх прозвішчаў на рускую мову выклікана, па-першае, прыкладнымі патрэбамі работнікаў пашпартных сталоў і кадравых службаў, ЗАГСаў, натарыяльных кантор і юрыдычных кансультацый, па-

другое, адсутнасцю адзіных кадыфікаваных правілаў, якімі можна было б карыстацца пры перадачы антрапонімаў на іншай мове. Так, істотнай праблемай з'яўляецца ідэнтыфікацыя (а значыць і напісанне) прозвішчаў, утвораных ад найменняў асоб паводле месца паходжання ці жыхарства. Акрамя таго, у асновах многіх прозвішчаў ляжаць досыць архаічныя лексемы, якія не заўсёды дазваляюць дакладна ўстанавіць этымалогію онімаў, зыходзячы з існуючых моўных рэалій.

У рэцэнзуемай інструкцыі вылучаны асноўныя спосабы перадачы беларускіх прозвішчаў на рускай мове, акрэслены агульныя правілы напісання ў іх галосных і зычных гукаў, шэрага суфіксаў і флексій. Асноўныя палажэнні гэтага дакумента з'яўляюцца абсалютна абгрунтаванымі і характарызуюцца выключнай навуковай значнасцю.

Аднак асобныя палажэнні інструкцыі выклікаюць некаторыя заўвагі:

1. Незразумела, чаму пры перадачы на рускую мову прозвішча *Верабей* трэба пісаць *Веробей*, а не *Верабей* (гл. с. 5), каб захаваць нацыянальнае аблічча наймення, а іншыя перадаваць так, як адпаведныя лексемы гучаць па-руску (гл. наступныя старонкі рукапісу).

2. Невыразна акрэслена, як правільна запісваць па-руску прозвішча *Залаты*, калі слова *Золотой* лічыць структурным пераўтварэннем (с. 6). Разам з тым на с. 11 рэкамендуецца прозвішча *Рабы* перадаваць як *Рябый*.

Безумоўна, выказаныя заўвагі маюць прыватны характар і не ўплываюць на агульную станоўчую ацэнку работы, якую можна рэкамендаваць да друку.

**Заданне 65.** 🕮⌨❀ *Напішыце рэцэнзію або водгук на адзін з артыкулаў, змешчаных у галіновых навуковых часопісах.*

**Заданне 66.** *Перакладзіце тэрміны на беларускую мову. Звярніце ўвагу на асаблівасці перадачы тэрмінаў па-беларуску. У якіх галінах навукі выкарыстоўваюцца дадзеныя тэрміны?*

🕮 Мышление, речевые штампы, дедукция, модерн, индивид, самоподготовка, интерференция, каллиграфия, риторика, генезис, интеллект, сравнение, метод исследования, канцеляризм, денационализация, развитие, обобщение, эвристический метод, факультатив, устная и письменная речь, готика, терминология, синтез, мотивация, краеведение, материализм, коммуникация, темперамент, барокко, гендерное воспитание.

*Для даведкі*: мысленне, тэрміналогія, краязнаўства, матывацыя, эўрыстычны метад, сінтэз, канцэлярызм, мадэрн, факультатыў, вуснае і пісьмовае маўленне, абагульненне, інтэлект, інтэрферэнцыя, барока, тэмперамент, развіццё, готыка, параўнанне, матэрыялізм, каліграфія, моўныя штампы, самападрыхтоўка, рыторыка, метад даследавання, гендарнае выхаванне, камунікацыя, дэдукцыя, генезіс, дэнацыяналізацыя, індывід.

🖮 Закон Га́усса, гамма-лучи, запаздывающий, клеточный, единичный класс, мощностный, мультирадиус, начало координат, недоопределенный, несамосопряженный, иррадиация, вероятность, диффузия, общее кратное, бета-частица, эллиптическая поверхность, расщепление атомного ядра, индуктивное предположение, преобразование Галилея, невесомость, параболическая прямая, содержание многочлена, формула Бине́ — Коши́, кристаллизация, сообщающиеся сосуды, число Фурье́, дисперсия, запас прочности, ультрафиолетовые лучи, магнетизм.

*Для даведкі*: магнетызм, гама-прамяні, закон Гаўса, бэта-часціца, са спазненнем, клеткавы, запас трываласці, адзінкавы клас, магутнасны, мультырадыус, бязважкасць, спалучаныя сасуды, пачатак каардынат, крышталізацыя, ультрафіялетавыя прамяні, недавызначаны, несамаспалучаны, супольны кратны, дыфузія, імавернасць, эліптычная паверхня, дысперсія, індуктыўнае дапушчэнне, пераўтварэнне Галілея, парабалічная прамая, расшчапленне атамнага ядра, змест мнагаскладу, формула Бінэ — Кашы, лік Фур'е, ірадыяцыя.

❀ Грунтовые воды, одуванчик лекарственный, радиола льновидная, фагоцитоз, окислительно-восстановительные реакции, давление, дегидротация, формальдегид, фибрилляция, мембрана, медь, митохондрия, биофаза, биотрансформация, температура, папоротник мужской, иммунитет, индикатор, нуклеозиды, железо, желудок, развитие, естественные условия, щитовидная железа, окислитель, периодическая система химических элементов, дыхание и обмен веществ, фотосинтез, молекула, ионная связь.

*Для даведкі*: біятрансфармацыя, фібрыляцыя, фотасінтэз, дыханне і абмен рэчываў, фармальдэгід, перыядычная сістэма хімічных элементаў, папараць мужчынская, нуклеазіды, грунтавыя воды, шчытападобная залоза, малекула, развіццё, акісляльна-аднаўленчыя рэакцыі, медзь, іонная сувязь, індыкатар, дзьмухавец лекавы, радыёла лёнападобная, фагацытоз, мітахондрыя, натуральныя ўмовы, тэмпература, страўнік, ціск, акісляльнік, дэгідратацыя, біяфаза, мембрана, імунітэт.

**Заданне 67.** 🕮🖮❀ *Прачытайце тэкст. Перакажыце яго па-беларуску.*

В настоящее время психологи ищут ответ на вопрос, какими психологическими особенностями должен отличаться учитель в связи с новыми задачами обучения, активизации учебного процесса.

Так, в исследовании группы психологов, проводивших комплексное изучение учителей, проявляющих неодинаковый успех в педагогической работе, было выявлено, что для учителей-мастеров в целом характерны:

- уверенность в больших возможностях детского интеллекта и подчинение этому всего учебного процесса (интеллектуальная насыщенность уроков);
- стремление максимально и всесторонне использовать изучаемый на уроке материал, стимулирование учащихся на поиски разных способов выполнения действий, непримиримость к шаблону в рассуждениях и действиях учащихся;
- педагогическая наблюдательность;
- справедливость, обоснованность, деловой и по преимуществу косвенный характер предъявляемых требований;
- удовлетворение от общения с детским коллективом.

И наоборот, учителей, хотя и добросовестных, но не пользующихся авторитетом у учащихся, отличают такие особенности:

- отношение к ученикам как к стихии, которую необходимо постоянно «держать в узде»;
- преобладание прямых требований в угрожающем или назидательном тоне, их обилие, стереотипность;
- требование от учеников строгого соответствия их ответов, рассуждений тому образцу, который сложился в голове учителя;
- наличие педагогических штампов в стиле работы (*Психология*).

**Заданне 68.** *Перакладзіце тэксты навуковага стылю на беларускую мову.*

🕮 Для человека наиболее естественный вид межличностного общения — речевое общение.

Межличностное общение выполняет три основные функции:

1) *информационно-коммуникативную*, т. е. обмен информацией между людьми. Эта функция общения в той или иной форме и степени связана со всеми видами деятельности людей. Даже мыслительные процессы у индивида протекают более результативно при постоянном информационном общении (решение задач, вспоминание стихов и т. д.);

2) *регулятивно-коммуникативную*. В общении вырабатываются правила поведения, цели, средства, мотивы поведения, усваиваются его нормы, оцениваются поступки, складывается иерархия ценностей, шкала социализации человека. Именно в общении человек познает и переживает свою значимость, именно через общение осу-

ществляется регуляция поведения человека среди других людей;

3) *аффективно-коммуникативную*. Общение регулирует уровень эмоциональной напряженности, создает психологическую разрядку.

В реальном общении независимо от формы все его функции органически сливаются. Часто все функции общения присутствуют даже в отдельном акте общения (*Психология*).

🖮 Традиционно считается, что родоначальниками геометрии как систематической науки являются древние греки, перенявшие у египтян ремесло землемерия и измерения объёмов тел и превратившие его в строгую научную дисциплину. При этом античные геометры от набора рецептов перешли к установлению общих закономерностей, составили первые систематические и доказательные труды по геометрии. Центральное место среди них занимают составленные около 300 лет до н. э. «Начала» Евклида. Этот труд более двух тысячелетий считался образцовым изложением в духе аксиоматического метода: все положения выводятся логическим путем из небольшого числа явно указанных и не доказываемых предположений — аксиом.

Геометрия греков, называемая сегодня *евклидовой*, или *элементарной*, занималась изучением простейших форм: прямых, плоскостей, отрезков, правильных многоугольников и многогранников, конических сечений, а также шаров, цилиндров, призм, пирамид и конусов. Вычислялись их площади и объемы. Преобразования в основном ограничивались подобием.

Средние века немного дали геометрии, и следующим великим событием в ее истории стало открытие Декартом в XVII веке координатного метода («Рассуждение о методе», 1637). Точкам сопоставляются наборы чисел, это позволяет изучать отношения между формами и методами алгебры. Так появилась *аналитическая геометрия*, изучающая фигуры и преобразования, которые в координатах задаются алгебраическими уравнениями. Примерно одновременно с этим Паскалем и Дезаргом начато исследование свойств плоских фигур, не меняющихся при проектировании с одной плоскости на другую. Этот раздел получил название *проективной геометрии*. Метод координат лежит в основе появившейся несколько позже *дифференциальной геометрии*, где фигуры и преобразования все еще задаются в координатах, но уже произвольными достаточно гладкими функциями (*Википедия*).

✿ Для гор характерна высотная поясность, и Альпы не являются исключением. От подножия до высоты 600 м растут широколиственные леса, в основном дубравы. Затем дуб сменяется буком. С высоты 1200 м приходит черед темнохвойной растительности с

преобладанием ели европейской и белой пихты, в Центральных Альпах встречаются лиственница и европейская кедровая сосна. Кущи деревьев чередуются с полянами и лугами. На верхней границе лесов появляются рододендроны. Царство альпийских лугов начинается с 1300—1700 м. Основу ландшафта образуют осоки и злаки, но славу этому типу растительности принесли не они, а лужайки-«приснежники» с яркими красочными пятнами низкорослых цветущих трав: примулы, генцианы, сальданеллы, зибальдии, альпийские лютики, альпийские вероники. Знаменитый эдельвейс появляется на высоте не менее 3000 м. Подавляющее большинство ландшафтов в настоящее время окультурены и тщательно охраняются. Животный мир также соблюдает законы вертикальной поясности. В лесной зоне обитают среднеевропейский олень, косуля, кабан. Среди мелких хищников по редкости выделяется лесная куница (местный подвид). В реках Швейцарии под строгой охраной находятся редкие выдры. Сохранились небольшие популяции бурого медведя, встречаются волки и несравненно чаще — лисы (*Большая иллюстрированная энциклопедия*).

# Раздзел 6

# АФІЦЫЙНА-СПРАВАВЫ СТЫЛЬ

**Афіцыйна-справавы стыль** — адзін з функцыянальных стыляў літаратурнай мовы, які абслугоўвае афіцыйныя сферы грамадскай, дзяржаўнай і вытворчай дзейнасці чалавека. Гэты стыль рэалізуецца ў заканадаўстве, у справаводстве, у кіраўнічай і дыпламатычнай дзейнасці. Да перыферыі афіцыйна-справавога стылю адносяць інфарматыўную рэкламу, патэнтавы стыль і штодзённа-справавое пісьмо (заявы, тлумачальныя і службовыя запіскі, распіскі і інш.).

## 6.1. АСНОЎНЫЯ РЫСЫ АФІЦЫЙНА-СПРАВАВОГА СТЫЛЮ

Афіцыйна-справавы стыль выкарыстоўваецца ў тэкстах законаў, загадаў, інструкцый, пратаколаў, дагавораў, пагадненняў, распараджэнняў, актаў, у справавой перапісцы ўстаноў, а таксама ў даведках юрыдычнага характару і інш. Нягледзячы на тое, што афіцыйны стыль больш падвяргаецца зменам пад уплывам сацыяльна-гістарычных зрухаў у грамадстве, ён вылучаецца сярод іншых функцыянальных стыляў мовы сваёй стабільнасцю, традыцыйнасцю, замкнёнасцю і стандартызаванасцю.

Адрозніваюць тры падстылі (разнавіднасці) афіцыйна-справавога стылю:

✓ ***уласна афіцыйна-справавы*** (канцылярскі);

✓ ***юрыдычны*** (мова законаў і ўказаў);

✓ ***дыпламатычны***.

Нягледзячы на адрозненні ў змесце і разнастайнасць жанраў, афіцыйна-справавы стыль у цэлым характарызуецца шэрагам агульных рыс. Да асноўных з іх адносяцца: стандартызацыя, дакладнасць, імператыўнасць, аб'ектыўнасць і дакументальнасць, канкрэтнасць, афіцыйнасць, лаканічнасць.

➷ **Стандартызацыя** афіцыйнага маўлення — адна з найбольш прыметных рыс афіцыйна-справавога стылю. Для яе ўласціва:

✓ шырокае выкарыстанне гатовых слоўных формул, трафарэтаў, штампаў;

✓ імкненне да аднатыпнасці спосабаў выражэння думкі;

✓ адсутнасць сродкаў моўнай выразнасці.

З працэсам стандартызацыі цесна звязаны працэс фразеалагізацыі афіцыйнага маўлення. Так, шырока выкарыстоўваюцца шматлікія дзеяслоўна-іменныя словазлучэнні, якія ў дзелавой мове становяцца ўніверсальным сродкам і часта ўжываюцца замест паралельных ім уласна дзеяслоўных формаў *аказаць дапамогу* замест *дапамагчы*, *ажыццявіць кіраўніцтва* замест *кіраваць*, а таксама: *дапусціць брак*, *здзейсніць злачынства*, *выконваць абавязкі*, *заняць пасаду*, *ускласці адказнасць* і інш. Часам значэнне такіх канструкцый можа не супадаць са значэннем паралельных ім дзеясловаў. Напрыклад, спалучэнне *правесці спаборніцтва* не тоеснае дзеяслову *спаборнічаць*.

Стандартызацыя мовы справавых папер забяспечвае тую ступень камунікатыўнай дакладнасці, якая надае дакументу юрыдычную сілу. Любы выраз, любая прапанова павінны мець толькі адно значэнне і тлумачэнне. Каб дасягнуць такой ступені дакладнасці ў тэксце, даводзіцца паўтараць адны і тыя ж словы, назвы, тэрміны: *Пры папярэдняй аплаце Заказчык абавязаны ў трохдзённы тэрмін з дня аплаты ўручыць Выканаўцу завераную банкам копію плацежнага дакумента ці апавясціць яго тэлеграмай. Пры невыкананні Заказчыкам патрабавання гэтага пункта Выканаўца мае права па заканчэнні дзесяці дзён з дня падпісання дагавора рэалізаваць тавар.*

✎ **Дакумент** — гэта тэкст, які рэгламентуе дзеянні людзей і валодае юрыдычнай значнасцю. Адсюль вынікае павышанае патрабаванне дакладнасці, якое прад'яўляецца да тэксту афіцыйна-справавых дакументаў. Адпавядаць гэтаму патрабаванню можа толькі пісьмовая мова, падрыхтаваная і адрэдагаваная. У вусным маўленні дасягнуць такой ступені дакладнасці практычна немагчыма з прычыны яе спантаннасці, варыятыўнасці.

**Аб'ектыўнасць** — істотная прымета афіцыйна-справавога стылю. У ім адсутнічае эмацыянальнасць, экспрэсіўныя сродкі, даволі шырока ўжываюцца стандартныя формы выражэння думкі. У афіцыйным ужытку дапускаюцца толькі стылістычна нейтральныя словы: *настаўнік*, *калектыў*, *прадпрыемства*, *дзеці*, *бацькі*, *староста* і інш.

Інфармацыю ў дакуменце нясуць не толькі тэкставыя фрагменты, але і ўсе элементы афармлення тэксту, якія маюць абавязковы характар, — рэквізіты. Для кожнага віду дакументаў існуе свой набор рэквізітаў, прадугледжаны дзяржаўным стандартам — ДАСТам.

✎ **Рэквізіт** — гэта абавязковы інфармацыйны элемент дакумента, строга замацаваны за вызначаным месцам на бланку. Назва дакумента, дата, рэгістрацыйны нумар, звесткі пра складальніка і г. д. заўсёды размяшчаюцца ў адным і тым жа месцы.

Колькасць рэквізітаў бывае рознай і залежыць ад віду і зместу дакументаў. Фармуляр-узор утрымлівае максімальны пералік рэквізітаў і парадак іх размяшчэння. Да іх адносяцца:

✓ дзяржаўны герб;

✓ эмблема арганізацыі і прадпрыемства;

✓ малюнак урадавых узнагарод;

✓ код прадпрыемства, установы ці арганізацыі па агульнадзяржаўным класіфікатары прадпрыемстваў і арганізацый (ОКПО);

✓ код формы дакумента па агульнадзяржаўным класіфікатары кіраўнічай дакументацыі (ОКУД);

✓ назва міністэрства ці ведамства;

✓ назва ўстановы, арганізацыі ці прадпрыемства;

✓ назва структурнага падраздзялення;

✓ індэкс паштовага аддзялення, электронны, паштовы і тэлеграфны адрас, нумар тэлетайпа, тэлефона, факса, нумар рахунку ў банку;

✓ назва віду дакумента;

✓ дата;

✓ індэкс;

✓ месца складання і выдання;

✓ рэзалюцыя;

✓ подпіс і інш.

### ⌛ Пытанні для самакантролю

1. Ахарактарызуйце афіцыйна-справавы стыль: акрэсліце сферу яго выкарыстання, у якой форме мовы (вуснай ці пісьмовай) рэалізуецца, назавіце асноўныя стылеўтваральныя рысы, пералічыце падстылі і жанравыя разнавіднасці.
2. У чым праяўляецца стандартызацыя дзелавой гаворкі?
3. Што такое дакумент?
4. Што такое рэквізіт дакумента?
5. Якія рэквізіты найчасцей выкарыстоўваюцца для афармлення папер афіцыйна-справавога стылю?

## 6.2. МОЎНЫЯ СРОДКІ АФІЦЫЙНА-СПРАВАВОГА СТЫЛЮ

Афіцыйна-справавы стыль мае свае асаблівасці на лексічным, марфалагічным і сінтаксічным узроўнях моўнай сістэмы.

### ↳ Лексічныя асаблівасці афіцыйна-справавога стылю

✓ У афіцыйна-справавым стылі не ўжываюцца эмацыянальна-экспрэсіўныя, дыялектныя, прастамоўныя, жаргонныя словы і вы-

разы, фразеалагічныя нетэрміналагічныя словазлучэнні, словы з пераносным значэннем, усе віды экспрэсіўных сінтаксічных канструкцый (пытальныя, клічныя, эліптычныя сказы, інверсійныя, парцэляваныя выразы), простая мова.

✓ Лексічная сістэма афіцыйна-справавога стылю, акрамя агульнаўжывальных нейтральных слоў, уключае:

✓✓ моўныя штампы (канцылярызмы, клішэ): *ставіць пытанне*, *на падставе рашэння*, *кантроль за выкананнем ускласці*, *па заканчэнні тэрміна* і інш.;

✓✓ тэматычна абумоўленую тэрміналогію і тэрміналагічную фразеалогію: *алібі*, *ценявы бізнес*, *сведка*, *пагадненне*, *дэмарш*, *кампенсацыя за адпачынак*, *аднаразовая дапамога* і інш.;

✓✓ наменклатурную лексіку (наменклатура найменняў, пасад, тавараў): *УП «Алімп»*, *ТАА «Лада»*, *рэкламны менеджар*, *камерцыйны дырэктар*, *намеснік дырэктара*, *старшыня праўлення*, *ЗІЛ-130*, *бензін АІ-92* і г. д.;

✓✓ выкарыстанне абрэвіятур, складанаскарочаных найменняў дзяржаўных органаў, устаноў, арганізацый, таварыстваў, партый, абумоўленае імкненнем да сціслаcці: *Мінфін*, *ЖЭС*, *АІС* (*аўтаматычная інфармацыйная сістэма*), *МВФ*, *ВА* (*выконваючы абавязкі*), *студсавет* і г. д.;

✓✓ своеасаблівую лексіку, якая не ўжываецца або амаль не ўжываецца ў іншых кніжных стылях: *суправаджальны*, *ніжэйназваны*, *адказчык* і інш.

✓ Абмежавана выкарыстоўваюцца мнагазначныя словы, а таксама словы з пераносным значэннем. Сінонімы ўжываюцца вельмі рэдка і, як правіла, адносяцца да гэтага ж стылю: *забеспячэнне* — *пастаўка*, *знос* — *амартызацыя*, *асігнаванне* — *субсідзіраванне* і інш.

✓ Перавага аддаецца родавым паняццям, напрыклад: *прыбыць* (замест *прыехаць*, *прыляцець*, *прыйсці* і інш.), *транспартны сродак* (замест *аўтобус*, *самалёт* і інш.), *населены пункт* (замест *вёска*, *горад* і інш.) і г. д.

### ➪ Марфалагічныя асаблівасці афіцыйна-справавога стылю

✓ Выкарыстоўваюцца назоўнікі, якія абазначаюць назву асобы па яе спецыяльнасці, пасадзе: *адвакат*, *інструктар*, *грамадзянін*, *мытнік*, *галоўны інжынер* і інш., а таксама назоўнікі са зборным значэннем: *дырэкцыя*, *адміністрацыя*, *калегія*.

✓ Пашыраны назоўнікі — назвы людзей па прымеце, абумоўленай дзеяннем: *слухач*, *падаткаплацельшчык*, *адказчык*, *сведка* і інш.

✓ Аддаецца перавага аддзеяслоўным назоўнікам: *выкананне, планаванне, правапарушэнне, падзел; непрызнанне, недаатрыманне, недавыкананне, нявыплата, недапрацоўка* і інш., а замест дзеясловаў часта ўжываюцца спалучэнні назоўніка і дзеяслова: *дапамагчы — аказаць дапамогу, падтрымаць — аказаць падтрымку.*

✓ Пашырана ўжыванне ўтварэнняў з суфіксамі *-уч- (-юч-), -ач- (-яч-), -ем-, -ім-*: *бягучы, выконваючы абавязкі, апякаемы, кіруемы.*

✓ Выкарыстоўваюцца колькасна-іменныя спалучэнні: *32 супрацоўнікі, 300 000 рублёў* і інш. Прычым колькасныя лічэбнікі пішуцца арабскімі лічбамі, а ў дужках гэты ж лічэбнік нярэдка прапісваецца словам: *123 (сто дваццаць тры) падручнікі.* Парадкавыя лічэбнікі даюцца з абавязковым склонавым канчаткам: *Выраб 3-га гатунку.* Лічэбнік у табліцах, анкетах звычайна ставіцца пасля назоўніка: *Колькасць штатных адзінак — 10.*

Выкарыстанне адзначаных слоў і формаў тлумачыцца імкненнем дзелавой мовы да дакладнасці ў перадачы сэнсу і адназначнасці тлумачэння.

### ↳ Сінтаксічныя асаблівасці афіцыйна-справавога стылю

✓ Пераважаюць простыя сказы, якія могуць ускладняцца аднароднымі членамі сказа, дзеепрыметнымі і дзеепрыслоўнымі зваротамі: *Пры ўзаемнай згодзе магчымы змены ўмоў дагавора; Пры неаплаце падатку да пазначанага тэрміну плацельшчык губляе права паўторна вылучаць сваю кандыдатуру на атрыманне крэдыту; Штрафы ў якасці меры адміністрацыйнага спагнання могуць усталёўвацца ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь за парушэнне правіл тэхнікі бяспекі і аховы працы ў прамысловасці, будаўніцтве, на транспарце і ў сельскай гаспадарцы; Пасрэднік своечасова папярэджвае Заказчыка аб непрыдатнасці ці недабраякаснасці тавару, атрыманага ад Заказчыка.*

✓ Пашыраны пасіўныя канструкцыі: *плацяжы ўносяцца ў пазначаны тэрмін.*

✓ Назіраецца «нанізванне» формаў роднага склону: *вынікі дзейнасці органаў падатковай службы...*

✓ Ствараюцца канструкцыі са складанымі злучнікамі, адыменнымі прыназоўнікамі: *у выніку таго што, дзякуючы таму што, нягледзячы на тое што, з мэтай, па лініі, шляхам, дзякуючы, згодна з, у святле.*

✓ Выкарыстоўваюцца складаназалежныя сказы з даданымі ўмовы: *Пры наяўнасці спрэчкі аб памеры належных звольненаму работніку сум адміністрацыя абавязана выплаціць указаную ў гэ-*

*тым артыкуле кампенсацыю ў тым выпадку, калі спрэчка вырашана на карысць работніка.*

### ⌛ Пытанні для самакантролю

1. Назавіце лексічныя асаблівасці афіцыйна-справавога стылю.
2. Што такое моўны шмамп?
3. Пералічыце марфалагічныя прыкметы афіцыйна-справавога стылю?
4. Дайце характарыстыку сінтаксічным асаблівасцям афіцыйна-справавога стылю.

## 6.3. ВІДЫ АФІЦЫЙНА-СПРАВАВЫХ ДАКУМЕНТАЎ

Усе афіцыйна-справавыя дакументы можна падзяліць на некалькі відаў:

✓ ***асабістыя дакументы***: заява, даверанасць, аўтабіяграфія, скарга, рэзюмэ, службовая характарыстыка;

✓ ***адміністрацыйна-арганізацыйныя дакументы***: палажэнне, правіла, інструкцыя, дагавор;

✓ ***распарадчыя дакументы***: рашэнне, пастанова, распараджэнне, загад;

✓ ***інфармацыйна-даведачныя дакументы***: даведка, дакладная запіска, тлумачальная запіска, службовая запіска, акт, пратакол;

✓ ***справавыя лісты***: ліст-пытанне, ліст-просьба, ліст-зварот, ліст-прапанова, ліст-адказ, ліст-папярэджанне, ліст-запрашэнне, інфармацыйны ліст, суправаджальны ліст і інш.

Функцыя любога дакумента патрабуе таго, каб ён быў выкладзены зразумелай мовай. Фармулёўкі дакумента павінны быць правільнымі ў юрыдычных адносінах. Асноўнымі рысамі дзелавой мовы з'яўляюцца прастата, лаканічнасць, зразумеласць, дакладнасць, таму пры складанні дакументаў неабходна пазбягаць доўгіх фармулёвак.

➢ **Заява** — гэта пісьмовая просьба адной асобы ці групы асоб ва ўстанову, арганізацыю альбо да службовай асобы. Заява можа быць напісана ад рукі ці надрукавана на лісце фармату А4. Для напісання заяў таксама могуць выкарыстоўвацца спецыяльна распрацаваныя бланкі.

***Структура заявы***:

✓ зверху пішацца назва арганізацыі, установы ці пасады, прозвішча, імя, імя па бацьку (ініцыялы) службовай асобы. Калі адрасат уяўляе сабою назву арганізацыі, то ён мае форму вінавальнага склону: *У фінансавы аддзел НПА «Квант»*, калі гэта найменне службовай асобы — то форму давальнага склону: *Дырэктару школы №12*;

✓ з правага боку на трэцюю частку радка ў слупок пішацца прозвішча, імя, імя па бацьку таго, хто падае заяву; калі трэба, называецца яго пасада і адрас (дамашні адрас не пішацца ў заяве, калі заяўнік адрасуе яе кіраўніку сваёй установы);

✓ праз адзін-два радкі пасярэдзіне ліста пішацца слова *заява* і ставіцца кропка;

✓ з чырвонага радка пачынаецца тэкст заявы. Змест заявы-просьбы звычайна пачынаецца словамі «Прашу + інфінітыў (дазволіць, дапусціць і інш.); тэкст заявы можа пачынацца і тыповымі канструкцыямі: *у сувязі з тым, што*..., *на падставе таго, што*... і інш.;

✓ калі да заявы прыкладаюцца якія-небудзь дакументы, то з абзаца пішацца слова *Дадатак* і з наступнага радка пад нумарамі пералічваюцца дакументы;

✓ унізе злева ставяць дату (назва месяца пішацца словам), а справа — подпіс.

**Дырэктару педагагічнай**
**гімназіі імя А. С. Макаранкі**
**Сакалову Ф. С.**
**настаўніка гісторыі**
**Сіманавай Ніны Аляксееўны**

**заява.**

**Прашу прадаставіць мне чарговы адпачынак за 2011—2012 навучальны год з 25.06.2011 па 18.08.2012.**

**Дата** **Подпіс**

**Начальніку ЖЭУ-5**
**Смірнову І. І.**
**Васільева Віктара Сяргеевіча,**
**які пражывае па адрасе:**
**г. Маладзечна, вул. Замшына, д. 16, кв. 103**

**заява.**

**Прашу прыняць мяне на працу на вакантную пасаду галоўнага інжынера ЖЭУ-5.**

**Дадатак:**
**1. Аўтабіяграфія.**
**2. Копія дыплома аб вышэйшай адукацыі.**
**3. Характарыстыка з апошняга месца працы.**

**Дата** **Подпіс**

➢ **Даверанасць** — пісьмова афармленае ўпаўнаважанне, якое выдаецца адной асобай (давернікам) другой асобе (даверанаму) для прад'яўлення перад трэцяй асобай з мэтай здзяйснення пэўных юрыдычных дзеянняў. Даверанасці могуць завярацца па месцы працы або ў натарыяльнай канторы.

Тэкст даверанасці павінен утрымліваць наступныя звесткі:

✓ на які тэрмін выдадзена;

✓ установа, якая давярае, або прозвішча, імя, імя па бацьку таго, хто давярае;

✓ пасада, прозвішча, імя, імя па бацьку таго, каму давяраецца;

✓ што давяраецца (якія дзеянні павінен выканаць давераны);

✓ дата і подпіс давяраючага (даверніка);

✓ сведчанне подпісу.

Адрозніваюць даверанасці двух тыпаў: даверанасці, выдадзеныя афіцыйнымі асобамі, і даверанасці, выдадзеныя грамадзянамі.

**Даверанасць**

**Я, Лугавая Вольга Аляксандраўна, студэнтка 5-га курса гістарычнага факультэта дзённай формы навучання Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта, давяраю студэнтцы 4-га курса гістарычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта атрымаць на пошце пасылку, дасланую на маё імя.**

**Дата** **Подпіс**

**Подпіс студэнткі Лугавой В. А. сведчу:**
**дэкан гістарычнага факультэта БДПУ** **Подпіс**
**Дата, пячатка**

**Даверанасць**

**выдадзена___________________________________________**
**(месяц і дата выдачы словамі)**

**Я, ______________________ (прозвішча, імя, імя па бацьку), пражываю па адрасе: _________________________, давяраю (каму) _____________________ (прозвішча, імя, імя па бацьку), які пражывае па адрасе:_____________________________, атрымаць у касе __________________________(назва арганізацыі), якая знаходзіцца па адрасе: __________________________, зарплату за жнівень 2011 г. і здзейсніць усе дзеянні, звязаныя з выкананнем дадзенага даручэння.**

**____________ (подпіс)**

**«___»__________ 2011 года сапраўдная даверанасць засведчана мною (прозвіча, імя, імя па бацьку), натарыусам (назва натарыяльнай канторы, № __, дата выдачы ліцэнзіі).**

**Даверанасць падпісана гр. (прозвішча, імя, імя па бацьку) у маёй прысутнасці. Асоба даверніка ўстаноўлена, дзеяздольнасць яго праверана.**

**Зарэгістравана ў рэестры за № __.**

**Натарыус: __________________(подпіс, гербавая пячатка).**

➢ **Аўтабіяграфія** — дакумент, у якім змешчаны звесткі пра жыццёвы шлях, выкладзеныя ад першай асобы.

Структура аўтабіяграфіі:

- ✓ прозвішча, імя, імя па бацьку;
- ✓ час і месца нараджэння;
- ✓ заняткі бацькоў;
- ✓ гады вучобы (службы ў арміі);
- ✓ асноўнае з працоўнай і грамадскай дзейнасці;
- ✓ кароткія звесткі пра сваё сямейнае становішча;
- ✓ дата і подпіс.

**Аўтабіяграфія**

**Я, Віктараў Сяргей Сяргеевіч, нарадзіўся 7 чэрвеня 1976 года ў в. Асінаўка Маладзечанскага р-на Мінскай вобл. у сям'і служачых. Бацька, Сяргей Пятровіч, ваенны; маці, Лідзія Міхайлаўна, – медсястра.**

**З 1983 па 1993 г. вучыўся ў СШ № 2 г. Маладзечна.**

**З 1994 па 1996 г. праходзіў службу ва Узброеных сілах РБ.**

**З 1997 по 2002 г. вучыўся ў Ленінградскім караблебудаўнічым інстытуце. Атрымаў спецыяльнасць інжынера.**

**З 2002 па 2010 г. працаваў на пасадзе інжынера, затым старшага інжынера аддзела электронных прыбораў НПА «Граніт». З 2010 г. перайшоў на выкладчыцкую работу ў Дзяржаўную марскую акадэмію імя адмірала С. А. Макарава. У 2011 г. абараніў дысертацыю на атрыманне вучонай ступені кандыдата тэхнічных навук. Зараз працую дацэнтам кафедры радыёэлектронікі Дзяржаўнай марской акадэміі імя адмірала С. А. Макарава.**

**Жанаты. Шлюб зарэгістраваны ў 1998 г. Жонка Віктарава (дзявочае прозвішча – Прыходзька) Алена Сцяпанаўна, 1977 года нараджэння.**

**Дзеці: сын Аляксей, 2000 г. н., дачка Марыя, 2006 г. н.**

**Дата** **Подпіс**

↳ ***Інфармацыйна-даведачныя дакументы, іх кампазіцыйнае і моўнае афармленне.***

➢ **Даведка** — дакумент, які змяшчае апісанне і пацвярджэнне тых ці іншых фактаў. Даведкі звычайна падзяляюць на дзве групы: даведкі, якія ўтрымліваюць інфармацыю пра факты і падзеі службовага характару, і даведкі, якія выдаюцца зацікаўленым грамадзянам і ўстановам, у якіх засведчаны той або іншы юрыдычны факт.

Назва ўстановы (штамп)
Дата
Нумар

Даведка

Аксёнава Людміла Алегаўна з'яўляецца студэнткай дзённага аддзялення першага курса факультэта пачатковай адукацыі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка.

Даведка выдадзена для падачы ў ЖЭС г. Барысаў.

Спецыяліст па персанале__________ (подпіс) І. І. Сямёнаў

➢ **Дакладная запіска** — дакумент, адрасаваны кіраўніку ўстановы, у якім змешчана інфармацыя пра пэўную сітуацыю, факт, а таксама ўтрымліваюцца вывады і прапановы аўтара-складальніка. Дакладная запіска можа быць падрыхтавана па ініцыятыве самога супрацоўніка, а таксама па ўказанні кіраўніка.

У залежнасці ад мэтавага прызначэння змест дакладной запіскі можа мець ініцыятыўны, інфармацыйны ці справаздачны характар.

10.03.2009 № 12
г. Мінск

Генеральнаму дырэктару
ТАА «Прэміум» Сыраежкіну М. В.

Аб замене камп'ютара

Дакладная запіска

Даводжу да Вашага ведама, што на цяперашні час у маім распараджэнні знаходзіцца састарэлая мадэль камп'ютара, якая мае ненадзейныя эксплуатацыйныя якасці. Прашу разгледзець пытанне аб замене камп'ютара на больш новую мадэль.

Спецыяліст па персанале __________ (подпіс) В. Д. Бойка

➢ **Тлумачальная запіска** — гэта дакумент, які тлумачыць змест асобных палажэнняў дакумента (плана, справаздачы, праекта і г. д.) ці прычыны таго або іншага здарэння, учынку. У адпаведнасці з гэтым усе тлумачальныя запіскі падзяляюцца на дзве групы. Да першай адносяцца дакументы, якія часцей за ўсё суправаджаюць асноўны дакумент і тлумачаць змест яго асобных палажэнняў. Другую гру-

пу складаюць тлумачальныя запіскі адносна якіх-небудзь здарэнняў, сітуацый, учынкаў і паводзін супрацоўнікаў.

Тэкст тлумачальнай запіскі складаецца ў адвольнай форме, як правіла, з указаннем прычын, якія прывялі да парушэнняў. Абавязковымі элементамі з'яўляюцца дата, адрасат, подпіс складальніка.

**Дырэктару па рэалізацыі**
**УП «Каліна»**
**Пятрову М. В.**

**Тлумачальная запіска**

**20.02.2009**
**Аб спазненні на працу**

**Я спазніўся на працу 19.02.2011 на адну гадзіну з-за паломкі і далейшага рамонту ўласнага аўтамабіля на СТА.**

**Спецыяліст па персанале__________ (подпіс) В. Д. Маслаў**

## ⌛ Пытанні для самакантролю

1. На якія групы падзяляюцца афіцыйна-справавыя дакументы?
2. Якія дакументы адносяцца да асабістых?
3. Што такое заява, якую структуру яна мае?
4. Што такое аўтабіяграфія? Пералічыце яе структурныя элементы.
5. Якія службовыя паперы адносяцца да інфармацыйна-даведачных дакументаў?
6. Што такое тлумачальная запіска? Які алгарытм яе напісання?

## ✍ ЗАДАННІ

**Заданне 69.** 📖⌨❀ *Перакладзіце на беларускую мову; запішыце, замяніўшы дзеяслоўна-іменныя словазлучэнні адпаведнымі дзеясловамі.*

Произвести улучшение, осуществлять заботу, произвести выплату, подвергнуть сокращению, осуществлять выдачу, допустить отставание, подвергнуть исследованию, произвести посев, допустить снижение по темпам роста, осуществить руководство, достигнуть опережения, осуществить питание, организовать проведение занятий, допустить снижение (объема выпуска), осуществить сбор налогов.

**Заданне 70.** 📖⌨❀ *Вызначыце стылёвую прыналежнасць тэксту, адзначце яго лексічныя, марфалагічныя, сінтаксічныя асаблівасці.*

1.1. Грамадскае аб'яднанне «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» (далей па тэксце статута — ТБМ) — добраахвотная масавая грамадская арганізацыя, у якой аб'ядналіся грамадзяне з мэтай культурна-асветніцкай дзейнасці ў галіне адраджэння беларускай мовы ў Беларусі і праз яе — усёй беларускай нацыянальнай культуры. ТБМ дзейнічае ў адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, Законам Рэспублікі Беларусь «Аб грамадскіх аб'яднаннях», Законам Рэспублікі Беларусь «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь», іншымі палажэннямі дзеючага заканадаўства і дадзеным Статутам.

1.2. ТБМ мае статус рэспубліканскага грамадскага аб'яднання, якое дзейнічае на ўсёй тэрыторыі Рэспублікі Беларусь праз свае арганізацыйныя структуры.

1.3. ТБМ арганізуе сваю работу на прынцыпах дэмакратызму, плюралізму, самакіравання, галоснасці, падтрымлівае і развівае творчую актыўнасць і ініцыятыву яго сяброў і дзейнічае супольна з дзяржаўнымі, навуковымі ўстановамі, грамадскімі арганізацыямі Рэспублікі Беларусь.

1.4. ТБМ з'яўляецца юрыдычнай асобай, мае самастойны бухгалтарскі баланс, пячатку, штампы вызначанага ўзору з адлюстраваннем эмблемы, зарэгістраванай ва ўстаноўленым парадку, разліковыя рахункі ў банкаўскіх установах (у тым ліку валютныя); ад свайго імя выступае ва ўзаемаадносінах з юрыдычнымі і фізічнымі асобамі. Арганізацыйныя структуры ТБМ могуць быць надзелены правамі юрыдычнай асобы (*Статут грамадскага аб'яднання «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны»*).

**Заданне 71.** 📖⌨❀ *Падбярыце тэкст афіцыйна-справавога стылю, вызначце яго жанр, лексічныя, марфалагічныя і сінтаксічныя асаблівасці.*

**Заданне 72.** 📖⌨❀ *Перакладзіце тэкст на беларускую мову, вызначыце яго стыль, адзначце стылёвыя асаблівасці.*

Статья 128. Меры дисциплинарного взыскания.

1. За совершение дисциплинарного проступка к обучающемуся могут быть применены следующие меры дисциплинарного взыскания:

1.1. замечание;

1.2. выговор;

1.3. отчисление.

2. Отчисление как мера дисциплинарной ответственности может быть применено за:

• длительное отсутствие (более тридцати дней, а для лиц, осваивающих содержание образовательных программ дополнительного образования взрослых (за исключением лиц, осваивающих содержание образовательной программы переподготовки руководящих работников и специалистов, имеющих высшее образование, образовательной программы переподготовки руководящих работников и специалистов, имеющих среднее специальное образование), более трех дней) без уважительных причин на учебных занятиях (занятиях) в течение учебного года;

• систематическое (повторное в течение учебного года) неисполнение или ненадлежащее исполнение обязанностей обучающимся, если к нему ранее применялись меры дисциплинарного взыскания.

Отчисление как мера дисциплинарного взыскания не применяется к:

• обучающемуся, не завершившему освоение содержания образовательной программы базового образования, образовательной программы специального образования на уровне общего среднего образования для лиц с интеллектуальной недостаточностью, не прошедшему итоговую аттестацию за период получения общего базового образования при освоении содержания образовательной программы специального образования на уровне общего среднего образования;

• обучающемуся, не достигшему возраста шестнадцати лет.

3. Право выбора меры дисциплинарного взыскания принадлежит руководителю учреждения образования (организации, реализующей образовательные программы послевузовского образования, иной организации, которой в соответствии с законодательством предоставлено право осуществлять образовательную деятельность). При выборе меры дисциплинарного взыскания должны учитываться тяжесть дисциплинарного проступка, причины и обстоятельства, при которых он совершен, предшествующее поведение обучающегося (*Кодекс Республики Беларусь об образовании*).

**Заданне 73.** 🕮🖮❀ Кіруючыся «Інструкцыяй па справаводстве» (зацв. пастановай Міністэрства юстыцыі Беларусі 19.01.2009), самастойна напішыце заяву аб прыёме на працу (дакладную запіску, аўтабіяграфію).

# Раздзел 7

# КУЛЬТУРА ПРАФЕСІЙНАГА МАЎЛЕННЯ

## 7.1. ПАНЯЦЦЕ КУЛЬТУРЫ МАЎЛЕННЯ. КАМУНІКАТЫЎНЫЯ ЯКАСЦІ МАЎЛЕННЯ

У маўленні чалавек праяўляецца як асоба. Асабліва гэта важна памятаць тым, чый прафесійны род заняткаў цесна звязаны з маўленчай, камунікатыўнай дзейнасцю, — настаўнікам, юрыстам, журналістам, палітыкам, дыктарам радыё і тэлебачання, прапаведнікам, бізнесменам і інш. Для іх уменне ўступаць у кантакты, дзелавыя зносіны, выступаць публічна ўваходзіць у разрад прафесійна-дзелавых якасцей. Прыгожая, дакладная мова, правільнае вымаўленне, веданне скарбаў мовы — паказчык не толькі культуры маўлення, але і агульнай культуры асобы.

**Культура маўлення** — гэта сукупнасць, сістэма пэўных маўленчых якасцей, якія называюцца камунікатыўнымі якасцямі маўлення, а таксама ўменне эфектыўна выкарыстоўваць гэтыя маўленчыя якасці ў канкрэтных умовах камунікацыі ў адпаведнасці з нормамі сучаснай літаратурнай мовы.

У шырокім сэнсе культура маўлення ўключае не толькі камунікатыўны і нарматыўны, а і этычны і эстэтычны аспекты.

Неабходна адрозніваць такія паняцці, як ***мова*** і ***маўленне***.

**Мова** — гэта сістэма знакаў; яна служыць асноўным сродкам зносін. У адрозненне ад мовы **маўленне** — канкрэтнае выкарыстанне гэтага сродку зносін у працэсе камунікацыі; гэта матэрыяльны, фізічны працэс, дзейнасць таго, хто гаворыць. **Мова** — з'ява калектыўная, яна існуе аб'ектыўна і абавязковая для ўсіх, а **маўленне** адлюстроўвае вопыт канкрэтнага чалавека, яно суб'ектыўнае, адвольнае і непаўторнае.

Для абазначэння такога спецыфічнага віду дзейнасці чалавека, як маўленне, выкарыстоўваецца таксама паняцце ***маўленчая дзейнасць*** — ужыванне маўлення ў працэсе ўзаемаадносін паміж людзьмі, патрэбы людзей у інфармацыйным абмене.

Вылучаюцца наступныя камунікатыўныя якасці маўлення: правільнасць, дакладнасць, лагічнасць, дарэчнасць, чысціня, багацце (разнастайнасць), выразнасць, лаканічнасць (сціслацсць).

Названыя якасці маўлення цесна ўзаемазвязаны і ўзаемаабумоўлены, выступаюць у арганічным адзінстве.

🖎 **Правільнасць маўлення** вызначаецца адпаведнасцю маўлення нормам літаратурнай мовы. Гэта камунікатыўная якасць маўлення лічыцца галоўнай. Пры адсутнасці правільнасці маўлення няма сэнсу гаварыць пра іншыя камунікатыўныя якасці: дакладнасць, лагічнасць і г. д.

Найважнейшай прыметай літаратурнай мовы з'яўляецца яе нарматыўнасць.

**Нарматыўнасць** — афіцыйная замацаванасць, традыцыйная агульнапрынятасць моўных нормаў.

**Моўная норма** — гэта агульнапрынятыя, агульнапрызнаныя маўленчай практыкай і заканадаўча замацаваныя, абавязковыя для ўсіх носьбітаў мовы правілы вымаўлення, словаўжывання, словаўтварэння, пабудовы словазлучэнняў і сказаў (гл. §3.2).

Характэрныя асаблівасці нормы сучаснай беларускай мовы:

✓ адносная ўстойлівасць;

✓ распаўсюджанасць;

✓ агульнаўжывальнасць;

✓ агульнаабавязковасць;

✓ адпаведнасць ужыванню, традыцыі і магчымасцям моўнай сістэмы.

Нормы дапамагаюць літаратурнай мове захаваць сваю цэласнасць і агульназразумеласць. Для нормы характэрна стабільнасць, устойлівасць і адначасова дынамічнасць, зменлівасць, варыянтнасць.

**Варыянтнасць нормы** — разнастайнасць, разнатыпнасць моўных нормаў; паралельнае існаванне розных формаў і спосабаў выражэння аднаго і таго ж паняцця.

**Варыянт** — канкрэтная рэалізацыя моўнай адзінкі, яе разнавіднасць. Варыянты могуць быць нарматыўнымі і ненарматыўнымі: *кіламе́тр* і *кіло́метр*, *гліцэрына* і *гліцэрын*.

Моўныя варыянты выяўляюцца на розных моўных узроўнях:

✓ ***фанетычным*** (*льдзіна* і *ільдзіна*, *ржышча* і *іржышча*, *агурок* і *гурок*);

✓ ***лексічным*** (*працэнт* і *адсотак*, *выбі́тны* і *выдатны*);

✓ ***фразеалагічным*** (*лынды біць* і *бібікі біць*, *гульма гуляць*);

✓ ***акцэнталагічным*** (*наво́кал* і *навако́л*, *за́ячы* і *зае́чы*);

✓ ***марфемным*** (*зімовы* і *зімні*, *астынуць* і *астыць*);

✓ ***марфалагічным*** (*назва* і *назоў*, *прывілея* і *прывілей*);

✓ ***формаўтваральным*** (*форм* і *формаў*, *сцяной* і *сцяною*);

✓ ***сінтаксічным*** (*ісці ў грыбы* і *ісці па грыбы*).

Варыянты фіксуюцца слоўнікамі сучаснай беларускай літаратурнай мовы з выкарыстаннем адпаведных памет.

Для ўдакладнення моўных нормаў рэкамендуецца карыстацца слоўнікамі і даведнікамі. Любое адхіленне ад нормы павінна быць сітуацыйна і стылістычна апраўдана, павінна адлюстроўваць рэальныя для мовы варыянтныя формы.

↳ **Дакладнасць маўлення** вызначаецца ўменнем дакладна мысліць. Маўленне дакладнае тады, калі словы і выразы ўжыты з уласцівым ім значэннем. Недакладна выкарыстанае слова (выраз) выклікае няправільнае ўспрыманне тэксту, прыводзіць да непажаданай двухсэнсоўнасці, скажае выказванне, дэзынфармуе слухача (чытача): *Давайце адчынім падручнікі і выканаем заданне пісьмова*; *Сістэма адукацыі сёння гуляе вялікую ролю*; *Аказваем гідраізаляцыйныя работы*.

У выніку парушэння дакладнасці маўлення ўзнікаюць тыповыя маўленчыя памылкі. Найбольш частыя з іх наступныя:

✓ ужыванне слоў з неўласцівым ім значэннем: *Мы кахаем бацькоў, і нам няма розніцы, колькі ў іх грошай* (неадрозненне сінанімічнай дзеяслоўнай пары *любіць — кахаць*);

✓ няправільнае выкарыстанне мнагазначнага слова: *Надышла пара квасіць* (слова *квасіць* мнагазначнае: 1. Даводзіць да стану браджэння, скісання. *Квасіць малако*. 2. Нарыхтоўваць у запас. *Квасіць капусту*. 3. Апрацоўваць шкуры, футра спецыяльным хлебным растворам. *Квасіць аўчыны*. 4. Моцна лупіць, біць. *Квасіць насы*. 5. Піць без меры моцныя алкагольныя напоі. *Квасіць гарэлку*);

✓ неразмежаванне амонімаў, паронімаў: *выразаць апендыцыт* замест *выразаць апендыкс*; *дыялектычны слоўнік* замест *дыялектны слоўнік*; *адбіраць жывёлу* замест *выбіраць жывёлу*.

Трэба памятаць, што адно і тое ж слова можа выклікаць неаднолькавыя рэакцыі і асацыяцыі ў розных людзей у залежнасці ад іх узросту, інтэлекту, ад узроўню адукацыі, маўленчай культуры.

↳ **Лагічнасць маўлення** вызначаецца акрэсленасцю думкі, паслядоўнасцю яе выкладу, доказнасцю аргументаў і фактаў, абгрунтаванасцю і бездакорнасцю вывадаў, адпаведнасцю сэнсавай сувязі паміж словамі законам логікі, мыслення. Лагічнасць маўлення цесна звязана з дакладнасцю маўлення. Недакладна ўжытае слова можа зрабіць маўленне нелагічным: *«Галіна Бланка. Каханне з першай лыжкі!»* Але лагічнасць маўлення можа парушацца і пры дакладным на першы погляд выкарыстанні слоў і выразаў: *Ападкаў сёння не чакаецца, акрамя дробнага дажджу*; *Хочацца звярнуцца да бацькоў, у якіх ёсць дзеці*.

Найбольш істотныя памылкі, якія прыводзяць да парушэння лагічнасці маўлення, наступныя:

✓ парушаны парадак слоў у сказе: *З дапамогай прадпрыемства моладзь будуе аднатыпныя домікі з верандамі на чатыры пакоі*;

✓ адсутнасць правільнай сувязі займенніка з назоўнікам у складаным сказе: *Гэтыя здымкі ўнікальныя, бо ў дзень тэракту толькі яны мелі права паднімацца ў паветра ў непасрэднай блізкасці ад веждвайнят Сусветнага гандлёвага цэнтра*;

✓ няправільнае ўжыванне дзеепрыслоўнага звароту: *Гледзячы на настрой, які панаваў у салоне аўтобуса, гэты «Зорны паход» не мог не атрымацца*;

✓ наяўнасць несупастаўляльных, несуадносных паміж сабой паняццяў: *Васіль Дзятлік быў кулаком. У яго былі розныя вочы*;

✓ збыткоўнасць інфармацыі ў выглядзе так званых ***плеаназмаў*** (шматслоўных выказванняў з сэнсава лішнімі словамі) і ***таўталогіі*** (паўторных абазначэнняў ужо названага паняцця): *Пазнаёмцеся, калі ласка, гэта мой калега па рабоце*; *Падзеі, вартыя гісторыі, прыблізіліся вельмі блізка*;

✓ адсутнасць лагічнасці і граматычнай сувязі паміж сказамі: *Зразумела, далёка яшчэ не ўсё зроблена. Можна сказаць, мы прайшліся па вярхах толькі. Увогуле будзем і далей працаваць у гэтым кірунку.*

☞ **Дарэчнасць маўлення** звязана з паняццем камунікатыўнай мэтазгоднасці, калі адбор моўных сродкаў вызначаецца маўленчай сітуацыяй: стылем, часам, месцам, мэтамі і ўмовамі камунікатыўных зносін і інфармацыі. Сапраўднае веданне мовы якраз і заключаецца ва ўменні сказаць так, як гэта прынята ў пэўных умовах, для пэўнага слухача, з улікам яго ўзросту, кваліфікацыі.

Дарэчнасць маўлення цесна звязана з паняццем функцыянальных стыляў. Адзінства стылю — адна з галоўных умоў дарэчнасці маўлення.

Для таго, каб маўленне было дарэчным, неабходна пазбягаць найбольш распаўсюджаных памылак:

✓ нематываванага ўжывання рознастылёвай лексікі, у тым ліку жаргоннай і дыялектнай: *Фагацыты ўплятаюць мікробаў*;

✓ недарэчнай вобразнасці, празмернай эмацыянальнасці, пафаснасці: *На тарфяных балотах прадаўжаецца збор ягадных падарункаў*;

✓ ужывання слоў і выразаў, не суадносных з адпаведнай ім эпохай (анахранізмаў): *Капернік, калі яго спальвалі, крычаў*: *«Усё роўна яна круціцца!»* і інш.

🖎 **Чысціня маўлення** прадугледжвае адсутнасць у маўленні нехарактэрных літаратурнай мове слоў і выразаў, вызначае мэтазгоднасць або немэтазгоднасць іх увядзення ў сферу камунікацыі.

Крыніцамі засмечвання маўлення з'яўляюцца:

✓ ***словы-паразіты*** (лішнія словы): *так сказаць, літаральна, ну, вось, э-э-э, як бы, тыпу, гэта самае, фактычна, карацей, разумееце, значыцца*;

✓ ***жарганізмы***: *пенсія* (стыпендыя), *студак* (студэнцкі білет), *універ* (універсітэт), *твікс* (двойка), *шузы* (модныя чаравікі), *шнобель* (нос), *тачка* (аўтамабіль);

✓ ***дыялектызмы***: *гавора* замест *гаворыць*, *ідзець* замест *ідзе*, *я ро́блю* замест *я раблю*, *расказуваў* замест *расказваў*, *сістра* замест *сястра*;

✓ ***іншамоўныя тэрміны***: *Разгледзім спалучэнні, у якіх эксплікант называе прыметы, што кваліфікуюцца ў адносінах да інтэнсіянала эксплікандума як прыметы няжорсткай і слабаверагоднай імплікацыі...*;

✓ ***запазычаныя словы*** (русізмы, паланізмы): *Як абстаяць справы ў маладых? Пры выглядзе гэтай карціны я ўпаў у смутак*;

✓ ***вульгарызмы, прастамоўе, лаянкавая лексіка***: *хахаль, галадранец, жратва, забулдыга*;

✓ ***канцылярызмы і маўленчыя штампы***: *Я — па пытанні зубоў*; *Шмат гадоў не меў справы з тэхнікай*;

✓ ***штучныя словы*** (наватворы): *бязбаб'е* (адсутнасць грошай), *танкісты* (студэнты БДПУ імя Максіма Танка), *рыфмуліста, ганарыста* і інш.

🖎 **Багацце (разнастайнасць) маўлення** прадугледжвае значны слоўнікавы запас, вызначаецца ўмелым выкарыстаннем у маўленні разнастайных лексічных (сінанімічных, антанімічных і г. д.), фразеалагічных, а таксама граматычных моўных сродкаў у розных сферах зносін.

Багаты актыўны запас моўных сродкаў і сукупнасць навыкаў іх прымянення — асноўная ўмова забеспячэння багацця (разнастайнасці) маўлення.

Лічыцца, што актыўны слоўнікавы запас сучаснага адукаванага чалавека павінен дасягаць 10—13 тыс. розных слоў і выразаў. У штодзённым жыцці большасць людзей карыстаецца прыкладна 2—3 тыс. слоў.

Пра абмежаваныя маўленчыя магчымасці чалавека, пра беднасць яго слоўніка сведчаць часты паўтор адных і тых жа слоў (выразаў), іх нематываванае выкарыстанне.

Людзі лінгваінтэнсіўных прафесій павінны ўзбагачаць свой слоўнікавы запас. Дзейснасць прафесійна арыентаванага маўлення ўзмацняе выкарыстанне сінонімаў, амонімаў, антонімаў, паронімаў, фразеалагізмаў, афарызмаў, мнагазначных слоў, разнастайных словаўтваральных рэсурсаў і сінтаксічных канструкцый. Яны выступаюць важнымі кампанентамі маўленчай дзейнасці і служаць выразнікамі дадатковага сэнсу, экспрэсіўных ацэнак, яркіх, вобразных характарыстык, спосабамі эмацыянальнага ўздзеяння на іншых людзей: *глядзець як вока*, *у паднябессі лунаць*, *усёй грамадою*, *залаты фонд*, *альфа і амега*, *абое рабое*, *на жывым мядзведзі скуру купляць*, *духоўны пажытак*, *свой розум мець*, *выбар зроблены*, *абазнанасць* (*дасведчанасць*, *азнаёмленасць*), *абранец* (*абраннік*), *адсотак* (*працэнт*), *амбасада* (*пасольства*), *антырынкавы* (*антырыначны*), *бізнесовец*, *бізнесоўца* (*бізнесмен*), *выбітны* (*выдатны*, *выключны*), *вызвольны* (*вызваленчы*), *выкіды* (*адходы*), *ганараваны* (*ушанаваны*, *узнагароджаны*), *гледзішча* (*пункт погляду*, *гледжання*), *заўважны* (*прыметны*, *значны*), *звяздар* (*астролаг*), *звяз* (*саюз*).

↳ **Выразнасць маўлення** вызначаецца наяўнасцю ў маўленні такіх моўных сродкаў, што ўздзейнічаюць на розум і эмацыянальны стан чалавека, выклікаюць і прыцягваюць увагу слухача.

Асноўнымі сродкамі выразнасці маўлення выступаюць:

✓ **тропы** (метафары, эпітэты, метаніміі, сінекдахі, параўнанні, перыфразы і інш.): *газетная шапка*; *салодкі голас*; *цёплая сустрэча*; *карычневая чума* (фашызм); *другі хлеб* (бульба); *перачытваць Караткевіча*; *Мінск сустракаў гасцей*; *золата* (медалі) *заваявалі беларускія спартсмены*; *вораг адступае* замест *ворагі адступаюць*; *прывітанне моладзі* замест… *маладому чалавеку*;

✓ **афарызмы, прыказкі, прымаўкі, фраземы, эўфемізмы** (ветлівыя, больш далікатныя выразы): *ад навукі галава не баліць*, *«людзьмі звацца»* (Я. Купала), *цягнуць лямку*, *рукі апусціць*, *з ног збіцца*, *атрымаць перамогу*, *браць удзел*, *акінуць поглядам*, *ухіляцца ад ісціны*, *недалёкі чалавек*;

✓ **формы з суфіксамі эмацыянальна-суб'ектыўнай ацэнкі** (станоўчай або адмоўнай): *вялізны*, *велізарны*, *высачэзны*, *даўжэразны*, *здаравенны*, *маленькі*, *навюткі*, *галасішча*, *раненька*, *халадэча*, *даміна*;

✓ **рытарычныя пытанні і воклічы, звароткі, паўторы:** *І дзе на свеце ёсць такая, як Нёман, рэчачка другая?* (Я. Колас); *О, гэтая скрыпка! Што яна рабіла з людзьмі?* (У. Дамашэвіч); *О Радзіма, табою напоўнена сэрца да краю!..* (П. Панчанка); *Роднае слова! З малых дзён чуем мы цябе з матчыных вуснаў* (Цётка); *Аўтар вылучае падмурак, на якім трымаўся спрадвеку і павінен трымацца сёння чалавек* (Полымя);

✓ **інверсія** (адваротны парадак слоў), **парцэляцыя** (выдзяленне асобных членаў сказа): *Бунтуе воды акіян грымотны...* (М. Сяднёў); *А пшаніца, якая пшаніца навокал! Густая, чыстая, высокая* (Я. Брыль);

✓ **гумар** (жарт, каламбур, анекдот і г. д.): *Калі ўжыў хвалебны выраз — у вачах начальства вырас* (І. Курбека); *У адным сумленнасць: кожны дзень сум, ленасць...* (І. Курбека); *Размаўляюць дзве бландзінкі: « — Ты ўсяго Пушкіна прачытала? — Не-а... — А я — усяго: «Аляксандр Сяргеевіч Пушкін!»*;

✓ **інтанацыя, паўзы, гукавыя эфекты:** *У сёлаў імёны, як гукі цымбалаў, — Блонь, Струнь, Звонь!* (П. Броўка); *Хто ўладарыць, той і ўдарыць...* (П. Панчанка); *Давайце ж думаць не прымітыўна, давайце думаць праметэйна!* (Л. Дайнека);

✓ **выразнае вымаўленне, акцэнталогія:** *Шэкспі́р! Сумле́нне ча́су, му́драсць ве́ку!* (Ю. Гаўрук) і інш.

Трапнае ўжыванне названых сродкаў ажыўляе маўленне, ліквідуе сухасць выказвання, яго аднастайнасць, невыразнасць. Слоўная нагляднасць стварае адпаведныя карціны і вобразы, што заўсёды дапамагае дасягнуць выразнасці, вобразнасці маўлення, робіць яго больш жывым, даходлівым. Але неабходна памятаць, што залішняе «расквечванне» думкі, яе «квяцістасць» псуе маўленне, як псуе яго і празмерная заштампаванасць.

↳ **Лаканічнасць (сцісласць) маўлення** прадугледжвае адбор найбольш рацыянальных, зручных для зносін моўных сродкаў.

Шмат гаварыць яшчэ не значыць шмат сказаць. Невыпадкова А. П. Чэхаў сцвярджаў: «Сціслаcць — сястра таленту». Сціслаcць (лаканічнасць) робіць маўленне больш зразумелым і прыемным. Дасягнуць гэтага можна ўменнем:

✓ вылучаць галоўнае, канцэнтравацца на ім;

✓ выключаць усё другаснае, не звязанае з тэмай прамовы, пазбягаць збыткоўных падрабязнасцяў;

✓ не пераскокваць з аднаго на другое;

✓ не перагружаць маўленне складанымі сінтаксічнымі канструкцыямі са шматлікімі складанымі сказамі;

✓ прытрымлівацца рэгламенту выступлення.

Трэба памятаць, што лаканізм маўлення прымушае думаць.

## ⌛ Пытанні для самакантролю

1. Што называецца культурай маўлення?
2. Чым адрозніваюцца паняцці *мова* і *маўленне*? Што абазначае паняцце *маўленчая дзейнасць*?

3. Пералічыце асноўныя камунікатыўныя якасці маўлення. Як вы разумееце іх?

4. Што такое правільнасць маўлення? Дайце азначэнне паняццю *моўная норма*. Якія тыпы нормаў вам вядомы?

5. У чым заключаецца дакладнасць маўлення? Назавіце найбольш частыя маўленчыя памылкі, што ўзнікаюць у выніку парушэння дакладнасці маўлення.

6. Што абазначае лагічнасць маўлення? Якія лагічныя памылкі вам вядомы?

7. Як вы разумееце дарэчнасць маўлення? Якіх памылак трэба пазбягаць, каб маўленне было дарэчным?

8. Што такое чысціня маўлення? Якія крыніцы засмечвання маўлення вы ведаеце?

9. У чым заключаецца багацце (разнастайнасць) маўлення?

10. Як вы разумееце лаканічнасць (сціслась) маўлення? Пра што неабходна памятаць, каб маўленне было лаканічным?

11. Чым вызначаецца выразнасць маўлення? Назавіце асноўныя сродкі выразнасці маўлення.

## 7.2. ТЭХНІКА І ВЫРАЗНАСЦЬ ВУСНАГА МАЎЛЕННЯ

**Тэхніка маўлення** — сукупнасць навыкаў, уменняў і прыёмаў, якія выкарыстоўваюцца з мэтай дасягнення найлепшага (аптымальнага) гучання маўлення і дазваляюць прамоўцу з максімальнай эфектыўнасцю ўздзейнічаць на слухача.

Тэхніка маўлення з'яўляецца важнай складовай часткай прафесійна арыентаванага маўлення.

Тэхніка маўлення ўключае:

✓ правільнае маўленчае (фанацыйнае) дыханне;

✓ пастаўлены голас;

✓ добрую дыкцыю, інтанацыю;

✓ выразнае вымаўленне (артыкуляцыю).

Маўленчае (фанацыйнае) дыханне адрозніваецца ад фізіялагічнага кароткім энергічным удыхам і працяглым раўнамерным выдыхам, падчас якога адбываецца ўтварэнне гукаў (гл. *схему*).




Фізіялагічнае дыханне




Маўленчае дыханне (фанацыйнае)

Для маўлення не хапае звычайнага фізіялагічнага дыхання. Вуснае маўленне патрабуе большай колькасці паветра, эканомнага яго расходавання і своечасовага аднаўлення. Правільнае дыханне павінна быць глыбокім, частым, падкантрольным.

⇘ **Голас** характарызуецца гучнасцю (сілай), вышынёй, тэмбрам, дыяпазонам.

Распаўсюджаныя недахопы голасу:

✓ ***афанія*** — невыразнасць, цьмянасць гучання голасу;

✓ ***дысфанія*** — адсутнасць устойлівага, роўнага гучання, калі голас зрываецца, дрыжыць;

✓ ***фонастэнія*** — хуткая стамляльнасць голасу;

✓ ***псеўдафонастэнія*** — перарывістаць голасу, выкліканая празмернай эмацыянальнасцю.

Да прафесійных якасцей прамоўніцкага голасу адносяцца: мілагучнасць, звонкасць, гнуткасць, палётнасць, устойлівасць, вынослівасць, сугестыўнасць (магчымасць з дапамогай голасу перадаваць свае эмоцыі і ўплываць на слухачоў).

⇘ **Дыкцыя** — выразнае, яснае вымаўленне гукаў і іх спалучэнняў падчас маўлення. Дыкцыя залежыць ад зладжанай, правільнай работы ўсяго маўленчага апарату (губы, язык, сківіцы, зубы, цвёрдае і мяккае паднябенні, насаглотка, галасавыя звязкі). Найбольш частыя недахопы дыкцыі — картавасць, шапялявасць, гугнявасць, вяласць або няяснасць маўлення, «хуткая гаворка», гучанне «праз зубы», з'яданне гукаў на канцы або ўнутры слова і інш. Удасканаленне дыкцыі звязана найперш з выпрацоўкай правільнай **артыкуляцыі** — рухаў органаў маўлення чалавека.

⇘ **Выразнасць вуснага маўлення** — якасць, якая дазваляе з дапамогай разнастайных галасавых сродкаў надаць выказванню дадатковую сэнсавую і эмацыянальную афарбоўку.

⇘ Важным сродкам выразнасці вуснага маўлення з'яўляецца **інтанацыя** — рытміка-меладычны бок маўлення, які ствараецца за кошт вар'іравання элементаў голасу — гучнасці, сілы, вышыні (тону і тэмбру), а таксама ўключае тэмп маўлення, мелодыку і рытм.

Роля інтанацыі ў працэсе камунікацыі:

✓ дазваляе меркаваць аб важнасці, значнасці выказвання;

✓ характарызуе адносіны моўцы да ўласнага выказвання;

✓ выяўляе адносіны да суразмоўцы;

✓ сведчыць аб эмацыянальна-псіхалагічным, фізічным стане таго, хто гаворыць.

У адпаведнасці з гэтым вылучаюць інтанацыю ***лагічную*** і ***эмацыянальную***.

Аваладанне правільнай тэхнікай маўлення дазваляе прамоўцу не адчуваць стомленасці пры шматгадзіннай нагрузцы на маўленчы апарат, наладжваць максімальны кантакт са слухачамі, дабівацца высакаякаснага маўлення.

↳ Падчас прафесійна-камунікатыўных кантактаў, перадачы інфармацыі выкарыстоўваюцца не толькі ***вербальныя*** (слоўныя, моўныя) сродкі ўздзеяння, а і так званыя ***невербальныя*** візуальныя сродкі зносін, г. зн. нямоўныя, тыя, якія ўспрымаюцца зрокава.

У працэсе камунікацыі на невербальны канал, паводле розных звестак, прыпадае ад 45% да 80% інфармацыі. Існуе таксама меркаванне, што пры зносінах паміж людзьмі пераважаюць невербальныя сродкі.

Да невербальных візуальных сродкаў уздзеяння адносяцца:

✓ **міміка** — цяглічныя рухі твару, выраз твару;

✓ **жэсты** — камунікатыўна скіраваныя дынамічныя рухі частак цела чалавека (галавы, рук, тулава, ног);

✓ **манеры** — знешнія формы паводзін;

✓ **поза** — становішча цела чалавека ў прасторы, манера стаяць.

Неабходна памятаць, што невербальнае ўзаемадзеянне з'яўляецца дадатковым інфармацыйным і эмацыянальным сродкам камунікатыўных паводзін чалавека.

Асноўныя функцыі невербальных сродкаў:

✓ несці дадатковую інфармацыю;

✓ дапаўняць вербальнае паведамленне;

✓ рэгуляваць узаемадзеянне людзей падчас маўлення.

## ⌛ Пытанні для самакантролю

1. Што такое тэхніка маўлення? Назавіце складовыя часткі прафесійна арыентаванага маўлення.
2. Чым адрозніваюцца дыханне маўленчае і фізіялагічнае? У чым заключаецца правільнае маўленчае дыханне?
3. Назавіце распаўсюджаныя недахопы маўленчага голасу. Ахарактарызуйце асноўныя прафесійныя якасці прамоўніцкага голасу.
4. Што такое дыкцыя і артыкуляцыя? Назавіце прычыны кепскай дыкцыі.
5. Як вы разумееце выразнасць вуснага маўлення?
6. З чаго складаецца інтанацыя? Акрэсліце ролю інтанацыі ў працэсе камунікацыі.
7. Што такое вербальныя і невербальныя сродкі маўленчай дзейнасці?
8. Пералічыце невербальныя візуальныя сродкі ўздзеяння і назавіце іх асноўныя функцыі.

## 7.3. ПАДРЫХТОЎКА ДА ПУБЛІЧНАГА ВЫСТУПЛЕННЯ

Зносіны паміж людзьмі рэалізуюцца ў пэўнай сітуацыі, якую называюць маўленчай, або камунікатыўнай. Яе асноўнымі складнікамі выступаюць: ***тэма* — *мэта* — *месца* — *час* — *суб'ект*** (моўца) — ***адрасат*** (слухач) — ***маўленне***. Адным з відаў маўленчай дзейнасці з'яўляецца публічнае маўленне.

**Публічнае маўленне** — гэта вуснае выступленне перад масавым слухачом; від кантактаў, сувязей з іншымі людзьмі, які ўяўляе сабой працэс перадачы і прыёму інфармацыі.

Характэрныя прыметы публічнага маўлення:

✓ арыентацыя на вуснае маўленне;

✓ сітуацыйнасць;

✓ выкарыстанне як вербальных, так і невербальных сродкаў уздзеяння;

✓ папярэдняя прадуманасць, падрыхтаванасць;

✓ маналагічная форма;

✓ элементы дыялагізацыі;

✓ наяўнасць калектыўнага субяседніка;

✓ непасрэдная сувязь са слухачамі.

Да асноўных фактараў паспяховага выступлення трэба аднесці:

✓ выбар тэмы выступлення (тэма павінна адпавядаць агульнай падрыхтоўцы і практычнаму вопыту прамоўцы, маўленчай сітуацыі і інтарэсам слухачоў);

✓ фармулёўка тэмы (павінна быць па магчымасці яркай, вобразнай, запамінальнай, палемічна завостранай, дакладнай і лаканічнай, «рэкламнай»);

✓ вызначэнне агульнай і канкрэтнай мэт выступлення (мэтавая скіраванасць і эфектыўнасць маўлення);

✓ падбор матэрыялаў (тэарэтычныя і эмпірычныя крыніцы назапашвання матэрыялу, СМІ, інтэрнэт, ілюстрацыйны матэрыял);

✓ аналіз выбранага матэрыялу (вызначэнне ўласнай пазіцыі, фармулёўка сваіх думак, асэнсаванне прапанаваных ідэй з пазіцыі слухачоў);

✓ складанне плана (папярэдняга, рабочага, асноўнага; простага, складанага);

✓ кампазіцыя (структура) маўлення (прынцыпы паслядоўнасці, лагічнасці, эканоміі, узмацнення і інш., суадноснасць састаўных элементаў кампазіцыі — уступу, асноўнай часткі, заключэння);

✓ метады падачы матэрыялу (індуктыўны, дэдуктыўны, гістарычны, метад аналогіі і інш.);

✓ моўнае афармленне публічнага выступлення (падрыхтоўка пісьмовага тэксту маўлення, слоўнае афармленне тэксту);

✓ аргументацыя (лагічныя і камунікатыўныя аргументы, доказы);

✓ авалоданне матэрыялам выступлення;

✓ кантакт са слухачамі (інтэлектуальны, эмацыянальны, візуальны, фанацыйны).

Трэба памятаць, што ўменне выступаць публічна — гэта мастацтва, якім можна авалодаць толькі сістэматычна практыкуючыся і працуючы над сабой.

### ⌛ Пытанні для самакантролю

1. Якую сітуацыю называюць маўленчай (камунікатыўнай)? Пералічыце яе асноўныя складнікі.
2. Што ўяўляе сабой публічнае маўленне? Якія характэрныя прыметы публічнага маўлення вы ведаеце?
3. У чым заключаецца ўменне выступаць публічна?
4. Назавіце і ахарактарызуйце асноўныя фактары паспяховага выступлення.
5. Як вы рыхтуецеся да вуснага публічнага выступлення?

## 7.4. МАЎЛЕНЧЫ ЭТЫКЕТ І КУЛЬТУРА ЗНОСІН

**Маўленчы этыкет** — гэта выпрацаваныя правілы маўленчых паводзін, сістэма маўленчых формул. Веданне правіл маўленчага этыкету дазваляе чалавеку адчуваць сябе ўпэўнена, натуральна ў любой маўленчай сітуацыі, пры любых прафесійна-дзелавых абставінах. Захаванне маўленчага этыкету людзьмі лінгваінтэнсіўных прафесій (настаўнікамі, юрыстамі, журналістамі, палітыкамі, кіраўнікамі і інш.) спрыяе ўмацаванню і павышэнню ўзроўню маўленчай культуры ўсіх носьбітаў мовы.

Маўленчы этыкет мае нацыянальную спецыфіку. Веданне асаблівасцяў этыкету свайго народа і народаў іншых краін, яго маўленчых формул, валоданне спецыфікай дзелавых стасункаў дапамагаюць пры выкананні прафесійных абавязкаў, устанаўленні кантактаў з калегамі, партнёрамі, чыноўнікамі і г. д.

Маўленчы этыкет, выбар маўленчых этыкетных выразаў вызначаюцца сацыяльным статусам чалавека, яго прафесіяй, нацыянальнасцю, узростам, полам, характарам, а таксама маўленчай сітуацыяй, умовамі зносін (публічнае выступленне, прэзентацыя, канферэнцыя, дзелавая сустрэча, кансультацыя і інш.).

У беларускай мове гістарычна склаліся наступныя віды формул маўленчага этыкету:

✓ ***зварот***: *спадар, спадарыня, спадары, спадарства, панове, сябра, дружа, сябры, калегі, каляжанкі, шаноўная грамада, таварыш (вайск.), паважаны, шаноўныя, цётка, цётачка, дзядзька, дзядзечка*;

✓ ***падзяка***: *Шчыры дзякуй! Вялікі дзякуй! Вельмі ўдзячны Вам! Дзякуй на добрым слове!*;

✓ ***знаёмства***: *Дазвольце адрэкамендавацца! Вельмі прыемна! Будзем знаёмы!*;

✓ ***прывітанне***: *Добры дзень! Добры вечар! Добрай раніцы! Маё шанаванне! Вітаю Вас! Прывітанне!*;

✓ ***развітанне***: *Да пабачэння! Усяго найлепшага! Да сустрэчы! Усяго Вам добрага! Да заўтра! Шчасліва! Пабачымся! Пакуль! Бывайце! Бывайце здаровы! Дазвольце з Вамі развітацца!*;

✓ ***прабачэнне***: *Прабачце! Прашу прабачэння! Даруйце, калі ласка! Выбачайце! Не крыўдуйце (не сярдуйце, не злуйцеся)! Даруйце (выбачайце), калі што не так!*;

✓ ***віншаванне***: *Віншую Вас! Жадаю Вам! Дазвольце павіншаваць! Са святам! Дасылаю Вам свае віншаванні! З юбілеем!*;

✓ ***згода, пацвярджэнне***: *Так. Але. Вядома! Зразумела! Пэўна ж! Добра, згода! Няма сумнення! Дамовіліся! Вельмі слушна! Слушная прапанова! Нельга не пагадзіцца! Праўда ваша!*;

✓ ***пажаданне***: *Смачна есці! Смачнага вам! Памагай Бог! Хай Вам шчасціць! Бывайце здаровы, жывіце багата! Добрай (гладкай) дарогі! Хай Вам лёс не здрадзіць! Спору ў працы! На спажытак Вам! На здароўе!*;

✓ ***ветлівасць***: *Дазвольце спытаць / запытацца (увайсці, сесці, узяць)! Праходзьце, калі ласка! Запрашаем Вас! Прашу Вас! Не турбуйцеся! Не клапаціцеся! Як жыццё? Як працуецца? Як здароўе? Што чуваць? Як маецеся? Што новага?*

У беларускім і рускім маўленчым этыкеце існуе цэлы шэраг устойлівых формул, якія неабходна запомніць (гл. *табліцу 18*).

*Табліца 18*

| Па-беларуску | Па-руску |
|---|---|
| у рэшце рэшт, нарэшце | в конце концов |
| на маю думку, на мой погляд | по-моему |
| перш-наперш, перш за ўсё, перадусім | прежде всего |
| шчыра кажучы, калі праўду казаць | честно говоря, по правде говоря |
| уласна кажучы | собственно говоря |
| на (вялікі) жаль | к (большому) сожалению |

| Па-беларуску | Па-руску |
|---|---|
| на шчасце | к счастью |
| на ўсякі выпадак | на всякий случай |
| між іншым | между прочим |
| па-першае (па-другое…) | во-первых (во-вторых…) |
| так бы мовіць, так сказаць, скажам так | так сказать |
| як кажуць | как говорят, как говорится |
| карацей кажучы | короче говоря |
| наогул, увогуле кажучы | вообще говоря |
| жартам кажучы | в шутку говоря |
| і гэтак далей (і г. д.) | и так далее (и т. д.) |
| і іншыя (і інш.) | и другие (и др.) |
| і да таго падобнае (і пад.) | и тому подобное |

Вядома, нельга быць культурным чалавекам толькі на словах. Культура маўленчых паводзін фарміруецца ў комплексе з маральнымі нормамі і этычнымі прынцыпамі грамадства: ветлівасцю, карэктнасцю, далікатнасцю, сціпласцю, абавязковасцю, натуральнасцю, усім тым, што складае змест паняцця *культура дзелавых зносін*.

## ⌛ Пытанні для самакантролю

1. Што такое маўленчы этыкет? Акрэсліце ролю маўленчага этыкету.
2. У чым заключаецца нацыянальная спецыфіка маўленчага этыкету?
3. На якія асноўныя групы дзеляцца формулы маўленчага этыкету? Якія формулы беларускага маўленчага этыкету вы ведаеце?
4. Якія формулы-звароткі да асобы вы ведаеце ў беларускай мове, у іншых мовах?
5. Якія функцыі выконваюць формулы-звароткі? Што вам вядома з гісторыі іх ужывання?

## ✍ ЗАДАННІ

**Заданне 74.** 🕮⌨❀ *Прачытайце беларускія народныя прыказкі і прымаўкі згодна з правіламі беларускага літаратурнага вымаўлення. Адкажыце, пра якія камунікатыўныя якасці і характарыстыкі маўлення ідзе ў іх гаворка?*

1) Не тое кажы, што ведаеш, а тое, што ў рыхт. 2) Сказаў, як цвіком прыбіў. 3) Выскачыў, як піліп з канапель. 4) Пустая гаворка не пагаворка. 5) Без прыказкі і з лаўкі не зваліцца. 6) Язык як у

адваката. 7) Многа ведай, ды мала гавары. 8) Пустой птушкі пустая песня. 9) Трэба знаць, што казаць. 10) Разказвае, як з пісанага бярэ. 11) Напішаш пяром — не высечаш тапаром.

**Заданне 75.** *Абазначце націск у словах. Вызначце, ці назіраюцца ў маўленчай практыцы адхіленні ад акцэнталагічных нормаў пры выкарыстанні гэтых слоў?*

Грамадзянін, беларусы, развіты, высокаразвіты, каменны, падпарадкаванне, гліняны, факсіміле, факсімільны, адзінаццаць, чатырнаццаць, статуя, хабар, буйны, хіба, даследаванне, крыху, выпадак, камфара, крапіва, каталог, квартал, арыстакратыя, эксперт, феномен, дыспансер, шэсцьдзясят.

**Заданне 76.** *Вызначце род назоўнікаў, падбярыце да іх прыметнікі, словазлучэнні запішыце.*

Рэзюмэ, камюніке, авеню, клішэ, алібі, аташэ, інтэрв'ю, дасье, жалюзі, амплуа, журы, калібры, кенгуру, івасі, гусь, зебу, марабу, табу, фламінга, Антарыа, Чылі, «Юманітэ», Дэлі, Гобі, Хансю, Місісіпі, турнэ, мікада, НАН РБ, БелСЭ, ЛіМ.

**Заданне 77.** *Запішыце назоўнікі ў форме роднага склону адзіночнага ліку. Вызначце, ад чаго залежыць выбар канчаткаў? Ці назіраюцца варыянтныя формы канчаткаў і ў якіх выпадках?*

Дакумент, каэфіцыент, архіпелаг, воцат, век, туман, вопыт, тэрмін, ідэал, менталітэт, загад, сродак, імідж, поспех, дагавор, сусвет, інтэрвал, талент, інтэлект, кантынент, народ, аналіз, кантраст, дарвінізм, паланэз, характар, авёс, кілаграм.

**Заданне 78.** *Выпраўце маўленчыя памылкі ў словазлучэннях. Адкажыце, у выніку чаго яны ўзніклі.*

Карэнны абарыген, свабодная вакансія, калега па рабоце, прэйскурант цэн, мая аўтабіяграфія, грашовая прэмія, турыстычны кемпінг, канчатковы вынік, у красавіку месяцы, арганізаваць арганізацыю, супрацоўнічаць супраць, наблізіцца бліжэй, малады юнак, першая прэм'ера.

**Заданне 79.** *Прачытайце і запомніце ўстойлівыя выразы на беларускай і рускай мовах. Падумайце, у якім стылі і пры якой маўленчай сітуацыі магчыма іх выкарыстанне? Складзіце 3—4 сказы з устойлівымі выразамі (на выбар).*

Ісці ў заклад — биться об заклад, без дай прычыны — безо всякой причины, без прымусу — без понукания, кідаць лёсы — бросать

жребий, умомант вока — в мгновение ока, хадзіць у пазыкі — взять в долг, на чале — во главе, каб унікнуць — во избежание, пытанне рубам (ставіць) — вопрос ребром (ставить), духоўны пажытак — духовная пища, давесці да ладу — привести в порядок, марная мітусня — суета сует, пункт гледзішча — точка зрения, даваць карысць — приносить пользу, адным скокам — в два счета, за адным заседам — в один присест, шматкроць — во много раз.

**Заданне 80.** 🕮⌨❀ *Падбярыце да добра вядомых рускіх прыказак і прымавак беларускія адпаведнікі. Запомніце іх.*

1) Без труда не вытащишь и рыбку из пруда. 2) Большому кораблю — большое плаванье. 3) Волков бояться — в лес не ходить. 4) За двумя зайцами погонишься — ни одного не поймаешь. 5) Любишь кататься — люби и саночки возить. 6) На безрыбье и рак рыба. 7) Утро вечера мудренее. 8) Лучше синица в руках, чем журавль в небе. 9) Не откладывай на завтра то, что можно сделать сегодня. 10) Цыплят по осени считают. 11) Ученье — свет. 12) В каждой шутке есть доля правды. 13) Видно птицу по полету. 14) Дыма без огня не бывает. 15) Каждый кулик свое болото хвалит.

***Для даведак:*** Не той хлеб, што на полі, а той, што ў гумне. Без навукі, як бязрукі. Каб вады напіцца, трэба ёй пакланіцца. Хто ваўкоў баіцца, па ягады не ходзіць. Няма байкі без праўды. Вялікаму каню — вялікі хамут. Пераначуем — болей пачуем. Адклад не йдзе ў лад. Лепш верабей у руцэ, чым голуб на страсе. Без прычыны і хвост не матляецца. Любіў цалаваць — любі і калыхаць. Хто два зайцы гоніць, ніводнага не здагоніць. Кожны цыган сваю кабылу хваліць. Знаць пана па халявах. І месяц свеціць, калі сонца няма.

**Заданне 81.** *Складзіце словазлучэнні, спалучыўшы паронімы з адпаведнымі па сэнсе словамі ў дужках. Карыстайцеся для даведак «Слоўнікам паронімаў беларускай мовы» С. М. Грабчыкава (1994 г.).*

🕮 Асабісты, асабóвы, асаблíвы (лёс, склад, рахунак, справа, выгляд); асóбны, асóбы (батальён, брыгада, прылада, аддзел); эканамíчны, эканóмны (адраджэнне, санкцыі, гаспадар); ула́сніцкі, ула́сны (псіхалогія, зямля, гаспадарка); буржуа́зны, буржу́йскі (рэспубліка, урад, раскоша); грамадзя́нскі, грама́дскі (работа, жыццё, вопратка); гуманістычны, гума́нны (ідэі, прафесія); дэманстраты́ўны, дэманстрацы́йны (паводзіны, лозунгі, зала); дзе́йны, дзе́йсны (сродак, рэакцыя, чалавек); дасле́дчыцкі, дасле́дчы, до́следны (дзейнасць, цэнтр, гаспадарка).

⌨ Рацыяна́льны, рацыяналісты́чны (лікі, выкарыстанне, філасофія); пункцірава́льны, пункцірны (лінейка, палосы); прахадны́,

прахóдны (бал, будка); праектыýны, праекцы́йны (геаметрыя, апарат); пірамідáльны, пірамідны (аснова, грані, дрэва); падóўжаны, падóўжны (форма, сцяна); лінéены, лінéйны (лісток, геаметрыя, дыспетчар); даказáльны, дакáзаны, дóказны (палажэнне, злачынства, тэарэма, аргументацыя); вы́мераны, вымéрны (участак зямлі, велічыня, рулетка); варыя́нтны, варыяцы́йны (формы, рад, вылічэнне); вытвóрны, вытвóрчы (касáя, план, майстэрня); дрóбавы, дрóбны, дрóбязны (лікі, дожджык, пытанне, фальварак, шляхта, апека).

❁ Балóтны, балóцісты (вада, птушка, бераг, мясцовасць); вадзяні́сты, вадзяны́, вóдны (снег, хмара, лілея, гладзь, роўнядзь); вераснёвы, верасóвы (сонца, галінка); гары́сты, гóрны (мясцовасць, вадапад, камбайн); ёдзісты, ёдны (пах, настойка); запавéдны, запавéтны (зона, звычай, словы); інкубáтарны, інкубацы́йны (станцыя, перыяд); квéтачны, квéткавы, квéтнікавы (эсэнцыя, пылок, клумбы, участак); кліматалагі́чны, кліматы́чны (умовы, фактар); ледавікóвы, леднікóвы, ледзяны́, лядóвы (перыяд, вецер, позірк, шыроты).

**Заданне 82.** 🕮⌨❁ *Адкажыце, з якім значэннем ужываюцца прыведзеныя фразеалагізмы? Што вы ведаеце пра іх паходжанне? Вызначце месца націску ў кампанентах фразеалагізмаў. Складзіце сказы з некалькімі фразеалагізмамі.*

Аўгіевы стайні, усмешка аўгураў, бочка Данаід, валаамава асліца (асёл), валтасараў пір, ахілесава пятка, вочы Аргуса, двулікі Янус, каінава пячатка, калос на гліняных нагах, лукулаў пір, манна нябесная, паміж Сцылай і Харыбдай, праца Пенелопы, сады Семіраміды, сізіфава праца, Садом і Гамора, танталавы пакуты.

**Заданне 83.** 🕮⌨❁ *Падбярыце да запазычаных слоў беларускія адпаведнікі, пакажыце семантыка-стылістычнае адрозненне паміж імі.*

Крэатыўны, брутальны, авангардны, аналогія, дылетант, вербальны, генезіс, выбітны, мабільны, спонсар, кампраміс, факультатыўны, карпаратыўны, аўтарытарны, легітымны, анімацыя, рэзюмэ, авацыя, грант, кастынг, кансэнсус, прэсінг, рэйтынг, шоу.

**Заданне 84.** 🕮⌨❁ *Прачытайце тэкст. Адкажыце, чаму* форма *дзеепрыметніка з суфіксам -юч- «уздзейнічаючая» не характэрная для беларускай мовы? Як вы думаеце, чым яшчэ, акрамя назоўніка, можна замяніць гэту форму?*

...Ідуць практычныя заняткі ў ВНУ. Студэнтка расказвае пра публіцыстычны стыль беларускай мовы. Гаворыць бойка, зацікаўлена (паспяховы адказ будзе падставай заліку)...

І вось студэнтка «агучвае» чарговае тэарэтычнае сцвярджэнне: «У публіцыстычным стылі спалучаюцца... дзве найважнейшыя функцыі мовы — інфармацыйная і **ўздзейнічаючая**».

На апошнім слове студэнтка раптам спатыкаецца — паслянацісковыя склады набягаюць, грувасцяцца адзін на адзін, слых улоўлівае невыразнае і немілагучнае «чаюча...».

Аўдыторыя адразу зрэагавала. Некаторыя студэнты дысцыплінавана заўсміхаліся, некаторыя паспрабавалі ўголас вымавіць слова «ўздзейнічаючая».

Завязалася кароткая гутарка.

— Структура слова «ўздзейнічаючая» абцяжарвае яго вымаўленне.

— Такія формы дзеяслова непажадана (а ў гэтым выпадку нават немагчыма) ужываць.

— Якое ж выйсце?

—Ужыць не дзеепрыметнік (паводле формы), а назоўнік: ... функцыі інфармацыі і **ўздзеяння**.

На тым і пагадзіліся.

Гэты эпізод з заняткаў пасля не раз узбягаў на памяць. Чаму і як узнікла такое «страхападобнае» (Я. Колас) слова?

(*Каўрус А. Воздействующая функция*)

**Заданне 85.** *Прачытайце і перакладзіце тэкст на беларускую мову. Зрабіце вывад аб ужыванні формаў прыметнікаў і дзеепрыметнікаў у беларускай мове.*

🕮 Кардинально меняющиеся социальные параметры общества оказывают прямое влияние на все его институты, различные объединения людей, непосредственно на конкретного человека. Уходит в прошлое стиль деятельности, опиравшийся на командно-административные методы работы с людьми. Новые подходы к образованию, связанные с преодолением репродуктивного стиля в обучении, обеспечением познавательной активности и самостоятельности мышления обучающихся, открывают и новые перспективы для реализации потенциальных возможностей каждой личности, каждого коллектива. Важнейшей целью воспитания в обществе становится развитие гражданских, нравственных качеств, творческих способностей и готовности личности к преобразованию окружающего мира... (*Основы психологии и педагогики.*)

🖮 Бильярдный шар 1, движущийся со скоростью 10 м/с, ударил о покоящийся шар 2. После удара шары разошлись. Линии их движе-

ния после удара образуют с первоначальным направлением движения первого шара следующие углы: а) первый 45°, второй 45°; б) первый 60°, второй 30°. Найти скорости шаров после удара в каждом случае. Массы шаров одинаковы (*Рымкевич А. П., Рымкевич П. А.*).

❁ Главнейшими приспособлениями, обеспечившими прогрессивное развитие насекомых, являются следующие: способность к полету, позволяющая насекомым быстро заселять новые территории, преодолевать водные пространства и другие преграды; большая подвижность, обеспеченная развитой поперечнополосатой мускулатурой, членистыми конечностями; многослойная хитинизированная кутикула, защищающая тело от потери влаги, механических повреждений, воздействия ультрафиолетовых лучей; малые размеры насекомых, обеспечивающие выживание и способствующие созданию необходимых условий для существования даже в очень незначительных по размеру пространствах (небольшие обрастания на скалах, трещины в коре деревьев, почве и др.) (*Шарова И. Х.*).

**Заданне 86.** 🕮 🖮 ❁ *Прачытайце артыкул І. Я. Лепешава з кнігі «Беларуская мова: хрэстаматыя» (2005 г.) пра асаблівасці ўжывання дзеепрыслоўных зваротаў (с. 379—383). Выпраўце памылкі ў згаданых аўтарам сказах і запішыце свае варыянты, захаваўшы пры гэтым дзеепрыслоўныя звароты.*

1) Гледзячы на залацістае поле пшаніцы, сэрца напаўняецца радасцю. 2) Часта пры галенні, гледзячы ў люстэрка на свой «амбітны» нос, успамінаецца маладосць. 3) У мяне, згадаўшы радкі з пісьма, міжволі выкаціліся слёзы. 4) Яму балюча зашчымела сэрца, уявіўшы разгублены, заплаканы твар Чудакоўскага. 5) Ведаючы характары многіх творцаў, цяжка чытаюцца іхнія творы. 6) Цяпер, перабіраючы лісты ад Уладзіміра, часта прыгадваецца журботнае котлішча. 7) З лётчыкам Куніцыным, лятаючы на ваенным самалёце, здарылася аварыя.

**Заданне 87.** *Падбярыце беларускія адпаведнікі да рускіх дзеепрыметнікаў-тэрмінаў. Складзіце з імі словазлучэнні.*

🕮 Действующий, взаимодействующий, равнодействующий, угрожающий, многообещающий, удовлетворительный, обобщающий, прерывающийся, обслуживающий.

***Для даведак:*** здавальняльны, раўнадзейны, пагрозлівы, абагульняльны, дзейны, абслуговы, узаемадзейны, перарывісты, шматабяцальны.

🖮 Разложимый, упорядоченный, результирующий, воспроизводящий, восходящий, возрастающий, программированный, составляющий, поглощающий.

***Для даведак:*** складовы, узыходны, упарадкаваны, праграмаваны, выніковы, паглынальны, нарастальны, узнаўляльны, раскладальны.

❀ Быстрорастущий, устрашающий, преобладающий, электропроводящий, вибрирующий, недостающий, проводящий, приобретенный, двигательный.

***Для даведак:*** рухальны, адсутны, электраправодны, набыты, пераважны, хуткарослы, праводны, вібрацыйны, застрашлівы.

**Заданне 88.** 🕮⌨❀ *Назавіце словазлучэнні, у якіх парушаны сінтаксічныя нормы (памылкі кіравання).*

Дзякуй вам, бачыў сваімі вачамі, у пяці кіламетрах ад мястэчка, жаніцца на ёй, загадчык кафедры, прабачце мяне, адправіць у грыбы, пайсці за вадой, хадзіць па палям і лугам, хварэць грыпам, паджартоўваць над сабой, вышэй дрэва, вызначыць на смак, пісаць на адрас, падобны грому, прыйшоў праз дзень, гаварыць праз смех.

**Заданне 89.** *Спішыце адзін з тэкстаў. Пастаўце лічэбнікі ў адпаведнай склонавай форме. Запішыце іх словамі.*

🕮 Брытанская энцыклапедыя, распачатая ў 1768 г., у папяровым выглядзе мае 32 тамы. Britannika 2000 размяшчаецца на 3 кампакт-дысках, да яе мажлівы доступ і ў онлайнавай форме. Гэтая энцыклапедыя ўключае больш за 83 000 артыкулаў, 15 000 ілюстрацый і 5 гадзін відэаматэрыялаў, можна падключыцца да 125 000 спасылак інтэрнэта.

Энцыклапедычны пакет Microsoft Encarta Reference Suite 99 складаецца з 6 кампакт-дыскаў… Энцыклапедыя ўключае больш за 55 000 артыкулаў, каля 20 000 ілюстрацый, каля 300 відэаролікаў, 27 000 гукавых фрагментаў і каля 20 000 Web-спасылак. Даступная яна для карыстальнікаў і ў скарочанай онлайнавай версіі (*Баркоўская Т.*).

⌨ Паверхня Марса на 35% складаецца з паніжаных участкаў-раўнінаў, большасць якіх знаходзіцца ў паўночным паўшар'і планеты. На Марсе ёсць 4 гіганцкія патухлыя вулканы, з іх самы вялікі — гара Алімп. Яго вышыня — каля 27 км, дыяметр падножжа складае амаль 700 км, а гэта — увесь папярочнік нашай краіны. Жарало вулкана таксама грындыёзнае, яго дыяметр 60 км! Ёсць на Марсе і гіганцкая даліна Марынер, якая цягнецца амаль на 4 тыс. км. Яе шырыня каля 600 км, глыбіня ў некаторых месцах да 10 км (*Цыркун К.*).

❀ Лішайнікі — група найніжэйшых раслін, утвораных сімбіёзам грыба (мікабіёнт) і водарасці (фікабіёнт). Больш за 400 родаў, каля 20 000 відаў; на Беларусі 38 сямействаў, 114 родаў, каля 500 відаў… Растуць на дрэвах, камянях, глебе. Шматгадовыя (узрост бывае да тысяч гадоў) расліны шэрага, бурага, аранжавага, чорнага і іншых

колераў. Вегетатыўнае цела — слаявіна, або талом, утворана перапляценнем грыбных гіфаў і клеткамі водарасці. У складзе лішайнікаў часцей аднаклетачныя (26 родаў) і некалькі відаў ніткаваных водарасцей. Яны складаюць 10—15% ад усяго аб'ёму слаявіны (*Беларуская энцыклапедыя*).

**Заданне 90.** *Выпраўце маўленчыя памылкі ў сказах, карыстаючыся даведнікам па культуры беларускай мовы «Слоўка за слоўкам» А.Я. Міхневіча, Л.П. Кунцэвіч, Ю.В. Назаранкі (2006 г.). Дайце адпаведныя тлумачэнні.*

1) Вайна ўнесла чвэрць насельніцтва Беларусі. 2) Дзеці яшчэ дрэнна валодаюць звязаным маўленнем. 3) Гэты ўказ адыграў вялікае значэнне. 4) Ён хутка асвоіў кодэкс афіцэрскага гонару. 5) Трэба ўдзяліць увагу на пашырэнне такіх ведаў сярод маладых людзей. 6) Мой унук — акселератар, таму такі высокі. 7) Выкладчык з яго адбыўся! 8) Стараюся да кожнага занятка падшукаць матэрыял па тэме. 9) Людзі былі здзіўлены самому факту існавання такой установы. 10) Крыж быў упрыгожаны арнаментам, каштоўнымі каменнямі і жэмчугам. 11) Трэба канчаткова скончыць з валюнтарызмам? 12) Беларусам уласціва рэлігійная і нацыянальная цярплівасць. 13) У гэтым узросце ім усім уласціва нігілістычнае адмаўленне былых каштоўнасцей. 14) Уважлівы падыход да падлеткаў з боку старэйшых — гарант іх нармальнага развіцця.

1) Колькасць беспрацоўных дасягнула да 4,5 млн. чалавек. 2) Ён будзе служыць у войску з дзвюх тысяч дзявятага года. 3) Большасць у нашым калектыве займаюць жанчыны. 4) Да лічбы названых падзей належыць і гэта мерапрыемства. 5) Фізікі туды паяўляюцца рэдка. 6) Гэта ёсць кропка перасячэння прамых ліній. 7) Атаясамленне аднаго рада з'яў другому метадалагічна няправільнае. 8) Каманды могуць набраць максімальна да дзесяці ачкоў. 9) Колькасць уладальнікаў пластыкавых картак перавысіла за мільён. 10) Павялічваецца прапорцыя гарадскога насельніцтва. 11) Давайце вызначым цэнтр цяжкасці. 12) Большая палавіна класа ўзяла ўдзел у алімпіядзе па матэматыцы. 13) Цеплыня — вынік награвання. Адзінка вымярэння цеплыні — джоўль. 14) Ён будзе служыць у войску з дзвюх тысяч трэцяга аж да дзвюх тысяч дзясятага года па кантракце.

1) Па ўсёй вобласці выпадуць ападкі ў выглядзе дажджу. 2) Тэасофія замест Бога ставіць абагуленага чалавека. 3) Галоўная цэль экспедыцыі — вывучэнне птушак Беларусі. 4) Звярніце ўвагу на канстытуцыйныя асаблівасці жывых арганізмаў. 5) Сэрца пера-

качвае кроў. 6) Прагноз абяцае добрыя кліматычныя ўмовы. 7) У гарах крышталічна чыстае паветра. 8) Няўжо будзем чакаць з мора надвор'я? 9) Наш горад займае пэўны статус у біялагічнай навуцы. 10) Хімікаў асабліва зацікавілі пярвічныя крышталічныя пароды. 11) Сабака гаўкаў лянівым брэхам. 12) Назіраюцца паўторныя рэцыдывы гэтай хваробы. 13) Увесну царствуюць у лесе птушкі. 14) Яны часта выязджалі ў турысцкія паездкі.

**Заданне 91.** *Знайдзіце і выпраўце маўленчыя памылкі ў сказах, узятых з розных прац студэнтаў і школьнікаў. Растлумачце, у выніку чаго яны ўзніклі.*

🕮 1) Толькі роднае, нацыянальнае можа прывабіць, падтрымаць, і нельга саромецца таго, што іншым падаецца даўно аджыўшым і неадпавядаючым умоўным стандартам. 2) Еўфрасіння Полацкая пастрыглася пад манашку. 3) Такім чынам, мы адчыняем для іншых самыя патаенныя часткі сваіх дум, жыцця і душы. 4) У гардэробе Нацыянальнай бібліятэкі давядзецца пакінуць не толькі верхнюю вопратку, але і сумкі, пакеты і іншыя пакункі. 5) Кніга — гэта сапраўдны сябар і дапаможнік. 6) Не старайцеся, усё роўна прыгажэй за сваю Радзіму нічога вы не знойдзеце.

⌨ 1) Сайт дзеліцца на чатыры падзелы, якія цесна ўзаемадзейнічаюць паміж сабой. 2) Для ўсіх жадаючых арганізаваны чатыры байдарачных маршруты. 3) Вучоныя то лічаць, што гэта рашэнне ад усіх панацэй, то заяўляюць пра небяспеку пры выкарыстанні дадзеных методык. 4) Як будуць прысякацца незаконныя спробы абазначыць сваю прысутнасць на парах, не паведамляецца. 5) Што такое міжнародны валанцёрскі летнік гэтым летам, нам, траім студэнткам, давялося адчуць на ўласнай скуры. 6) Гэта і ёсць тэорыя лічбаў.

✿ 1) Прырода прыме кожнага чалавека ў любым стане, нягледзячы на яго настрой. 2) Я таксама была там і ўсё бачыла сваімі вачамі ў акулярах. 3) Як прыемна раніцай выходзіць з ветхай хаткі, станавіцца басіком на расу, слухаць, як спявае петух ці мычыць карова. 4) Добра, што ў нас «цвяце» агратурызм. 5) Я мару, што, калі стану дарослай, я буду такой, як наша прырода: прыгожай, моцнай і непаўторнай. 6) Да прыроды магчыма прыйсці ў любым становішчы.

**Заданне 92.** *Прачытайце словы і спалучэнні слоў. Якім з іх вы аддасце перавагу? Абгрунтуйце свой выбар. Падумайце, ці магчыма паралельнае ўжыванне некаторых варыянтных адзінак?*

🕮 Субяседаванне — сумоўе — суразмоўе — гутарка, справа — дзела, выстава — выстаўка, умовы — абставіны — варункі,

паражэнне — параза, пануючы — панавальны, спажывецкая карзінка — спажывецкі кошык, правіць краінай — кіраваць краінай, ваеннаслужачы — вайсковец, вынікі — наступствы — паследкі, пасольства — амбасада, падпісаўшыяся — падпісаныя — падпісанты, безупыннае навучанне — навучанне нон-стоп — неперарыўнае навучанне — няспыннае навучанне.

Вырашальны — рашаючы, тыпічны — тыповы, азначаемае — азначальнае, аператар нерасцягваючы — аператар нерасцягвальны, адлюстраванне — адбіванне — адбітак, дзялімае — дзеліва, дваічны — двайковы, крывізна — крывіня, крывая ўпісаная — крывая ўмежаная, множыцель — множнік, прэдзел — граніца — ліміт — мяжа, мнагачлены — мнагасклады, множымае — множыва, лінія карацейшая — лінія найкарацейшая.

Карта — мапа, воран — крумкач — груган, пора — сітавіна, дзікарастучы — дзікарослы, сятчатка — сеткавіца, млекакормячыя — сысуны, жалудачкі сэрца — шлуначкі сэрца — каморы сэрца, хатняя жывёла — дамашняя жывёла — свойская жывёла, цвятная капуста — квяцістая капуста, насякомыя — вусякі — казуркі, кустарнік — кустоўе, адуванчык — дзьмухавец, чаромха — чарэмшына — чаромуха.

**Заданне 93.** *Падрыхтуйце вуснае паведамленне на адпаведную тэму. Прытрымлівайцеся метадычных рэкамендацый да падрыхтоўкі вусных паведамленняў. Зрабіце аналіз і самааналіз вуснага выступлення.*

*Прыкладныя тэмы вусных паведамленняў*:

1) Барбара Радзівіл — чорная дама Нясвіжскага замка. 2) Язэп Руцкі — выдатны педагог, пісьменнік і рэлігійны дзеяч. 3) Колер і яго ўздзеянне на псіхіку чалавека. 4) Напалеон Орда і яго знакамітая серыя «Альбомы». 5) Тэмперамент і паводзіны чалавека. 6) Эмоцыі і эмацыянальны стан чалавека. 7) Узаемаадносіны дзяцей і бацькоў. 8) Славутыя жанчыны Беларусі. 9) Беларускі маўленчы этыкет. 10) Мова жэстаў.

1) Рымская і арабская сістэмы лічбаў. 2) «Арыфметыка» Л. Ф. Магніцкага. 3) Як мы лічым. З гісторыі лікаў. 4) Беларускія назвы метрычных адзінак. 5) Адлік часу. Гісторыя календара. 6) А. Эйнштэйн і стварэнне тэорыі адноснасці. 7) З гісторыі дробаў. 8) Чарльз Бэбідж — вынаходнік першага камп'ютара. 9) Арыфметычныя рэбусы. 10) Праблемы беларускай навуковай тэрміналогіі.

1) Ігнат Дамейка — сын Беларусі і народны герой Чылі. 2) Аркадзь Смоліч і яго «Геаграфія Беларусі». 3) Кветкі — жывыя бароме-

тры. 4) Птушкі Беларусі (іх найменні ў беларускай і рускай мовах). 5) Чырвоная кніга Беларусі. 6) Дрэвы-помнікі на Беларусі. 7) Белавежская пушча. 8) Тапанімічныя назвы Беларусі. 9) Грыбы Беларусі (іх назвы ў беларускай і рускай мовах). 10) Культура маўлення ва ўмовах білінгвізму.

**Заданне 94.** 🕮⌨❀ *Выкарыстоўваючы вербальныя і невербальныя сродкі, псіхалагічныя довады і прыёмы, пастарайцеся перакацаць пакупнікоў набыць: а) падручнік па культуры маўлення і дзелавых зносін, б) вялікі гламурны парасон, в) самавар, г) ручную жывую мыш. Заданне можна выконваць індывідуальна і ў групе (падгрупе).*

**Заданне 95.** 🕮⌨❀ *Падрыхтуйце фрагмент урока (гутаркі з вучнямі, выступлення на бацькоўскім сходзе) на беларускай мове па сваёй спецыяльнасці.*

**Заданне 96.** 🕮⌨❀ *Падбярыце да рускіх этыкетных формул беларускія адпаведнікі. Раскажыце, у якіх абставінах камунікацыі яны ўжываюцца.*

1) Приятного аппетита! 2) Поклон вам! 3) Приветствую вас! 4) Мое почтение! 5) Добро пожаловать! 6) Как вы себя чувствуете? 7) Что слышно у вас? 8) Христос воскрес! — Воистину воскрес! 9) Какими судьбами! 10) Сколько лет, сколько зим! 11) Как жизнь? — Как в сказке! 12) Как дела? — Как сажа бела! 13) Счастливого пути! 14) До (скорой) встречи! 15) (Ну,) давай, пока! 16) Хлеб-соль! — Милости просим!

***Для даведак:*** 1) (Ну,) давай, пакуль! 2) Шчаслівай дарогі! / Гладкай дарогі! 3) Да спаткання! / Да (хуткай) сустрэчы! 4) Хрыстос уваскрэс! — Сапраўды ўваскрос! 5) Якімі шляхамі! 6) Сыць, Божа! — Просім! 7) Сардэчна запрашаем! 8) Смашнага вам! / Смачна есці! 9) Чалом вам! 10) Што чуваць у вас? 11) Як жыццё? / Як маецеся? — То бокам, то скокам! / Нічога сабе! 12) Як жывяце? / Як жыццё? — Не бяды! / То так, то сяк! / Жывём, хлеб жуём! / То скачучы, то плачучы! 13) Маё шанаванне! 14) Як сябе адчуваеце / пачуваеце? / Як ваша здароўе? 15) Вітаю вас! / Мае вітанні! 16) Сем гадоў і памяці няма! / Гады ў рады!

# *ДАДАТАК*

## ТЭКСТЫ ДЛЯ ПЕРАКЛАДУ НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ

### ПЕДАГОГІКА, ПСІХАЛОГІЯ

* * *

Школа и педагогика за рубежом прошли многовековой исторический путь. Постепенно из суммы идей и концепций педагогика превращалась в науку. На определенных этапах утрачивались позитивные педагогические идеи, чтобы затем возродиться в ином выражении.

Развитие образовательно-воспитательных институтов — многообразный, подчас противоречивый процесс, масштабы и результаты которого с течением времени становились для общества все более значимыми.

Школа и педагогика всегда были ареной столкновения экономических, классово-сословных, политических и иных интересов. Нередко эта борьба выливалась в серьезные конфликты, приходя к кардинальным переменам в сфере просвещения.

Изучение истории зарубежной школы и педагогики как важной составляющей общей и педагогической культуры дает представление о главных направлениях развития педагогической мысли, но позволяет понять характер взаимоотношений общества и школы на разных ступенях исторического развития, а также роль сферы образования в накоплении и сохранении социальных и культурных ценностей, приобретенных человечеством. Школа и педагогика в значительной степени определяют прогресс культуры и общества (*А. Н. Джуринский. История зарубежной педагогики, 1998*).

* * *

Педагогическая отрасль человеческих знаний является едва ли не самой древней и по существу неотделима от развития общества. Педагогические знания относятся к той специфической сфере человеческой деятельности, которая связана с подготовкой подрастающих поколений к жизни или воспитанием. Когда говорят о педагогике, то обычно этот термин ассоциируется с понятием воспитания, с формированием человека. Но само воспитание как средство подготовки подрастающих поколений к жизни возникло вместе с появлением человеческого общества.

Накапливая производственный опыт, связанный с изготовлением орудий труда и присвоением продуктов природы, а также опыт сотрудничества и совместной деятельности, люди стремились передавать этот опыт последующим поколениям. Общественный прогресс и стал возможен лишь потому, что каждое вступающее в жизнь новое поколение людей овладевало производственным, социальным и духовным опытом предков и, обогащая его, уже в более развитом виде передавало своим потомкам. Таким обра-

зом, передача накопленного производственного, социального и духовного опыта последующим поколениям людей стала важнейшей предпосылкой существования и развития человеческого общества и одной из его существенных функций. Именно поэтому воспитание неотделимо от развития человеческого общества: оно присуще ему с самого начала его возникновения. В этом смысле иной раз воспитание считают общей и вечной категорией, подчеркивая положение о том, что как общественное явление, как специфическая деятельность по подготовке подрастающих поколений к жизни воспитание существует в обществе на всех этапах его развития (*И. Ф. Харламов. Педагогика, 1999*).

* * *

Дидактика стремится прежде всего открыть объективные законы, отражающие существенные и необходимые связи между явлениями и факторами обучения. Эти законы дают учителям понимание общей картины объективного развития дидактических процессов. Однако они не содержат непосредственных указаний для практической деятельности, а являются лишь теоретической основой для разработки и совершенствования ее технологии. Практические указания по осуществлению обучения закреплены преимущественно в принципах и правилах их реализации, носящих название дидактических принципов и правил.

Дидактические принципы — это основные положения, определяющие содержание, организационные формы и методы учебного процесса в соответствии с его общими целями и закономерностями. В принципах обучения выражаются нормативные основы обучения, взятого в его конкретно-историческом виде. Выступая как категории дидактики, принципы обучения характеризуют способы использования законов и закономерностей в соответствии с намеченными целями.

В педагогической интерпретации правило — это основанное на общих принципах описание педагогической деятельности в определенных условиях для достижения определенной цели. Чаще всего под правилами обучения понимают те руководящие положения, которые раскрывают отдельные стороны применения того или иного принципа обучения. Правила обучения занимают низшую ступеньку в иерархии педагогической теории и являются как бы переходным звеном от теории к практике (*И. П. Подласый. Педагогика. Новый курс, 1999*).

* * *

Предметом изучения психологии является прежде всего психика человека и животных, включающая в себя многие субъективные явления. С помощью одних, таких, например, как ощущения и восприятие, внимание и память, воображение, мышление и речь, человек познает мир. Поэтому их часто называют познавательными процессами.

Другие явления регулируют его общение с людьми, непосредственно управляют действиями и поступками. Их называют психическими свойствами и состояниями личности (к ним относят потребности, мотивы, цели, интересы, волю, чувства и эмоции, склонности и способности, знания и сознание).

Кроме того, психология изучает человеческое общение и поведение, их зависимость от психических явлений и, в свою очередь, зависимость формирования и развития психических явлений от них.

Психические процессы, свойства и состояния человека, его общение и деятельность разделяются и исследуются отдельно, хотя в действительности они тесно связаны друг с другом и составляют единое целое, называемое жизнедеятельностью человека.

В настоящее время психология является весьма разветвленной системой наук. В ней выделяется множество отраслей, представляющих собой относительно самостоятельно развивающиеся направления научных исследований. Их, в свою очередь, можно разделить на фундаментальные и прикладные, общие и специальные. Назовем лишь некоторые из отраслей психологии: общая, социальная, педагогическая, медицинская, возрастная, юридическая, генетическая, военная, инженерная, дифференциальная, психофизиология, психодиагностика, патопсихология, психотерапия, психология управления, психология труда и т. д. (*А. В. Морозов. Основы психологии, 2003*).

## МАТЭМАТЫКА, ФІЗІКА

* * *

В работах Пуанкаре необходимо четко отделять то, что в них относится к их специальному — математическому — содержанию, от того, что навеяно и внушено их философской — гносеологической — тенденцией. Пуанкаре — крупнейший математик и физик. Постановка вопроса об интуиции возникла у него из потребности выяснить, какую роль может играть логика и, в частности, логический принцип противоречия при обосновании рекуррентного рассуждения — начала математической полной индукции. Решение этого вопроса в значительной мере обусловлено у Пуанкаре специально математическими соображениями. Такой же специальный смысл имела и его принципиальная полемика с «логицистами». Это был спор между математиками о границах формально-логических принципов в обосновании математики как науки. Но, развивая свои взгляды, Пуанкаре не остался внутри пределов математики и, выйдя из них, перешел на почву философии. Войдя в интеллектуальную атмосферу буржуазной философии, господствовавшей в конце XIX — начале XX в. в Европе, Пуанкаре некритически усвоил ряд идей, сближавших его воззрения с воззрениями Канта (априоризм, теория априорных синтетических суждений, взгляд на пространство и время как на интуитивные формы чувственности и т. п.), с воззрениями Маха (принцип экономии мышления), прагматистов («удобство» как основание для выбора аксиом). Срывы, ведущие к «конвенционализму» и противоречившие основной линии Пуанкаре, как математика, могут быть объяснены этими влияниями (*В. Ф. Асмус. Проблема интуиции в философии и математике, 2004*).

* * *

Линейная алгебра, являющаяся большой наукой, посвященной в основном теории матриц и связанной с нею теории линейных преобразований

векторных пространств, включает в себя также теорию форм, теорию инвариантов и тензорную алгебру, играющую важную роль в дифференциальной геометрии. Теория векторных пространств получает дальнейшее развитие вне алгебры, в функциональном анализе. По разнообразию и значительности приложений как в математике, так и в механике, физике и технических науках линейная алгебра остается пока первой среди многочисленных ветвей алгебры.

Алгебра многочленов, развивавшаяся на протяжении многих десятилетий как наука об одном уравнении произвольной степени от одного неизвестного, теперь уже в основном закончена. Дальнейшее развитие она частично получила в некоторых разделах теории функций комплексного переменного, в основном же переросла в теорию полей. Что же касается очень трудного вопроса о системах уравнений от нескольких неизвестных, но не линейных, а произвольных степеней, то он по существу относится к особой ветви математики, называемой алгебраической геометрией.

Сейчас бесспорно, что вовсе не изучение уравнений является центральной задачей алгебры. Истинным объектом алгебраического исследования следует считать алгебраические операции, подобные сложению или умножению чисел, но производимые, возможно, не над числами (*А.Г. Курош. Курс высшей алгебры, 1968*).

* * *

В начале двадцатого века — века экспансии мировых революций — классическая физика не смогла противостоять натиску революционеров от науки и фактически прекратила свое развитие. Классическая физика была декларативно объявлена примитивным частным случаем, а ее место и все ее технические достижения захватили новоявленные «всеобъемлющие физические теории» — релятивистская и квантовая, составляющие так называемую неклассическую физику. За сто лет беспредельного господства неклассическая физика не решила ни одной проблемы естествознания. В современной физике явно назрел кризис, но классическая физика так и остается отставленной неполноценной теорией, в то время как на смену неклассической физике формируется новейшая доктрина — постнеклассическая физика.

Отдавая дань уважения величайшим западноевропейским ученым Г. Галилею и И. Ньютону, Р. Декарту и Ш. Кулону, М. Фарадею и Дж. Максвеллу, заложившим саму основу такого явления, как европейская классическая физика, помня о вкладе в эту науку русских ученых М.В. Ломоносова, впервые сформулировавшего закон сохранения вещества, и Д.И. Менделеева, систематизировавшего элементы этого вещества, следует признать, что классическая теория в дошедшем до нас виде не соответствует состоянию экспериментальной науки и современной техники. Она требует серьезной реконструкции и дальнейшего развития на ею же созданных и многократно проверенных опытом фундаментальных основах (*О.Л. Сокол-Кутыловский. Русская физика, 2006*).

* * *

Быстрое накопление экспериментальных открытий к началу 20-го века застало теорию врасплох. Особенно это касается состояния электродина-

мики. Теория Максвелла только продолжала свое становление, была весьма трудна в смысле интуитивной интерпретации и поэтому всеобщего доверия еще не вызывала. Ситуацию в этой области теоретической физики усложняли также математические вычислительные проблемы, которые связаны с громоздкими методами решения уравнений математической физики. Удивительно, но после смерти Г. Герца всерьез заниматься электродинамикой стало некому. Домыслы про эту часть физики распространялись быстрее знаний. Кое-какие сведения из электростатики тысячелетней давности вроде закона Кулона помогали незначительно.

Поэтому к моменту открытия элементарных частиц и квантового характера их взаимодействия с электромагнитным полем в 1900 г. физика могла оказаться вооруженной только механикой и математикой, построенной под механику. Безусловно, этих средств было явно недостаточно. Но произошло еще худшее: новые теоретики для удобства расчетов проигнорировали завершенную и полную механику, взяв от нее только одну последнюю главу о потенциальных системах, которая содержит специфически упрощенный формализм Гамильтона. Однако потенциальных систем в природе нет. И это сделало ситуацию вокруг новых проблем теоретически очень сложной (*Б. Ф. Полторацкий. История физики, 2010*).

## ФІЛАСОФІЯ, ПАЛІТАЛОГІЯ, САЦЫЯЛОГІЯ, КУЛЬТУРАЛОГІЯ

* * *

Общество представляет собой определенное множество взаимодействующих людей, имеющих целью поддержание своей жизни, производство и воспроизводство условий своего существования. Единичный индивид не мог бы составить общественную группу, какой бы она ни была, не мог и быть «обществом», а его сознание — социальным, т. е. он не был и человеком. Общество возникает исторически при наличии известного минимума взаимодействующих индивидов, имеющих, несмотря на свое своеобразие, общие потребности, интересы и цели.

Одной из таких целей является совместная трудовая деятельность, посредством которой добывается пища, строится жилье и т. п., и одновременно с этим развиваются первоначальное мышление и средство коммуникации — язык. Труд явился источником появления и развития общества. Труд человека включает в себя несколько моментов, в том числе и духовный компонент — целенаправленность. Деятельность, вообще-то, свойственна и многим представителям животного мира. Но трудовая деятельность человека отличается тем, что она основывается не столько на инстинкте, сколько на осознании цели, на идеальном. Труд человека неотрывен от начинающегося исторически или от развивающегося в дальнейшем сознания, от постановки все более и более разветвляющихся целей. Трудовая деятельность, связанная с освоением не только новых явлений, но и сущностей предметов, формирует новые идеальные модели и побуждает к их реализации. Целенаправленность деятельности (хотя она бывает порой и хаотичной, и инстинктивной) есть характерная черта человека (*П. В. Алексеев. Социальная философия, 2003*).

* * *

Парламенты — это сложные организации, являющиеся, с одной стороны, основными аренами политической жизни большинства либеральных демократий, а с другой — рабочими коллегиями, выполняющими ряд организационно-технических задач. Соответственно, их внутренняя структура включает в себя две составляющие — политическую и организационную.

Важнейший вопрос, касающийся внутренней структуры парламента, — должен ли он состоять из одной, двух или даже более палат? Абсолютные монархии позднего средневековья решали эту проблему просто: каждая из палат, как полагали тогда, должна представлять какое-то из сословий королевства — дворянство, духовенство, горожан и (иногда) крестьян. Каждое из сословий имело свои традиционные интересы, права и обязанности перед короной. Лишь в XIX столетии началось победное шествие принципа «один человек — один голос», а в XX в. он возобладал.

Тем не менее рудименты средневекового парламентаризма кое-где дожили до наших дней. Некоторые страны уже в новейшее время экспериментировали с представительством экономических, профессиональных и культурных групп. Так построены сенат в Ирландии, а также такие совещательные, не являющиеся парламентскими палатами органы, как социально-экономические советы во Франции, Нидерландах и Италии. В Малави 48 из 80 сенаторов избираются населением, а они, в свою очередь, избирают остальных сенаторов (32) из списка кандидатов, представленного официально признанными заинтересованными группами.

Верхние палаты современных парламентов, вопреки названию, обычно располагают меньшими полномочиями, чем нижние. Как правило, они меньше по численному составу и избираются по особым правилам, а иногда и вовсе не избираются населением (*Г. В. Голосов. Сравнительная политология, 2001*).

* * *

В примитивных обществах, основанных на механической солидарности, личность не принадлежит себе и поглощается коллективом. Напротив, в развитом обществе, основанном на органической солидарности, оба дополняют друг друга. Чем примитивнее общество, тем больше люди похожи друг на друга, тем выше уровень принуждения и насилия, ниже ступень разделения труда и разнообразия индивидов. Чем больше в обществе разнообразие, тем выше терпимость людей друг к другу, шире базис демократии. Чем глубже разделение труда, тем больше появляется новых профессий.

Тоталитарное общество не является многовариативным, поскольку не только сужает диапазон свободы действий, но применяет к нарушителям чрезмерно узкий набор санкций. Большинство из них смещается в сторону репрессивных мер. Демократическое общество вооружено гораздо более широким набором санкций, что позволяет более гибко регулировать поведение людей. При этом подавляющая их часть располагается ближе к полюсу мягких и косвенных санкций.

Тоталитарное общество держится только на том, что все люди, независимо от их желания, жестко выполняют одни и те же нормы. Для каждой нормы предписан только один вариант ее соблюдения. В таком обществе нет ошибок, отклонений, нескольких вариантов выполнения одного и того

же действия. Человек должен знать нормы и автоматически им следовать. В демократическом обществе граждане соблюдают нормы не автоматически, а осмысленно. Здесь допускается множество вариантов поведения, наказываются не ошибки, а преступления, то есть умышленные попрания важных норм (*А. И. Кравченко. Социология: общий курс, 2002*).

* * *

Проблемы культуры традиционно занимали большое место в гуманитарных дисциплинах — в философии, социологии, литературоведении и др. Однако за последние десять — пятнадцать лет все явственнее обнаруживается тенденция к оформлению культурологии в самостоятельную науку. Дисциплины культурологической направленности входят сейчас не только в систему вузовского обучения, но и в школьное образование. Проблемам культуры посвящены сотни монографий и статей, и почти каждый автор подходит к этому явлению со своей точки зрения. Как и следует ожидать в такой ситуации, даже сам термин «культура» не получил еще однозначной интерпретации. Более того, нет еще ясности в вопросе о том, какой круг проблем подлежит собственно культурологическому изучению, и это неудивительно, так как «чистых» специалистов-культурологов у нас пока очень мало: в культурологию приходят из философии, истории, религиоведения, литературоведения и т.п., и каждый ученый приносит с собой свою, привычную для него проблематику, более или менее успешно разворачивая ее в культурологическом плане. Поэтому многие исследователи рассматривали и рассматривают культурологию как раздел какой-либо из традиционных научных дисциплин: философии (П. С. Гуревич), семиотики (структуралисты, ранний Ю. М. Лотман), эстетики (М. М. Бахтин) и т. п. Другие же ученые считают, что культурология — это самостоятельная наука (не оторванная, конечно, от своих «соседей» по гуманитарному знанию, но имеющая с ними равные права). Так понимали вопрос, в частности, признанные авторитеты в этой области — А. Ф. Лосев и Ю. М. Лотман в своих последних работах (*А. Б. Есин. Введение в культурологию, 1999*).

## БІЯЛОГІЯ, ХІМІЯ, ФІЗІЧНАЯ КУЛЬТУРА, ГЕАГРАФІЯ

* * *

Широкое развитие системного движения в современной науке, в том числе и в биологии, означает постепенный переход от анализа к синтезу. Анализ — это дискретный подход, углубление в структуру и функции отдельных элементов системы — внутри клетки, внутри организма, внутри экологического сообщества. Синтез означает интегративный подход, изучение целостных характеристик системы — клетки, организма, биоценоза. Исследование всегда совершается сначала от общего к частному (анализ), а потом от частного к общему, но на новом уровне познания этого общего (синтез).

С аналитическим подходом в биологии связаны открытия химической и микроструктурной организации живых объектов, выяснение видового разнообразия среди животных, растений, микроорганизмов, выявление генетической неоднородности организмов внутри популяций и другие внутренние характеристики систем. Постепенно объем накопленных аналити-

